ШТОМЕСЯЧНЫ НАВУКОВЫ І МЕТАДЫЧНЫ ЧАСОПІС

# Роднае слова

2011/7
(283)
ліпень

ЗАСНАВАЛЬНІК:
МІНІСТЭРСТВА
АДУКАЦЫІ
РЭСПУБЛІКІ
БЕЛАРУСЬ

УСТАНОВА
«РЭДАКЦЫЯ ЧАСОПІСА
"РОДНАЕ СЛОВА"»

Часопіс выходзіць
з 1988 года
(у 1988 – 1991,
№№ 1 – 48,
выдаваўся пад назвай
**"Беларуская мова
і літаратура ў школе"**)



Галоўны рэдактар

**Зоя
ПАДЛІПСКАЯ**

Над нумарам працавалі
рэдактары:

**Вольга Крукоўская** (Грані супрацоўніцтва; *Методыка і вопыт:* Тэст на ўроку, Актуальная тэма, У метадычную скарбонку, У дапамогу настаўніку, Адрасы педагагічнага майстэрства, Рыхтуемся да алімпіяды; *Калі закончыўся ўрок:* Беларусь – мая Радзіма),

**Крысціна Пучынская** (*Літаратура і час:* Шматгалосае рэха, У энцыклапедыю "Максім Багдановіч", Новае прачытанне, Малады даследчык прапануе; Каляндар памятных датаў і юбілейных дзён; Крыжаванка),

**Ларыса Сагановіч** (*Мовы рысы непаўторныя:* Унармаванне тэрміналогіі, Пачынальнікі, Малады даследчык прапануе, Міжпрадметныя сувязі, У свеце слоўнікаў; *Методыка і вопыт:* Новае ў правапісе),

**Мікола Трус** (*Літаратура і час:* Жывое гучанне класікі, З гісторыі псеўданімаў, Віншуем юбіляра!),

**Наталля Шапран** (*Літаратура і час:* З архіваў часу; *Калі закончыўся ўрок:* З вопыту работы; *Нацыянальная і сусветная культура:* Вяртанне да вытокаў, Спадчына, Светлыя імёны Беларусі, Актуальная тэма, Дыялог з карцінай),

намеснік галоўнага рэдактара **Марыя Кныш,**
адказны сакратар **Аляксандр Канановіч,**
дзяжурны рэдактар **Крысціна Пучынская,**
літаратурныя рэдактары **Ніна Ваніцкая, Вера Гарноўская,**
вядучы рэдактар літаратурны **Алена Салахітдзінава,**
тэхнічны рэдактар **Канстанцін Лісецкі,**
галоўны бухгалтар **Валянціна Ракіцкая,**
загадчык прыёмнай **Вольга Барздова.**

WWW.RS.UNIBEL.BY

# Змест



Часопіс уключаны ў Пералік навуковых выданняў ВАК Рэспублікі Беларусь для друкавання вынікаў дысертацыйных даследаванняў па філалагічных навуках, мастацтвазнаўстве, культуралогіі, педагагічных навуках (тэорыя і методыка навучання беларускай мове і літаратуры).

Госці нумара – выкладчыкі і студэнты педагагічнага факультэта Баранавіцкага дзяржаўнага ўніверсітэта, які не так даўно з'явіўся ў адукацыйнай прасторы рэспублікі, але паспеў ужо заявіць пра сябе грунтоўнай падрыхтоўкай студэнтаў, магістрантаў і аспірантаў, шматлікімі навуковымі канферэнцыямі, семінарамі, выставамі, наладжаным супрацоўніцтвам з вучэбнымі, навуковымі, культурнымі ўстановамі не толькі нашай краіны.

23 ліпеня 2011 г. спаўняецца акурат сем гадоў з дня заснавання гэтай вышэйшай навучальнай установы. Сёння ў складзе ўніверсітэта налічваецца 28 кафедраў; на інжынерным, педагагічным, фінансава-прававым, факультэтах замежных моў, завочнай адукацыі, бесперапынкавай адукацыі, даўніверсітэцкай падрыхтоўкі і іншых навучаецца каля дзесяці тысяч студэнтаў.

Асноўныя задачы прафесарска-выкладчыцкага саставу – не толькі падрыхтаваць высокакваліфікаванага спецыяліста, але і сфарміраваць духоўна багатую асобу. Значная ўвага аддаецца практычнай падрыхтоўцы будучых педагогаў. Больш за 1 200 студэнтаў педагагічнага факультэта сталі актыўнымі ўдзельнікамі навукова-практычных канферэнцый маладых даследчыкаў, метадычных КВЗ, творчых конкурсаў, студэнцкага самакіравання,  валанцёрскага руху.

# БАРАНАВІЦКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ЎНІВЕРСІТЭТ

## ШЛЯХ СТАНАЎЛЕННЯ І РАЗВІЦЦЯ

Дзень нараджэння Баранавіцкага дзяржаўнага ўніверсітэта – 23 ліпеня 2004 г. Рашэнне аб адкрыцці ўніверсітэта ў г. Баранавічы было прынята Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкам з мэтай аптымізацыі сеткі дзяржаўных устаноў адукацыі і ўдасканалення рэгіянальнай сістэмы падрыхтоўкі спецыялістаў вышэйшай адукацыі. Рэктарам універсітэта прызначаны Васіль Іванавіч Качурка, доктар сельскагаспадарчых навук, прафесар, які свой багаты жыццёвы і прафесійны вопыт накіроўвае на станаўленне і развіццё ўніверсітэта як канкурэнтаздольнай навучальнай установы XXI стагоддзя.

Баранавіцкі дзяржаўны ўніверсітэт ажыццяўляе падрыхтоўку інжынерных, педагагічных, эканамічных, юрыдычных, сельскагаспадарчых кадраў па 26 спецыяльнасцях. На факультэтах дзённай і завочнай формаў навучання сёння налічваецца 9140 студэнтаў.

Сёння ўніверсітэт – гэта творчы калектыў выкладчыкаў і студэнтаў, ВНУ з багатымі традыцыямі і пэўнымі дасягненнямі ў навукова-даследчай, вучэбна-метадычнай і творчай дзейнасці. За шэсць гадоў працы ўніверсітэт адзначаны дыпломамі I, II і III ступені за ўдзел у Рэспубліканскай выставе навукова-метадычнай літаратуры і педагагічнага вопыту.

Універсітэт актыўна падтрымлівае і пашырае міжнародныя сувязі. На канец 2010 г. налічвалася 59 дагавораў аб супрацоўніцтве з ВНУ і арганізацыямі Расіі, Літвы, Казахстана, Узбекістана, Турцыі, Азербайджана, Малдовы, Славакіі, Чэхіі. У межах дагавора аб супрацоўніцтве паміж БарДУ і Міжнародным эканоміка-гуманітарным універсітэтам імя С. Дзем'янчука працягваецца работа па ажыццяўленні міжнароднага міжуніверсітэцкага навукова-даследчага праекта "Распрацоўка і ўкараненне інварыянтнай сістэмы маніторынгу дзейнасці кафедраў ВНУ".

Традыцыяй стала правядзенне ва ўніверсітэце навукова-практычных канферэнцый, семінараў, якія маюць статус міжнародных. Вялікая заслуга ў гэтым першага прарэктара Г. Жыткевіч, прарэктара па навуковай рабоце А. Нікішовай, прарэктара па вучэбнай рабоце В. Хітрук, прарэктара па вучэбнай і выхаваўчай рабоце Т. Якубовіч.

Створаны ўмовы для рэалізацыі дзяржаўнай палітыкі ў сферы інтэлектуальна-творчай дзейнасці, эстэтычнага выхавання, арганізацыі адпачынку моладзі. Культурна-творчая дзейнасць ва ўніверсітэце – прафесійна арганізаваная сістэма работы. На базе Студэнцкага культурна-творчага цэнтра створаны 17 творчых калектываў і аб'яднанняў па інтарэсах. Вынік гэтай



**Рэктар Баранавіцкага дзяржаўнага ўніверсітэта Васіль Іванавіч Качурка.**

працы – пасяховае выступленне творчых калектываў універсітэта на Рэспубліканскім творчым конкурсе "Арт-вакацыі – 2010", дзе Дыпломам I ступені адзначаны народны тэатр моды "Світа" (кіраўнік М. Лукашэвіч). Званне народны маюць тэатр мініяцюр "Сафіт" (кіраўнік Г. Грэзе), інструментальны ансамбль "Музычны гасцінец", аснову якога складаюць супрацоўнікі і студэнты педагагічнага факультэта (кіраўнік Л. Сяргеева).

З лютага 2007 г. ва ўніверсітэце пачала дзейнічаць "Бібліятэка-музей адной кнігі". Ідэя стварэння належыць паэтэсе Раісе Баравіковай. Фонд бібліятэкі сёння складае больш за 700 кніг беларускіх аўтараў, сярод якіх творы класікаў нацыянальнай літаратуры і сучасных пісьменнікаў. Стала добрай традыцыяй наладжваць творчыя вечарыны з мастакамі слова.

Педагагічны факультэт у структуры ўніверсітэта займае адно з вядучых месцаў. Гэта калектыў аднадумцаў, для якіх прыярытэтнай задачай з'яўляецца фарміраванне прафесійных кампетэнцый будучых спецыялістаў, выхаванне духоўна багатай асобы. Узначальвае факультэт Зоя Мікалаеўна Казлова, кандыдат гістарычных навук, дацэнт, чалавек вялікай чулай душы і прафесіянал, улюбёны ў сваю справу і адданы ўніверсітэту і факультэту. Педагагічны факультэт створаны на базе Баранавіцкага дзяржаўнага вышэйшага педагагічнага каледжа, які перадаў калектыву супрацоўнікаў традыцыі, стыль працы, майстэрства і прафесіяналізм, творчы пошук і імкненне да самаўдасканалення.

Сёння на факультэце навучаецца 1065 студэнтаў па 8 спецыяльнасцях:

- Беларуская мова і літаратура. Руская мова і літаратура.
- Пачатковая адукацыя. Беларуская мова і літаратура.
- Пачатковая адукацыя. Сацыяльная педагогіка.
- Пачатковая адукацыя. Фізічная культура.
- Дашкольная адукацыя. Замежная мова (англійская).
- Дашкольная адукацыя. Практычная псіхалогія.
- Практычная псіхалогія. Тэхналогія (абслуговая праца).
- Тэхналогія (абслуговая праца). Сацыяльная педагогіка.

Умовы падрыхтоўкі педагагічных кадраў адпавядаюць сучасным патрабаванням. Багаты аўдыторны фонд, наяўнасць спецыялізаваных кабінетаў, лабараторый – усё гэта факультэт атрымаў дзякуючы ўводу новых вучэбных корпусаў. Кіраўніцтва ўніверсітэта клапоціцца пра завяршэнне будаўніцтва студэнцкага гарадка са спартыўным комплексам, актавай залай на 600 месцаў, плануецца будаўніцтва інтэрнатаў для іншагародніх студэнтаў.

Актыўна працуе на педагагічным факультэце навукова-даследчая псіхолага-педагагічная лабараторыя пад кіраўніцтвам старшага выкладчыка кафедры псіхалогіі А. Селязнёва па тэме "Узаемасувязь фарміравання псіхалагічнай культуры і псіхалагічнага здароўя асобы".

Праблемнае поле даследаванняў у межах лабараторыі – наркаманія як пагроза псіхалагічнаму здароўю асобы, псіхалагічнае суправаджэнне бацькоў дзяцей-інвалідаў, індыкатары псіхалагічнай культуры і псіхалагічнага здароўя моладзі, здароўезберагальныя адукацыйныя тэхналогіі.

У структуру факультэта ўваходзіць сем кафедраў: педагогікі, псіхалогіі, дашкольнай адукацыі, тэхналогіі і выяўленчага мастацтва, музычнай адукацыі, філалогіі, прыродазнаўчых дысцыплін, на якіх працуе 138 выкладчыкаў – высокакваліфікаваных спецыялістаў сістэмы адукацыі.

Прафесарска-выкладчыцкі калектыў факультэта засяроджвае ўвагу на трох найважнейшых кірунках работы: навуковым, вучэбна-метадычным і выхаваўчым, па кожным з якіх маюцца пэўныя здабыткі. Вынікі навуковых даследаванняў дацэнтаў А. Белай, З. Лукашэні, С. Рындзевіча, Т. Пучынскай, К. Трысцень былі неаднаразова прадстаўлены на міжнародных і рэспуб-

ліканскіх навукова-практычных канферэнцыях і навуковых форумах.

Практыкаарыентаваныя даследаванні Н. Дубешкі, У. Зуева, В. Козел, Г. Рудневай, А. Селязнёва маюць непасрэдны выхад на вырашэнне важных сацыяльных задач. Высокую ацэнку ў рэспубліцы атрымалі вучэбна-метадычныя і вучэбныя дапаможнікі па педагогіцы дацэнта кафедры педагогікі В. Хітрук.

Работы студэнтаў факультэта на Рэспубліканскім конкурсе студэнцкіх навуковых работ атрымліваюць дыпломы I, II, III ступені. Выпускніца педагагічнага факультэта 2008 г., сёння выкладчык кафедры псіхалогіі, аспірант Т. Яцэнка стала лаўрэатам Рэспубліканскага конкурсу навуковых работ у галіне псіхалогіі (кіраўнік Л. Мірзаянава).

Чатыры кафедры педагогікі, псіхалогіі, дашкольнай адукацыі, філалогіі стварылі філіялы ў навучальных установах, на базе якіх праводзяцца навуковыя даследаванні, метадычныя семінары, навуковыя канферэнцыі, лабараторныя заняткі, лекторыі для бацькоў, круглыя сталы.

Вынікам работы філіяла кафедры псіхалогіі сталі электронныя дапаможнікі, вучэбна-метадычныя комплексы, памяткі для псіхолагаў, педагогаў і бацькоў. Выкладчыкамі кафедры падрыхтавана больш за 60 выданняў. Адна з формаў актывізацыі пазнавальнай дзейнасці студэнтаў – заняткі ў навукова-даследчых гуртках: “Адукацыя і здароўе”, “Псіхея”, “Адоранае дзіця ў школе”.

Сістэма падрыхтоўкі будучых выкладчыкаў тэхналогіі скіравана на развіццё асобы студэнта, ініцыятывы і творчасці праз дзейнасць студыі выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, творчага аб’яднання выкладчыкаў і студэнтаў пры лабараторыі тэхналогіі швейнай вытворчасці. Вынікам творчай працы калектыву студыі з’яўляюцца персанальныя выставы студэнтаў, удзел у рэгіянальных фестывалях па агра- і экатурызму “Кузевічы – 2009”, “Кузевічы – 2010” і перамогі ў Рэспубліканскіх выставах сучаснай візуальнай творчасці сярод студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў “АРТ-Акадэмія”. Калекцыі “Гламур”, “Белыя росы” паспяхова дэманстраваліся на выставах рэспублікі і за яе межамі.

Пры падрыхтоўцы сацыяльных педагогаў на кафедры педагогікі акцэнтуецца ўвага на глыбокае вывучэнне студэнтамі структуры і арганізацыі сацыяльных службаў Беларусі. Ладзяцца сустрэчы, праводзяцца мерапрыемствы для дзяцей сацыяльна-педагагічнага цэнтра, арганізавана наведванне “SOS-дзіцячай вёскі” ў Бараўлянах, распрацаваны і ўкараняецца праект “Практыкаарыентаваная мадэль студэнцкага сацыяльна-педагагічнага савета як сродку прафесійнай падрыхтоўкі будучага сацыяльнага педагога ва ўмовах рэфармавання вышэйшай школы”.

Навуковая работа на кафедры прыродазнаўчых дысцыплін накіравана на комплекснае даследаванне флоры і фаўны тэрыторыі Баранавіцкага раёна, абгрунтаванне аховы і рацыянальнага выкарыстання біялагічнай разнастайнасці ў межах праектаў “Захаванне біяразнастайнасці і развіццё экатурызму ў старажытных парках Баранавіцкага раёна Брэсцкай вобласці”, “Структурна-функцыянальная трансфармацыя біёты пойменных экасістэм малых рэк пры антрапагенным уздзеянні” (кіраўнік праектаў С. Рындзевіч). Па выніках рэалізацыі дадзеных праектаў апублікаваны артыкулы і даклады ў зборніках міжнародных навукова-практычных канферэнцый.

Не толькі трывалыя веды, майстэрства, прафесіяналізм імкнуцца перадаць выкладчыкі кафедры філалогіі будучым настаўнікам-філолагам, але і багатыя традыцыі беларускага народа, краю, паказаць непаўторнасць і самабытнасць нашай культуры. Узначальвае кафедру кандыдат педагагічных навук, дацэнт Т. Пучынская. Супрацоўнікамі кафедры падрыхтаваны манаграфіі, вучэбна-метадычныя выданні для забеспячэння вучэбнага працэсу і арганізацыі самастойнай работы студэнтаў. Яркай старонкай у літаратурным жыцці горада Баранавічы стала літаратурна-мастацкае выданне Алены Белай “Кніга жонкі паэта”.

Традыцыйна па ініцыятыве кафедры філалогіі праводзіцца вечар-прэзентацыя творчасці маладых паэтаў “І не знікаць паэтам вечна”, свята гумару “Беларусы жартуюць”, міжуніверсітэцкі конкурс чытальнікаў імя У. Галубка, ініцыятарам якога выступіла старшы выкладчык кафедры філалогіі А. Шахнюк.

Выхаваўчая і ідэалагічная работа на факультэце накіравана на фарміраванне асобы з актыўнай грамадзянскай пазіцыяй. Гэтаму садзейнічае створаная сістэма студэнцкага самакіравання, актыўны ўдзел студэнтаў у валанцёрскім руху, конкурсах і фестывалях.

Калектыў супрацоўнікаў педагагічнага факультэта знаходзіцца ў пастаянным пошуку новых формаў навучання і выхавання спецыяліста XXI стагоддзя.

**Лілія УРБАНОВІЧ,**
намеснік дэкана педагагічнага факультэта
па вучэбнай рабоце.
**Людміла НЕСЦЯРУК,**
намеснік дэкана педагагічнага факультэта
па вучэбнай рабоце.



# ЛІТАРАТУРА І ЧАС

*Жывое гучанне класікі*

Ала ПЕТРУШКЕВІЧ

## АЛАІЗА ПАШКЕВІЧ (ЦЁТКА) – ПЕРШАЯ МІЖ ЗНАКАМІТЫХ



135

Пачатак XX ст. стаў для беларусаў лёсавызначальнай парой – часам нацыястваральным, калі ўпершыню аформіўся палітычны рух, узніклі легальныя беларускамоўныя выданні, нарадзіўся прафесійны тэатр. У прыгожым пісьменстве ўтварыўся праўдзівы аркестр, што меў за мэту абудзіць заснулую душу беларускую да новага, да ўсведамлення сваёй самасці, нацыянальнай адметнасці. Бадай, першым на гэтую асаблівасць беларускай паэзіі, а менавіта схільнасць да «песенна-музыкальнай, часам і "жывапіснай" дамінанты ў названні твораў і зборнікаў яе пачынальнікаў і класікаў» [1, с. 68], звярнуў увагу філосаф, літаратуразнаўца У. Конан. Голас, які падаў "Смык беларускі" Францішка Багушэвіча, а за ім "Дудка беларуская", быў пачуты, падхоплены. Новы творца змайстраваў **"Скрыпку беларускую"**. Гэтым майстрам і стала Алаіза Пашкевіч – першая беларуская паэтка XX ст. Яна тварыла з надзеяй, у чаканні вялікага *"артыста, каторы збярэ ўсе нашы беларускія інструманты і наладзіць гранне як мае быць"* [2, с. 47].

Алаіза Пашкевіч была ў многіх справах **зачынам, зачынам** той яркай, магутнай песні ў беларускай гісторыі, якую мы сёння з гонарам называем Адраджэннем. Усюды першай, актыўнай. Першая беларуская газета ў тым часе з гэткай гучнай назвай "Свабода" – гэта і яе справа, як і заснаванне першай палітычнай партыі Беларускай рэвалюцыйнай грамады. Першыя вершы, што друкаваліся ў "Каляднай пісанцы" і "Велікоднай пісанцы" (1904) яшчэ раней, чым засвяціліся зоркі Купалы і Коласа. "Першае чытанне для дзетак беларусаў", першы беларускі лемантар, першы беларускі малітоўнічак (быў складзены, падрыхтаваны да друку, але свету так і не пабачыў) і, канечне ж, першы дзіцячы часопіс "Лучынка".

Музычна-песенны лад, рамантычную ўзнёсласць паэзіі Алаізы Пашкевіч адзначыў яшчэ ў тыя часы Янка Купала, які адразу ж пасля выхаду яе зборніка ў 1906 г. адгукнуўся вершам-прысвячэннем «Аўтарцы "Скрыпкі беларускай"»:

*Чутка йграеш, гулка йграеш*
*Ты на скрыпачцы сваей,*
*К небу з думкай падлятаеш,*
*Шчасця зычыш для людзей* [3, с. 126].

Купала слушна адзначыў магутную сілу эмацыянальнага ўздзеяння вершаванага слова паэткі на чалавечыя душы, бо творчасць яе была цесна знітавана з людскімі марамі і памкненнямі. Менавіта ў гэтым вершы аўтарка паўстае ў вобразе музыкі-скрыпáчкі, што дасканала валодае талентам, укладвае ў сваё слова-песню ўсю душу. Асоба, моцная найперш сілай духу, бачыцца тут сапраўдным волатам-музыкам са старадаўніх народных казак:

*Крэпкі струны тваёй скрыпкі,*
*Ў тваёй скрыпіцы душа ё,*
*У руцэ сільнай смычок ліпкі*
*Лёгка ходзіць, як пярцо* [3, с. 126].

Першы верш зборніка "Скрыпка" (і гэта таксама багушэвічаўская традыцыя) – праўдзівая праграма не толькі творчасці паэткі, але і ўсяго беларускага балю, ігрышча, у цэнтры якога павінен паўстаць музыка, што адчувае пульс народнага жыцця, верыць у магутныя людскія сілы, у імкненне душ да нябесных высей, у вялізную патрэбу наталіць духоўную смагу. Пачатак верша ўспрымаецца як тлумачэнне

*Звесткі пра аўтара змешчаны ў № 5.*

неабходных умоў, каб загучала і была пачута скрыпка-музыка-песня. Далей паэтка асэнсоўвае, пра што спяваць, вызначае тэматычныя абсягі, агучвае эстэтычную праграму. Творчасць павінна ўвабраць усе водары, гукі, колеры роднай зямлі, важныя складнікі для адчування чалавекам шчасця:

*Я зайграла бы аб шчасці!*
*Я зайграла б смехам кветак,*
*Нівак шэптам залацістых,*
*Звонам серпа, касы ўлетак,*
*Мёдам ліп з садоў душыстых* [2, с. 48].

І ўрэшце, у праграмным вершы вызначана, як іграць. Вызначэнне гэтае вельмі шматграннае, шматфарбнае. Тут павінны гучаць глыбока лірычныя, пранікнёныя, далікатныя мелодыі калыханкі, праз якую ў дзіцячую душу пераліваецца бязмежная матчына любоў і пяшчота – найпершы абярог у вялікім свеце. Але часам галоўнае – іграць так, каб ахапіць магутную энергію народнага духу, далучыць да спрадвечных і заўсёды новых ісцін. Паэтка адчайна смела творыць новыя сімвалы веры, будуе новы алтар, стварае новую царкву, фактычна прапануе сваё "Евангелле ад Алаізы":

*Пры алтары тым я грала б,*
*Так на струнах галасіла б,*
*То склікала б, то вітала б,*
*То суседзяў весяліла б;*
*То малітвай смык завыў бы,*
*То заклаў бы на пяруны,*
*То аж скаргай ў неба біў бы…* [2, с. 48].

У гэтай дзівоснай, палымянай, абвострана-эмацыйнай, напружанай пропаведзі чуваць водгук біблейскіх і фальклорных жанраў: галашэнне, заклік, вітанне, малітва, закляцце, скарга. "І ўсё дзеля таго, каб беларускую песню пачуў увесь свет…" [4, с. 21].

Алаіза Пашкевіч выдатна разумела патрэбу для беларусаў ствараць школы на роднай мове, а для гэтага патрэбны падручнікі. **"Першае чытанне для дзетак беларусаў"** уяўляе з сябе кнігу тэкстаў-чытанак дыдактычнага, выхаваўчага зместу, дзе багата гумару, элементаў гульні, забавак. Складаецца яна з дзвюх частак. Творы разнажанравыя: апавяданні, вершы, казкі, прыказкі, прымаўкі, прыпеўкі, загадкі; у аснове іх – уласнааўтарскія ці літаратурна апрацаваныя фальклорныя сюжэты. Аповед вядзецца або ад імя аўтаранаратара, або ад імя саміх юных апавядальнікаў.

У першай частцы большасць твораў за аснову маюць фальклорны змест. Зрэшты, дакладна вызначыць, што з'яўляецца асноўным прынцыпам, па якім творы ўвайшлі ў першую ці другую частку, немагчыма.

Пачынае кнігу абразок **"Нядзеля"**, прысвечаны апошняму, сёмаму, вольнаму ад працы дню. Але сялянскія клопаты штодзённыя, бо неабходна дагледзець жывёлу, а жаночыя справы ў хаце вольных дзён не пільнуюць.

Тэксты па-новаму адкрываюць для маленькіх беларусаў свет, з дзяцінства вядомы, свойскі. А гэта якраз і было цікавым: прачытаць пра сваё, убачыць гэта як бы збоку. Часта аповед у творах вядзецца ад імя дзіцяці. Да прыкладу, у абразку **"Наша гаспадарка"** праз успрыманне юнай беларусачкі, працавітай, руплівай, даецца ацэнка хатняй гаспадарцы. Апавядальніца выяўляе сімпатыі да спрадвечных карміліц вясковай сям'і – каровак: *"А я люблю Зязюльку, бо не так на шкоду ласа"* [2, с. 148]. Пералічыўшы ўсіх прадстаўнікоў *"жывой гаспадаркі"*, дзяўчынка робіць слушныя высновы пра эканамічнае, сацыяльнае становішча сям'і: *"Мне здаецца, што мы не вельмі багаты і не надта бедны. Сярэдняе рукі гаспадары"* [2, с. 148]. Гаворыць пра гэта не без гонару, бо за гэтым бачыцца выснова: мы не горшыя за людзей.

Дасціпна, з гумарам адлюстравала аўтарка ў апавяданні **"Сварба"** спрадвечную спрэчку ў прыродзе між холадам і цяплом, між марозам і сонцам, між зімой і вясной. Псіхалагічна дакладна намаляваны вобраз маладой гарэзы вясны, што паўстае ў вобліку жывой істоты, рухавай, вясёлай, гаспадыні ўсяго наваколля, якой справа да ўсяго, якая ўсё напаўняе маладой энергіяй.

Другую частку адкрывае верш **"Мой сад"**, што вобразнасцю, мелодыкай нагадвае знакаміты твор "Люблю" нашаніўскай паэткі К. Буйло. Гэтыя творы блізкія матывамі любові, па-жаночы пяшчотнай замілаванасці да ўсяго роднага, блізкага сэрцу. Адметнасць верша Алаізы Пашкевіч – стварэнне вобраза саду ў розныя поры года, бо ў любы час ён прыгожы, чаруе адметнай красой. І ва ўсякую пару тут ідзе няспынная праца. Так, вясновы роскві, водар квецені вабяць птушынага маэстра салаўя, руплівую пчолку:

*Люблю мой сад, як расцвітае,*
*Як салавей свой трэль вядзе,*
*Як цвет галінку прыгібае,*
*Як пчолка мёд адтуль нясе* [2, с. 154].

Малюнкі бесперапынна змяняюцца, змяняюцца і спевы. Відавочна, перад вачыма паэткі паўставаў дарагі сэрцу куток, а памяць паслужліва нагадвала ёй колішнія падзеі. Сад паўстае своеасаблівым жывым арганізмам, дзе ўсё ўладкавана надзвычай гарманічна, дзе ўсё адбываецца ў пэўным, вызначаным звышчасе, дзе пануюць парадак і лад, дзе адна мелодыя змяняе другую і гучыць музычным акампанементам той дзеі, пара якой настала.

Апавяданне **"Мая вёска"** – цікавы зрэз жыцця беларускай вёскі, якую пісьменніца назвала Стаўбунцы. Геаграфічнае становішча даволі выгаднае: *"Яна недалёка ад Вільні на пачтовым гасцінцы. Навокал раскінуліся цёмныя лясы. Праз двоі*

*гоны за гародамі бяжыць быстрая рака – Вілія, найбольшая з усіх рэк у нашай губерні"* [2, с. 155]. У выніку эканамічнае становішча вяскоўцаў зусім не благое. Галоўнае для беларуса – каб быў хлеб на стале. Гэта і ёсць паказчык дастатку.

Самае важнае пытанне, што хвалюе аўтарку-асветніцу, – адукацыя вясковых дзяцей, якія вымушаны вучыцца на чужых ім рускай і польскай мовах, у выніку чаго выхоўваюцца без належнай павагі да роднага.

Праблемы, што ўзнікалі ў вясковым жыцці, вырашаліся грамадой, на вясковай радзе, дзе і было прапанавана вучыць дзяцей на роднай мове. Як вынік – *"з тае пары пайшоў лад"*. Пэўна, такі фінал гісторыі не столькі адлюстроўваў рэальную сітуацыю ў адукацыі беларускіх дзяцей, колькі падказваў вяскоўцам, як вырашаць падобныя праблемы, як далучаць дзяцей да свайго слова, а праз яго – да айчыннай культуры, як ствараць лад на ўласнай зямлі. Гэта была мара, вялікае жаданне асветніцы-патрыёткі – заснаваныя самімі беларусамі школы з навучаннем на роднай мове. Лад можа быць толькі там, дзе шануюць сваё.

Адно з самых цікавых апавяданняў – **"Сірата"**. Фальклорны матыў няшчаснай долі сіраты, аднак, не галоўны ў творы. У цэнтры твора – класічная гісторыя Папялушкі, дзе прысутнічае беларускі варыянт добрай феі: *"...старая жабрачка, сіва, моў галубка, ішла памаленьку, апіраючыся на кіёк"* [2, с. 159]. Адбываецца праўдзівы цуд – пераўвасабленне беднай сіраты ў прыгожую адукаваную дзяўчыну-настаўніцу, якая праз гады вяртаецца ў родную вёску. Як і Папялушку, якую не прызнае напачатку радня, не пазнаюць і аднавяскоўцы. З калымажкі, што з'явілася нядзелькаю ў вёсцы, *"выскачыла маладая дзеўчына, проста не наглядзецца, як з казкі каралеўна, ды давай вітацца з усімі, давай цалавацца з бабамі, дзяцьмі, дзяўчатамі. А тут ніхто не знае і не думае, што гэта сіраціна Настуля прыехала адведаць бацькавы магілы"* [2, с. 160]. Гэта адзін з першых твораў беларускай літаратуры, дзе паказаны вобраз настаўніцы.

Не можа не зацікавіць чытача і апавяданне **"Пчолы"**, якое ўяўляе з сябе своеасаблівую грамадскую ўтопію, даходліва выкладзеную дзецям. На прыкладзе ўпарадкавання жыцця ў пчалінай сям'і, дзе на першым месцы – працавітасць, дзе пануюць прынцыпы роўнасці, ахвярнасці ў імя іншых, павагі да маткі, Алаіза Пашкевіч адлюстроўвае ўласнае разуменне ідэальнага грамадства. Паказваючы лад, акуратнасць і прыгажосць пчалінай гаспадаркі, аўтарка падказвае дзецям, як трэба працаваць, як паводзіць сябе, каб і ў іх жыцці было больш святла і дабра.

Завяршаюць другі раздзел прыпеўкі, прыказкі і загадкі, запазычаныя з беларускага фальклору. Гэтыя крупіны народнай мудрасці багата даюць дзіцячаму разуменню свету, павучаюць, узбагачаюць жыццёвы досвед. Заўсёды цікавыя дзецям і загадкі, адгадкі на якія падказвала вясковае жыццё, праца, прырода. Што да прыпевак, то трэба адзначыць, што не ўсе яны з эстэтычнага боку вартыя быць уключанымі ў чытанку для дзетак.

Не ўсе тагачасныя беларускія адраджэнцы прыхільна сустрэлі першыя падручнікі А. Пашкевіч. Да прыкладу, С. Палуян даволі негатыўна паставіўся да гэтых прац, назваўшы іх "некарыснымі", памылкова і несправядліва палічыўшы, што чытанкі "былі складзены і не пісьменнікам, хаця б і дзіцячым, і наогул не педагогам" [5, с. 111]. Т. Кабржыцкай і В. Рагойшам, укладальнікамі зборніка спадчыны С. Палуяна, у каментарыях да артыкула зроблена цалкам справядлівая заўвага: «У дадзеным выпадку з Сяргеем Палуянам пагадзіцца нельга... "Першае чытанне для дзетак беларусаў" Цёткі – першыя беларускія падручнікі на роднай мове – мелі для свайго часу немалое культурна-асветнае значэнне і не былі, такім чынам, "некарыснымі"» [5, с. 191].

Асабліва высока ацэнена гэтая праца А. Пашкевіч укладальніцай найбольш поўнага кнігазбораўскага выдання яе твораў, аўтаркай прадмовы В. Коўтун: "Гэта сапраўды цёплая, добрая гаворка цёткі з вясковымі дзецьмі, а даверлівы тон гутаркі разлічаны на станоўчую, прыхільную рэакцыю маленькага чытача" [4, с. 10].

Паўстае немалаважнае пытанне: чаму гэтая бясспрэчна цікавая праца, што мела ў сабе ўсё неабходнае для навучання, развіцця, выхавання дзетак беларускіх, за савецкім часам амаль не выкарыстоўвалася ў школах? Больш за тое, ніколі не была надрукавана поўнасцю. Адказ, магчыма, палягае ў тым, што не стасаваліся гэтыя творы з афіцыйным поглядам савецкага часу на жыццё беларускай вёскі дарэвалюцыйнай пары, калі безапеляцыйна сцвярджалася, што жыццё тое – суцэльнае гібенне, нядоля, галота і безнадзейнасць.

Чытанка Алаізы Пашкевіч паказвае сённяшнім беларускім дзецям іншую праўду пра мінулае нашага краю, раскрывае вочы на тую даўнюю Беларусь, гаспадарлівую, разумную, дзе кожны працавіты чалавек мог знайсці сабе месца, мог дабіцца жаданай мэты.

**Спіс літаратуры**

1. **Конан, У.** Святло паэзіі і цені жыцця : Лірыка Максіма Багдановіча / У. Конан. – Мінск : Маст. літ., 1991. – 208 с.
2. **Цётка.** Выбраныя творы / Цётка. – Мінск : Беларус. кнігазбор, 2001. – 336 с.
3. **Купала, Я.** Поўны збор твораў : у 9 т. / Я. Купала. – Мінск : Маст. літ., 1995. – Т. 1 : Вершы, пераклады 1904 – 1907. – 462 с.
4. **Коўтун, В.** Жыве яе ліра нанова / В. Коўтун // Выбраныя творы / Цётка. – Мінск : Беларус. кнігазбор, 2001. – С. 7 – 44.
5. **Палуян, С.** Якуб Колас. "Другое чытанне для дзяцей беларусаў" / С. Палуян // Лісты ў будучыню : Проза. Публіцыстыка. Крытыка. – Мінск : Маст. літ., 1986. – 215 с.

*Шматгалосае рэха*

# "АДВЕЧНАЯ ПЕСНЯ" ЯНКІ КУПАЛЫ Ў ІНТЭРПРЭТАЦЫІ ХРЫСТА ПАПОВА

Працэс сапраўднага перастварэння адбываецца шмат у чым па сваіх мастацкіх няпісаных законах, але, як мы не раз пераконваліся, самы дакладны спосаб улавіць галоўнае ў агульным гучанні арыгінала – гэта намацаць след аўтарскага натхнення, "чужое вмиг почувствовать своим" (А. Фет). У гэтым працэсе вельмі важна для перакладчыка "ўжыцца ў новы нацыянальны свет, успрыняць яго, захапіцца ім, у пэўнай ступені стаць грамадзянінам краіны – стваральніцы ўпадабанага ім мастацтва" [1].

Балгарскі паэт-перакладчык Хрыста Папоў прызнаецца, што яго дотык да непаўторнага свету беларускай паэзіі пачаўся з творчасці Янкі Купалы: "Тады ў Сафіі ішоў снег, амаль такі самы, як апалая квецень яблыні ў садзе, дзе сустракаюцца закаханыя героі. Можа быць, гэта, можа быць, успаміны дзяцінства або наша крэўная славянская роднасць, блізкасць нашых моў, нашай эмацыйнасці, а можа быць, усё разам зрабіла тыя дні, калі я працаваў над перакладам, раданымі для мяне" [2, с. 18].

Радасць ад стасункаў са светам беларускай паэзіі напаўняе перакладчыка радасцю творчай працы, дапамагае яму пайсці ўслед за аўтарскім натхненнем і такім чынам дасягнуць адпаведнай эмацыйнасці, "ужыцца ў новы нацыянальны свет", стаць яго грамадзянінам. Тут прыходзяць на дапамогу і асабістыя "ўспаміны дзяцінства", і "наша крэўная славянская роднасць", і "блізкасць нашых моў".

"Адвечная песня" хвалюе "свабодалюбнасцю, парывам да шчасця, заклікам да разнявалення чалавека ад любога прыгнёту і гвалту" [3, с. 104 – 119], высокім філасофскім роздумам. Адвечнае філасофскае пытанне пра чалавека і чалавечае жыццё раскрываецца ў ёй па-купалаўску. Паэма стваралася ў самы змрочны "чарнасоценны" час, калі рэакцыя святкавала перамогу і знішчала ідэалы першай рускай рэвалюцыі, абсмейвала парыў мужыка, які захацеў *чалавекам звацца*. Сацыяльная глеба, што спарадзіла твор, абгрунтавала і яго два дамінантныя, супрацьлеглыя матывы: чалавек – цар прыроды паводле здольнасцей і магчымасцей, чалавек – раб існых антаганістычных грамадскіх адносін.

Паэма пабудавана на канфлікце паміж пагоркаўску высокай марай пра Чалавека, які *"пад уладай сваёй будзе меці, як ёсць, усё чыста на свеце"*, з аднаго боку, і прыроднымі і грамадскімі варожымі чалавеку сіламі, што нішчаць яго гераічныя высілкі, – з іншага. Асноўны змест твора складаюць асобныя вобразы-з'явы чалавечага жыцця: хрэсьбіны, вяселле, вясна, пакос, жніво, зіма, пахаванне – кожны нарыс дадзены з максімальнай канкрэтнасцю, сацыяльнай і пабытавай. І ў той жа час Вясна, Лета, Восень, Зіма – ужо не проста часіны года, а перыяды чалавечага жыцця.

Беларускі паэт выкарыстоўвае форму народнай містэрыі і абрадавай песні, дзе Вясна прыходзіць з вянком з пралесак і разарваным ланцугом, Лета – з сярпом і касою, Восень – са жменяй сухой травы і пустым мяшком, Зіма – з кавадлам, молатам і звязкай жалезных ланцугоў. Гэтыя вобразы-сімвалы набываюць алегарычную двувымернасць і эмацыйна ўзмацняюць аўтарскі роздум пра сэнс чалавечага існавання, пра яго непераходную каштоўнасць.

У "Адвечнай песні" чалавек на працягу жыцця штохвіліны сутыкаецца з нягодамі – Голадам, Холадам, Бядой, Доляй. Усё жыццё мужыка – ланцуг жорсткіх выпрабаванняў. Я. Купала адлюстроўвае тыповыя абставіны жыцця тыповага героя, а алегарычная абагульненасць вобразаў уносіць прыўзнятасць, надае філасофскае гучанне ўсёй паэме.

Усхваляваны аповед пра трагедыю чалавека адкрываецца маналогам Жыцця:

*Ўсясільнай рукою тварэння*
*Даю яму права існення,*
*На ўласнасць ваду і зямлю,*
*Душу яму такжа даю.*

*Пад ўладай сваёй будзе меці,*
*Як ёсць, усё чыста на свеце;*
*Ён будзе ўсіх чыста дужэй,*
*Ён будзе ўсіх чыста мудрэй.*

У перакладзе М. Ісакоўскага, аднаго з вядомых рускіх паэтаў, маналог гучыць так:

*Всесильной рукой творенья*
*Даю ему жизнь и стремленья,*
*Все земли, леса и моря*
*И душу даю ему я.*

*Всех сильных он будет сильней,*
*Всех мудрых он будет мудрей.*
*И реки и долы, и горы*
*Внимать ему будут покорно*
[4, с. 600 – 601].

Велічны гімн Чалавеку, складзены беларускім паэтам, не гучыць так пераканальна ў рускай інтэрпрэтацыі, хоць і ў ёй лірычны герой таксама *"ўсіх… дужэй… / ўсіх… мудрэй"*.

Прывядзем і пераклад Х. Папова:

*С ръка всемогъша и права*
*живот и душа му дарявам,*
*дарявам му още света*
*с небето, водата, пръстта* [5, с. 160].

Па ўсіх знешніх прыкметах гэты пераклад не супадае з арыгіналам. Каб прадоўжыць супастаўляльны аналіз, прывядзем яшчэ адзін прыклад. Вось як гучыць у арыгінале запрашэнне свата:

*Вось дзе, братцы, разгуляцца!*
*Вось пацешыцца калі!*
*Хоць бярыся распраніся*
*Ды упрысядкі валі!*

*Звоняць чаркі, трашчаць скваркі,*
*Лопат, гоман, смех і крык.*
*Во! сяло дзе ходам ходзіць,*
*Гора дзе забыў мужык!*

Цалкам відавочна, што перадаць на іншым моўным матэрыяле тэмперамент паэтычнага малюнка Я. Купалы – задача вельмі цяжкая, калі не сказаць – немагчымая! Параўнанні, звароты, эпітэты і іншыя выразныя сродкі мовы нараджаюцца ў нацыянальнай форме, гэта значыць у форме, прадыктаванай законамі роднай мовы, а змест іх адлюстроўваецца ў нацыянальных асаблівасцях самой паэтыкі і служыць стварэнню характараў, перадачы мясцовага каларыту. Таму тут часцей за ўсё падпільноўвае небяспека скажэння аўтарскага стылю, які прымацаваны да аднаго з найбольш цяжкіх для перадачы пластоў – побытавага.

Вось як гучыць запрашэнне свата ў рускамоўным варыянце:

*Вот, где, братцы, разгуляться!*
*Вот потеху разведи!*
*Поднимайся, не стесняйся!*
*Эй, в присядочку пошли!*

*Ходят чарки, пышут шкварки,*
*Разговоры, шум и крик.*
*Вот где весело сегодня,*
*Где беду забыл мужик!* [4, с. 604].

У балгарскім перастварэнні Х. Папова:

*Хайде, братя, на софрата!*
*Веселба, гуляй е днес!*
*Бързо ставай, заигравай,*
*клякай, рипай до нощес!*

*Пий по мъжки, вземай пръжки*
*да не стихва смях и вик*
*Цяло село, давай смело,*
*грижи забрави, мужик!* [5, с. 162].

Многае з таго сапраўды шматкаштоўнага купалаўскага пласта ў перакладзе Х. Папова не знайшло поўнага адлюстравання, у адрозненне ад рускага, але затое як дакладна перададзена атмасфера сялянскага вяселля! Балгарскі перакладчык вельмі асцярожна падыходзіць да інтэрпрэтацыі купалаўскай паэтыкі, яго стылёвых асаблівасцей. Кожнае слова перадае не толькі сэнс, малюнак, але і рытм арыгінала: вясёлы, безупынны. У балгарскім перакладзе самі словы, здаецца, удзельнічаюць ва ўсеагульнай весялосці. Адно за адным яны як быццам пускаюцца ў скокі разам з героямі, *"и свирят, свирят, та примират, както нийде, никой път!.."*

Хрыста Папову былі да душы паўнакроўнасць купалаўскага радка, свежасць вобразаў, натхнёны палёт верша, багата насычанага зямнымі сокамі. Мастацкая шчодрасць, такт і бездакорны густ, якім давяралася тканка аповеду арыгінала, правялі перакладчыка па цяжкім шляху фальклорных, этнаграфічных лабірынтаў і не дазволілі яму заблукаць, збочыць з дарогі. Відавочна, менавіта таму ў яго атрымалася прадэманстраваць сваё майстэрства, выявіць талент у перастварэнні такой складанай і амаль неперакладальнай паэмы, як "Адвечная песня".

Прывядзем яшчэ адзін прыклад перакладніцкага майстэрства, які не можа не радаваць. У беларускім арыгінале:

*Ты, сястрыца, досць смуціцца,*
*Уздыханне ў кут пашлі,*
*Еш, лябёдка, запі водкай,*
*Душу песняй весялі!*

*Кончым зараз гэты галас,*
*Гульня пойдзе за нішто;*
*Зажывем мы па-сваему,*
*Як ніколі, як ніхто.*

У балгарскім перакладзе:

*Ти сестрице, умири се,*
*не въздишай, не жали!*
*Птичко кротка, с глътка водка,*
*с песен се развесели!*

*Глъч и врява отщумява,*
*всеки ще се прибере;*
*с теб двамина до амина*
*ще живеем най-добре* [5, с. 163].

Заўважым, што ў выкананні Х. Папова захаваны нават унутраныя рыфмы, іх размяшчэнне, эўфанія арыгінала. Так, купалаўскаму *"зажывем мы па-сваему"* перакладчык знахо-

дзіць яркі фальклорна-гутарковы эквівалент – характэрны для балгарына выраз-пажаданне пра вечны саюз душ, пра доўгае сумеснае жыццё: *"с теб двамина до амина"* (*удваіх з табой да канца, да "амін"*).

Паэма "Адвечная песня" напісана ў іншым ключы, у іншых фарбах, цалкам процілеглых светлай, жыццярадаснай палітры ўрачыстай купалаўскай песні кахання ("Яна і я"). Перакладчык Хрыста Папоў не баяўся перамен пачуццяў, настрояў, пераходаў з адной святлагамы ў іншую. Яму дапамагалі назапашаны прафесійны досвед, выпрацаваны перакладчыцкі метад, чуццё паэта і тонкага літаратуразнаўцы (можна дадаць – купалазнаўцы).

У балгарскай інтэрпрэтацыі "Адвечнай песні" ёсць нямала шчаслівых перакладчыцкіх знаходак і сапраўдных удач. У Х. Папова атрымалася пераўвасобіць глыбіню думкі арыгінала, своеасаблівасць сімволікі гэтага "класічнага твора пра вечны колазварот чалавечага жыцця", захаваць дыханне беларускага тэксту. Улічваючы эстэтычныя патрабаванні чытацкай аўдыторыі, яе высокія мастацкія запыты, перакладчык дае магчымасць адчуць усю красу формы купалаўскай паэзіі. Паэтычная тканка яго балгарскага ўзнаўлення выразная, вытрыманая ў патрэбнай інтанацыйнай афарбоўцы. Паэма "Адвечная песня" і на балгарскай мове – гэта па-майстэрску выкаваны ланцуг, у якім разрыў і выпадзенне аднаго звяна непазбежна вядуць да распаду цэлага. Перакладчык тут спасцігае шырокі комплекс думак і перажыванняў, сімволіку і асацыяцыі, шматфарбнасць і кантраснасць паэтычнай тканкі арыгінала. Музычны, гукавы бок маўлення, арсенал тропікі, як і ўсе астатнія выяўленчыя сродкі, выконваюць сваю ролю толькі ў адзінстве са зместам і ні ў арыгінале, ні ў перакладзе не могуць служыць самамэтай. Тонка ўзнаўляючы багацце паэтычнай манеры Я. Купалы, балгарскі перакладчык пераканальна разгортвае яго філасофію, разважаючы разам з ім пра складаныя праблемы быцця, пра "вечны колазварот жыцця".

«У паэме толькі на першы погляд кола замкнёнае, – адзначае Х. Папоў, – сілы зла непераможныя, выратавання – няма. Я. Купала – аптыміст. Купала-свабодалюб бачыць выйсце. Паэт паказвае яго словамі пастушка: *"Як я ў сілачку ўбяруся, змагу ўсё"*. Невыпадковае і пытанне мужыка:

*І калі ж з табой*
*Мы, сталёвая,*
*Здабываць пайдзем*
*Шчасце новае?*

Зло, нарастаючы ўзыходнай градацыяй, становіцца невыносным і, дасягаючы сваёй кульмінацыі, немінуча гіне» (з інтэрв'ю аўтара даследавання з Хрыста Паповым).

Канцоўка паэмы можа на першы погляд здацца змрочнай і безнадзейнай. Але толькі на першы. Купала-свабодалюб, Купала-аптыміст бачыць выйсце ў тым, што яго героі гатовыя падняцца і пайсці: *"Здабываць пайдзем / Шчасце новае"*. Словы Х. Папова самі па сабе красамоўна кажуць пра тое, як глыбока ён адчуў асноўны ідэйны кірунак купалаўскай філасофскай думкі, наколькі прасякнуўся задумай твора. Перакладчыка цікавяць унутраныя, глыбінныя, падтэкставыя плыні. Такім чынам ён вызваляецца ад "ланцугоў" арыгінала ў працэсе пераадолення моўнага супраціўлення тэксту. І ў канчатковым варыянце балгарскага ўзнаўлення няма ні ценю перакладчыцкіх пакут.

Супастаўляючы беларускі і балгарскі тэксты гэтай "маленькай паэтычнай энцыклапедыі беларускага сялянскага жыцця" (С. Уладзіміраў), мы прасочваем шмат агульнага ў інтанацыі, у сістэме выразных сродкаў, у мастацкіх прыёмах, у рытмічнай структуры. Перакладчык імкнецца захаваць каларыт малюнка і музыку верша, таму і няма таго ўражання выпакутаванасці, якое часта ствараюць пераклады тэкстаў Я. Купалы на іншыя мовы.

"Нацыянальная форма перадаецца не скажэннем мовы, на якую перакладаецца дадзены мастацкі твор, не прыладжваннем гэтай мовы да чужых граматычных нормаў, не грымам, касцюмамі і бутафорыяй" пад мясцовы каларыт [6, с. 391]. Яна перадаецца глыбокім пранікненнем у самую сутнасць нацыянальнай і сацыяльнай своеасаблівасці народа, пераканальным раскрыццём таго, як псіхічная агульнасць нацыі выяўляецца ў яе мове, і таго, як у літаратуры гэтае выражэнне псіхічнай агульнасці нацыі ўскладняецца індывідуальнай своеасаблівасцю стылю аўтара і намаляванага персанажа.

Да таго ж пры перакладзе беларускай класікі пачатку ХХ ст. нельга не ўлічваць яе нацыянальнай своеасаблівасці, яе фенаменальнасці. Іншымі словамі, таго, што ў свой час добра заўважыў Максім Багдановіч, займаючыся творчасцю Тараса Шаўчэнкі: "Стих Шевченко, – пісаў ён, – походит на освещенный изнутри бумажный китайский фонарь. У него нет блеска, сияние его мягкое и ровное, но вместе с тем видишь, что внутри он полон света, и только полупрозрачная оболочка не дает этому свету хлынуть во все стороны ослепительным потоком".

Словы М. Багдановіча пра своеасаблівасць шаўчэнкаўскага верша ў поўнай меры можна

аднесці і да верша Я. Купалы, і да балгарскай інтэрпрэтацыі Х. Паповым купалаўскай паэзіі. Яго пераклады пераконваюць нас у тым, што балгарскі інтэрпрэтатар валодае "глыбокім пранікненнем у самую сутнасць нацыянальнай і сацыяльнай своеасаблівасці" беларускага народа, у непаўторнасць індывідуальна-творчай манеры перакладанага аўтара. Ён унутраным зрокам паэта ўбачыў тое, што хаваецца за "паўпразрыстай абалонкай", і ўзнавіў унутранае святло купалаўскай паэзіі.

Падчас перастварэння перакладчык шмат у чым залежыць ад аўтара, ён падпарадкоўваецца яго волі, ідзе за яго думкамі, выяўляе яго пачуцці, але не з'яўляецца яго рабом. Калі аўтар адлюстроўвае аб'ектыўную рэчаіснасць такой, якой ён бачыць і ўспрымае яе, то перакладчык мае перад сабой у якасці аб'ектыўнай рэчаіснасці чужы твор. Якім шляхам перакладчык дамагаецца адэкватнага ўзнаўлення арыгінала – яго асабістая, творчая справа. У гэтым заключаецца яго вынаходлівасць, яго інтуіцыя, яго мастацкі талент. І калі ён майстар сваёй справы, то перш чым пачаць перастварaць на новым моўным матэрыяле думкі і пачуцці, ідэі і мастацкія вобразы арыгінала, ён суаднясе іх шляхам асацыяцый і ўяўленняў з матэрыяльным і эмацыйным бокам жыцця, з уласным асабістым і шматвяковым досведам сваіх продкаў. Не трэба забывацца, што думкі і пачуцці, ідэі і вобразы – самі па сабе катэгорыі другасныя, яны з'яўляюцца адлюстраваннем у свядомасці чалавека яго быцця і для іх перадачы на іншую мову недастаткова чыста моўных сродкаў.

Успомнім шырока вядомае выказванне Л. Талстога: "Мастацтва заўсёды ўспамін" – і адразу зразумеем, які неабходны ўспамін у складаным і шматаспектным мастацтве перакладу. Балгарскі перакладчык як сапраўдны майстар, успрыняўшы на мове арыгінала думкі аўтара, у сваёй свядомасці паўтарае ўвесь працэс стварэння мастацкага тэксту. Натуральна, што выказаць пачуцці паэт-перакладчык можа толькі на роднай мове. І вось ён у меру досведу і таленту мабілізуе рэсурсы майстэрства і стварае новую якасць – твор на сваёй мове, у які ўкладзена яго індывідуальная трактоўка прачытанага.

"У гэтае імгненне, у вырашальны момант творчага працэсу, – піша В. Росельс, – калі ў душы перакладчыка сутыкаюцца стыхіі дзвюх моў – той, на якой ён прачытаў, і той, на якой збіраецца выказаць прачытанае, адбываецца разрад, выбліск каласальнай сілы. Святлом яе арыгінал высвечваецца на ўсю глыбіню, азараецца не толькі структура вобразаў, своеасаблівасць стылю, але і архітэктоніка ўсяго твора, кампазіцыйныя хады, унутраныя сувязі, размеркаванне аб'ёмаў і прапорцый. І ўсё гэта дапамагае спасцігнуць галоўнае – задумку, асноўную ідэю, той комплекс думак і пачуццяў, народжаных жыццёвым досведам, які, у канчатковым рахунку, і належыць узнавіць" [7, с. 23 – 24].

Хрыста Папоў зыходзіў з галоўнай мастацкай задачы беларускага класіка, ішоў за ім, увасабляючы яе на сваім моўным матэрыяле. Перакладчыку дарагія кожны рух купалаўскай думкі, кожнае слова Я. Купалы, кожная паэтычная дэталь, і таму ў яго балгарскім узнаўленні "Адвечная песня" гучыць сувымерна, кранальна.

Адлюстраваны ў свядомасці балгарскага перакладчыка ўвесь асабісты ў самым шырокім сэнсе слова досвед (увесь комплекс думак і пачуццяў, народжаных жыццём) падказвае яму думкі, апранутыя ў адпаведную форму роднай мовы.

Ідучы такім шляхам услед за аўтарскім натхненнем, адэкватна, па-мастацку раўнацэнна перадаючы шматстайнасць паэтычнага арсенала, складаную алегарычна-метафарычную сістэму беларускага класіка, знаходзячы самыя дакладныя эквіваленты і трапляючы ў магнітнае поле купалаўскай паэтыкі, Хрыста Папоў таленавіта ўзнаўляе яго.

Перастварыць на мове перакладу думкі арыгінала, перадаць яго эстэтычную каштоўнасць пасродкам роўнай эстэтычнай каштоўнасці і стаць практычна суаўтарам перакладанага твора – у гэтым і заключаецца, на наш погляд, адмысловы гіпнатызм паэтычнага перакладу.

*Пераклад з рускай мовы.*

**Спіс літаратуры**

1. **Кундзіч, О. Л.** Творчі проблеми перекладу / О. Л. Кундзіч. – Київ : Дніпро, 1973.
2. **Папоў, Х.** У свеце беларускай паэзіі / Х. Папоў // Далягляды. – Мінск : Маст. літ., 1982. – С. 18 – 19.
3. **Русакиев, С.** Класик на белоруската литература / С. Русакиев // Език и литература. – 1982. – № 6. – С. 104 – 119.
4. **Купала, Я.** Избранное / Я. Купала. – Л. : Сов. писатель, 1973.
5. **Купала, Я.** Избрани творби / Я. Купала, Я. Колас. – София : Народна култура, 1982.
6. **Кашкин, И.** Для читателя-современника : Статьи и исследования / И. Кашкин. – М. : Сов. писатель, 1977.
7. **Россельс, В. М.** Сколько весит слово : статьи разных лет / В. М. Россельс. – М., 1984.

**Роза СТАНКЕВІЧ,**
кандыдат філалагічных навук,
выкладчык беларускай мовы і літаратуры
Плоўдзіўскага ўніверсітэта.

Мікола ТРУС

# ШЛЯХАМІ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

## ДАСЛЕДЧЫЦКІ ПЛЁН НІНЫ ВАТАЦЫ

Пра яе пісалі даволі многа, ухвалялі плён шматгадовай працы, але найчасцей хваласпеўныя допісы былі з нагоды юбілейных дат, атрымання высокіх дзяржаўных узнагарод. Ніна Барысаўна Ватацы пражыла доўгае, насычанае жыццё: сведка дзвюх рэвалюцый, дзвюх сусветных войнаў, умацавання і наступстваў сталінскай сістэмы, будаўніцтва сацыялізму, развалу СССР, нараджэння незалежнай Рэспублікі Беларусь. Ужо толькі пералічэнне ключавых падзей XX ст., што непасрэдным чынам прайшліся па лёсе аднаго чалавека, уражвае. Пра такіх людзей, як Н. Ватацы, кажуць: чалавек-эпоха, чалавек-легенда.

Сёлетнім снежнем грамадскасць будзе ўрачыста адзначаць 120-годдзе з дня нараджэння М. Багдановіча. Даследаванню невядомых старонак жыцця і творчасці класіка беларускай літаратуры Н. Ватацы прысвяціла амаль 40 гадоў самаадданай працы. Дарогі і сцежкі пошукаў вялі ў Расію, Літву, Украіну. Даследчыцкія шляхі паступова звужалі магчымыя каардынаты знаходжання ўнікальных дакументаў, мройныя знаходкі спакваля набывалі рэальныя абрысы. Шляхі… Разложыстае, ёмістае беларускае слова. Яго Н. Ватацы на пэўным этапе пачала культываваць, выносіць у назвы кніг: "Шлях паэта", "Шляхі". Так, дарога заканчваецца, але шлях бясконцы. На зямлі мы вымяраем яго сваімі крокамі: і літаральна, і ў метафарычным гучанні, як пройдзенае, пражытае, пераадоленае. На нябёсах вока раз-пораз шукае Млечны Шлях, шлях у касмічную бясконцасць, мару, надзею…

Наша з Нінай Барысаўнай знаёмства адбылося акурат у дзень яе нараджэння 14 мая 1997 г. На той час я ўжо 4 гады працаваў у Літаратурным музеі М. Багдановіча. Маё стаўленне да Н. Ватацы было ў нечым падобнае на стаўленне да боства, з яўнай ідэалізацыяй. Ведаў, што жыве побач з філфакам БДУ, маім асноўным месцам працы, мае праблемы са здароўем, не выходзіць з дому. Яе адведвалі калегі па бібліятэчнай справе ды найбольш блізкія даследчыкі-багдановічазнаўцы. Малодшаму пакаленню музейшчыкаў і ў галаву не прыходзіла выбрацца на адведзіны *той самай* Ніны Ватацы.

Спецыфіка музейнай працы, хочаш не хочаш, а прадвызначае стаўленне да рэчаіснасці. Так і я на пэўным этапе ўзяў за правіла: не заседжвацца ў кабінеце, не захапляцца тэарэтызаваннем; выкарыстоўваць кожную магчымасць, каб фіксаваць час, гісторыю, сустракацца з людзьмі. Таму і напрасіўся ў кампанію віншавальнікаў на чале з Валянцінай Францаўнай Бяляўскай, тагачасным галоўным захавальнікам фондаў музея.



**Ніна Ватацы.** 1970-я гг.
З фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

Узброіўся "лупатымі" кветкамі герберамі, фотаапаратам ды кнігай "Голас вясны далёкай: Паўлюк Трус ва ўспамінах, лістах, артыкулах, вершах" (1994), адным са складальнікаў якой была Н. Ватацы. Прыхопленае выданне, па маім меркаванні, магло б дапамагчы прыўлашчыцца да даверу паважанай даследчыцы: усё-ткі новы чалавек у хаце – аднафамілец вядомага паэта. Канечне, папрасіў аўтограф. Ніна Барысаўна вінавата прамовіла: *"Але ж я нічога не бачу"*. *"Ну калі ласка…"* – амаль малітоўна прасіў я. *"Тады трымайце кнігу"*, – быў адказ. Я прыціснуў кнігу да стала, каб не зварухнулася, не парушыла ўрачыстасць моманту, а Ніна Барысаўна няўпэўнена, навобмацак выводзіла аўтограф… Па ўсёй верагоднасці, ён быў апошні, бо ў жніўні 1997 г. яе не стала. І сёння, успамінаючы эпізод 14-гадовай даўнасці, мне цяжка пракаўтнуць няёмкасць і шчымлівасць той сітуацыі, маю маладую дзёрзкасць і, магчыма, некарэктнасць…

*Звесткі пра аўтара змешчаны ў № 4.*



**Аляксандр Сеўчанка** (другі злева) **з сябрамі.** Полацк. 1923 г.
З фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

ва ўніверсітэце выкладалі літаратуру вядомыя педагогі і вучоныя: І. Замоцін, М. Піятуховіч, А. Вазнясенскі, Я. Барычэўскі, будучыя класікі беларускага мастацкага слова П. Глебка, К. Крапіва, П. Трус і інш.

Па накіраванні Наркамасветы БССР з 1930 г. пачала працаваць у Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя У. І. Леніна (цяпер Нацыянальная бібліятэка Беларусі), дзе прайшла шлях ад памочніка бібліятэкара да галоўнага бібліёграфа (1930 – 1936; 1945 – 1990).

Рэпрэсіі 1930-х гг. не абмінулі сям'ю Н. Ватацы: у 1936 г. арыштаваны яе муж, Аляксандр Іванавіч Сеўчанка, даследчык літаратуры, які пісаў дысертацыю па творчасці З. Бядулі; пазней загінуў на фронце. У часы вымушанага выгнання Н. Ватацы працавала ў краявой бібліятэцы Архангельска, мастаком у Кіраве, у педвучылішчы г. Ульянаўска. У час Вялікай Айчыннай вайны загадвала бібліятэкай эвакашпіталя № 1701 у г. Мелекесе Ульянаўскай вобласці.

Пасля вайны вярнулася ў Мінск. З 1945 г. удзельнічала ў аднаўленні фондаў бібліятэкі, даведачна-бібліяграфічнага апарату. Дзялілася вопытам, рыхтавала бібліятэчныя кадры. З 1946 да 1956 г., у пасляваенны цяжкі час, выкладала па сумяшчальніцтве на бібліятэчным факультэце Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага.

**БІЯГРАФІЧНАЯ ДАВЕДКА ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНАГА ХАРАКТАРУ**

Ніна Барысаўна Ватацы (14.05.1908 – 03.08.1997) – бібліёграф, літаратуразнаўца. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1963). Член СП СССР з 1979 г. Узнагароджана медалямі, Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР. Нарадзілася ў горадзе Ведэні Ліфляндскай губерні (цяпер горад Цэсіс, Латвія) у сям'і служачых. У 1922 г. скончыла школу-сямігодку. З 1926 г. у Мінску. Выпускніца літаратурна-лінгвістычнага аддзялення педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1930). Вучоба ў БДУ стала часам вызначэння жыццёвых і даследчыцкіх прыярытэтаў, улюбёнасці ў кнігу. У той час



**Ніна Ватацы і Аляксандр Сеўчанка.** 1933 – 1936(?) гг.
З фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

**СТАРОНКІ ЛЕТАПІСУ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ XX СТ.**

У друку артыкулы Н. Ватацы з 1932 г. Ад таго часу практычна кожны год у перыёдыцы, спецыялізаваных выданнях з'яўляліся бібліяграфічныя матэрыялы, артыкулы па пытаннях гісторыі кнігі, кнігавыдавецкай справы, літаратуразнаўчыя публікацыі.

Падрыхтавала шэраг бібліяграфічных даведнікаў па творчасці беларускіх пісьменнікаў; першы з іх – **"Якуб Колас"** – выйшаў у 1952 г., наступныя прысвечаны Я. Купалу, П. Броўку, П. Глебку, П. Трусу, К. Чор-

наму, А. Куляшову, М. Танку, І. Шамякіну, іншым – усяго 22 выданні. У кожным выпадку іх фармат меў свае адметнасці: бібліяграфічны даведнік, кароткі бібліяграфічны даведнік, бібліяграфічная памятка чытача, памятка чытачу і г. д. Н. Ватацы заўсёды арыентавалася на самага рознага адрасата: аматара творчасці пісьменніка, настаўніка, прафесійнага даследчыка літаратуры.

Стварыла першы дапаможнік **"Белорусская литература"** (1957) з серыі рэкамендацыйных паказальнікаў Дзяржаўнай бібліятэкі СССР імя У. І. Леніна і дзяржаўных бібліятэк саюзных рэспублік па прапагандзе нацыянальных літаратур. Складзеныя Н. Ватацы паказальнікі сталі класікай беларускай бібліяграфіі, гэта **"Мастацкая літаратура Савецкай Беларусі"** (1917 – 1960), **"Мастацкая літаратура Савецкай Беларусі"** (1961 – 1968), **"Беларуская савецкая драматургія"** (1945 – 1965), **"Беларуская драматургія"** (1966 – 1986), **"Беларускае літаратуразнаўства і крытыка"** (1945 – 1963) і інш.



**Валянціна Бяляўская, Зоська Верас, Ніна Ватацы, Ніна Ляшковіч.**
Каля "Лясной хаткі" Зоські Верас пад Вільняй. 1982 г.
З фондаў Літаратурнага музея Максіма Багдановіча.

#### ПЛЁН ПОШУКАВАЙ ПРАЦЫ

З 1957 г. Ніна Ватацы пачала скрупулёзна займацца даследаваннем жыцця і творчасці М. Багдановіча. Праз год быў падрыхтаваны даведнік "Максім Багдановіч, 1907 – 1957: публікацыі твораў і літаратура аб ім". Важкая праца аб'ёмам у 450 друкаваных лістоў не публікавалася, але сабраны матэрыял стаў асновай пазнейшых выданняў. Дзейнасць на ніве багдановічазнаўства доўжылася амаль 40 гадоў. Найбольш інтэнсіўнымі і плённымі былі 1960 – 1980-я гг., але і ў паважным веку Н. Ватацы заставалася нязменным і найбольш аўтарытэтным кансультантам багдановічазнаўцаў. Нездарма сярод калег, у друку яе часта называлі "біёграфам Максіма Багдановіча" і "галоўным бібліёграфам галоўнай бібліятэкі краіны".

Даследчыца вяла перапіску, сустракалася са сваякамі, знаёмымі М. Багдановіча, іх нашчадкамі: Паўлам Адамавічам Багдановічам, Андрэем Трыфанавічам Галаванам, Ганнай Кіпрыянаўнай Валасовіч-Гразновай, Наталляй Глебаўнай Кунцэвіч, Анастасіяй Глебаўнай Кунцэвіч, Таццянай Глебаўнай Сібіраковай, Мікалаем Іванавічам Лілеевым, Зоськай Верас і інш. У выніку збіраўся каштоўны архіў, які складалі прыжыццёвыя выданні М. Багдановіча з аўтографамі паэта, унікальны рукапісны зборнік "Зеленя", сямейныя фотаздымкі, рэліквіі, ліставанне, шмат іншых надзвычай цікавых і каштоўных дакументаў.

Практычна кожная публікацыя Н. Ватацы станавілася вехавай падзеяй, новым словам у багдановічазнаўстве, адкрыццём. Плён пошукавай, даследчыцкай дзейнасці знайшоў адлюстраванне ў шэрагу артыкулаў: "Невядомыя творы Максіма Багдановіча" [уступны артыкул у суаўтарстве з Н. Лапідусам] (Полымя, 1957, № 5, с. 155 – 162), "Юнацкія гады Максіма Багдановіча" [у суаўтарстве з Н. Лапідусам] (Маладосць, 1957, № 5, с. 19 – 20), "Максім Багдановіч аб чэшскім народзе" [у суаўтарстве з Н. Лапідусам] (ЛіМ, 1957, 15 чэрв.), "Невядомы тэкст Максіма Багдановіча" (ЛіМ, 1958, 7 чэрв.), "У газетах, часопісах, кнігах" (ЛіМ, 1961, 8 снеж.), "З сямейнага альбома Максіма Багдановіча" (Беларусь, 1965, № 8, с. 27), "Там, дзе жыў Максім Багдановіч" (ЛіМ, 1967, 20 студз.), "Брусаў і Максім Багдановіч" (ЛіМ, 1969, 4 крас.), "Лёгкіх шляхоў не шукаў" (Маладосць, 1971, № 12, с. 114 – 116), "Слово о старшем брате" [перапіска з Паўлам Багдановічам], "Яна – выдумка маёй галавы" (Маладосць, 1973, № 8, с. 146 – 152), "Максім Багдановіч – Валерыю Брусаву" (Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1975, № 1, с. 41 – 43), "Зноў пра Вераніку" (Маладосць, 1979, № 1, с. 166 – 173), "Максім Багдановіч у дарэвалюцыйнай літаратурнай крытыцы (бібліяграфічны агляд)", "Дарэвалюцыйныя пераклады вершаў М. Багдановіча на польскую мову" (Из истории белорусской библиографии и книжных фондов: сб. статей. Мінск, 1979), "А сэрца ўсё імкне да бацькаўскага краю…" (Маладосць, 1981, № 6, с. 171 – 178), "Вянок" (Беларусь, 1981, № 11, с. 16 – 17), "Яны ведалі паэта" (Полымя, 1981, № 12, с. 174 – 188), "Паэт з легенды" (Настаўніцкая газета, 1981, 8 снеж.), "У вянок Максіму" (Голас Радзімы, 1981, 17 снеж.), "Насустрач юбілею" (ЛіМ, 1985, 11 кастр.), "Яшчэ раз пра эпісталярый А. Я. Багдановіча" (Полымя, 1986, № 5, с. 181 – 185), "Загадка Багдановіча" (Звязда, 1987, 24 мая), "Бацька паэта" (Голас Радзімы, 1989, 2 сак.), "Зберагала памяць пра Максіма…" (ЛіМ, 1992, 24 ліп.) і інш.




**Валянціна Бяляўская, Ніна Ватацы, Мікола Трус.** 14 мая 1997 г.

Публікацыі Н. Ватацы неаднародныя па стылі: займальныя, навукова-папулярныя, арыентаваныя на шырокага чытача, аматара творчасці М. Багдановіча, і важкія, фактаграфічныя, з грунтоўнай аналітычнай базай. Даследчыца выпраўляла памылкі, дапушчаныя раней вучонымі пры апісанні спадчыны паэта, прапаноўвала ўласныя меркаванні, заўсёды грунтоўныя, падмацаваныя слушнымі аргументамі.

Своеасаблівым падагульненнем сабранага за дзесяцігоддзі матэрыялу сталі выданні **"Максім Багдановіч: да 70-годдзя з дня нараджэння: бібліяграфічны даведнік"** (1961), **"Максім Багдановіч: жыццё і творчасць: матэрыялы для выстаўкі ў школе"** (сумесна з А. Лойкам; 1968), **"Максім Багдановіч: Паказальнік твораў, аўтографаў і крытычнай літаратуры"** (1977), **"Песня Максіма"** (1981), **"Шляхі: гісторыка-літаратурныя артыкулы"** (1986). Паказальнік "Максім Багдановіч" спецыялісты (С. Зыгмантовіч, В. Саітава) залічваюць да вяршынь навукова-бібліяграфічнай культуры. Тут зарэгістраваны творы, аўтографы, крытычная літаратура пра паэта за перыяд 1908 – 1976 гг. Да гэтага ніводнае акадэмічнае выданне не мела зводнага вопісу аўтографаў М. Багдановіча з розных архіваў і фондасховішчаў.

Настольная кніга багдановічазнаўцаў – зборнік **"Шлях паэта. Успаміны і біяграфічныя матэрыялы пра Максіма Багдановіча"** (1975). Ён складаецца з трох раздзелаў: "Успаміны", "Пісьмы", "Біяграфічныя матэрыялы". Ва "Успаміны" ўвайшлі "Материалы к биографии Максима Адамовича Богдановича" А. Багдановіча, згадкі пра паэта родных і блізкіх: Г. Валасовіч-Гразновай, З. Верас, З. Бядулі, Ц. Годнева, В. Гарбацэвіча, Л. Зайца, Х. Імшэнніка, Д. Дзябольскага і інш. Раздзел "Пісьмы" складаюць эпісталярная спадчына М. Багдановіча, ліставанне А. Багдановіча пра спадчыну М. Багдановіча, перапіска брата паэта П. Багдановіча з Н. Ватацы. Аўтары "Біяграфічных матэрыялаў": С. Александровіч, М. Гарэцкі, М. Стральцоў, А. Бачыла. Н. Ватацы прадставіла ў гэтым раздзеле тры свае артыкулы: "У Горкім", "Яна – выдумка маёй галавы…", "Пошукі творчай спадчыны Максіма Багдановіча".

Ніна Барысаўна была душой, аўтарытэтным дарадцам Літаратурнага музея М. Багдановіча. Адразу ў год яго заснавання (1981) яна перадала ў фонды новай культурна-асветнай установы шмат найкаштоўнейшых матэрыялаў, якія сталі асновай збораў музея, а пазней – дамінантнымі кропкамі яго экспазіцыі.

Матэрыялы пра жыццё і даследчыцкую дзейнасць самой Н. Ватацы захоўваюцца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, Нацыянальным архіве Беларусі, Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва, Літаратурным музеі М. Багдановіча.

Гэтай публікацыяй мы мелі на мэце актуалізаваць напісанае пра Ніну Ватацы, аддаць павагу яе шматгадовай будзённай працы, якая дала вялікі плён, а для сучасных вучоных – грунтоўны падмурак даследчыцкай дзейнасці. Зробленае даследчыцай уражвае. Перад намі, што называецца, багатая фактура матэрыялу, дакументы, перапіска, успаміны – усё тое, без чаго не можа адбыцца багдановічазнаўства як адна з галін гуманітарнай навукі. Вобраз песняра чыстай красы заўсёды знаходзіцца ў аўры загадкавасці, мастацкага хваласпеву, вызначае прастору для ўласнай творчасці. У гэтым плане дзейнасць Ніны Ватацы някідкая, яе аргументы – факты, дакументальныя пацверджанні. І ў гэтым яе моц і важкасць. Пасля Ніны Барысаўны Ватацы, як пісаў В. Скалабан, "засталіся Памяць, Кнігі і Музей". Што можна дадаць? Дасць Бог, не падвядуць людзі – застанецца і Энцыклапедыя…

**Спіс літаратуры**

1. **Белы, А. В.** Агляд фонду асабістага паходжання Ватацы Н. Б. / А. В. Белы // Здабыткі : дакументальныя помнікі на Беларусі. – Мінск, 2007. – Вып. 9. – С. 172 – 175.

2. **Бяляўская, В.** Збіральніца / В. Бяляўская // Роднае слова. – 1993. – № 5. – С. 72 – 73.

3. **Зыгмантовіч, С. В.** Бібліяграфічная дзейнасць Н. Б. Ватацы / С. В. Зыгмантовіч, В. І. Саітава // Здабыткі : дакументальныя помнікі на Беларусі. – Мінск, 1997. – Вып. 2.

4. **Кніга, А.** Нястомны летапісец класікі : Ніна Ватацы / А. Кніга // Роднае слова. – 2008. – № 5. – С. 13 – 14.

5. **Савік, Л. С.** Ватацы Ніна / Л. С. Савік // Беларускія пісьменнікі : біябібліяграфічны слоўнік : у 6 т. – Мінск : БелЭн, 1992. – Т. 1. – С. 539.

6. **Скалабан, В.** Засталіся Памяць, Кнігі і Музей / В. Скалабан // Бібліятэчны свет. – 1997. – № 4. – С. 29.

*З гісторыі псеўданімаў*

# ПСЕЎДАНІМЫ І КРЫПТАНІМЫ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

Хто з літаратараў шмат друкуецца, той часта вымушаны падпісваць свае матэрыялы псеўданімамі і крыптанімамі. Гэта мы назіраем і ў Максіма Багдановіча.

Першае яго стылізаванае пад народную легенду апавяданне "Музыка" апублікавана ў "Нашай Ніве" (1907, № 24, 6/19 ліп.) і падпісана *Максім Б–віч*.

У 1908 г. паэт чамусьці не друкаваўся зусім. Чаму? Ніхто дасюль з даследчыкаў, на жаль, не высветліў.

З Ніжняга Ноўгарада даслаў у "Нашу Ніву" верш "Прыйдзе вясна". Тут ён апублікаваны ў 1909 г. (№ 10, 5/18 сак.). Падпісаны таксама *Максім Б–віч*. З гэтага часу паэт пастаянна і даволі інтэнсіўна друкуецца ў газеце.

Ужо з Яраслаўля М. Багдановіч дасылае ў "Нашу Ніву" пераклад "Дзвюх песень" (з Ю. Святагора), які выданне абнародавала ў № 19, 7/20 мая. Падпісаны твор *Максім Крыніца*. У лацінскім варыянце газеты пры наборы была зроблена памылка – *Hrynica*. Як успамінаў В. Ластоўскі, такі псеўданім прыдумаў Ядвігін Ш. У лісце паэт пратэставаў супраць гэтага подпісу.

Наступнымі публікацыямі былі вершы "Лясун", "Хрэсьбіны лесуна", "Прывольная, цёмная пушча…" (Наша Ніва, 1909, № 35 – 36, 3/16 верас.), "Над возерам" (№ 37, 10/23 верас.), "Краю мой родны! Як выкляты Богам…" (№ 38, 17/30 верас.), "З песняў беларускага мужыка" (№ 39, 24 верас.), "Асенняй ночай", "Над соннай рэчкай" (№ 41, 8/21 кастр.), "На чужыне" (№ 42, 15/28 кастр.). Усе гэтыя публікацыі таксама падпісаны *Максім Б–віч*.

Цікава, што верш "Пугач" (Наша Ніва, 1909, № 43, 22 кастр./4 лістап.) у грамадзянскім шрыфтавым варыянце газеты меў подпіс, відаць, ад "спрыту" наборшчыка – набор жа быў ручны, з касы шрыфтоў, – *Максім Б–Віч*.

Вельмі часта М. Багдановіч карыстаўся крыптанімам *М. Б.*, ініцыяламі свайго імя і прозвішча. Назаву некаторыя публікацыі, так падпісаныя: артыкул "Глыбы і слаі" (Наша Ніва, 1911, №№ 3 – 5, 20 і 27 студз., 3 лютага), апавяданні "Несчастный случай" (Голос, 1913, № 99, 1/14 мая і № 101, 3/16 мая), "Притча о васильках" (Северная газета, 1914, № 1, 2 студз.), артыкул "Крестьянин-поэт С. Д. Дрожжин" (Северная газета, 1913, № 42, 13 снеж.), верш "Скерцо" (Северная газета, 1913, № 36, 7 снеж.), артыкулы пра Г. Галілея "Безумец" (Голос, 1914, № 29, 5 лют.), "Н. К. Михайловский" (Голос, 1914, № 22, 28 студз.), "М. М. Путиводитель по Галиции и ее курортам" (Русский экскурсант, 1915, № 211, 21 лют.), пераклады з В. Стафаніка «Из рассказа "Кленовые листочки"» (Голос, 1916, № 129, 8/21 чэрв.), "Смерть" (Голос, 1916, № 137, 17/30 чэрв.).

Артыкул "Не жаласці, а праўды" (Наша Ніва, 1911, № 14, 7 крас.) падпісаны *М. Б.*, у Поўным зборы твораў (1995, т. 3, с. 327) змешчаны ў рубрыцы Dubia. Ёсць меркаванне, што яго мог напісаць Лявон Гмыра́к* (Мечыслаў Баброві). Пакуль гэта не даказана даследчыкамі, лагічна быць яму ў рубрыцы Dubia. Л. Гмырак друкаваўся ў "Нашай Ніве" з 1910 г.

Крыптанімам *М. Б–віч* падпісаны артыкул "За тры гады" ў "Калядная пісанцы" (Вільня, 1913), "Апавяданне аб іконніку і залатару" (Наша Ніва, 1914, № 7, 13 лют.), а таксама вершы "Городская любовь" (Сатирикон, 1912, № 46, 9 лістап.), "В горячем споре возражая беспрестанно…" (Сатирикон, 1912, № 49, 30 лістап.).

Максім Багдановіч, містыфікуючы чытачоў, карыстаўся і жаночымі формамі псеўданімаў. Так, у яраслаўскай газеце Голос (1916, № 154, 8 ліп.) верш "Осенью" падпісаны *Ек. Февралева*. Здагадвайся, чытач, хто гэта.

Як успамінаў сябра М. Багдановіча М. Агурцоў, а пасля пацвердзіў у 1984 г. М. Пазнякоў, паэт часта карыстаўся псеўданімам *Ив. Февралев*. Ім падпісваў артыкулы, нататкі, рэпартажы. І не толькі. Гэта апавяданні "Экзамен" (Голос, 1915, № 215, 25 студз.), у "Голосе" 1916 г. – апавяданні і нататкі "Карлик и человек", "Нумизматы", "Ванька-встанька", "Жаль книгу", "О взятке", "Две смерти", "Дело по обвинению в разбое", "В гостях у детей", "Мытарства беженцев" і інш.

Ад гэтага псеўданіма ў "Голосе" за 1916 г. змешчаны за подпісам *Ив. Ф.* публікацыі "Волгари", "На углу", "Около билетов", "Около театра миниатюр", "За сахаром", "Годовщина народного дома", "Покушение на вооруженную кражу", "Кооперативное совещание", "Мимоходом", "Детская колония". А таксама падпісаныя *Ив. Февр.* "Покушение на поджог" (Голос, 1916, № 134, 14 чэрв.), *Ив. Ф-левъ* "Сельскохозяйственная перепись" (Голос, 1916, № 149, 2/15 ліп.) і інш.

Нататка "Цензурные мытарства Н. А. Некрасова" за подпісам *Б.* (Голос, 1913, № 189, 20 жніў-

* Менавіта з такім націскам вымаўляла псеўданім Мечыслава Бабровіча Зоська Верас, яго блізкая знаёмая.



НАД МАГІЛАЙ.

Кахя шляху ў чыстым полі
Магіла стаіць;
Кругом круціць завіруха,
Гуляе, шуміць.
На магіле адзінока
Каліна расьце;
Яе вецер абвівае,
Мяцеліца гне
І навокала магілы
Сьпевае-гудзіць
Пра таго, хто ў чыстым полі
Пахаваны спіць...

Максім Б—віч.

Ніжні-Ноўгорад.

**Першая публікацыя верша “Над магілай” Максіма Багдановіча.** Наша Ніва. 1909 г. № 1. 1 студз.

ня/2 верас.) у Поўным зборы твораў (1993, т. 2, с. 576) змешчана ў раздзеле Dubia, бо няма ўпэўненасці, што аўтар М. Багдановіч. І сапраўды. Гэта не твор Максіма Багдановіча. У “Голосе” 1913 г. друкаваўся В. Бурцаў. Акрамя гэтай нататкі ён змясціў там артыкулы “Новое строительство в деревне”, “Поляхонский уезд”, “Учительское совещание”, “О внешкольном образовании” і інш. І “Цензурные мытарства Н. А. Некрасова”. Гэта засведчыў у свой час былы супрацоўнік “Голоса” М. Агурцоў, які вёў у газеце літаратурны аддзел. У кнізе “Опыт местной библиографии. Ярославский край” М. Агурцоў расшыфраваў некаторыя прозвішчы карэспандэнтаў газеты, іх псеўданімы і крыптанімы. Так, пад № 8467 на старонцы 318 М. ён піша, што пад літарай *Б.* друкаваўся В. Бурцаў і яго артыкул “Цензурные мытарства Н. А. Некрасова”.

Максіму Багдановічу псеўдапаслугі рабіць не трэба, хоць гэты артыкул В. Бурцава як багдановічаўскі быў змешчаны яшчэ ў другім томе Збору твораў 1968 г. Падалі яго чытачам і ў Поўным зборы твораў класіка літаратуры (1993, т. 2, с. 576). Памылку дасведчана паказала С. Белая ў артыкуле “Псеўданімы Максіма-кніжніка” ў “Настаўніцкай газеце” (25 лістап. 1989 г.). Укладальнікі Поўнага (?) збору твораў М. Багдановіча ў 3 тамах гэты матэрыял С. Белай прапусцілі ці праігнаравалі. Ізноў паэту Багдановічу прыпісваецца не яго твор. Цяпер, калі рыхтуецца персанальная энцыклапедыя “Максім Багдановіч”, артыкул “Цензурные мытарства Н. А. Некрасова” туды, можна сказаць упэўнена, ужо не ўвойдзе. Памылка будзе праз столькі гадоў выпраўлена.

Пераклад “Юдавага поля” Светазара Гурбана-Ваянскага падпісаны *Б-ч* у “Нашай Ніве” (1909, № 39, 24 верас./4 кастр.). Гэта яшчэ адзін крыптанім М. Багдановіча.

Падпісаны *М. Б-ч* артыкул “Об интересном мнении г. Глебова”, змешчаны паэтам у часопісе “Музыка” (1915, № 211, 21 лют.).

Яўная памылка *Н. Б.* замест *М. Б.* пры наборы ў “Северном календаре” на 1912 г. (артыкул “Народное образование”). Я апублікаваў гэты матэрыял у альманаху “Свіцязь” (1989). У Поўным зборы твораў (гл. т. 3, с. 236) апублікаваны спіс твораў М. Багдановіча, складзены ім самім; гэты артыкул стаіць першым.

У яраслаўскім “Голосе” М. Багдановіч падпісваўся яшчэ *Эхо*. Варта звярнуць увагу на нататкі нашага класіка “После концерта Яна Кубелика” (1909, № 230, 6/19 снеж.), “Калейдоскоп жизни” (1913, № 100, 2/15 мая), яго апавяданні “Колька” (1913, № 87, 14/27 крас.), “Преступление” (1913, № 118, 25 мая/7 чэрв.), № 136, 16/29 чэрв., № 140, 21 чэрв./5 ліп., № 152, 5/17 ліп.), “Чудо маленького Петрика” (1915, № 67, 22 сак./4 крас.). Псеўданімам *Эхо* падпісана і апавяданне “Именинница” (Северная газета, 1914, № 232, 21 верас.).

Прозвішчам сваёй бабулі *М. Осьмак*, калі наведаў родны Мінск у 1916 г., М. Багдановіч падпісаў у петраградскай газеце “Дзянніца” (1916, № 4, 27 лістап.), якую выдаваў Цішка Гартны, артыкул “Агляд працы за першы год Мінскага аддзела Беларускага таварыства для помачы пацярпеўшым ад вайны”. Артыкул адшукаў В. Скалабан і апублікаваў яго ў часопісе “Полымя” (1987, № 12).

З успамінаў былога рэдактара яраслаўскай газеты Голос С. Каныгіна вядома, што ў ёй М. Багдановіч у 1910 г. падпісваў свае вершы на рускай мове псеўданімам *Rion*. Гэта былі творы “О, не вечно тучи мглою…”, “Жду я… Порхают снежинки пушистые…”, “Весеннее”, “Из испанских мотивов”, “Не сердись на меня, тихий друг…”.

Як бачыце, Максім Багдановіч – не выключэнне з шэрагу пісьменнікаў і журналістаў, якія часта выступалі ў друку. А каб залішне не мільгала перад вачамі ў чытачоў яго прозвішча, многія матэрыялы аўтар вымушаны быў падпісваць крыптанімамі і псеўданімамі. Няхай настаўнікі і вучні не толькі ведаюць, але і запамінаюць іх. Класік нашага прыгожага пісьменства справядліва заслужыў гэта даўно і грунтоўна.

**Янка САЛАМЕВІЧ.**

# ВОБРАЗ ГАЛІЛЕЯ Ў РАМАНЕ "ВЯЗЬМО" МІХАСЯ ЗАРЭЦКАГА

**ФІЛОЛАГА-ФІЛАСОФСКАЕ ПРАЧЫТАННЕ**

Даследаванне праблемы асобы ў міждысцыплінарным аспекце (літаратуразнаўства, эстэтыка, філасофская антрапалогія, гуманістычная псіхалогія) дазваляе ўключыць з'явы нацыянальнага мастацтва ў полікультурны кантэкст. Нельга, аднак, сцвярджаць, што іх ідэйны змест і асаблівасці паэтыкі пры гэтым будуць вычарпальна прэзентаваны. Бо, як пісаў А. Шапенгаўэр, мэта мастацтва – палягчаць спазнанне ідэй свету, якія па сутнасці сваёй – нешта сузіральнае і таму невычарпальнае. У творах выяўленчага мастацтва і ўтрымліваецца ўся мудрасць, аднак толькі *virtualiter* ці *implicite*; даць жа яе *actualiter* ці *explicite* – гэта задача філасофіі. Калі мы бачым, што скрозь усё багацце мастацкіх сродкаў і прыёмаў "свіціцца дакладнае, абмежаванае, халоднае, цвярозае паняцце і што яно ў рэшце рэшт цалкам выступае на паверхню і аказваецца ядром дадзенага твора", то, значыць, уся яго канцэпцыя мела чыста рацыянальны характар і вычэрпваецца ўвасабленнем гэтага паняцця. Тады мы адчуваем пэўную незадаволенасць, "разумеючы, што нас падманулі і марна патрабавалі нашай увагі і ўдзелу. Цалкам нас задавальняе твор толькі ў тым выпадку, калі ён пакідае ў нашай душы такое ўражанне, якое мы, колькі б аб ім ні разважалі, не можам цалкам давесці да выразнасці паняцця" [1, с. 522].

Калі мець на ўвазе раман "Вязьмо" Міхася Зарэцкага, то ўсё сказанае будзе ў значнай ступені адпавядаць сапраўднасці менавіта дзякуючы вобразу Галілея – аднаго з пантэона герояў-дзівакоў, на якіх увогуле багатая літаратура і якія, маючы ў сабе пэўныя архетыпавыя рысы, разам з тым нясуць выразны адбітак канкрэтнай нацыянальнай культуры. Жыхар вёскі Сівец Ахрэм Данілавіч Пунцік *"Галілеем… стаў праз вечныя свае вынаходкі"* з лёгкай рукі ўласнага добрага прыяцеля Плакса, але *"гэтая мянушка яго не абразіла (а мо нават і задаволіла…) і шчытна да яго прыстала"* [2, с. 18], тым самым у чарговы раз пацвердзіўшы выснову, замацаваную ў літаратуры К. Крапівой: каляндарнае імя заўсёды вісела на калку, як лішняя хамуціна, а кемнае слаўцо, надзетае на галаву чалавеку, як новая шапка, характарызавала яго вельмі трапна.

Факт перайменавання інтэрпрэтуецца некаторымі даследчыкамі як рэфлекс міфалагічнай свядомасці персанажаў: «Пераймаючы… "міфалагізаванае" імя, новы дэнатат як бы стараецца пераняць таксама яго каштоўнасці, бо міфалагічная свядомасць мае на ўвазе ўнутраную сувязь і тоеснасць імені і яго носьбіта» [3, с. 571].

Гістарычны каментарый, датычны асобы "ерэтыка" Галілея, і аналіз рамана "Вязьмо" дазваляюць пераканацца, што ўчэпістасць прозвішча-мянушкі героя М. Зарэцкага абумоўлена адпаведнасцю пэўных яго індывідуальных рыс асобе славутага "прататыпа". Гэта дае магчымасць яшчэ больш упэўнена сцвярджаць, што вобраз Галілея "супраціўляецца" падыходу да яго з побытавымі меркамі, якімі вымяраюць вартасць героя іншыя персанажы рамана. Так, Марына Паўлаўна заўважае аднойчы: *"Жывіцё вы неяк так… не па-людску"* [2, с. 38], маючы на ўвазе *"пышнае бязладдзе"* ў хацёнцы вясковага вынаходніка. Між тым перад намі адметная рыса цэласнай характарыстыкі героя, што ўражвае плённасцю аўтарскай спробы дасягнення "ўзаемадапаўняльнасці паміж паэзіяй і навукай" (Г. Башляр) праз дастасаванасць кожнай дэталі. Як пісаў П. Валеры, "розум… жывіцца бязладдзем. <…> Ён бярэ неабходнае яму бязладдзе ўсюды, дзе толькі знаходзіць. Каб уключыцца ў работу, яму патрэбен перапад Бязладдзе – Лад, як машынам неабходны перапад тэмператур" [4, с. 100]. Хутчэй жа, стары вынаходца жыве не так, як усе. Упарадкаваны ім уласны вонкавы, знешні свет – гэта праекцыя яго ўнутранага свету, сведчанне яго багатага патэнцыялу, што дадаткова падкрэслівае ўжыты М. Зарэцкім эпітэт да слова *бязладдзе – пышнае. "Каб сказаў яму* [Пацяробу] *хто-небудзь, што кожнае каліва з Галілеевага сметніка мае сваё адмысловае прызначэнне, што ўсё гэта – матэрыял для яго новай, надзвычай важнай работы, ён бы плюнуў яму ў вочы і назваў бы яго таксама вар'ятам"* [2, с. 234].

"Няма на свеце розуму, што быў бы ў згодзе з самім сабой, інакш ён не розум" [4, с. 135], – слушна сцвярджае П. Валеры. М. Зарэцкі выяўляе вышэйпамянёную якасць Пунціка-Галілея праз асобныя дэталі яго паводзін, у тым ліку праз залішнюю на першы погляд мітуслівасць, якая, аднак, мае сваё рацыянальнае абгрунтаванне ў канцэпцыі асобы героя. "Знаходжанне на месцы абыходзіцца нам куды даражэй, чым рух. Ва ўстойлівасці вар'яцкая цана. …Нашым жыццёвым цэнтрам супрацьпаказана доўгая засяроджанасць – рассеянасць і свабода маюць для іх значна большую перавагу" [4, с. 83]. М. Мантэнь у свой час пісаў: "Жыццё само па сабе не дабро і не зло; яно ёмішча дабра і зла, гледзячы на тое, у што вы самі ператварылі яго. <…> Мера жыцця не ў

яго працягласці, а ў тым, як вы здзейснілі яго: іншы пражыў доўга, ды пажыў мала; не марудзьце, пакуль знаходзіцеся тут" [5, с. 99 – 101]. Можа небеспадстаўна здацца, што параду, падобную да гэтай, Галілей у свой час успрыняў літаральна. Наўрад ці з'яўляецца марудлівасць дамінантай яго характару. М. Зарэцкі адзначае, што *"сядзець ён не любіў"* увогуле, а словы і выразы, якімі пісьменнік характарызуе адметнасць перамяшчэння героя ў прасторы, утвараюць досыць ёмкі сінанімічны рад: *"борздзенька саскочыў з печы"*, па вуліцы, як зазвычай, *"бег трушком, дробна падкідаючы сваё хударлявае тулава"*; *"неспакойна тупаў у парозе"*; *"замітусіўся па хаце"*; да Гвардыяна *"заскочыў навертам"*, *"трусіўся па хаце, поўны дзівоснае непакойнасці"* і інш.

Вобраз Галілея – эстэтычна ўвасоблены "феномен здольнасці да адзіноты і адметнага спосабу пазнання" [4, с. 191]. Ён, паводле метафарычнага выразу У. Някляева, жыве "на званіцы", таму папрок, што гэты чалавек "сваё жыццё добра ўладкаваць не здолеў" [6, с. 203], наўрад ці можа быць яму адрасаваны, паколькі ён узняўся над будзённасцю, мае здольнасць убачыць сутнасць рэчаў і з гэтай прычыны часам бярэ сабе права сказаць, як «Марыне Паўлаўне, калі яна наважылася пайсці ад Карызны: "Так трэба… Так усім будзе лепей…"» [6, с. 203].

Такім чынам, пры набліжаным разглядзе ў філасофскім кантэксце Галілей выяўляецца натурай складанай і гарманічнай у сваёй унутранай сутнасці, нягледзячы на вонкавую бязладнасць яго знешняга выгляду і жыццёвай прасторы. Так, некалі майстар страціў два пальцы, але *"не спыніў быў далейшых вынаходак, а, надварот, узяўся за іх з яшчэ большым імпэтам"* [2, с. 38]. Ён задавальняецца малым у штодзённым і матэрыяльным, пацвярджаючы думку, што дастаткова не тады, калі многа, а тады, калі хапае: *"На вуліцы… віхлялася худая Галілеева спіна, закрытая старэнькім дзіравенькім кажушком"* [2, с. 131].

Гэтае "малое", аднак, не датычыць апантанай прагі дзейнасці, зносін, рэфлексіі, развязання праблем. Цяжка пагадзіцца з меркаваннем Д. Бугаёва, што ў вобразе Ахрэма Данілавіча Пунціка "асабліва шмат камічнага", а ў яго мянушцы ёсць як павага, так і "насмешка, не толькі прыхаваная, але і яўная" [6, с. 203]. Між тым многія даследчыкі (С. Гусак, А. Майсеенка, М. Мушынскі) падзяляюць меркаванне, што Галілей – увасабленне народнай мудрасці, народнага сумлення, аддаюць належнае адметнасці ўнутранага жыцця героя, яго настойлівым пошукам сэнсу падзей, якія абумоўліваюць далейшы лёс народа. Зварот да такога элемента мастацкай формы, як вобраз дзівака, абумоўлены грамадска-культурнай сітуацыяй 1920 – 1930-х гг. Важна адмысловае змястоўнае напаўненне гэтай формы ў дадзеным канкрэтным выпадку. Галілей – не другарадны персанаж, а герой – выразнік аўтарскай пазіцыі, чаго не адмаўляла і крытыка папярэдняга перыяду [7, с. 469].

"Тое, што абяцае філасофія, гэта нібы ўжо рэалізаваны прыбытак… у той час як набытак твораў мастацтва кожны раз трэба ствараць наноў" [1, с. 521], – пісаў А. Шапенгаўэр. У дадзеным артыкуле мы робім спробу павялічыць гэты набытак. Нам падаецца мэтазгодным разгляд вобраза Галілея ў кантэксце філасофскай антрапалогіі, што сцвердзіла сябе на працягу першага дзесяцігоддзя пасля імперыялістычнай вайны. Пачынальнікам напрамку лічаць Э. Гусерля, паслядоўнікамі – М. Хайдэгера і М. Шэлера; ды і ўвогуле ў мысляроў, якія сфарміраваліся ў канцы XIX – пачатку XX стст., на парозе вялікага крызісу, у глыбіні "зацьмення Бога", але яшчэ да саміх катастроф, да крывавага гвалту, ёсць нешта агульнае. Уражвае і чуйнасць пісьменніцкай інтуіцыі М. Зарэцкага, што замацавала і захавала для нашчадкаў своеасаблівасць чалавечай асобы, убачанай у новых сацыяльных сувязях. Паводле Э. Гусерля, чалавецтва, якое змагаецца за самаразуменне, ёсць найвялікшы гістарычны феномен. Вялікую каштоўнасць у азначаным намі часавым і змястоўным кантэксце маюць філасофскія погляды М. Бубера. Інтэлектуальнае сяброўства звязвала яго з М. Бярдзяевым; М. Бахцін прызнаваў уплыў на сябе бубераўскай філасофіі дыялогу. М. Бубер – наймацнейшы крытык светабачання адзіночкі, не здольнага выйсці за межы сваёй адасобленасці. Праблема адзіноты заўсёды была адной з дамінантных філасофскіх праблем, і не ў апошнюю чаргу таму, што гэта нязменна вострая праблема асобы і грамадства. У нашым выпадку – яшчэ і адметны ракурс мастацкага асваення рэчаіснасці. Прымаючы вышэйсказанае пад увагу, інакш успрымаеш тое, што Галілей *"свае сям'і не мае, жыве бабылём"* [2, с. 203]. Ф. Ніцшэ адзначаў: "Адзінота надае нам большую чэрствасць адносна саміх сябе і большую настальгію па людзях: у абодвух выпадках яна паляпшае характар" [8, с. 761].

На вобразе Галілея выразна відаць, што асоба, якая ці па складзе характару, ці па волі лёсу, ці ў выніку таго і іншага разам засталася сам-насам з сабою і сваімі праблемамі, якой удалося ў гэтай спусташальнай адзіноце сустрэцца з самой сабой, ва ўласным "я" ўбачыць чалавека, а за ўласнымі праблемамі – агульначалавечую праблематыку, больш за ўсё схільная і найлепшым чынам падрыхтаваная да самаасэнсавання. "У ледзяной атмасферы адзіноты чалавек з усёй непазбежнасцю ператвараецца ў пытанне для самога сябе…" [9, с. 164]. У святле гэтага нельга абысці ўвагай наступны фрагмент дыялогу паміж Галілеем

і Гвардыянам (дадзены эпізод сведчыць таксама пра літаральны перапад тэмператур, які адзначаўся вышэй у метафарычным кантэксце адносна перападу "Бязладдзе – Лад", неабходнага для функцыянавання чалавечага розуму): *"…сцюдзёна ў мяне. На доле ніжэй за нуля тэмпература. Кожнае стварэнне цеплынёй ажыўляецца…*

*Мабыць, папраўдзе было сцюдзёна ў Галілеевай хаціне, бо Гвардыян калаціўся як у трасцы, хоць і быў апрануты ў добрае футра"*. Заўважым, што Гвардыяну пагражае адзінота як сацыяльная ізаляцыя. Над гэтым ён вымушаны пакутліва разважаць, міжвольна ператвараючыся ў тое самае славутае пытанне для самога сябе… І першы, і другі стан гэтаму герою неўласцівы. Яго адчуванні абазначаны М. Зарэцкім сцісла, дакладна і патэнцыяльна асацыятыўна: *"ледзяная золь ела нутро"* [2, с. 41].

Адзінота – атрыбут інакшасці, пры гэтым хутчэй яе ўмова і вынік, чым прычына. "Аднак, разглядаючы чалавека-адзіночку як ён ёсць, бачыш чалавека толькі настолькі, як мы бачым месяц на начным небе… бо завершаная форма – гэта толькі чалавек з чалавекам. Разглядаючы чалавека з чалавекам, заўжды ўбачыш дынамічную дваістасць, якая разам з тым ёсць і сутнасць чалавека: тут і той, хто дае, і хто прымае; тут і наступальнае памкненне, і абарончае дзеянне, тут і даследчык, і яго апанент…" [9, с. 191]. Адзіночка – чалавек з "закладзенай у ім магчымасцю адносін" [9, с. 232].

Галілей *"робіць цікавую і важную рэч"*, якая, як некалі *"мажджэра"*, "стрэліць" у фінале твора. Захоплены новаю працаю, ён *"праз цэлыя дні не вылазіў з свае хацінкі"*. Але, піша М. Зарэцкі, *"часамі апаноўваў усё-ткі Галілея… магутны нястрымны поцяг да людзей"* [2, с. 158 – 159].

Да чалавека Галілей ставіўся з уласцівай яму творчай цікаўнасцю. Таму ён любіў усякі сход (незалежна ад парадку дня), *"любіў наогул, дзе многа людзей"* [2, с. 160], што, па вялікім рахунку, ёсць амаль цікаўнасць філосафа-антраполага: "…у людской супольнасці чалавек пазнаецца па закладзенай у ёй паўнаце адносін" [9, с. 232]. «*У людской масе,* – піша М. Зарэцкі, – *ён умеў бачыць свайго "ўлюбёнага" чалавека з яго сілай і слабасцю, з яго добрымі і дрэннымі бакамі і… з яго своеасаблівай "ваўчынай" жыццёвай тэхнікай*» [2, с. 160]. (Так гэта ахарактарызаваў Плакс, які, на думку Галілея, зусім не любіць чалавека.) *"Улюбёны чалавек"* з *"ваўчынай"* жыццёвай тэхнікай – адна з надзвычай супярэчлівых характарыстык, той парадокс, што стымулюе дашукацца яго прычын ці хоць бы спасцігнуць логіку аўтара. У пэўнай ступені гэтаму паспрыяла параўнальна-тыпалагічнае супастаўленне пазіцыі М. Зарэцкага і такіх прадстаўнікоў рускай літаратуры першай трэці ХХ ст., як Л. Андрэеў і Л. Лявонаў.

Так, у ноч перад пакараннем тэрарыст Вернер ("Апавяданне пра семярых павешаных" Л. Андрэева) думае пра людзей: "Новымі паўсталі людзі, па-новаму мілымі і цудоўнымі здаліся яны яго прасветленаму позірку. Лунаючы па-над часам, ён убачыў выразна, якое яшчэ маладое чалавецтва, што толькі ўчора зверам завывала ў лясах; і тое, што здавалася жахлівым у людзях, недаравальным і брыдкім, раптам стала мілым – як мілае ў дзіцяці яго няўменне хадзіць паходкаю дарослага, яго нязвязнае лепятанне, з якога выблісквають іскры геніяльнасці, яго смешныя пралікі, памылкі і жорсткія ўдары" [10, с. 322]. Не такая адназначная, на першы погляд, пазіцыя Л. Лявонава, выказаная ім у апавяданні "Петушыхінскі пралом": «Добры ўсё народ – а папрасі, паміраючы, пад акенцам вадзіцы, то пачуеш адказ кшталту "Не ведаем мы нічога. Піў адзін надоечы, ды карэц сцягнуў" або "Ідзі да студні, ды і хлябчы. Бач, прычапіўся…" <…> Вось і паспрабуй тут зразумець іх ваўчынае сваяцтва: бягуць ваўкі зграяй, усе прыяцелі, а пахіснуўся каторы – згрызуць» [11, с. 140]. Аднак далей, у лірычна-філасофскім адступленні, гэтая пазіцыя выразна гуманістычная: "Усёй табе, зямлі маёй, несканчонасці чалавечых слёз і людзям тваім, воўчаму статку, гнанаму ветрам, пакланяюся духам сваім". Эвалюцыя ў асэнсаванні чалавечай агульнасці відавочная ў першую чаргу з адрознага (*зграя – статак*) словаўжывання. Яшчэ больш яскравы гуманізм К. Чорнага, які ўвасобіўся ў перакананасці яго героя Нявады. Ён кажа дачцэ: "…ці ты верыш, што чалавек не вытрымае, каб вечна быць зверам. Вырві ты з чалавека сэрца і ўстаў на яго месца звярынае, дык у чалавечых грудзях і звярынае сэрца стане чалавечым" [12, с. 116].

Паказальна, як М. Зарэцкі падыходзіць праз успрыманне Галілея да вырашэння праблемы "новага чалавека". Прыглядаючыся да людзей, Галілей творыць свайго "гумункулюса". "Леў Талстой", герой рамана З. Бядулі "Язэп Крушынскі", тыпалагічна падобны да Галілея, таксама згадвае, што недзе чытаў пра "гумункулюса" – "новага штучнага чалавека", і марыць зрабіць "такі гумункулюс" з Крушынскага і Драчыка, аб'яднаўшы "тактыку і спрыт" (гаспадарлівасць і прадпрымальнасць) першага і шчырасць другога [13, с. 370]. Пазіцыя Галілея адрозніваецца толькі на першы погляд. Ён схільны бачыць "новых людзей" у сваіх добра знаёмых аднавяскоўцах. На запытанне Плакса, чаму ён якога *"новага чалавека сабе не прымудраваў"*, стары «*з навучальнай строгасцю прабурчаў: "Няможна, доктар, так казаць пра людзей… Новых людзей не трэба… Гэтыя людзі будуць новыя…"*». Недвухсэнсоўна прагучала з вуснаў народнага філосафа і ўмова, пры якой такое магчыма: *"Трэба, доктар, чалавека любіць… ага… трэба любіць…"* [2, с. 298]. Гэтая рэпліка – заключная ў

рамане – нібы рэзюмуе пазіцыю пісьменніка-гуманіста, што верыў у творчыя сілы простых людзей. Яна выразна змыкаецца з пазіцыяй К. Чорнага. Як пісаў А. Адамовіч, сучаснікам-крытыкам магло здацца, што К. Чорны адстае ад жыцця, бо прыглядаецца не да яскравых прыкладаў зрухаў і перамен, а да сялянскага асяроддзя, якое толькі-толькі пачынае змяняцца. Аднак К. Чорны «вельмі ўважліва шукаў у жыцці рысы новага, ён стварыў нямала вобразаў "новых людзей"... Адно з яго апавяданняў так і называецца – "Новыя людзі". Іншая справа – дзе ён шукаў гэтых новых людзей. Чорны быў цвёрда перакананы, што новае толькі тады набывае асаблівую сілу, калі закранае лёс простых людзей, калі пранікае ў самыя глыбіні народнага асяроддзя. І ён лічыў, што пісьменнік павінен бачыць перш за ўсё гэтыя глыбіні жыцця» [14, с. 168].

На думку М. Бубера, сутнасць чалавека пазнаецца з яго своеасаблівых адносін да рэчаў і адушаўлёных істот як да нечага самастойнага і пастаяннага [9, с. 227]. У гэтым плане вымагаюць разгляду адмысловыя стасункі Галілея і яго сабакі Босага. Любоў да жывёл, як лічыў М. Бярдзяеў, можа быць "любоўю чалавека, які мае патрэбу ў любові, але з цяжкасцю можа яе выяўляць у адносінах да людзей. Гэта зваротны бок адзіноты" [15, с. 38]. У мастацкай мадэлі асобы, прапанаванай М. Зарэцкім, не выпадае абысціся простай канстатацыяй таго, што прывязанасць да жывых істот – усяго толькі спосаб уцячы ад адзіноты. Галілей "карыстаў Босага" на розныя дробныя паслугі: што-небудзь падаць, патрымаць, вынесці смецце на двор, і сабака стараўся ўсё выканаць з *"узорнай стараннасцю і акуратнасцю"*. Сам Босы найбольш *"паважаў гатаванне абеду"*. Гаспадар рабіў гэта на *"адумыславым апараце"*, а сам працэс увогуле *"быў укладзены ў строгую сістэму і па магчымасці механізаваны"* [2, с. 158]. Праўда, калі Галілея ахоплівала натхненне, сабаку даводзілася *"з затуманенымі пакорным жалем вачмі доўга і ўпарта"* грызці сухую скарынку, *"пацяшаючы сябе тым, што і гаспадар дзеліць з ім яго няшчасную долю"* [2, с. 159]. Калі ж *"у Галілеевым нутры"* білася аж два захапленні адразу, то *"гаспадароў шал дасягаў... страшэнных форм"* і Босы разумеў: у яго сабачым жыцці наставалі цяжкія дні...

Галілей – homo faber, чалавек-штукар. Праўда, інтэрпрэтуючы дадзены вобраз, мы ў значнай ступені выходзім за межы прамога лексічнага значэння гэтага слова – 'вытворца прылад і машын'. Тут дарэчы ўспомніць аксюмаранны выраз К. Чорнага "адухоўленае жалеза", ім можа быць ахарактарызаваны плён творчай думкі вынаходцы. Акрамя *"мажджэры"*, канструкцыямі Галілея былі саматужная электрычнасць ва ўласнай хацёнцы, удасканаленая сушыльня для Марыны Паўлаўны; мелася быць хутка створанай цыркулярная бяздымная печ. На думку М. Бубера, розніца паміж homo faber і "чалавекам-жывёлай" – толькі ў ступені жывёльнасці, а паміж homo faber і чалавекам, што пераадольвае ўласныя межы і пачынае шукаць Бога, – адрозненне сутнаснае. Хранатоп, у якім дзейнічаюць героі М. Зарэцкага, не спрыяў богашукальніцтву. Не варта, аднак, з гэтай прычыны ставіць на іх знак нейкай заганнасці (нават пры тым, што М. Шэлер сцвярджаў: сапраўдны чалавек пачынаецца з богашукальніцтва). Паводле І. В. Гётэ, ужо сам чалавек – тая першая гутарка, якую прырода вядзе з Богам. М. Бубер лічыў, што чалавек пачынаецца не там, дзе шукаюць Бога, а дзе пакутуюць ад таго, што Бог далёка, хоць і не разумеюць прычын пакуты; вера ж пачынаецца з нявер'я ў трываласць штодзённага, з разбурэння асноў здаровага сэнсу. Справа тут не ў самім слове *Бог*, яно можа і не вымаўляцца, а ў чалавечым духу – асаблівай сутнасці, што ўзнікае пры дзейсным імкненні не толькі адчуць гэты свет у барацьбе ці ў гульні, але і спазнаць яго, кіруючыся адзіным палымяным жаданнем "звесці пераЖываны хаос у адзінства космасу. З дзікага буйства святла вылучаецца вобраз. З дзікага шуму зямлі – гук, з першапачатковай зблытанасці ўсіх рэчаў – паняцце" [9, с. 225].

Мы акцэнтуем увагу на гэтым аспекце з той прычыны, што М. Зарэцкі неаднойчы падкрэслівае адзнаку дзікасці ў апісанні побыту Галілея: *"як дзікі, недарэчны ўбор на галаве ў вар'ята, узносяцца над страхой"* яго хацёнкі *"непамерна вялікія, грамозныя крылы ветрака"* [2, с. 38]. У хаце вачыма Марыны Пятроўны, як ужо адзначалася, мы бачым *"пышнае бязладдзе"*. Прыкладам можа служыць і спеў Галілея, характарызуючы які, даследчыкі небеспадстаўна акцэнтавалі ўвагу на самім факце дыскурсу і яго ідэі, мы ж засяродзімся на агульным філасофска-псіхалагічным абгрунтаванні. Неапраўдана застаўся без увагі такі аўтарскі каментарый: *"Галілей пяе таму, што ніхто не чуе яго: гэта ваяўнічы гімн яго творчае самоты"* [2, с. 158]. Матыў у яго заўсёды адзін – *"аднастайны і дзікі, мабыць, падобны да прымітыўнага спеву першабытнага чалавека. Затое словы заўсёды розныя... складныя і страшныя: інакшых слоў ён не пяе"*. (Мусіць, яны кампенсуюць *"заўсёдную ціхасць яго і палахлівасць"*.) Істотна, што пяе стары мудрагель *"толькі ў хвіліны найяснейшых вышуканняў свайго дапытлівага розуму... калі цалкам бывае сабой задаволены"* [2, с. 157]. Тое, што *"гук хоча быць праспяваным і... вусны растуліліся ў магічным спеве"*, – сведчанне чарговай лакальнай перамогі героя над хаосам. Усё скіравана на дасягненне гармоніі, у выніку чаго "хаос скараецца форме" [9, с. 225], якая хоча быць успрынятай іншым, а не толькі яе стваральнікам.

Філосафы мяркуюць, што, дасканала разумеючы слова, якое называе пэўны прадмет ці з'яву,

можна лягчэй авалодаць рэчавым светам. Галілей заўсёды шукаў слова адметнага – *"менавіта… мудронага, якое б захапіла не так яснасцю свайго значэння, як спрытнай тэхнічнай дасканаласцю, штукарскай прыточанасцю адмысловай формы да глыбокага зместу"* [2, с. 131]. Наўрад ці можна лічыць такую патрабавальнасць да слова толькі адной з праяў дзівацтва героя: "Найменшая прыблізнасць у маўленні небяспечная ўмяшаннем у жыццё чалавека памылковага выбару" [16, с. 455]. Тым больш што героі Міхася Зарэцкага сапраўды пастаўлены перад кардынальным выбарам.

Як ужо адзначалася, гармонію творыць розум, і менавіта з бязладдзя. Чым дысгарманічнейшае быццё, тым настойлівей чалавек імкнецца да гармоніі (калі ён сапраўды чалавек). Так пошук чалавекам гарманічнага быцця робіцца мерай гуманістычнага зместу вобраза персанажа.

Вобраз Галілея можна разглядаць як мастацкае ўвасабленне ўніверсальнага творчага пачатку ў чалавеку. З пункту погляду філасофіі і гуманістычнай псіхалогіі, павярхоўныя адзнакі "несамавітасці" Галілея ацэньваюцца як паказчыкі творчай і талерантнай асобы ў адпаведнасці з дакладнымі навуковымі паняццямі. І гэта не спроба штучнага ўключэння твора 30-х гг. мінулага стагоддзя ў сучасны культурны кантэкст. Па-за ўвагай даследчыкаў пакуль што застаецца слова *творчасць*, актыўна (значна больш, чым гэтага вымагала эпоха, калі быць творчым выглядала "дзіка і недарэчна"), ва ўсіх магчымых значэннях ужытае М. Зарэцкім: як працэс стварэння чалавекам артэфактаў, як яго неардынарны пошук у сферы грамадскага ўладкавання, як універсальная каштоўнасць быцця чалавека, "воля да пераўтварэння хаосу" (М. Пршвін). Вобраз вясковага дзівака Галілея – мастацкая праекцыя творчай асобы.

Паводле А. Маслоу, самаактуалізацыя – гэта не адсутнасць праблем, а рух ад часовых і нерэальных праблем да рэальных. Гэта выразна выяўляецца на тым этапе сюжэтнага дзеяння, калі Галілей высвятляе ў Карызны, «*супроць каго цяперашняя "рэвалюцыя"*». Атрымаўшы адказ, *"чамусьці перапытаў: – Супроць кулака?.. – І было ў тоне гэтага… запытання нешта такое значнае і праканалае, што адразу адвяло ўсіхную ўвагу ад агульных разваг да канкрэтнага, блізкага, да непасрэдна датычнага мястэчка, бліжэйшых вёсак, жывых людзей – знаёмых, прыяцеляў, ворагаў. І бадай што толькі цяпер усё… паўстала перад усімі ў жывой і яснай форме, з усёй сваёй важнасцю і складанасцю, з чорным пераплётам магчымых цяжкасцей і перашкод"* [2, с. 15]. Самаактуалізацыя – уменне настройвацца ў адпаведнасці з уласнай унутранай прыродай, не залежаць ад меркаванняў і поглядаў іншых (*"Свой сквіл мілей за чужую песню"* [2, с. 20]), што не вельмі проста, калі *"вальготны… свет для чалавечай душы"* і *"няма чалавеку ніякага ўёму… Усё ламаецца, дык і чалавек мусіць ламацца. Не ў тым, дык у тым"* [2, с. 7 – 8]. На шляху самаактуалізацыі асоба рэалізуе паводзіны наступных тыпаў: поўнае перажыванне, павышанае асэнсаванне і інтэнсіўная цікавасць да таго, што адбываецца ў ёй і вакол яе. Наш герой *"захапляўся кожнай праблемай, якая траплялася на яго жыццёвым шляху, – усё роўна, ці мела яна непасрэднае дачыненне да яго, ці не – і з роўнай стараннасцю біўся над яе развязаннем"* [2, с. 7]. На думку М. Бубера, ва ўладкаванага і беспраблемнага чалавека "наўрад ці прачнецца калі-небудзь жаданне вочнай стаўкі з самім сабой, якое не так лёгка наталяецца і небяспечна мноствам пытанняў" [9, с. 167], як гэта адбываецца з Галілеем. Стары *"з'яўляўся і знікаў неўзаметку, нікога не чапаючы, нікому не замінаючы, ведучы ў жыцці нейкую сваю, аднаму яму вядомую лінію"* [2, с. 140].

*Заканчэнне будзе.*

**Спіс літаратуры**

1. **Шопенгауэр, А.** Мир как воля и представление / А. Шопенгауэр; пер. с нем.; ред. Е. В. Москвич. – Минск : Попурри, 1999. – Т. 2. – 829 с.
2. **Зарэцкі, М.** Збор твораў : у 4 т. / М. Зарэцкі. – Мінск : Маст. літ., 1991. – Т. 3 : Вязьмо : раман; Сымон Карызна : драм. аповесць. – С. 5 – 298.
3. **Платонов, А.** Чевенгур : [роман] / А. Платонов; сост., вступ. ст., коммент. Е. А. Яблокова. – М. : Высш. шк., 1991. – 654 с.
4. **Валери, П.** Юная Парка : стихи, поэма, проза / П. Валери; пер. с франц. – М. : Текст, 1994.
5. **Монтень, М.** Опыты : избранные произведения : в 3 т. / М. Монтень. – М. : Голос, 1992. – Т. 1. – 384 с.
6. **Бугаёў, Д.** Пакутныя дарогі рамантыка / Д. Бугаёў. – Полымя. – 2001. – № 11. – С. 181 – 211.
7. **История белорусской советской литературы** / ред. И. Я. Науменко, П. К. Дюбайло, Н. С. Перкин. – Минск : Наука и техника, 1977. – 776 с.
8. **Ницше, Ф.** Сочинения : в 2 т. / Ф. Ницше; сост., редакция изд., вступ. ст. и прим. К. А. Свасьяна; пер. с нем. – М. : Мысль, 1990. – Т. 1 : Литературные памятники. – 829 с.
9. **Бубер, М.** Два образа веры / М. Бубер; пер. с нем.; под ред. П. С. Гуревича [и др.]. – М. : Республика, 1995. – 464 с.
10. **Андреев, Л.** Рассказы / Л. Андреев. – Волгоград : Ниж.-Волж. кн. изд-во, 1979. – 368 с.
11. **Леонов, Л.** Повести и рассказы / Л. Леонов. – Л. : Лениздат, 1986. – 528 с.
12. **Чорны, К.** Збор твораў : у 8 т. / К. Чорны. – Мінск : Маст. літ., 1974. – Т. 6 : раман, дзве аповесці. – 446 с.
13. **Бядуля, З.** Язэп Крушынскі : раман // Збор твораў : у 4 т. / З. Бядуля. – Дзярж. выд-ва БССР; рэдакцыя маст. л-ры. – Мінск, 1953. – Т. 3. – С. 167 – 522.
14. **Адамович, А.** Собрание сочинений : в 4 т. / А. Адамович. – Минск : Маст. літ., 1982. – Т. 2. – 606 с.
15. **Бердяев, Н.** Самопознание (Опыт философской автобиографии) / Н. Бердяев. – М. : Книга, 1991.
16. **Бродский, И.** Форма времени : стихотворения, эссе, пьесы : в 2 т. / И. Бродский. – Минск : Эридан, 1992. – Т. 2. – 480 с.

**Алена БЕЛАЯ,**
кандыдат педагагічных навук,
дацэнт кафедры філалогіі
Баранавіцкага дзяржаўнага ўніверсітэта.

*Віншуем юбіляра!*

# “СВЕТ ДАЎНІНЫ ВЫВУЧАЎ Я ПА КНІГАХ СЛАВЯНСКІХ…”

## ДА 75-ГОДДЗЯ ВЯЧАСЛАВА ЧАМЯРЫЦКАГА

“Кожны народ, дасягнуўшы пэўнага ўзроўню свайго культурна-гістарычнага развіцця, грамадскай і этнічнай самасвядомасці, пачынае ўсведамляць вялікую важнасць сваёй гісторыі, веданне якой неабходна захаваць і перадаць наступным пакаленням”. Да гэтай думкі, што прагучала ў 1968 г. на старонках першай акадэмічнай “Гісторыі беларускай літаратуры”, найбуйнейшы ў краіне даследчык беларускіх летапісаў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР Вячаслаў Чамярыцкі прыйшоў, відаць, неўзабаве пасля заканчэння філалагічнага факультэта БДУ, калі яму, маладому паэту і аматару жывога беларускага слова, трапіла ў рукі на адну толькі ноч (!) забароненая на той час кніга Вацлава Ластоўскага “Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі”. Напэўна, гэтая падзея стала паваротнай у творчым лёсе літаратара. Бо толькі тады і застаецца народ на зямлі, калі яго цяперашняе будзе ўгрунтавана на даўнім, спрадвечным, што ўратавалася ў вірлівых варунках часу і што павінна быць даступным, зразумелым і блізкім сучаснікам.

А можа, насамрэч паваротным быў той дзень, калі дарослыя абмяркоўвалі, у якую з трох наваградскіх школ аддаць хлопчыка: у польскую (бо за такі выбар стаяла мясцовая традыцыя з яе прэтэнзіяй на шляхетнасць), у нядаўна заснаваную рускую (куды ішлі дзеці мясцовага начальства) ці… “У беларускую!” – раптоўна прамовіў светлагаловы хлапчук. Адкуль яно прыйшло, гэтае самастойнае рашэнне, – ці то з сэрца, што ад нараджэння належала Бацькаўшчыне, ці то з генетычнай памяці-повязі, якая і праз гады накіроўвае творчы пошук сталага літаратуразнаўцы да самага невядомага перыяду гісторыі айчыннай славеснасці – да старажытнасці. А падчас яго навучання ў школе ды ўніверсітэце вядома пра старажытную беларускую літаратуру было няшмат. Нават найважнейшая яе частка – беларускія летапісы – была выдадзена фрагментарна і недакладна, а іх паходжанне, крыніцы, літаратурная гісторыя, нават атрыбуцыя (гэта значыць, абгрунтаванае вырашэнне, што з масіву захаваных гістарычных тэкстаў беларускае, а што належыць іншым народам) заставаліся нявысветленымі. Вяртанне народу яго летапіснай гісторыі пераацаніць немагчыма, бо гэта і ёсць адраджэнне гістарычнай самасвядомасці нацыі…

Вячаслаў Антонавіч Чамярыцкі нарадзіўся 22 ліпеня 1936 г. у вёсцы Рабкі Дзятлаўскага раёна. Калі малому быў толькі годзік, бацькі пераехалі ў Навагрудак – колішнюю сталіцу Вялікага Княства Літоўскага, у горад, дзе кожны камень на Замкавай гары дыхае жывой гісторыяй, дзе старыя будынкі ды плошчы яшчэ памятаюць постаць Адама Міцкевіча, дзе векавыя дрэвы на даўніх могілках на пагорку хаваюць у сваім цені і магілы паўстанцаў 1863 года, і магілы царскіх салдат і афіцэраў. А ўвосень 1939-га ў хаце бацькоў спынілася на пастой сям’я чырвонага камандзіра. Жылі небагата, не вельмі хапала дзецям на адзенне, і пры развітанні госці падарылі маломy будзёнаўку з вялікай чырвонай зоркай. Ён так і хадзіў з гэтай зоркай пры немцах, пакуль нейкі стары не засцярог маці ды хлапчука і зорку не адпаролі ад вастраверхай шапкі. След, праўда, застаўся як штодзённы напамін пра чаканы час вызвалення.

Жыць у горадзе падчас вайны вясковым перасяленцам стала цяжка, і маці з двума дзецьмі вярнулася да сваякоў у вёску. Бацька загінуў на фронце ў 1944-м. Пасляваеннае жыццё ў Навагрудку, як і ва ўсёй Беларусі, не песціла дзяцей вайны. Бывалі дні, што і напаліць печ у хаце не было чым, тады маці грэла цагліну і падкладала закутаным у трант малым пад ногі – так будзе цяплей у ложку! Затое ў беларускай наваградскай школе № 1 мову і літаратуру выкладаў празаік, вядомы крытык і краязнаўца С. Александровіч, будучы прафесар і заслужаны работнік культуры. Ён здолеў стварыць своеасаблівы гуртак, невялікае літаратурнае асяроддзе вучняў і настаўнікаў, сярод якіх, акрамя самога В. Чамярыцкага, апынуліся таксама А. Клышка, Я. Лецка і іншыя будучыя літаратары. У пачатку 1950-х гг. юнак пачаў пісаць вершы, а неўзабаве і друкавацца ў раённай газеце “Новае жыццё”. “Едзь вучыцца, – казала па заканчэнні школы маці, – будзе ў цябе карак тоўсты і будуць цябе вазіць!” Ды не па тоўсты карак і персанальную машыну выправіўся ў 1953 г. са сталіцы старажытнага княства ў сталіцу новай рэспублікі рамантычны юнак.

Спачатку Мінск сустрэў наваградца не сказаць, каб прыязна. Начавацъ давялося на вакзале, крымінальная абстаноўка ў горадзе пасля датэрміновага выхаду на волю зладзеяў ды хуліганаў была складанай, і хлопца з правінцыі ў першую ж ноч абакралі. Галоўным з таго, што знікла бясследна, быў нядаўна атрыманы атэстат сталасці, але падаць дакументы ў тэрмін і паступіць на беларускае аддзяленне філфака БДУ ўсё ж удалося.



**Супрацоўнікі сектара гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН Беларусі.** У верхнім радзе: **Вячаслаў Чамярыцкі, Ларыса Гусева, Роза Гульман, Мікола Прашковіч.** У ніжнім радзе: **Мікола Грынчык, дырэктар інстытута акадэмік Васіль Барысенка, загадчык сектара Юльян Пшыркоў, Аляксандр Коршунаў.** 1967 г.

Пачалася славутая "адліга" 1950-х. Атмасфера на філфаку ў тыя гады была разняволенай і прыўзнятай, тут навучаліся Валянціна Лемцюгова, Міхась Мушынскі, Аляксей Рагуля, Кастусь Цвірка, многія іншыя творчыя асобы, што склалі яркую эпоху ў беларускай культуры XX ст. Тут, у Мінску, Вячаслаў Антонавіч сустрэў Марыю Усеваладаўну, якая стала яго паплечніцай і натхняльніцай праз усё жыццё. Неўзабаве нарадзілася дачка Вераніка (якая таксама прысвяціла жыццё беларускай літаратуры), а ў 1971-м бацька прымаў віншаванні з нагоды нараджэння сына Максіма.

З 1958 г. В. Чамярыцкі шмат выступаў у друку з рэцэнзіямі, літаратурна-крытычнымі і навукова-папулярнымі артыкуламі, але сапраўдным яго захапленнем стала старажытнае пісьменства, або… "маладая літаратура", як любіць казаць ён сам. Ды і папраўдзе ж, чалавек ці любая істота лічыцца маладою тады, калі ад часу яе нараджэння прайшло няшмат гадоў. Таму, гледзячы аб'ектыўна, літаратура часоў Ефрасінні Полацкай і Кірылы Тураўскага маладзейшая, чым літаратура часоў Францыска Скарыны і Сымона Буднага, а гэтая апошняя на колькі стагоддзяў маладзейшая за цяперашнюю. Праз гэты жартоўны і нечаканы ракурс выяўляецца сфарміраванае ўжо на досвітку навуковай дзейнасці творчае крэда В. Чамярыцкага: разгляд аб'екта даследавання з такога пункту гледжання, які выключае суб'ектывізм самога даследчыка. Працаваць пасля БДУ давялося і настаўнікам Слабадской сямігадовай школы Вілейскага раёна, і карэктарам абласной газеты "Чырвоны сцяг" у Маладзечне, і інспектарам аддзела народнай асветы Маладзечанскага раёна. Толькі з 1962 г. цікавасць да літаратурнай спадчыны ўвайшла ў трывалае рэчышча: Вячаслаў Антонавіч паступіў у аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук. Так, прыбыўшы ў сталіцу рэспублікі з колішняй сталіцы княства, малады навуковец распачаў шматгадовае падарожжа па часе ў мінулае Радзімы. Хоць у інстытуце працавалі ўжо сталыя навукоўцы, сярод якіх былі і доктар філалагічных навук Ю. Пшыркоў, і кандыдат філалагічных навук А. Коршунаў, забяспечыць кваліфікаванае навуковае кіраўніцтва аспірантамі-старажытнікамі інстытут у поўнай меры не мог.

Даследчыкі літаратуры XI – XVIII стст. сутыкнуліся з асаблівымі цяжкасцямі: даўнія помнікі напісаны не толькі на старабеларускай, але і на царкоўнаславянскай, лацінскай і старапольскай мовах, дайшлі да нашага часу ў рукапісах і старадруках, што захоўваюцца пераважна за межамі Беларусі. І маладыя аспіранты В. Чамярыцкі і М. Прашковіч былі накіраваны ў Ленінград у славуты Пушкінскі дом. Тут навуковым кіраўніком Вячаслава Антонавіча быў прызначаны акадэмік І. Яромін – адзін з першых даследчыкаў і выдаўцоў творчасці Кірылы Тураўскага, выдатны тэкстолаг і найбуйнейшы па тым часе знаўца старажытнага беларускага пісьменства, які ўжо ў сярэдзіне XX ст. глыбока адчуваў нацыянальную адметнасць і ідэйна-мастацкую адрознасць беларускай, рускай і ўкраінскай літаратур.

Пасля смерці І. Яроміна кіраванне было перадаручана прафесару Я. Лур'е – спецыялісту па летапісанні, шчыльна звязанаму з традыцыямі і культурай старой пецярбургскай інтэлігенцыі. Працы пад кіраўніцтвам славутых расійскіх вучоных, пастаянныя навуковыя кантакты з Д. Ліхачовым, Л. Дзмітрыевым, А. Творагавым і іншымі славутымі медыявістамі сталіся для выхадцаў з Беларусі выдатнай школай даследчыцкага майстэрства, забяспечылі іх арсеналам фундаментальных ведаў і выпрацаваных яшчэ з часоў А. Шахматава і У. Перэтца даследчых методык. У 1965 г. В. Чамя-



**З акадэмікам Уладзімірам Гніламёдавым.** 2009 г.

рыцкі абараніў кандыдацкую дысертацыю. Вось тут бы і падрыхтаваць уласную кнігу па яе матэрыялах, заняцца далейшай даследчыцкай працай над індывідуальнай тэмай, папрацаваць "на сябе", як цяпер кажуць, і назапасіць капітал з манаграфій пад уласным імем. Але Ю. Пшыркоў, тагачасны загадчык сектара беларускай дакастрычніцкай літаратуры, у якім пачаў працаваць малады кандыдат навук, прамовіў: "Не багі гаршкі лепяць, Вячаслаў!" – і даручыў В. Чамярыцкаму напісанне шэрагу раздзелаў у першай акадэмічнай "Гісторыі беларускай літаратуры".

Складанасць такой працы для пачынальніка-навукоўцы відавочная, бо акадэмічныя "Гісторыі…", падводзячы свайго роду рахунак пад уяўленнем пра літаратурны працэс за пэўны перыяд развіцця навукі, змяшчаюць не столькі канкрэтны матэрыял па творах ды асобах, колькі агляды літаратуры, высвятляюць асноўныя тэндэнцыі, паказваюць шырокую панараму культурнага жыцця ў краіне і інш. А каб абагульніць матэрыял, яго трэба не толькі ведаць, але і абдумаць, "вынасіць", скласці ў стройную і несупярэчлівую канцэпцыю. На гэта ідуць гады. Таму і пісаць гісторыю літаратуры павінны дасведчаныя, сталыя літаратуразнаўцы. Карысць усяму грамадству – ад школы да акадэміі – тут вялікая. Але, зыходзячы з эгаістычных пазіцый, карысці аўтарам гісторыі, як, дарэчы, і тэкстолагам, і складальнікам слоўнікаў, амаль што ніякай: аўтарскае імя не красуецца на вокладцы выдадзенай кнігі, а схавана недзе ў глыбіні. Аднак напісанне "Гісторыі…" было надзённай, неадкладнай задачай, якая была выдатна выканана невялікім творчым калектывам. Гэтае першае сур'ёзнае навуковае даручэнне быццам задало далейшы напрамак навуковай біяграфіі В. Чамярыцкага: праз усё жыццё навуковец выступаў суаўтарам мноства калектыўных зборнікаў, гісторый, слоўнікаў і энцыклапедый, перакладчыкам і каментатарам даўніх тэкстаў, укладальнікам разнастайных анталогій і іншага, а на індывідуальныя манаграфічныя працы часу не заўсёды хапала, і арыгінальны, свежы матэрыял уласных даследаванняў трапляў у раздзелы пад агульныя вокладкі калектыўных прац. Тым не менш у 1969 г. выйшла аўтарская навуковая манаграфія **"Беларускія летапісы як помнікі літаратуры"**, што атрымала гучны розгалас у філалагічным свеце не толькі як першая праца на беларускай мове па гісторыі беларускага летапісання, але і як узор гісторыка-тэксталагічнага даследавання складанай і вельмі заблытанай гісторыі ўзнікнення малавядомых тагачаснай навуковай супольнасці беларуска-літоўскіх летапісных зводаў.

На грунце беларускамоўнай "Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры" ў 1977 г. была створана аднатомная "История белорусской дооктябрьской литературы". Шмат у чым гэта арыгінальная праца, якая месцамі пераўзыходзіла папярэднюю і адыграла важную навукова-асветніцкую ролю ў азнаямленні больш шырокага кола чытачоў з багатай гісторыяй літаратуры беларускага народа. Менавіта аднатомная "История…" стала падмуркам для стварэння базавых праграм вышэйшых навучальных устаноў, абумовіла прынятую перыядызацыю літаратурнага працэсу, паслужыла асноўнай крыніцай для напісання вучэбных дапаможнікаў, якія і цяпер выступаюць у якасці асноўных пры вывучэнні старажытнай беларускай літаратуры студэнтамі гуманітарных спецыяльнасцей. Аўтарамі раздзелаў пра літаратуру XI – пачатку XX ст. былі А. Коршунаў, А. Мальдзіс, М. Мушынскі, Ю. Пшыркоў і В. Чамярыцкі, за што ўсе, акрамя В. Чамярыцкага, адзначаны ў 1980 г. Дзяржаўнай прэміяй БССР імя Якуба Коласа. Маўляў, Чамярыцкі яшчэ малады, пачакае…

Насамрэч справа палягала не ў маладосці, таму што было на той час Вячаславу Антонавічу за сорак… Праблема заключалася ў тым, што сямідзясятыя гады сталі перыядам складаным і шмат у чым неспрыяльным для беларусазнаўства, бо пачаліся пошукі беларускіх дэсідэнтаў, ганенні на В. Быкава, В. Каваленку, М. Ермаловіча і іншых пісьменнікаў і вучоных. Звольнены з інстытута быў найбліжэйшы паплечнік і сябра Вячаслава Антонавіча Мікола Прашковіч. Пераследаванні, паклёпы давялі Міколу Іванавіча

да заўчаснай гібелі. Фактычна рэпрэсіраваны быў і яшчэ адзін супрацоўнік сектара – В. Зайцаў, які займаўся вывучэннем беларускага гуманізму. Хмары згусціліся і над галавой В. Чамярыцкага… У даносах "рупліўцы ідэалагічнай чысціні" абвінавачвалі вучонага ў пакланенні перад Еўропай. І ў гэтым трызненні бачыліся ім ужо ледзь не контуры натаўскіх гармат, якія быццам апявае Вячаслаў Чамярыцкі. Якая тут прэмія? Але – хіба ж у ёй справа…

Вядома – у цяжкім настроі цяжка працуецца. А ці не падобны лёс дастаўся і іншым прадстаўнікам яго пакалення – дзецям вайны? І вучоны з сялянскімі каранямі працягваў працаваць з сялянскай настойлівасцю. У суаўтарстве з М. Улашчыкам падрыхтаваў абноўленае выданне летапісаў (32-і том **"Поўнага збору рускіх летапісаў"**), распачаў даследаванне мясцовага летапісання Беларусі XVII – XVIII стст., увёў у навуковы ўжытак **"Магілёўскую хроніку"** і ажыццявіў першую навуковую публікацыю яе тэксту ў арыгінале ў 35-м томе. У суаўтарстве з Г. Галенчанкам і В. Шматавым напісаў папулярны нарыс пра Ф. Скарыну, выдадзены ЮНЕСКА ў Парыжы па-французску (1979) і па-англійску (1980), менавіта В. Чамярыцкаму быў даручаны адзін з фундаментальных раздзелаў пра даўняе беларускае пісьменства ў "Гісторыі сусветнай літаратуры", што пачала рыхтавацца Інстытутам сусветнай літаратуры імя М. Горкага ў Маскве.

Адкараскацца ад нападаў і ўтрымацца на працы ў Акадэміі навук удалося не дзякуючы немалым ужо тады навуковым заслугам, а ў выніку ледзь не анекдатычнага вынаходніцтва. Адбыўся збройны канфлікт паміж СССР і Кітаем за востраў Даманскі, і абвінавачаныя ў "празаходняй арыентацыі" беларускія вучоныя пачалі на гэтым прыкладзе тлумачыць, што далёка не заўсёды з Усходу прыходзіла да нас адно толькі добрае ды светлае. Вось, пісалі яны, таксама і мангола-татары ў старажытнасці прыйшлі з усходу… І наадварот, на Захадзе з'явіўся марксізм, Інтэрнацыянал і да т. п. Тлумачэнне па сённяшнім часе амаль абсурднае, але менавіта яно, а не трывалыя навуковыя і творчыя сувязі з найбуйнейшымі вучонымі РСФСР і іншых рэспублік, было прынята да ведама тагачаснымі "кампетэнтнымі органамі", бо ці не больш абсурднымі былі абвінавачанні вучонага ў прапагандзе буржуазнага ладу жыцця шляхам выдання летапісаў і папулярызацыі спадчыны Ф. Скарыны (які, як вядома, вучыўся ў XVI ст. у Італіі, а Італія, маўляў, капіталістычная натаўская краіна).

Пасля смерці Ю. Пшыркова аддзел у 1981 г. узначаліў А. Мальдзіс, які як ніхто іншы ўмеў абараніць сваіх супрацоўнікаў ад ідэалагічных нападаў, наладзіць плённую навуковую дзейнасць і пашырыць абсягі даследаванняў. А. Коршунаў, Г. Кісялёў, В. Дарашкевіч, У. Мархель, У. Казбярук, І. Чыгрын, У. Кароткі, В. Чамярыцкі склалі зладжаны, працаздольны калектыў, што дазволіла ўзняць слабавывучаныя пласты нацыянальнай пісьмовай спадчыны, адкрыць яе невядомыя старонкі.

У 1983 г. Вячаслаў Антонавіч прыняты ў Саюз пісьменнікаў, у 1985-м разам з А. Коршунавым стаў адным з асноўных аўтараў падручніка для ВНУ **"Беларуская літаратура. Старажытны перыяд"**, які вытрымаў чатыры выданні, у 1990 г. быў узнагароджаны медалём Францыска Скарыны. Каля гэтага часу пачалася распрацоўка і ажыццяўленне рэспубліканскай комплекснай Скарынаўскай праграмы да 500-годдзя з часу нараджэння вялікага беларускага асветніка-гуманіста і першадрукара. Была падрыхтавана і выдадзена цэлая серыя грунтоўных манаграфій, вельмі каштоўных зборнікаў, паглыблена даследаваны жыццё, дзейнасць і творчая спадчына Ф. Скарыны, усебакова раскрыты культурна-гістарычныя вытокі, змест, нацыянальнае і еўрапейскае значэнне яго патрыятычна-асветніцкага подзвігу. За ўдзел у стварэнні цыкла навуковых прац **"Скарына і беларуская культура"** ў 1994 г. В. Чамярыцкі разам з іншымі скарыназнаўцамі быў адзначаны Дзяржаўнай прэміяй Беларусі.

Значныя навукова-асветніцкія мерапрыемствы, прысвечаныя 800-годдзю "Слова пра паход Ігаравы", прайшлі ў рэспубліцы ў 1985 – 1988 гг. В. Чамярыцкім быў складзены зборнік тэкстаў і перакладаў помніка на беларускую і рускую мовы, а прадмова **"Неўміручая песня Старажытнай Русі"** стала адным з найбольш грунтоўных даследаванняў твора ў кантэксце беларускай гісторыі і літаратуры.

У 1991 г. В. Чамярыцкі прыняў ад А. Мальдзіса кіраванне сектарам, які на наступны год быў пераўтвораны ў аддзел гісторыі беларускай старажытнай і новай літаратуры. Тады ж разам з А. Лойкам і А. Мальдзісам Вячаслаў Антонавіч годна прадстаўляў беларускую навуку на канферэнцыі ў Венецыі і на ўрачыстасцях у Падуанскім універсітэце, прысвечаных памяці Ф. Скарыны. Шмат сіл аддаў навуковец падрыхтоўцы энцыклапедычнага даведніка "Францыск Скарына і яго час", "Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі", "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" як іх навуковы кансультант і аўтар шматлікіх артыкулаў, навуковаму рэдагаванню і рэцэнзаванню многіх прац. Асаблівае месца сярод іх заняў зборнік **"Беларускія летапісы і хронікі"**, што ўбачыў свет у "Беларускім кнігазборы" ў 1997 г.

Тым часам Вячаслаў Антонавіч ужо актыўна перадаваў свой найбагацейшы вопыт маладым даследчыкам: пад яго навуковым кіраўніцтвам абараніліся С. Гаранін, Л. Гедзімін, А. Богдан, Н. Старавойтава, якія сёння працуюць у Бела-

русі і за яе межамі. Але найбольш працаёмістым і складаным было напісанне новай **“Гісторыі беларускай літаратуры XI – XIX стагоддзяў”**, бо калі раней В. Чамярыцкі выступаў як супольнік аўтарскага калектыву, які ўзначальвалі выбітныя вучоныя-акадэмікі, то цяпер менавіта на яго была ўскладзена адказнасць і за стварэнне канцэпцыі, і за арганізацыю аўтарскага калектыву, і за напісанне і ўкладанне гэтай грунтоўнай навуковай работы. Адзначыўшы завяршэнне другога этапу гісторыі беларускай літаратурнай медыявістыкі, новая “Гісторыя…” з’яўляецца сістэмным абагульненнем дасягнутага літаратуразнаўствам за ўвесь перыяд 1970 – 1990-х гг.

Даследаванне грунтуецца на вялізарным, панавому асэнсаваным фактычным матэрыяле. У выніку яго паглыбленага вывучэння выпрацавана і рэалізавана новая канцэпцыя гісторыі даўняй літаратуры, зроблена сур’ёзная спроба больш шырока і аб’ектыўна раскрыць панараму яе складанага шматвяковага развіцця, своеасаблівасць гістарычнага шляху ад зараджэння пісьменства на беларускіх землях у перыяд ранняга Сярэднявечча да часу фарміравання нацыянальнай літаратуры ў XIX ст., што дазваляе арганічна ўпісаць яе ў агульнаеўрапейскі кантэкст. У працэсе працы была прынцыпова ўдакладнена існуючая перыядызацыя, прасочана эвалюцыя найбольш значных літаратурных жанраў, вырашаны шэраг іншых важных гісторыка-тэарэтычных праблем. У айчынны літаратурны працэс упершыню абгрунтавана ўключаны творчая спадчына шмат якіх малавядомых і слабавывучаных пісьменнікаў мінулага, напісаныя на лацінскай і польскай мовах помнікі літаратуры.

Сапраўднай падзеяй у культурным жыцці краіны стала выданне **“Анталогіі даўняй беларускай літаратуры”** (2003), падрыхтаванай пад кіраўніцтвам В. Чамярыцкага супрацоўнікамі аддзела. Да працы над выданнем былі таксама прыцягнуты многія спецыялісты з ВНУ рэспублікі, іншых навуковых установаў, што засведчыла ролю Інстытута літаратуры як галоўнага цэнтра беларускай літаратурнай медыявістыкі. У “Анталогіі…” прадстаўлены (цалкам або ва ўрыўках) помнікі ўсіх літаратурных відаў і жанраў XI – першай паловы XVIII ст. з належнымі каментарыямі, творчасць пісьменнікаў розных эпох. Пераважная большасць тэкстаў змешчана ў арыгінале, творы, якія напісаны па-польску і на латыні, пададзены ў перакладзе на сучасную беларускую мову. Навуковы рэдактар асабіста прарабіў каласальную працу па зборы, каментаванні, падрыхтоўцы і зверцы даўніх тэкстаў. Улічваючы вострыя недахоп у нашай краіне выданняў розных пісьмовых крыніц, вялікі на іх попыт як сярод навукоўцаў, так і сярод выкладчыкаў, настаўнікаў і студэнтаў, аддзел пад кіраўніцтвам В. Чамярыцкага і далей накіроўваў намаганні пераважна на пашырэнне планаў падрыхтоўкі да друку помнікаў нашай даўняй пісьмовай спадчыны. Вынікам выканання інавацыйнага праекта “Шэдэўры беларускага пісьменства і літаратуры XV – XIX стст.”, а таксама навуковых тэм “Арыгінальная і перакладная літаратура Беларусі XI – XIX стст.: Ад сярэднявечнага сінкрэтызму і ўмоўнасці да літаратурна-мастацкай шматстайнасці” і “Беларуская літаратура XI – XIX стст.”, што распрацоўваліся да 2010 г. уключна, стане новы, найбольш дакладны і поўны збор твораў даўняга пісьменства, падрыхтаваны па адмысловых археаграфічных правілах і з пашыранымі каментарыямі. Пра вялікую важнасць і актуальнасць гэтага кірунку навуковай працы перакананальна сведчыць і хуткае ўкараненне ў жыццё новых распрацовак аддзела. Так, “Анталогія…” шырока выкарыстоўваецца ў ВНУ ў якасці неабходнага дапаможніка па гісторыі беларускай літаратуры. Больш за тое, яна пакладзена таксама ў аснову першай часткі праграмы “Літаратурная спадчына Беларусі XI – сярэдзіны XX ст.”, распрацаванай і рэалізаванай Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі з удзелам інстытута і пры падтрымцы Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА. На адным кампакт-дыску прадстаўлены тэксты найбольш выдатных твораў беларускай літаратуры названага перыяду (каля тысячы назваў). Дыскі разасланы ў буйныя бібліятэкі, музеі, пасольствы, зацікаўленыя арганізацыі і ўстановы Беларусі, а таксама за мяжу, што значна палегчыць спецыялістам і аматарам беларушчыны доступ да багатай літаратурнай спадчыны нашага народа.

Сёлета Вячаславу Антонавічу – 75. Ён па-ранейшаму за рабочым сталом, па-ранейшаму ў творчай атмасферы сектара, інстытута, сталічнага горада і ўсёй незалежнай краіны з яе летапісным мінулым, па-будзённаму працавітым цяперашнім і, несумненна, славутым будучым. Бо, як сказана ў “Евангеллі” Васіля Цяпінскага, добрае семя, што трапіла на зямлю добрую, “дало офощ всходячий и растучий и приплодило одно тридцять, а одно шестьдесят, и одно сто”. У планах навукоўца – праца над чарговым томам пісьмовай спадчыны Беларусі, распрацоўка грунтоўнай тэмы па скарыназнаўстве, падрыхтоўка да пяцісотгоддзя выдання першай беларускай кнігі.

**Сяргей ГАРАНІН,**
намеснік дырэктара па навуковай рабоце
Інстытута мовы і літаратуры
імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі,
кандыдат філалагічных навук.

*З архіваў часу*

Сяргей ШАПРАН

# "ЛЁС ТАКІХ ЗАЎЖДЫ САМЫ ТРАГІЧНЫ"

## ВЫБРАНАЕ З ПЕРАПІСКІ ВАСІЛЯ БЫКАВА І МІКОЛЫ ПАШКЕВІЧА

*Заканчэнне. Пачатак у № 6.*

**МІКОЛА ПАШКЕВІЧ – ВАСІЛЮ БЫКАВУ**

Дарагі Васіль Уладзіміравіч!

Калі шчыра і нараспашку, дык скажу, што папярэдняе пісьмо я апускаў у паштовую скрынку з "выраженьем надежды и муки". Дадам яшчэ і тое, што я чытаў яго мне надта блізкім калегам. Адны спакойна і станоўча адзываліся аб ім, пісьме, а Вольга Іванаўна выказала апасенне, што як бы зусім Васіль Быкаў не адмовіўся ад цябе. Я задумаўся, а можа, і сапраўды я глупства раблю?..

Але так я растлумачыў каляжанцы, што я не апалагет Васіля Быкава, няхай ён гэта ведае. Тое, што ён велізарны майстар слова, ён ведае і сам, не мне яго паднімаць на п'едэстал славы, а тое, дзе ён "грэшны", калі можна так сказаць, дык чаму ж не глянуць праўдзе ў вочы, ён жа ж сам да сёмага поту змагаецца з няпраўдай, з лакіроўкай надзённасці прошлай ці сучаснай, ён жа ж сам пакутуе ад сваёй чэснасці (што на душы, тое і на паперы!), ды, у рэшце рэшт, яго гэта не ўпрыгожвае, калі яго недахопы, чым надзелены кожны і ўсякі нешта робячы чалавек, ды браць за нешта важнае, не заўважаць іх, ухваляць іх, то атрымаецца своеасаблівы культ, гэтым не дагодзіш сумленнаму чалавеку. Так вот мы пагаварылі з Вольгай Іванаўнай, маёй адзінай у школе дарадчыцай і з кім можна гутарнуць на любую сакрэтную тэму. Калі ж яна выказала нейкае сумненне адносна прыпіскі к пісьму, дык я так сказаў, што з-за Васіля Быкава гатоў на ўсё, гатоў прыняць любыя пакуты без цені страху і з любоўю. Ён мой духоўны кумір – таму мне нічога не страшна. Асабліва пасля душэўнага гераізму Сотнікава <…>

Шчыры дзякуй за адказ-пісьмо. Я крыху і пабойваўся, што сапраўды, каб ім, прошлым тым пісьмом, не пакрыўдзіць вас і зусім не зрабіць вас глухім да нашых просьбаў, і не парваць сяброўскіх адносінаў, не пашкодзіць сустрэчы. Толькі я, ведаючы большае пра вас, спадзяваўся на добры зыход справы, у чым і не памыліўся. Дык дзякуй вам, браце, ад шчырага сэрца за вашыя словы, што сказаны сэрцам!

Я веру вам!

Душой і сэрцам адданы вам

Мікола Пашкевіч.

Да спаткання на зямлі Сваткаўскай!

27.10.70 г.

P. S. Ці будзе і дзе, у якім часопісе, калі будзе надрукаваная аповесць "Сотнікаў" на матчынай мове? <…>

* * *

[26 лістапада 1970 г. (?)]

Віншую [з] урачыстасцю выпакутаваную болем сэрца уласнай кроўю сваім здароўем перамножанае сыноўнею любоўю [да] радзімы. [З] любоўю Мікола*.

* * *

Даражэнькі Васіль Уладзіміравіч!

Не так даўно я быў у сталіцы, дзе адна мне знаёмая кнігарка ў ларочку выканала радасна мой заказ – 50 кніг ББП**. Яшчэ рукі смыляць ад вяровачак, сем кіламетраў ад станцыі Княгініна тарабаніў іх дадому, яшчэ мускулы не расслаблі ад іх вагі – пішу вам гэтыя радкі. Мяне вось што засмучае. Больш сотні кніг вашых на руках у вучняў. Гэтыя ж томікі (50 шт.) пааддаваў ім напавер з такім разлікам, што калі прыедзе іх аўтар, тады яны і разлічацца. Дык мне хочацца як найхутчэй бачыць вас па многіх прычынах у нас у гасцях. Проста такое доўгае чаканне размагнічвае чалавека. <…>

Я быў душою рад, калі пабачыў у 11[-ым] нумары "Полымя" вашую аповесць "Сотнікаў". Сорамна нам, беларусам, плесціся ў хвасце рускай смеласці і выданняў. Мы, нізы, звярачваем усю ўвагу на вас, вярхоў, а вы – на нас. Часта з Я. Семяжонам мы шчыра і смела гаворым на розныя тэмы. Ды гэтую задушыну адчуваюць усе шчырыя хлопцы зямлі роднай. Пакуль што трэба мірыцца. Ай, хопіць наступаць на мазоль.

Васіль Уладзіміравіч, даражэнькі, да хуткай сустрэчы!

Адчуйце вы маю практычную любоў і каханне. З павагай Мікола. 28.XI.70 г.***

---

* Тэлеграма. Архіў В. Быкава.

** Бібліятэка беларускай прозы.

*** Рукапісны тэкст. Архіў В. Быкава ў Гродне.

*Звесткі пра аўтара змешчаны ў № 1.*



**Васіль Быкаў і Мікола Пашкевіч** (стаяць у цэнтры) **з вучнямі Сваткаўскай школы.** 1971 г.

**ВАСІЛЬ БЫКАЎ – МІКОЛУ ПАШКЕВІЧУ**

Дарагі Мікола,

дзякуй за тэлеграму і ўсё іншае. Я адчуваю, што вінаваты, таму хачу гэтым лістом дамовіцца канчаткова і катэгарычна. А іменна на красавік пасля пісьменніцкага з'езда, які адбудзецца недзе ў другой палове месяца. Вось як ён скончыцца, на другі ці трэці дзень я прыеду ў Сваткі. Тады канкрэтна паведамлю тэлеграмай.

Вось так.

Будзем лічыць, што цяпер усё ясна.

Будзьце шчаслівыя.

З прывітаннем В. Быкаў

28/II – 71 г. [1, арк. 4]

**МІКОЛА ПАШКЕВІЧ – ВАСІЛЮ БЫКАВУ**

Васіль Уладзіміравіч,

родны, блізкі, дарагі!

Мне вельмі хочацца ведаць, як вы даехалі дадому, як ваша здароўе, ну і, вядома, – якога вы ўражання аб сустрэчы. <…> Мне вельмі прыемна чытаць вашы лісты маім дарагім і любімым вучням, для каго і дзеля каго я і жыву! <…>

Уражанне пра вас як пра чалавека наогул і як пра эрудыта, пра талент у нашага насельніцтва самае найлепшае. Нават людзі, якім далёка літаратура, калі можна так сказаць, вас так упадабалі і палюбілі, што абяцалі прачытаць усе вашы творы занава і ўжо з поглядам, ведаючы вас і любячы вас. <…>

Думаю, што хутка думка ў многіх-многіх зменіцца і з кнігарні будуць несці кнігі В. Быкава. Калі вы заўважылі, Васіль Уладзіміравіч, што на нашай сустрэчы я вас не абагатвараў, знарок у выступленнях вучняў і сваім не рабіў вас богам, культам. Тут быў свой сэнс. У пісьме я крыху расшыраю рамкі вольнасці, думаю, што не перайду граніцы, калі скажу: Вы – мой КУМІР!!! Як хочаце, так і думайце пра гэта. З-за Вас і дзеля Вас я гатоў на грамадзянскае пакаранне. <…>

Мікола Пашкевіч.

10.V.1971 г. в. Гарадзішча*.

**ВАСІЛЬ БЫКАЎ – МІКОЛУ ПАШКЕВІЧУ**

18 мая 71 г.

Дарагі Мікалай Арсеньевіч!

Прашу прабачэння за даволі працяглае маўчанне – тут я трохі закруціўся-заматаўся: было свята, а затым паездка адна і другая і некаторыя іншыя не дужа прыемныя справы. Даехаў я добра, праспаў да ранку, а ўранку прачнуўся ўжо ў Гродні. Усё давёз цэлым і спраўным, усё ў мяне ў даглядзе, беражэнні і пашане, нават і вясельная – стаіць, чакае пагоды і адпаведнай хвіліны.

Тады ў Сватках усё вельмі спадабалася: і людзі, і прырода, і наша сустрэча. Што ж датычыць мерапрыемства і яго арганізацыі, дык яны звыш

* Рукапісны тэкст. Архіў В. Быкава ў Гродне.

усякіх пахвал. Я тут доўга яшчэ расказваў знаёмым, якія ёсць у нас людзі, якія школы. Выдатна, выдатна! Мне проста трошкі шкада, што далекавата ад Вас, што не так лёгка дабірацца. І ўвогуле, што чалавечыя кантакты ў наш час абцяжараны і ўскладнены многімі і рознымі прычынамі…

А цяпер вось зноў збіраюся ў дарогу. Да Каратая. Цешу сябе надзеяй, што можа там і яшчэ сустрэнемся. Не блага было б пагаварыць, а то ўсё справы, час, мерапрыемствы. А пагутарыць мы так і не сабраліся.

З маіх асабістых спраў – навін, здаецца, няшмат. Нядаўна скончыў невялічкую аповесць пра сельскіх настаўнікаў часоў вайны*. Адаслаў у "Маладосць". Што і як – не ведаю яшчэ. Будуць чытаць, вывучаць, вырашаць. Мае творы хутка не друкуюцца. Я ўжо прывык да гэтага.

На тым я хачу развітацца, дарагі сябра. Будзем спадзявацца, што яшчэ сустрэнемся і не адзін раз. А цяпер я шлю мой паклон і ўдзячнасць усім слаўным сваткаўцам і персанальна: Барысу Сцяпанавічу і Вользе Іванаўне, а таксама Васілію Пятровічу**. Шчырае вітанне Вашым бацькам і жонцы.

З павагай і шанаваннем В. Быкаў.


Дарагі Мікола,
дзякуй за тэлеграму і ўсё іншае. Я адчуваю, што вінаваты, таму хачу гэтым лістом дамовіцца канчаткова і падрабязна. А іменна на красавік пасля пісьменніцкага з'езда, які адбудзецца недзе ў другой палове месяца. Вось як ён скончыцца, на другі ці трэці дзень я прыеду ў Свіслачы. Тады канкрэтна паведамлю тэлеграмай.
Вось так.
Будзем лічыць, што цяпер усё ясна.
Будзьце шчаслівы.
З прывітаннем В. Быкаў
28/II-71.

**Ліст Васіля Быкава да Міколы Пашкевіча ад 28 лютага 1971 г.**

P. S. Пры гэтым вяртаю ліст з Гайнаўкі*** [1, арк. 6 – 7].

**МІКОЛА ПАШКЕВІЧ – ВАСІЛЮ БЫКАВУ**

Васіль Уладзіміравіч,

добрага настрою і здароўя!

Вось як цікава атрымоўваецца: думалася наведацца да вас летам – не атрымалася, меркавалі з Васілём Пятровічам Жуком зрабіць вам адзін душэўны сюрпрыз – зноўку адклалася на далей. Вось тут і жыві, як пісаў Я. Купала, зараз выспяваем думку напісаць у "Настаўніцкую газету" пра настольную кнігу кожнага настаўніка – пра ваш "Абеліск" – і гэта мы апрадмецім у абавязковым парадку, калі ж толькі надрукуюць. <…>

Вы нічога не можаце сказаць пра кнігу лірыкі Аляксандра Трыфанавіча, вылучаную на атрыманне дзяржаўнай прэміі, як яго цяпер здароўе? Ці будзеце вы друкавацца ў "Новом мире", ці падпісвацца мне на яго? І якія вашы творчыя задумы?

Душою і розумам ваш

Мікола.

Ага, ледзь не забыўся. Сваё шчырае прывітанне шле вам Міхась Ціханавіч [Лынькоў]. Ён прысутнічаў на нашай [неразборліва] нарадзе, адкуль я яго правёў дадому, пагаварылі крыху пра тое-сёе. Калі зайшла гутарка пра вас, Міхась Ціханавіч неяк адразу перасмыкнуўся, спыніўся, як ішлі, узняў свае ўдумлівыя вочы, наліўся бадзёрасцю і старэчай пругкасцю. Даўгавата гаварылі пра вас, прыгадалі келіх Я. Купалы, наш [неразборліва] візіт і кланяецца вам Міхась Ціханавіч з ветлівым прывітаннем. Я Міхасю Ціханавічу сказаў, што хутка да вас паеду, дык ён многа ўвагі ўдзяліў і вашай творчасці і асабіста асобе вашай.

Шчырасць душы і помыслаў майго аднадумца Васіля Пятровіча Жука, ён ужо прачытаў А. Камю, ваш "Абеліск" і сваім калегам сказаў, што [кніга] "Абеліск" Васіля Быкава павінна з'явіцца настольнай кнігай кожнага настаўніка. Ну і прывітанне ад нашых настаўнікаў. А вучні! Даражэнькі мой Васіль Уладзіміравіч, якога захаплення пра "Абеліск", мы чытаем трыма класамі пасля ўрокаў. Вось яны-то шлюць самыя чыстыя і самыя шчырыя, самыя непаддзельныя і самыя гарачыя словы найсардэчнасці і пажадання!

Сваю прыязнасць і любоў шле Рэма, жонка мая, мае бацькі і ведаючыя вас супрацоўнікі райана.

* "Абеліск".

** Васіль Пятровіч Жук – сябра М. Пашкевіча.

*** Размова пра ліст Васіля Сакоўскага з Беласточчыны, у якім даецца ацэнка творчасці В. Быкава і які М. Пашкевіч даслаў Васілю Уладзіміравічу з просьбай потым вярнуць яго.

Будзьце здаровы, Дарагі наш Чалавек!
21.X.1971 г.

Мікола.
в. Гарадзішча

<…>*

**ВАСІЛЬ БЫКАЎ – МІКОЛУ ПАШКЕВІЧУ**

Дарагі Мікалай!

Трохі затрымаўся з адказам, бо быў у ад’ездзе – падарожнічаў у Сярэднюю Азію на юбілей Мірзо Турсун Задэ. Дзякуй за добрыя словы з поваду “Абеліска” – напісаў, як разумеў, як адчуваў, з упэўненасцю, што беларускае настаўніцтва заслугоўвае шмат лепшага, – зарабіла за шмат гадоў сваёй працы ў народзе.

Аляксандр Трыфанавіч [Твардоўскі] маецца дужа кепска, ужо амаль не размаўляе, дзяржаўную прэмію яму ўжо прысудзілі, аб гэтым будзе аб’яўлена. У № 1 “Нового мира” пойдзе той самы мой “Абеліск” з абрэзанаю канцоўкай – як заўжды, зрэшты.

Я заўсёды з прыемнасцю ўспамінаю маё наведанне Сватак, і выступленне, і частаванне. Як цяпер бачу вашу школу на пясчаным пагорачку і сосны вакол і дарогу праз лес. Дай бог усім сваткоўскім настаўнікам добрага здароўя. Перадавайце, калі ласка, маё шанаванне дырэктару і міламу завучу, а таксама Васілю Пятровічу, Вашаму бацьку, жонцы – вядома.

Будзьце здаровыя і шчаслівыя.

Авось яшчэ пабачымся калі – у вас або з радасцю ў мяне – у Гродні.

Абдымаю ўсіх вас.

Васіль Быкаў

31.X.71 г. [1, арк. 8 – 9]

**МІКОЛА ПАШКЕВІЧ – ВАСІЛЮ БЫКАВУ**

Васіль Уладзіміравіч,
дарагі!

Як я пажартаваў, атрымаўшы ад вас водгук, што ўжо можна і паміраць без смутку. У гэтым жарце – споведзь душы. Такой ацэнкі свайго жыцця я не спадзяваўся пачуць. Таму ў сваіх пачуццях і справах дазвольце быць мне сынам у адносінах да вас – бацькі! Уражлівае Дзякуй за характарыстыку маёй любві ў душэўным і нацыянальным вызначэнні сэнсу гэтага слова! Шчырае дзякуй дасылаюць і многія нашы настаўнікі, яны вас палюбілі цалкам і без ваганняў! Яшчэ ж не чытаў Васілю Пятровічу**, во хто на паэтычнай ноце адчуе і зразумее ваш ліст і ўвойдзе ў кульмінацыю пачуццяў і любові! Пазней крыху напішам мы з ім Вам голас свайго сэрца. Я лічу найвышэйшай узнагародай Вашае ўражанне, выкладзенае ў дасланым допісу. Ліст ваш з’явіўся падзарадкай маіх душэўных сіл, нібы зямля ў свой час была Антэю. Буду і надалей жыць, не мяняючы ў галоўным свайго курсу.

У гэтую чырвоную ўрачыстасць хочацца пажадаць усяго добрага, што можа ў помыслах мець улюбёны сын свайму бацьку-сябру! Бацькам быць для сына – не складана, найскладаней для бацькі – быць сыну сябрам, наогул, свайму дзіцяці быць бацькам-сябрам – мудрая алгебра духоўнага і ўсебаковага сямейнага жыцця. <…>

Ваш Мікола.

5.XI.1971 г.***

**ВАСІЛЬ БЫКАЎ – МІКОЛУ ПАШКЕВІЧУ**

16 снежня 1971 г.
Гродна

Дарагі Мікола,

што ж гэта ты, брацэ, так нас падводзіш? Мы так спадзяваліся на цябе, твой энтузіязм, асветніцкі імпэт, а ты захварэў****. Ды яшчэ і заляжаўся па бальніцах… Ведама, кепска гэта і не да жартаў, а жартуецца так, каб адагнаць смутак мужчынскага спачування. Хоць, вядома, спачуваннем боль не паменшыш… На жаль! Трэба трываць. Увогуле ўсё чалавечае жыццё – трыванне і пераадоленне, узнагароды, асалоды і шчасце рэдка перападаюць яму ў жыцці і яшчэ радзей таму, хто іх сапраўды заслугоўвае. Але што зробіш! Так ужо ўладкавана на гэтым свеце і ўладкавана не намі, а задоўга да нас.

Трэба неяк мацнець, неяк змагацца з хваробамі і набірацца сілы. Жыццё складанае, цяжкое, а добрых людзей менш чым благіх і мусіць, таму добрым дастаецца болей хібаў. Кожны з іх у меру сваіх сіл і разуменняў робіць тое, што лічыць неабходным, і ты ў ліку гэтых людзей – адзін з першых. Я гутарыў з многімі ў Мінску, многія цябе ведаюць і вельмі-вельмі цэняць. Пішучы свой “Абеліск”, я меў на ўвазе такіх настаўнікаў, як ты, шаноўны Мікола Пашкевіч. Няхай гэтае прызнанне зменшыць твае пакуты ад хворасці і, можа, дасць трохі сілы перамагчы яе.

Мацуйся, дарагі дружа!

Абдымаю цябе з упэўненасцю ў сустрэчы.

Твой Васіль Быкаў [1, арк. 10]

* * *

[20 студзеня (?) 1972 г.]*****

Дарагі Мікалай, як ты?

---

* Рукапісны тэкст. Архіў В. Быкава ў Гродне.

** Васілю Пятровічу Жуку.

*** Рукапісная паштоўка. Архіў В. Быкава ў Гродне.

**** 8 снежня 1971 г. В. Жук паведамляў В. Быкаву: “Вельмі цяжка на душы! У нас з Вамі агульнае гора. Вельмі хворы Мікола Пашкевіч. З Мінскай рэспубліканскай бальніцы накіравалі яго зноў у Мядзель як безнадзейнага на выратаванне. У час гутаркі з хірургам я даведаўся, што ў яго апошняя стадыя рака жалудка. Ці дажыве да Новага года?” (Рукапісны тэкст. Архіў В. Быкава ў Гродне.)

***** Рукапісная паштоўка без даты. На штэмпелі – 20.01(?).1972 г.

Быў у Мінску на пленуме, які ўвогуле прайшоў ціха і звычайна, але там многія агульныя сябры пыталіся і ўспаміналі цябе. Усе вельмі засмучаны і спачуваюць і вельмі жадаюць хутчэйшай папраўкі – дзеля жыцця, спраў, работы, якой шмат і якая надта важна цяпер ды і заўсёды. Таму, браце, мацуйся, намагайся, адольвай хваробу. Па вясне можа і пад'едзем і яшчэ вып'ем па чарцы за перамогу і здароўе.

Абнімаю, Васіль [1, арк. 11]

**МІКОЛА ПАШКЕВІЧ – ВАСІЛЮ БЫКАВУ**

Даражэнькі Васіль Уладзіміравіч!

Я ўжо стаў пакрысе ачуньваць. А было ж страшна. Урачы склалі рукі і чатыры дні раіліся на сваіх кансіліумах, не ведалі, што рабіць. Баяліся, каб не памёр пад нажом. Яны чакалі, калі пройдзе крытычны момант, а я іх упрошваў, умаляў зрабіць мне якую-небудзь палёгку. Толькі цяпер гэты жах выяўляецца па сяброўскаму прызнанню ўрачоў за келіхам весялухі. Во, браток, у якім я быў становішчы. <…> Пакут, болі перанёс столькі, што, здаецца, хапіла б на ўсю вёску. Страшэнна хацелася дадому. <…>

Пісьмо ваша, паважаны Васіль Уладзіміравіч, з'явілася для мяне своеасаблівай панацэяй. Колькі я над ім паплакаў, цалаваў яго, асабліва кранальны канец – ваша шчырае прызнанне. Усё гэта мне гаварыла: Мікола, ты патрэбен людзям, ты ёсць чалавек, якога вы мне ўва мне адкрылі. Я сябе лічыў замухрышкам, шэранькім чалавечкам і не больш. А тут так узвялічыць – я ніколі не чакаў. І маім штодзённым дэвізам стала: любым макарам трэба жыць, цярпець і жыць, пакутаваць і жыць, быць упэўненым у добрым зыходзе. Я ўжо больш не думаў аб смерці. А то, чаго грэх таіць, у цяжкі час прыходзілі думкі ў розных варыянтах самагубства. Вашае ж прызнанне, а я яго бяру за непагрэшную ісціну, адагнала ад мяне ўсе чорныя думкі. Дзякую вам за Яго, за Пісьмо! Але дазвольце закончыць, дужа змарыўся. І то два разы адпачываў, хочацца сказаць многа, ды няма сілы.

Віншую, хоць і позна, з Новым годам! Я вашага "Сотнікава" разрэкламаваў між урачамі, многія прачыталі і ў захапленні. Твардоўскага… няма…

Наведвалі мяне паэты, пісьменнікі з Мінска, дзякую за прывітанне, якое вы перадавалі на пахаронах Ал[яксан]дра Трыфанавіча. Жадаю ўсяго добрага.

Ваш заўсёдашні
Мікола Пашкевіч
20.І.72 г. в. Гарадзішча*

**ВАСІЛЬ БЫКАЎ – МІКОЛУ ПАШКЕВІЧУ**

Дарагі Мікалаю!

Вельмі ўзрадвала мяне Ваша пісьмо, хоць, вядома, там шмат труднага (не дай бог!), але там ёсць надзея, вестка пра лепшае, пра папраўку – дай Вам божа неяк ачуняць, выкарабкацца з хваробы і яшчэ шмат-шмат зрабіць дзеля культуры, чалавечнасці і праўды. Рабіць трэба так многа, а рабіць няма каму, толькі дзе-нідзе засталіся энтузіясты – на іх усё трымаецца. Іншыя ж т. зв. сельскія інтэлігенты больш дбаюць пра гадзіны, парсюкоў, "масквічы"… Таму калі яшчэ дзе што ёсць, не дай бог каб гэтае што нішчылася не толькі людзьмі, але і богам, хваробамі. За час Вашае хваробы я гутарыў з Лойкам і іншымі, усе вельмі засмучаны і ўсе надта жадалі, каб настала палёгка, можа бог і пачуў… Хаця ён не заўжды чуе, вось Аляксандр Трыфанавіч [Твардоўскі] не дачакаўся, пасля пакут памёр, як найвялікшы ў Саюзе грэшнік, гэты самы святы чалавек. Пахавалі на Нова-Дзевіч'ем, у апошнім радзе побач з магілай (праз крокаў 15) Н. Хрушчова. Жалобы было нямала, але некаторыя і радаваліся, некаторым ён засеў у касцях – не нарадаваліся.

Браце Мікола, мацуйцеся! Трывайце, не здавайцеся. Трэба перамагчы, адолець гэтую зіму, а там на ясным сонейку будзе лепш. Загляне сонца і ў наша аконца!

Я абдымаю Вас з наймацнейшым жаданнем паправіцца.

Калі ласка…

Ваш Васіль.

Маё самае шчырае шанаванне Вашым – маці, бацьку, жонцы.

23 студзеня 72 г. [1, арк. 12 – 13]

**ВАСІЛЬ БЫКАЎ – ВАСІЛЮ ЖУКУ**

Дарагі Васіль Пятровіч!

Атрымаў Ваша невясёлае пасланне…** Што зробіш! Вядома, цяпер такіх людзей мала, Мікалай Арсеньевіч сярод іх быў, мабыць, самы лепшы, самы самаадданы. Ну і вядома, лёс такіх заўжды самы трагічны.

Відаць, тым, хто застаецца, трэба несці ў жыцці і іх частку.

А несці трэба.

Дай бог Вам здароўя!

З павагай і сардэчнасцю
В. Быкаў
25.ІІІ.72 г. [1, арк. 14]

*Спіс літаратуры змешчаны ў папярэднім нумары.*

* Рукапісны тэкст. Архіў В. Быкава ў Гродне.

** У лісце ад 18 сакавіка 1972 г. В. Жук паведамляў, што М. Пашкевіч пайшоў з жыцця 14 сакавіка.

*Малады даследчык прапануе*

# АСАБЛІВАСЦІ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ МАДЭЛІ СВЕТУ Ў БЕЛАРУСКАЙ МАЛОЙ ПРОЗЕ ПАЧАТКУ XX ст.

Нацыянальная прастора, у якой народ сцвярджае сваё гістарычнае быццё, мае значнае ўздзеянне на фарміраванне нацыянальнага светапогляду, непаўторнай культуры, самабытнага ладу і стылю мыслення, пра што сведчыць шэраг даследчыкаў (О. Шпенглер, Л. Гумілёў, Г. Гачаў, Т. Шамякіна, І. Чарота і інш.). Народ "вырастае" з зямлі, адметнай прасторы, яе "цела" вызначае спосаб існавання народа і тып культуры, набор і іерархію каштоўнасцей, пэўнае светаадчуванне. Узаемаадносіны чалавека з прасторай выяўляюцца найперш праз упарадкаванне, будаўніцтва, размяшчэнне сябе і ўласных рэчаў у межах пэўнай тэрыторыі, дзе ўсё мае строга вызначанае месца, прычыну і час. Гэта ператварае прастору, дзе сцвярджаецца космас этнасу, у семіятычны тэкст, прыдатны для расшыфроўкі. З дапамогай сімвалаў-знакаў у працэсе светаадлюстравання аднаўляецца нацыянальная мадэль свету – семіятычнае ўвасабленне карціны свету пэўнай культуры.

Адлюстраванне рэчаіснасці, у тым ліку і ў мастацкай літаратуры, паводле А. Пачапцова, адбываецца па прынцыпе "вяршынь": "Адлюстраванню падвяргаецца не ўвесь свет у цэлым, а толькі… тыя яго складнікі, якія здаюцца таму, хто гаворыць, найбольш важнымі, найбольш рэлевантнымі, якія найбольш поўна характарызуюць свет" [7, с. 111]. Паколькі прыродныя локусы (горы, стэп, нізіна, балота, лес, рака, мора) займаюць значнае месца ў канструяванні нацыянальнай мастацкай карціны свету, то вылучэнне найбольш характэрных адзінак этнапрасторы або іх спалучэнняў у тканцы мастацкіх твораў можа даць досыць поўную інфармацыю не толькі пра асаблівасці нацыянальнага ландшафту, але і пра спецыфічную псіхічна-ментальную мадэль свету. Гэтая мадэль у значнай ступені канструюецца з дапамогай адметнай мастацка-вобразнай сістэмы. Так, Т. Шамякіна слушна заўважыла, што прыродны ландшафт у беларускай літаратуры прадстаўлены як трыадзінства зямлі – вады – расліннасці: "Гэтыя ўніверсальныя канстанты лягаюць у аснову нацыянальнай вобразнай сістэмы і аказваюцца адной з найбольш важных форм выражэння нацыянальнага акцэнту ў працэсе светаадлюстравання…" [8, с. 71]. І. Чарота, у сваю чаргу, удакладняе, што ў беларускай этнапрасторы найбольш рэлевантным топасам-акцэнтам, які вызначае асаблівасці нацыянальнага светаўспрымання, з'яўляецца балота.

**Балота** сапраўды займае значнае месца ў мастацкай нацыянальнай карціне свету беларускай малой прозы пачатку XX ст. (Я. Коласа, З. Бядулі, М. Гарэцкага) і адыгрывае вялікую ролю ў стварэнні своеасаблівага нацыянальнага Міфа. Гэта неад'емная частка беларускага ландшафту, што ў спалучэнні з іншымі прыроднымі локусамі фарміруе спецыфічную мадэль свету, прасторавую культуру народа. Балота ў народным уяўленні асацыюецца з таямнічым, загадкавым светам, месцам вечнага супрацьстаяння Космасу і Хаосу, Святла і Цемры.

У прозе ***Максіма Гарэцкага*** гэты прыродны вобраз таксама становіцца адным з ключавых складнікаў *"патаёмнасці"* беларускай прасторы. Матыў *"патаёмнага"*, пошукі пакрыёмнага ў сферы натуральнага быцця дамінуюць у ранняй прозе пісьменніка, асабліва ў дэбютных апавяданнях, дзе М. Гарэцкі праявіў сябе як мастак рамантычнага мыслення: "Што яно?", "Патаёмнае", "Цёмны лес", "Стогны душы", "Роднае карэнне", "Буйніцы і драбніцы" і г. д. Спробы спазнання неразгаданых таямніц нацыянальнага свету, выражаных у безлічы пытанняў (*"Што яно? І адкуль яно? І чаму яно ўсё?"*), пранікненне ў містычную сферу народнага светапогляду абумоўлена намаганнем пісьменніка выявіць і зразумець духоўную змястоўнасць жыцця беларуса, няхай і праз *"забабоны"* ды цёмную *"д'ябальшчыну"*. Балота ў ранняй прозе М. Гарэцкага і становіцца той часткай неразгаданай сутнасці беларускай прыроды, якая ў значнай ступені нараджае *"вобразы таемнага, страшнага, шчыра беларускага"* ў свядомасці яе насельнікаў. Яно вабіць чалавека таямнічасцю, недаступнасцю, асацыюецца з недааформленай, недавызначанай зонай Хаосу, падмацаванай незразумелымі прыроднымі з'явамі (блукалымі агнямі, незнаёмымі гукамі ў начную пару), безліччу легендаў і паданняў пра ваўкалакаў, пра паглынутыя багнай гарады, пра русалак і іншых міфічных істот, што жывуць там ("У лазні", "Роднае карэнне", "Цёмны лес", "Патаёмнае", "Лірныя спевы" і інш.). *"Нешта нявідзімае"*, неспазнанае гуляе *"па лясах, па махах, па багнах нявыхаджаных"* у апавяданні "Патаёмнае". У творы "Цёмны лес" пісьменнік малюе адметную міфапаэтычную карціну свету з дапамогай знакаў балот-

най і лясной архетыпікі (воўка, бусла-чарнагуза, зязюлі), міфічных істот, якія насяляюць дадзеную прастору (Паганага Цмока, страшнага змея, белацелых русалак *"з косамі чорнымі, з вачыма маркотна-шалёнымі"*), а таксама вобразаў адухоўленай прыроды.

Максім Гарэцкі мадэлюе ў ранніх апавяданнях спецыфічны вобраз свету – ***"аграмаднае бяздонне надземнае"***, "захаванае" сярод пушчаў і балот, дзе бег часу цалкам падпарадкаваны прыроднаму рытму, штогадоваму цыклу паміранне і аднаўлення ўсяго жывога, а таму ў пэўным сэнсе нязменнаму, нават статычнаму (напрыклад, адносна навукова-тэхнічнага прагрэсу цывілізацыі) ладу жыцця і мыслення ў цэлым. Гэта асабліва яскрава праяўляецца ў разважаннях Архіпа Лінкевіча (апавяданне "Роднае карэнне") пра часавую запаволенасць рытму беларускай вёскі: *"Як многа слаўнага ў нашых вёсках, сёлах, а тым часам як яны непарушна-мёртвыя ў жыцці. Час ідзе – угары, у воздусі лётаюць аэрапланы, дырыжаблі; пад вадой жывуць людзі, як на зямлі… усё ідзе шпарка ўперад, толькі нашу вёску, як абросшы мохам камень каля шляху, з мясціны не скранеш…"* [3, с. 59].

Балота, багна, *"вечная да часу астатняга"*, увасабляюць нейкую нязменную, непарушную субстанцыю, што герметызуе культуру, запавольвае бег часу, ахоўвае народ, зберагае традыцыі, гісторыю, мінулае. Пры гэтым інфернальнае адценне локуса (балота бярэ на сябе і функцыю магілы ў апавяданні "Роднае карэнне") не ўспрымаецца як нешта адмоўнае, а складае арганічную частку нацыянальнай карціны свету. М. Гарэцкі, акцэнтуючы ўвагу на такіх прыродных вобразах нацыянальнай прасторы, як балота, лес, пушча, што выступаюць у якасці дэтэрмінанту нацыянальнага светаўспрымання (у дадзеным выпадку – прасторавага і часавага яго ракурсу), стварае адметную мадэль свету: вертыкальна арганізаваную, арыентаваную на глыбіню, бяздоннасць. Таму ў апавяданнях пісьменніка "ўкаранёнасць", захаванне традыцыйнага стрыжня роднай культуры героямі з'яўляюцца запарукай іх духоўнага здароўя, унутранай цэльнасці.

Містычную афарбоўку атрымлівае вобраз балота ў абразках і імпрэсіях-мініяцюрах ***Змітрака Бядулі***. Так, Р. Казлоўскі адзначае, што на вобразную структуру твораў, эмацыянальную танальнасць аўтарскага выказвання, падбор выяўленчых мастацкіх сродкаў зрабіла ўплыў "мастацтва дэкадансу, якое падкрэслівала адчуванне безнадзейнасці, непрыманне многіх з'яў жыцця" [4, с. 7]. Гэта выяўляецца ў трактоўцы З. Бядулем беларускай прасторы, палескага краявіду і яго неад'емнага атрыбута – балота. З ім у творах пісьменніка звязаны матывы тугі, пакутлівай непрыкаянасці, імкнення лірычнага героя да чагось вялікага, уражлівага, глыбока затоенага. Яго балота становіцца ўвасабленнем адзіноты, самотнасці, закінутага Богам месца, дзе герой шукае сэнс жыцця, уласнага існавання: *"Я пакіну вёску родную, уцяку ад людзей; я апынуся* ***далёка за балотамі ў старым цёмным-цёмным лесе*** (тут і далей вылучана намі. – ***І. В.***). *Выберу сабе дуплаваты дуб і давай жыць у ім!.."* ("Нуда мая" [1, с. 24]); *"пайду брысці на* ***дзікае балота – далёка ад людзей****. Ля завадзі, сярод чароту, сяджу я, і не ўстану, не пайду, пакуль не зразумею самы лад жыцця людскога як мае быць"* ("На гай высокі…" [1, с. 34]).

У мастацкай інтэрпрэтацыі З. Бядулі балота атрымлівае містычныя, загадкавыя абрысы, выступаючы медытатыўнай кропкай беларускага ландшафту, дзе актуалізуецца духоўнае жыццё лірычнага героя, далёкае ад паўсядзённага побыту. Адказы на шматлікія пытанні ён шукае найчасцей у лесе, ля локусаў воднай стыхіі, не плыннай, а менавіта застылай, здольнай назапашваць і зберагаць у межах дадзенай прасторы нейкі жыццёвы досвед, мудрасць жыцця ("Нуда мая", "А можа і праўда?", "Ці я вінават?"). Топас *балота* досыць часта ўжываецца з азначэннем *дзікае* (абразкі "Стары пастар", "Шаптаў чарот", "На гай высокі…") у сэнсе 'неспазнаная, некранутая чалавечай рукой прастора', што існуе ў пазачасавай праекцыі, у своеасаблівым чацвёртым вымярэнні, дзе спазнаецца сутнасць жыцця, глыбінная існасць чалавечага быцця і навакольных рэчаў. Амаль усе мініяцюры З. Бядулі прама або апасродкавана адлюстроўваюць балотны тып мясцовасці, што падкрэслівае значнасць гэтага прыроднага локуса ў структуры нацыянальнага светаўспрымання.

Міфапаэтычная карціна "Казак жыцця" ***Якуба Коласа*** паказвае балота як важны кампанент беларускага Космасу, які фарміруе спецыфічную мадэль свету. У апавяданні "Балотны агонь" намаляваны астраўны тып прасторы, характэрны для беларусаў, што жывуць сярод балот і лясоў. Заціснутасць, абмежаванасць, толькі ўяўнае адчуванне прасторавага размаху бязмежнага балота, што ізалюе востраў, робіць яго непрыступным, – усё гэта ўтварае прастору максімальна закрытую, замкнёную ад чужога, вонкавага свету: *"Закрытая, заціснутая з усіх бакоў старымі дзеравякамі, не бачыла яна сонца, рэдка калі патыхаў на яе свежы ветрык… Балота, на якім прыгожа раскінуўся астравок, дзе расла разам з другімі дрэвамі бярэзінка, здавалася, не мела канца-краю. Найстарэйшы між усіх дуб, стоячы на*

*самым высокім месцы вострава, не бачыў канца балота"* [5, с. 295 – 296].

Структура рэпрэзентаванай Я. Коласам мадэлі свету суадносіцца з міфалагемай Перштварэння, увасобленай у прытчы пра востраў пасярод акіяна, і Прадрэва, сімволікай якога прасякнута ўся славянская культура: "Беларускай і, шырэй, славянскай традыцыі вядомы вобраз велізарнага дрэва, якое ўдзельнічала ў актах першастварэння і разам з першаакіянам склала яго аснову. І калі воды абазначалі схаваныя патэнцыі, нявыяўленыя зародкі, то дрэва прадстаўляла яўленае касмічнае тварэнне, ад якога пачалося паэтапнае ўпарадкаванне свету, крэацыя-распадабненне зямной і нябеснай сфер" [9, с. 70]. Толькі ў коласаўскай інтэрпрэтацыі схаваныя патэнцыі змяшчае менавіта балота як увасабленне стваральнай субстанцыі, здольнай да перараджэння.

Беларускі Космас, адлюстраваны ў кнізе "Казкі жыцця", прадстаўлены тыповым ландшафтам, які дае поўнае ўяўленне пра этнапрастору, дзе ёсць усе абавязковыя атрыбуты (прыродныя локусы), неабходныя для паўнацэннай ідэнтыфікацыі нацыянальнай прасторы яе насельнікамі. Так, у апавяданні "Залаты прамень" малюецца ідэальна напоўненая (для беларускага светасузірання) мясцовасць: *"На горцы лясок стаяў, і лясок гэты быў не так вялікі. Каля горкі сямтам прабіваліся крынічкі, і рэчачка выбівалася збоку. Было нават і азярко і балотца, – ну, словам,* ***усё было****"* [5, с. 343].

Лад, які пануе ў межах гэтай прасторы, успрымаецца "лясным грамадствам" апавядання як "выяўленне пэўнай гармоніі дабра і харасства". Аўтар пры гэтым указвае на мініяцюрнасць месца, ужываючы памяншальна-ласкальныя суфіксы (*горка, крынічка, рэчачка, азярко* і пад.). *"...Велізарнасць нябесных прастораў і жах перад бясконцасцю і бязмежнасцю сусвету"*, няўтульнасць ад бяздонных глыбінь неба, адчутыя насельнікамі лесу ўначы, яшчэ больш актуалізуюць прасторавую замкнутасць, абмежаванасць адлюстраванай тэрыторыі, а з іншага боку – неабходнасць у такім абмежаванні для камфортнага існавання персанажаў твора. Падобнае светаадчуванне фарміруе і спецыфічныя рысы характару, асаблівы псіхатып. Так, замкнутасць як асабістая рыса характару, схільнасць да адзіноты, да засяроджання на ўнутраным жыцці і нават да патрэбы "дваістага жыцця" досыць часта праяўляюцца ў герояў Я. Коласа ("Адзінокі курган", "Кучаравае дрэва", "Адзінокае дрэва") і вызначаюцца як прыкмета багатага ўнутранага свету, здольнасці адчуваць, разумець і перажываць тое, што глыбока затоена, незаўважна і нячутна для чужых вачэй і вушэй: *"Такі ўжо характар адзіноты: гэта яе ўрода, яе істота. І хто хоча жыць паўнейшым жыццём і гастрэй пранікаць у яго* ***тайны-глыбіні****, той павінен быць адзінокім і незалежным"* [5, с. 282].

Галоўным героем у вобразнай сістэме "Казак жыцця" з'яўляецца, безумоўна, **лес**, ён спалучае "ўкаранёнасць" у зямную стыхію і імкненне ўвышыню, да сферы нябеснай. У Я. Коласа ён прадвызначае асаблівае мікраўладкаванне ў прыродзе ("Стары лес", "Залаты прамень", "Вадаспад"). Лес, напоўнены чарамі і містычнай загадкавасцю, змяшчае ў сабе таямніцу, філасофію жыцця, якую перадае найчасцей дуб – увасабленне найвышэйшай мудрасці, досведу, сталасці і рацыянальнасці ("Што яны страцілі", "Чыя праўда?"). Лес складае важную частку не толькі беларускага ландшафту, але і духоўнай сутнасці народа, уплывае на фарміраванне пэўнай сістэмы духоўна-маральных паняццяў. І. Навуменка слушна заўважыў: "Беларусы – лясны народ. Лес уплывае на менталітэт беларуса, на яго характар, лад думання" [6, с. 21], што яскрава адлюстравалася ў "Казках жыцця" Я. Коласа. Тут чалавек спазнае свет у шматлікіх і складаных сувязях, заканамернасцях і адносінах паміж з'явамі прыроды.

Лес вызначае спецыфічную сістэму каардынат светаўспрымання, прасторавую мадэль свету: ён стварае вертыкальную структуру ўніверсуму, лакалізуючы месца пражывання ў акрэсленай ім прасторы. Прасторавая абмежаванасць, прыродная вертыкаль абумоўліваюць незвычайную ўкаранёнасць, прывязанасць насельнікаў гэтай прасторы да вызначанага месца, што адлюстравалася ў засяроджанасці беларусаў на пражыванні "тут і цяпер", на навакольнай прыродзе. Л. Гаранін заўважыў, што "арыентацыя на ўсё акаляючае… што адчынена свету і чалавеку, служыць апорай… існавання, што з'яўляецца непарушным, надзейным і вечным, як бацькоўскі край, палі, лясы, азёры і рэкі", скіроўвае беларусаў на "сучаснае, сапраўднае, рэальнае, як натуральны працяг мінулага і ўмову надыходу будучага" [2, с. 58]. Таму непарушнасць, нязменнасць, пэўная статычнасць краявіду ўспрымаюцца беларусамі пазітыўна, забяспечваючы адчуванне абароненасці, бяспекі, спакою. Падобнае светаадчуванне адлюстравана ў апавяданнях З. Бядулі: туга старога Міхайлы з аднайменнага твора цесна знітавана з лесам, шум якога з калыскі яго гадаваў, выхоўваў, фарміраваў адметнае светаўспрыманне. Таму высечка лесу ўспрымаецца старым як страта нечага значнага, інтымна-асабістага: *"Вока доўга блукае па абшары, шукае дробнага гайку на пагорку, гаварлівага альхоўніку ў даліне. Дарэмна. Неба зліваецца з*

*зямлёю. Зямля туліцца да неба… Жальба агартае старое сэрца. Лясныя шэпты ажываюць у яго душы… Шкада яму лесу, як роднага сына. Міхайла з дзіцячых год зжыўся з ім"* [1, с. 123].

Знішчэнне лесу, з аднаго боку, успрымаецца як гвалт з прыроды, з яе святой упарадкаванасці, а з іншага – як страта людзьмі стабільнасці, адвечнага ладу, адчування абароненасці, якое забяспечваў лес. У прывязанасці старога Міхайлы да лесу хаваецца вельмі значная асаблівасць беларускага светаўспрымання: для камфортнага існавання беларусу неабходна пэўная формула сузіральна-пачуццёвай утульнасці – трохкампанентная вертыкальная мадэль космасу зямля – лес – неба. Лес выконвае ў нацыянальнай мадэлі свету медыятыўныя функцыі, звязваючы сабой у адзінае цэлае верх і ніз. Здаецца, і сам краявід у З. Бядулі адчувае нязручнасць, дыскамфорт ад штучна створанага, ненатуральнага для яго выгляду, таму, *"як лысая галава старога дзеда, выглядае зямля"*, таму нейк бездапаможна *"зямля* ***туліцца*** *да неба"*. Аўтар спрабуе перадаць натуральную прыродна-ландшафтную формулу светасузірання і ў апавяданні "Дзе канец свету?" (а таксама – "Велікодныя яйкі") праз дзіцячае, падкрэслена наіўнае бачанне свету, праз чыстае ў сваёй сутнасці светаўспрыманне. Прыродны колазварот цесна звязаны ў назіраннях Янкі менавіта з лесам (альхоўнікам, бярэзнікам, цёмным борам), што выступае пасярэднікам паміж зямной і нябеснай сферамі і абавязковай умовай гарманічнага светапарадку, сувязі чалавека з Богам, увасабленнем якога ў дзіцячай уяве выступае сонца.

Этнапрастора, адлюстраваная ў беларускай малой прозе пачатку XX ст. (М. Гарэцкага, Я. Коласа, З. Бядулі), выступае ў якасці дэтэрмінанту нацыянальнага светаўспрымання і светаадлюстравання, дзе немалаважную ролю выконваюць лес і балота як інварыянт спалучэння зямлі і вады. Надаючы ўніверсальным канстантам нацыянальнага быцця спецыфічны каларыт, выконваючы ролю адмысловага акцэнту прасторы, яны значным чынам уплываюць на прасторавае светаадчуванне, філасофію жыцця беларусаў. Густыя лясы ў спалучэнні з непраходнымі балотамі фарміруюць спецыфічную прасторавую мадэль свету – вертыкальна арыентаваную, замкнёную, нязменную структуру ўніверсуму: беларуская прастора абмежаваная, лакальна вызначаная і строга акрэсленая, без адчування перспектывы, шырыні. Так, у "Казках жыцця" Я. Коласа ўвага канцэнтруецца на невялікай тэрыторыі, акрэсленай найчасцей межамі лесу, – своеасаблівай мікрамадэлі свету з уласнымі законамі і парадкамі. Лес абумоўлівае спецыфічную сістэму каардынат, вызначае вертыкальную арыентаванасць ва ўспрыманні беларусамі наваколля. Таму ў адлюстраванні нацыянальнай прасторы М. Гарэцкі найчасцей засяроджвае ўвагу на бяздоннасці, глыбіні (балота, лесу), неспазнанасці як дамінантных прыкметах не толькі тэрыторыі, але і ўнутранага свету яе насельнікаў. У ранніх апавяданнях пісьменніка лейтматыў – тэма ўкаранёнасці, вернасці традыцыям, народнаму светаадчуванню, якое ў вялікай ступені дэтэрмінавана прыродна-ландшафтнымі ўмовамі пражывання беларусаў. Прыродная вертыкаль, створаная лесам у спалучэнні з балотам, набывае асаблівы змест і ў малой прозе З. Бядулі. Лес у яго творах выступае ў ролі медыятыўнага локуса, што яднае нябесную і зямную сферы, стварае асаблівыя ўмовы для актуалізацыі духоўнага жыцця чалавека, засяроджання яго на самаразвіцці (асабліва ў абразках і мініяцюрах пісьменніка). Адсутнасць прасторавага размаху замацоўвае ў свядомасці беларусаў адметнае светаўспрыманне, утварае спецыфічны этнапсіхатып, які вылучаецца схільнасцю да адзіноты, самотнасці, паглыблення ў сябе, абвостранай рэфлексійнасці. Гэтыя рысы выразна праглядаюцца ў адлюстраванні герояў малой прозы Якуба Коласа, Максіма Гарэцкага і Змітрака Бядулі.

**Спіс літаратуры**

1. **Бядуля, З.** Збор твораў : у 5 т. / З. Бядуля. – Мінск : Маст. літ., 1986. – Т. 2.
2. **Гаранін, Л.** Нацыянальная ідэя ў беларускай літаратуры пач. XX ст. / Л. Гаранін. – Мінск : Беларус. навука, 1996.
3. **Гарэцкі, М.** Збор твораў : у 4 т. / М. Гарэцкі. – Мінск : Маст. літ., 1984. – Т. 1 : Апавяданні.
4. **Казлоўскі, Р.** Беларуская празаічная мініяцюра XX ст. : аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук / Р. Казлоўскі. – Мінск, 2002.
5. **Колас, Я.** Новая зямля. Казкі жыцця : паэма, апавяданні / Я. Колас. – Мінск : Маст. літ., 2001.
6. **Навуменка, І.** "Казкі жыцця" Якуба Коласа / І. Навуменка // Роднае слова. – № 8. – 2002. – С. 19 – 22.
7. **Почепцов, О. Г.** Языковая ментальность : способ представления мира / О. Г. Почепцов // Вопросы языкознания. – 1990. – № 6. – С. 111 – 120.
8. **Шамякіна, Т.** Беларуская класічная літаратура і міфалогія / Т. Шамякіна. – Мінск : БДУ, 2001.
9. **Швед, І.** Космас і чалавек у дэндралагічным кодзе беларускага фальклору [Тэкст] : манаграфія / І. Швед; Брэсцкі дзярж. ун-т імя А. С. Пушкіна. – Брэст : Выд-ва БрДУ, 2006.
10. **Чарота, І.** Пошук спрадвечнай існасці : Беларуская літаратура XX ст. у працэсах нацыянальнага самавызначэння / І. Чарота. – Мінск : Навука і тэхніка, 1995.

**Ірына ВОРАН,**
аспірантка кафедры славянскіх літаратур БДУ.

*Артыкул рэкамендаваны да друку доктарам філалагічных навук І. Чаротам.*



# МОВЫ РЫСЫ НЕПАЎТОРНЫЯ



75

**Віктар Пятровіч Красней** – мовазнаўца, педагог. Нарадзіўся 20 ліпеня 1936 г. у вёсцы Хамічы Бярозаўскага раёна. Закончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Кандыдат філалагічных навук (1969). Выдатнік адукацыі Рэспублікі Беларусь.

Аўтар кніг “Лексіка і фразеалогія беларускай мовы” (1982), “Грані слова” (3-е выд. 1996), “Беларуская мова: Najnowsze dzieje języków slowiańskich” (1998, у суаўтарстве), “Русско-белорусского словаря электротехнических терминов” (1993, у суаўтарстве), падручнікаў і дапаможнікаў для філалагічных факультэтаў вышэйшых навучальных устаноў “Практыкум па гісторыі беларускай літаратурнай мовы” (1978, 1986, у суаўтарстве з Л. Шакуном), “Сучасная беларуская мова” (1984, 1995), “Сучасная беларуская мова: Практычныя заняткі” (1989), шматлікіх падручнікаў па беларускай мове для сярэдняй агульнаадукацыйнай школы (у суаўтарстве з Я. Лаўрэлем), метадычных дапаможнікаў “Беларуская мова ў V класе” (1990, 2002), “Беларуская мова ў VI класе” (1999, 2000), “Беларуская мова ў табліцах і схемах” (6-е выд. 2008), “Экзамен па беларускай мове” (2000, 2001), “Здаём экзамен па беларускай мове” (2001, 2003), “Алімпіяды па беларускай мове” (2000, 2001), “Тэсты па беларускай мове” (для IV класа, 2003; для V – VI класаў, 2003), “Дыдактычны матэрыял па беларускай мове” (2003), “Беларуская мова: Поўны школьны курс: Тэорыя” (2007, 2008), “Беларуская мова ў III класе” (2007), “Зборнік экзаменацыйных матэрыялаў па беларускай мове для агульнаадукацыйных устаноў (узровень агульнай сярэдняй адукацыі): тэксты для пераказаў” (2009) і інш.

*Унармаванне тэрміналогіі*

Віктар КРАСНЕЙ

## НЕКАТОРЫЯ ЛІНГВІСТЫЧНЫЯ АСПЕКТЫ НАРМАТЫЎНАСЦІ ТЭРМІНА

Параўнальна маладая беларуская нацыянальная тэрміналогія (распрацоўка яе асноў прыпадае на 20-я гг. XX ст.) фарміравалася і развівалася ў складаных умовах, таму не ўсе галіновыя тэрмінасістэмы ў дастатковай ступені развіліся. Калі асобныя агульныя галіновыя тэрміналагічныя сістэмы (мовазнаўчая, літаратуразнаўчая, матэматычная, фізічная, батанічная і інш.) у той ці іншай меры распрацаваны, то больш вузкія іх падсістэмы, як сістэмы і падсістэмы некаторых іншых галін навукі і тэхнікі, маюць даволі значныя лакуны. Само сабой зразумела, што развіццё тэрміналогіі самым цесным чынам звязана з умовамі функцыянавання мовы, і распрацоўка тых ці іншых тэрмінасістэм залежыць ад аб’ёму і жанравай разнастайнасці навуковай і тэхнічнай літаратуры, якая выдаецца рэгулярна, ад таго, наколькі сістэматычна і масава карыстаюцца такой літаратурай.

Што ў гэтым плане назіралася на Беларусі? У пасляваенны перыяд у галінах філасофіі, палітэканоміі, сацыялогіі, этыкі, эстэтыкі, фізікі, электронікі, аўтаматыкі, тэлемеханікі, хіміі, біялогіі і г. д. на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў не выдаваліся кнігі на беларускай мове, таму і распрацоўка навуковай тэрміналогіі па многіх галінах навукі і тэхнікі не вялася аж да таго часу, пакуль не распачалася праца над выданнем Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Тэрміналагічны “бум” адбыўся ў 90-я гг. XX ст., калі былі выдадзены тэрміналагічныя слоўнікі (як правіла, перакладныя) па такіх галінах (асобных раздзелах) навук

ці сферах дзейнасці, як геамарфалогія, анатомія і марфалогія бесхрыбетных, інфармацыйныя тэхналогіі, медыцына, эмбрыялогія, біятэхналогія, інфарматыка, эканоміка, трыбафатыка, зоапаразіталогія, бяспека жыццядзейнасці, архітэктура, выяўленчае мастацтва, цеплатэхніка і санітарная тэхніка, спорт, транспарт, ветэрынарыя, радыёэлектроніка, электратэхніка, маркетынг, культура і ахова працы, этыка і псіхалогія сямейнага жыцця, таваразнаўства, малочная прамысловасць, дрэваапрацоўка; слоўнікі менеджара, супрацоўніка міліцыі, супрацоўнікаў і навучэнцаў устаноў гандлю і інш. Гэты пералік – адказ скептыкам, ці здольная, ці гатовая сучасная беларуская мова выконваць шматгранныя грамадскія функцыі. Увогуле, дынаміка падрыхтоўкі тэрміналагічных слоўнікаў вельмі наглядна адлюстроўвае не столькі тэрмінатворчую дзейнасць, колькі моўную сітуацыю і ўмовы функцыянавання беларускай мовы на розных стадыях яе развіцця (параўн.: 1920 – 1929 гг. = 29 слоўнікаў; 1930 – 1934 гг. = 6; 1935 – 1961 гг. = 0; 1962 – 1970 гг. = 6; 1971 – 1980 гг. = 3; 1981 – 1989 гг. = 5; 1990 – 1998 гг. = 208). Сапраўды, гэта люстэрка моўнай сітуацыі, той моўнай палітыкі, якая ажыццяўлялася на тым ці іншым этапе гісторыі беларускага народа ў ХХ ст.

Цяпер, калі пасля вядомага рэферэндуму сферы ўжывання беларускай мовы звужаюцца, памяншаецца колькасць вучняў, якія навучаюцца ў беларускамоўных школах і класах, абмяжоўваецца функцыянаванне беларускай мовы ў ВНУ і НАН Беларусі, а руская мова зноў актыўна выцясняе беларускую з навуковай і прафесійна-тэхнічнай сферы, актуальнасць распрацоўкі нацыянальнай тэрміналогіі істотна знізілася. Тым не менш у друку з’яўляюцца працы, у якіх закранаюцца праблемы, звязаныя са стварэннем і функцыянаваннем тэрміналогіі, а іменна: крыніцы фарміравання тэрміналогіі, нарматыўнасць і ненарматыўнасць тэрміна, суадносіны тэрміна і паняцця, словаўтварэнне і структурныя тыпы тэрмінаў (спосабы і мадэлі, адносіны да словаўтваральных варыянтаў, рэгулярнасць і спецыялізацыя дэрывацыйных афіксаў і мадэлей, тэндэнцыя да аднатыпнасці паняційна суадносных тэрмінаў і інш.). Гэтыя праблемы – арганічнае адлюстраванне развіцця беларускай літаратурнай мовы, яны караняцца ў працяглым сацыяльна нераўнапраўным яе функцыянаванні пад моцным уплывам рускай мовы.

Праблемы сутнасці тэрміна як адметнай семіятычнай адзінкі мовы, тэрмінатворчасці і тэрмінаўжывання, што з тых ці іншых пазіцый асвятляюцца ў розных публікацыях, даюць яскравае ўяўленне пра тое, якой разнароднай і складанай паводле крыніц фарміравання, сродкаў і спосабаў намінацыі, праяўлення агульнамоўных семантычных працэсаў з’яўляецца сучасная беларуская тэрміналогія. Пры гэтым яна застаецца той “дзялянкай” мовы, дзе вострa сутыкаюцца густы і меркаванні навукоўцаў розных галін ведаў, тэрмінолагаў і мовазнаўцаў, многіх прыхільнікаў роднай мовы, якія рупяцца пра чысціню і дакладнасць намінатыўна-тэрміналагічных адзінак. Таму стварэнне нарматыўна ўпарадкаваных навуковых тэрміналагічных сістэм – надзвычай адказная і складаная надзённая задача.

У беларускім мовазнаўстве з крыніцамі фарміравання заўсёды звязваўся нарматыўны аспект тэрміналагічнай дзейнасці. Таму заканамерна, што матэрыяльнай субстанцыяй для беларускай нацыянальнай тэрміналогіі і на стадыі натуральнага яе складвання, і на стадыі свядомай тэрмінатворчасці была і ёсць мова беларускага народа, бо, як пісаў Я. Журба, “кожны народ розьніцца ад другіх сваею моваю… і ён мае права… пазнаваць навукі ў сваей роднай мове, разьвіваць сваю культуру” [1]. І калі Я. Журба гаварыў аб праве пазнаваць навукі ў сваёй роднай мове, то М. Гарэцкі заклікаў пры ўжыванні тэрмінаў свядома арыентавацца на народную мову: “Увага! Калі ёсць гдзе ў розных кутках Беларусі слова на вышэйшае (“отвлеченное”) паняцце (Гродзеншч. *лятуцець – мечтаць*) ці добры тэхнічны тэрмін і г. д., каторых ніхай сабе йшчэ і ня ведаюць усе беларусы, дык іх варта ўвясьці ў нашу літэратурную мову, чымся пазычаць у суседаў” [2, с. 56 – 57]. Гэта стала асноўным метадалагічным прынцыпам дзейнасці Навукова-тэрміналагічнай камісіі ў 20-я гг. ХХ ст., у выніку чаго ў сферу спецыяльнай камунікацыі былі ўведзены шматлікія сваямоўныя тэрміны: *адначлен, множнік, дзельнік, дуга, бялок, вяночак, суквецце, корань, дзеяслоў, стан, лад, прыслоўе, залежнасць, прамень, дроб, лічнік дробу, назоўнік дробу, здабытак, супярэчнасць, прастора, час, завязка* і да т. п. Безумоўна, у такім падыходзе ёсць рацыя, таму што без арыентацыі на спрадвечныя ўласныя моўныя рэсурсы нельга стварыць нацыянальную па форме тэрміналогію.

Сёння вызначальным у тэрмінатворчасці з’яўляецца прынцып, які можна сфармуляваць наступным чынам: тэрміналогія любой галіны ведаў павінна быць унармаванай па змесце і нацыянальнай па форме. З мэтай надання беларускай тэрміналогіі нацыянальнай формы вяртаюцца ва ўжытак некаторыя тэрміны 20-х гг. ХХ ст., пераасэнсоўваюцца асобныя спосабы і прыёмы графічнага, фанетычнага, арфаграфічнага і марфалагічнага асваення іншамоўных тэр-

мінаў, удакладняецца структура, мадэлі тэрміналагічнай дэрывацыі, якія адпавядаюць сістэме і структуры беларускай мовы. Пры гэтым часам выказваюцца меркаванні, даюцца рэкамендацыі адносна нарматыўнасці, ужывальнасці або ненарматыўнасці, неўжывальнасці таго ці іншага тэрміна, якія грунтуюцца не на лінгвістычным аналізе, а на суб’ектыўных густах, ацэнках, абстрактных разважаннях. У выніку некаторымі складальнікамі слоўнікаў прапануюцца такія, напрыклад, тэрміны, як ***спаруда*** *ачышчальная* (руск. адпаведнік ***сооружение*** *очистное*), *вадзеча* ці *вадзішча* (*навадненне*), *хмарнасць* (*воблачнасць*; параўн. польск. *zachmurzene*), *адплыў* (*адліў*; польск. *odplyw*), *прыплыў* (*прыліў*; польск. *przyplyw*), *віхраслуп* (*смерч*), *лупняк* (*сланец*; польск. *lupek*), *тарфавішча* (*тарфянік*; польск. *torfowisko*), *пустэльня* (*пустыня*), *пярэсмык* (*перашыек*; польск. *przesmyk*), *зборня* (*зборная*), *ірты* (*лыжы*) і да т. п. Відавочна, што ў гэтых выпадках укладальнікі слоўнікаў кіраваліся прынцыпам “адштурхоўвання ад рускай мовы” і ў той жа час прапаноўвалі іншыя тэрміны, але нярэдка таксама іншамоўныя ці такія сваямоўныя, якія не ўпісваюцца ў сістэму.

Норма – гэта свайго роду “інструмент карэкцыі мовы”, і ў ёй адлюстроўваюцца ацэначныя адносіны носьбітаў мовы да элементаў свайго сродку зносін. Але не заўсёды гэтыя ацэнкі лінгвістычна абгрунтаваныя. Напрыклад, некаторыя слоўнікі замест тэрміна ***корань*** *раўнання* прапануюць тэрмін ***развязак*** *раўнання*. Але ці ёсць сэнс у “карэкцыі”, калі ў выніку атрымліваецца такая карціна: ***корень*** *вещественный* – ***развязак*** *рэчаісны*, ***корень*** *двузначный* – ***развязак*** *двухзначны*, але ***корень*** *квадратный* – ***корань*** *квадратны*, ***корень*** *кубический* – ***корань*** *кубічны* і ***корни*** *одноименные* – ***карані*** (***развязкі***) *аднайменныя* [3, с. 35]? Дарэчы, аўтары “Руска-беларускага фізічнага слоўніка” засведчылі толькі тэрмін *корань*.

Выказваюцца таксама меркаванні, што вузкаспецыяльныя тэрміны-транслітараты тыпу *кантрактура, афтальмаплегія, панкрэатаграфія, стэрэатаксія* непазбежна будуць заменены беларускімі нацыянальнымі эквівалентамі. Праўда, разам з тым падкрэсліваецца: “Крайні пурызм у гэтых пытаннях – ці не большае зло, чым касмапалітызм, і трэба заўсёды шукаць разумную залатую сярэдзіну” [4, с. 162].

Адна з характэрных рэлевантных прымет унармаванай тэрміналогіі – рэгулярнасць словаўтваральных адносін, спецыялізацыя тэрмінаўтваральных сродкаў. У рэчышчы гэтага ў апошні час мовазнаўцы і даследчыкі тэрміналогіі акцэнтуюць увагу на такім лінгвістычным аспекце, як замацаванне тых ці іншых дэрывацыйных мадэлей нацыянальнай мовы за пэўным тыпам значэння тэрмінаў, што не парушае жывой тканіны мовы і разам з тым надае тэрміналогіі большую ўнармаванасць, упарадкаванасць. Так, ужо даволі выразна акрэслілася спецыялізацыя асобных суфіксаў: ***-льн-*** (для перадачы якаснай характарыстыкі аб’екта: *награвальны прыбор, салеўтваральныя аксіды*), ***-н-*** (для характарыстыкі аб’екта ўздзеяння: *дапусканы, вібрацыйны*), ***-оўн-/-ёўн-*** (для найменне аб’екта ўздзеяння: *інтэгроўны, рэгулёўны*), ***-ава-/-ява-*** (для перадачы працэсуальнага дзеяння: *праграмаваць, градуяваць*). Аднак нават у адным і тым жа слоўніку, дзе такі падыход у асноўным вытрыманы, сустракаюцца выпадкі, калі аднатыпныя ў плане зместу тэрміны маюць адрозную структуру, параўн.: *интегрируемый – інтэгравальны, мажорируемый – мажараваны* [3, с. 30, 38]; або: *диссоциирующий – дысацыяцыйны, дифрагирующий – дыфрагавальны, импульсный – імпульсавы,* (*источник*) *импульсный –* (*прылада*) *імпульсная,* (*прибор*) *регистрирующий –* (*прылада*) *рэгістрацыйная,* (*прибор*) *показывающий –* (*прылада*) *паказвальная* [5, с. 53, 75, 81, 177] і да т. п. Як відаць, тыповыя значэнні не заўсёды знаходзяць рэалізацыю ў канкрэтнай дэрывацыйнай мадэлі тэрмінаў. У значна большай ступені такія з’явы назіраюцца пры параўнанні слоўнікаў розных аўтараў, напрыклад: *адсарбаваць, інтэгроўны, інтэгравальны, мадэляванне, дазаванне, запіранне, зандаваць, прыступкавы* (*ступенькавы*), *праграмаванне* [3] і *адсарбіраваць, інтэгруемы, інтэгравальны, мадэліраванне, дазіроўка, замыканне, зандзіраваць, ступеньчаты, праграміраванне* [6]. Адсюль вынікае, што аўтары па-рознаму падыходзяць да вызначэння тыпаў матывацыйных прымет тэрмінаў і выбару для іх пэўных дэрывацыйных сродкаў. Гэта істотна ўскладняе працу па ўнармаванні тэрміналогіі як знакавай сістэмы адпаведнай сістэмы паняццяў.

Не менш важная праблема на шляху ўнармавання тэрміналогіі – выбар варыянтаў. Іх наяўнасць таксама абумоўлена рознымі фактарамі, асноўныя з якіх, на наш погляд, наступныя: а) выбар розных словаўтваральных мадэлей і тыпаў (параўн.: *часціня – частасць, паверхнасць лінейкавая – паверхня лінеістая*); б) не зусім дакладнае вызначэнне матывацыйнай прыметы (параўн.: *крыжаваты – крыжападобны*); в) не заўсёды ўдалы выбар утваральнай асновы (слова), параўн.: *функцыя прыступкавая – функцыя ступенькавая*; *рашчына халадзільная* (раствор охлаждающий), але *асяроддзе ахалоджвальнае* (среда охлаждающая); *мернік* (измеритель), але

*бэта-вымяральнік* (бета-измеритель) і да т. п. Варыянтнасць з'яўляецца вечным спадарожнікам вечнага руху мовы ўвогуле і тэрміналогіі ў прыватнасці. Але ні ў якім разе не як вечная ўласцівасць канкрэтнай моўнай адзінкі, канкрэтнага тэрміна. Па сутнасці, варыянты – гэта фармальныя мадыфікацыі, якія не "нагружаны" ні інфармацыйна, ні функцыянальна. Калі ў агульналітаратурнай мове варыянты могуць выражаць сэнсавыя ці эмацыянальна-экспрэсіўныя адценні, то ў тэрміналогіі кожны тэрмін павінен характарызавацца інтэлектуальнай чысцінёй, і таму фармальная варыянтнасць тэрмінаў збыткоўная. Аднак храналогія варыянтаў у тэрміналогіі практычна не вывучалася, хоць гэта мае істотнае значэнне для вырашэння праблемы нарматыўнасці тэрміна.

Пры ўнармаванні неабходна ўлічваць з'яву парушэння сістэмнасці тэрміналагічных адзінак. Гэта назіраецца ў выпадках, калі недастаткова ўлічваецца той факт, што многія тэрміны існуюць не самі па сабе, а ў сістэме, адносяцца да аднаго і таго ж класіфікацыйнага рада, аднаой і той жа мікрагрупы. І калі падобныя тэрміны ўтвараюцца ад розных каранёвых асноў, яны не адпавядаюць крытэрыю сістэмнасці, а значыць, і нарматыўнасці, параўн.: *вписывать – умежваць, описывать – акрэсліваць,* (в других случаях) – *апісваць* [3, с. 18, 50]. Відавочна, што лексічна суадноснасць паняццяў аднаго і таго ж класіфікацыйнага рада ў структуры тэрміна не выражана. А ў падобных выпадках пажадана, каб сутнасць суадносных паняццяў тэрміны структурна выражалі праз агульную вытворную аснову і адпаведныя класіфікацыйныя афіксы.

Немагчыма паспяхова вырашаць праблему нарматыўнасці тэрмінаў без іх аналізу ў сферы функцыянавання, без супастаўлення атрыманых характарыстык у плане зместу і структуры з характарыстыкамі тых самых тэрмінаў у сферы фіксацыі, каб выпрацаваць такія рэкамендацыі, якія будуць садзейнічаць узгодненай працы спецыялістаў адпаведных галін ведаў і тэрмінолагаў. На жаль, у такім аспекце беларуская тэрміналогія застаецца маладаследаванай, таму ў сферы функцыянавання даволі пашыраны варыянтнасць і дублетнасць, параўн.: *кішачная* і *кішэчная* (поласць), *двухслойныя* (жывёлы) і *двухслаёвая* (будова жывёл), *вузкапалы* і *вузкапальцы* (рак), *касцявыя* і *касцістыя* (рыбы), *вадаплаваючыя* і *вадаплаўныя* (птушкі), *скакальныя* і *скачковыя* (канечнасці), *вынік* і *рэзультат*, *ступенная* і *ступенчатая* (функцыя), *адыманне* і *адніманне*, *бесканечнае* (мноства) і *бясконцы* (дроб), *ахалоджванне* і *ахаладжэнне*, *часціца* і *часцінка* (рэчыва), *прыцяжэнне* і *прыцягненне*, *замкнуты* і *замкнёны* і інш.

Другі надзвычай важны аспект нарматыўнасці тэрміна – яго лінгвістычная правільнасць. Пры асвятленні гэтага пытання не заўсёды бярэцца пад увагу тое, што ў выбары тэрміна з ліку наяўных дублетаў, сінонімаў ці варыянтаў, у выбары адпаведнай дэрывацыйнай мадэлі тых ці іншых дэрывацыйных сродкаў арыентацыі толькі на ўласна лінгвістычныя крытэрыі нормы недастаткова, бо па-за ўвагай застаюцца тыя рэлевантныя асаблівасці, якія і складаюць адметнасць тэрміналагічнай нормы. Двайная залежнасць тэрміна ад агульналітаратурнай і тэрміналагічнай нормы абумоўлена месцам тэрміналогіі ў лексічнай сістэме мовы, тым, што "тэрміналагічная сістэма як сістэма інакшай семіятычнай сістэмы, чым сістэма натуральнай мовы, уваходзіць у яе на становішчы прыватнай і адасобленай сістэмы моўных знакаў" [7, с. 63]. З гэтага, у сваю чаргу, вынікае: "1) тэрміналогія вывучаецца як уласна лінгвістычны аб'ект; 2) тэрміналогія аналізуецца як самастойны аб'ект у выніку таго, што валодае шэрагам адрознівальных прымет функцыянальнага, структурна-генетычнага, лексіка-семантычнага, марфалагічнага, словаўтваральнага, нарматыўна-стылістычнага характару" [8, с. 15].

Агульналітаратурная норма прадвызначае агульную лінгвістычную правільнасць тэрмінаў, г. зн. іх адпаведнасць асаблівасцям і нормам беларускай нацыянальнай літаратурнай мовы. Тэрміналагічная норма, акрамя таго, патрабуе, каб тэрміны ў плане зместу і структуры адпавядалі тым істотным прыметам, якія абумоўлены асаблівасцямі тэрмінасістэмы. І хоць мовазнаўства ўсё яшчэ не мае несупярэчлівай тэорыі тэрмінаў, большасць даследчыкаў, аналізуючы тэрміны як знакі навуковых і тэхнічных паняццяў і як адзінкі мовы навукі, вылучаюць, як правіла, наступныя іх асаблівасці: сістэмнасць у плане зместу і структуры; адназначнасць і кананічнасць; адсутнасць дублетаў, сінонімаў, фанетычных, марфалагічных і словаўтваральных варыянтаў; нейтральнасць у плане эмацыянальнасці, экспрэсіўнасці і мадальнасці; сінтагматычная незалежнасць; кароткасць і лаканічнасць; дэрывацыйная прадуктыўнасць. Гэта значыць, што праблему выбару, нормы ў тэрміналогіі "неабходна разглядаць не толькі з чыста лінгвістычных пазіцый, але і як комплексны крытэрый адзнакі тэрмінаў" [8, с. 91]. Возьмем для прыкладу тэрміны адной мікрагрупы з розных беларуска-рускіх слоўнікаў (гл. табліцу).

У плане выражэння беларускамоўныя тэрміны адпавядаюць агульналітаратурнай норме. Калі ж зыходзіць з лагічнай схемы навукі, улічваць класіфікацыйную сістэму паняццяў і адпаведную ёй сістэму тэрмінаў, то высвятляецца,

| | | | |
|---|---|---|---|
| *восстанавливать* | – | *аднаўляць* | *аднаўляць* |
| *восстанавливаться* | – | *аднаўляцца* | – |
| *восстановимость* | – | – | |
| *восстановитель* | *адноўнік* | *адноўнік* | *аднаўляльнік* |
| *восстановительный* | *аднаўленчы* | *аднаўленчы* | *аднаўленчы* |
| *восстановление* | *аднаўленне* | *аднаўленне* | *аднаўленне* |
| *восстановленный* | – | – | *адноўлены* |
| *окисление* | *акісленне* | *акісленне* | *акісленне* |
| *окислённый* | – | – | – |
| *окислитель* | *акісляльнік* | – | – |
| *окислительный* | – | *акісляльны* | – |
| *окислительно-восстановительная реакция* | *акісляльна-аднаўленчая рэакцыя* [9] | *акісляльна-аднаўленчая рэакцыя* [10] | *акісляльна-аднаўленчая рэакцыя* [6] |

што тэрміны *адноўнік* і *аднаўленчы* не ўпісваюцца ў сістэму, параўн.: *акісляльнік – адноўнік, акісляльны – аднаўленчы*. Справа ў тым, што з пункту гледжання электроннай тэорыі хімічнай сувязі і хімічных працэсаў рэакцыі акіслення і аднаўлення з'яўляюцца ўзаемаабумоўленымі: пры акісленні рэчыва адзін ці некалькі атамаў збядняюцца электронамі, пры аднаўленні – узбагачаюцца імі. Адпаведна два рады паняційна суадносных у адной мікрагрупе тэрмінаў павінны быць сістэмнымі ў плане зместу і структуры. Апошняе не вытрымана, таму што аднатыпныя паняційна-лагічныя адносіны ў структуры адпаведных тэрмінаў выражаюцца па-рознаму (*акісляльнік – адноўнік, акісляльны – аднаўленчы*). А гэта для тэрміналогіі, дзе заканамерная спецыялізацыя слова- і формаўтваральных сродкаў, – адзнака ненарматыўнасці. Прычым крытэрый спецыялізацыі павінен улічвацца як у межах аднаго тэрмінаполя, так і ў межах усёй тэрміналагічнай сістэмы мовы, што не заўсёды рэалізуецца на практыцы (параўн.: *седло**образн**ый – седла**ваты**, порошко**образн**ый – парашка**падобны**, сахаро**видн**ый – цукра**падобны***).

Пры выбары тэрміна неабходна ўлічваць і такі крытэрый, як зручнасць утварэння вытворных. Напрыклад, прапанова ўжываць замест іншамоўных тэрмінаў *мензурка, монахраматычнасць* сваямоўныя састаўныя намінанты *мерная шклянка, вузкасць колеру* не мае тэарэтычных падстаў, бо ад іх, па-першае, нельга ўтварыць дэрываты, па-другое, увядзенне іх у сферу спецыяльнай камунікацыі прывядзе да парушэння сістэмнасці, а значыць, і нарматыўнасці (параўн.: *мерная шклянка* і *мензуркавы, вузкасць колеру* і *монахраматычны*).

Недастатковы ўлік комплекснага крытэрыю ацэнкі тэрмінаў абумоўлены дзвюма асноўнымі прычынамі:

а) сфера фіксацыі тэрмінаў ствараецца ў адрыве ад сферы функцыянавання, таму слоўнікі не заўсёды сістэмна адлюстроўваюць тыя ці іншыя класіфікацыйныя групы, падгрупы, мікрагрупы, рады тэрмінаў;

б) адсутнасць слоўніка класіфікацыйных тэрмінаэлементаў беларускай мовы.

Такім чынам, важным і актуальным для ўпарадкавання навуковай тэрміналогіі з'яўляецца вырашэнне шэрагу наступных лінгвістычных праблем:

– выяўленне тыповых значэнняў у межах як асобных галіновых тэрмінасістэм, так і ўсёй тэрміналагічнай лексікі ў адпаведнасці з класіфікацыйнымі сістэмамі, падсістэмамі, групамі, падгрупамі, мікрагрупамі, радамі, мікрарадамі сістэмы паняццяў;

– вызначэнне дэрывацыйных сродкаў (афіксаў, стандартных частак складанняў і інш.), а таксама словаўтваральных мадэлей з мэтай іх магчымага замацавання за пэўнымі тыпамі значэнняў;

– вылучэнне тыпаў матывацыйных прымет тэрмінаў і вызначэнне для іх адназначных эквівалентных дэрывацыйных сродкаў;

– стварэнне па розных галінах навукі і тэхнікі поўных рэестраў тэрмінаў з уключэннем у іх склад усіх намінатыўна-тэрміналагічных адзінак са сферы фіксацыі і сферы функцыянавання, у тым ліку дублетаў, сінонімаў, варыянтаў, полісемантаў.

**Спіс літаратуры**

1. **Наша Ніва.** – 1908. – № 2.
2. **Гарэцкі, М.** Развагі і думкі / М. Гарэцкі // Вялікодная пісанка. – Вільня, 1914.
3. **Сухая, Т.** Тэрміналагічны слоўнік па вышэйшай матэматыцы для ВНУ / Т. Сухая, Р. Еўдакіменка, В. Траццяковіч, Н. Гудзень. – Мінск, 1993.
4. **Цысік, А.** Аб мэтазгоднасці ўжывання лацінскіх транслітараваных тэрмінаў у беларускай медычнай тэрміналогіі / А. Цысік // Першая нацыянальная канферэнцыя "Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі" (Мінск, 4 – 6 мая 1994 г.). – Мінск, 1995.
5. **Самайлюкевіч, У.** Руска-беларускі фізічны слоўнік / У. Самайлюкевіч, У. Пазняк, А. Сабалеўскі. – Мінск, 1994.
6. **Костюкович, Н. Н.** Русско-белорусский словарь математических, физических и технических терминов / Н. Н. Костюкович, В. В. Люштик, В. К. Щербин. – Минск, 1995.
7. **Даниленко, В. П.** Русская терминология : Опыт лингвистического описания / В. П. Даниленко. – М., 1977.
8. **Даниленко, В. П.** Терминологическая норма : К проблеме типологии терминов / В. П. Даниленко, Л. И. Скворцов // Проблемы разработки и упорядочения терминов в Академиях союзных республик. – М., 1983.
9. **Руска-беларускі слоўнік хімічных тэрмінаў** / укл. І. А. Семяновіч, А. С. Ціханаў, В. А. Канаш. – Мінск, 1995.
10. **Руска-беларускі слоўнік хімічных тэрмінаў** / укл. М. П. Бузук, Л. Д. Палячонак, С. У. Ясінская. – Магілёў, 1998.

*Пачынальнікі*

# ЛІНГВІСТЫЧНЫЯ ЛАНДШАФТЫ ЮЗЭФЫ МАЦКЕВІЧ



100

Аўтарытэт, павага і прызнанне ў любой сферы прафесійнай дзейнасці прыходзяць да чалавека не толькі і не столькі праз талент і здольнасці да паспяховай рэалізацыі сябе ў гэтай галіне, а найперш праз вялікую штодзённую працу. Менавіта ўзровень працаздольнасці і вызначае ступень грамадскай удзячнасці кожнаму з нас за здзейсненае. Для мяне ўзорам працавітасці і выключных чалавечых духоўных якасцей была і назаўсёды засталася мая Настаўніца, самаадданы навуковец, шчыры і душэўны чалавек, аўтарытэтны даследчык роднай мовы Юзэфа Фларыянаўна Мацкевіч – доктар філалагічных навук, прафесар, член-карэспандэнт Акадэміі навук Беларусі, заслужаны дзеяч навукі Беларусі, лаўрэат дзяржаўных прэмій СССР (1971) і Рэспублікі Беларусь (2000).

З’явілася на свет Юзэфа Мацкевіч 27 ліпеня 1911 г. у вёсцы Ухлё Чашніцкага раёна Віцебскай вобласці ў беднай сялянскай сям’і арандатараў з Глыбоччыны, якой часта даводзілася вандраваць з месца на месца. Калі ў дзесяцігадовым узросце дзяўчынка засталася сіратою, на ўтрыманне і выхаванне яе ўзяў старэйшы брат Казімір – на той час рабочы Шклоўскай папяровай фабрыкі. У Шклове яна атрымала сямікласную адукацыю, потым паступіла ў Магілёўскі педтэхнікум, пасля заканчэння якога пачала нялёгкую і пачэсную настаўніцкую працу ў пачатковай школе (1931 – 1933).

Праз два гады напружанай навучальнай дзейнасці ўзнікла моцнае жаданне паглыбіць свае веды ў абранай галіне, і Юзэфа Мацкевіч пасля аднагадовых падрыхтоўчых курсаў у Магілёве для паступлення ў ВНУ стала студэнткай факультэта мовы і літаратуры Мінскага педінстытута (1934 – 1938). Пасля заканчэння яго ў 1938 г. яна паступіла ў аспірантуру Інстытута мовы і літаратуры Акадэміі навук БССР, дзе пад кіраўніцтвам прафесара Я. Істрыной (Ленінград) працавала над кандыдацкай дысертацыяй па старабеларускай мове.

Ваеннае ліхалецце на ўсё жыццё пакінула ў душы глыбокія незагойныя раны. Было ўсё: і пошукі страчаных у пачатку вайны маленькіх дачушак, і ўдзел у барацьбе з ворагам у якасці сувязной партызанскай брыгады “Смерць фашызму”, і страта мужа, які загінуў у ленінградскім апалчэнні…

З 1945 г. Юзэфа Мацкевіч пачала працаваць у сектары мовы Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва Акадэміі навук Беларусі, якім кіраваў у той час Кандрат Крапіва. Даследчыца ўдзельнічала ва ўкладанні “Руска-беларускага слоўніка” (1953) і завяршыла напісанне кандыдацкай дысертацыі “Літоўскі статут 1529 года як помнік беларускай літаратурнай мовы XV – пачатку XVI стагоддзя”, якую паспяхова абараніла ў 1946 г.

З аднаўленнем на Беларусі дыялекталагічных даследаванняў Юзэфа Фларыянаўна з энтузіязмам пераключылася на гэтую навуковую галіну, якая стала галоўным аб’ектам яе навуковых інтарэсаў на ўсё далейшае жыццё. Пачалася складаная і карпатлівая праца па стварэнні “Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы” (ДАБМ), якой амаль з першых крокаў як загадчык сектара дыялекталогіі (1950) кіравала Юзэфа Мацкевіч. Яна ўдзельнічала ў планаванні працы, наладжвала супрацоўніцтва з рускімі і ўкраінскімі дыялектолагамі, рыхтавала выкладчыкаў і студэнтаў педагагічных устаноў Беларусі да палявых даследаванняў па праграме атласа. У выніку “Дыялекталагічны атлас беларускай мовы” (1963) стаў адным з найбуйнейшых навуковых здабыткаў айчыннай дыялекталогіі пасляваеннага часу і надзейным тэарэтычна-метадалагічным фундаментам для здзяйснення ў далейшым новых значных лінгвагеаграфічных праектаў.

Наступны крок у гэтым напрамку – “Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак” (1968 – 1969), абагульняльная праца па матэрыялах ДАБМ, падрыхтаваная па ініцыятыве і пад кіраўніцтвам Рубена Аванесава і Юзэфы Мацкевіч. Гэтыя дзве лінгвагеаграфічныя працы, а таксама выдадзеныя ў той жа час “Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі” (1962) і “Нарысы па беларускай дыялекталогіі” (1964) сталі адметнай з’явай ва ўсім савецкім мовазнаўстве. Таму ў

1971 г. за комплекс прац “Беларуская лінгвістычная геаграфія” Юзэфе Мацкевіч у складзе аўтарскага калектыву была прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР.

Аналізу спосабаў утварэння граматычных катэгорый і формаў спражэння дзеяслова ў беларускай дыялектнай мове і іх выкарыстанню ў мастацкай літаратуры прысвечана манаграфія Юзэфы Мацкевіч “Марфалогія дзеяслова ў беларускай мове” (1959), паспяхова абароненая ёю ў 1963 г. у якасці доктарскай дысертацыі.

У плане далейшага развіцця лінгвагеаграфічнай навукі на Беларусі пад кіраўніцтвам Юзэфы Мацкевіч з 1970 г. упершыню на тэрыторыі СССР пачалася рэалізацыя новага маштабнага праекта – стварэнне пяцітомнага “Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак” (1993 – 1998). Значнасць ажыццёўленага праекта для айчыннай мовазнаўчай навукі пацвярджаецца прысуджэннем у 2000 г. аўтарскаму калектыву атласа на чале з Ю. Ф. Мацкевіч Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне фундаментальных навуковых даследаванняў.

Плённая праца беларускіх дыялектолагаў над “Лексічным атласам…” актывізавала цікавасць навукоўцаў і шэрагу аматараў роднай мовы да вывучэння лексічнага складу гаворак. У выніку з 60-х г. ХХ ст. у Беларусі пачалі актыўна друкавацца шматлікія рэгіянальныя лексікаграфічныя выданні. Актыўна ўключылася ў гэтую справу і Юзэфа Мацкевіч, стаўшы ініцыятарам, кіраўніком і аўтарам самай буйной лексікаграфічнай працы ў беларускай дыялекталогіі – пяцітомнага “Слоўніка беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча” (1979 – 1986), які змяшчае больш за 40 тыс. слоўнікавых артыкулаў.

Як аўтарытэтны спецыяліст, умелы арганізатар і аўтар шматлікіх навуковых прац у галіне беларускай дыялекталогіі Ю. Мацкевіч першай з супрацоўнікаў Інстытута мовазнаўства пасля Вялікай Айчыннай вайны ў 1968 г. была абрана членам-карэспандэнтам Акадэміі навук Беларусі, а ў 1978 г. ёй прысвоілі ганаровае званне заслужанага дзеяча навукі Беларусі. Грамадская і навуковая дзейнасць Юзэфы Мацкевіч неаднаразова адзначалася высокімі ўрадавымі ўзнагародамі – ордэнамі, медалямі, ганаровымі граматамі. Толькі ў 1991 г. яна пакінула актыўную навуковую працу і пайшла на заслужаны адпачынак.

Не стала Ю. Мацкевіч у 2003 г. Аднак засталіся яе грунтоўныя навуковыя артыкулы, лінгвістычныя атласы, дыялектныя слоўнікі, што заўсёды будуць узорам для новых пакаленняў беларускіх дыялектолагаў. Засталіся шматлікія вучні, якія ніколі не перастануць захапляцца яе велізарнай працавітасцю, жыццёвай мудрасцю, чалавечай мужнасцю, дабрынёй і спагадлівасцю.

**Павел МІХАЙЛАЎ,**
кандыдат філалагічных навук.

*Малады даследчык прапануе*

# ФАРМІРАВАННЕ НОРМЫ ЎЖЫВАННЯ КАНЧАТКАЎ НАЗОЎНІКАЎ III СКЛАНЕННЯ Ў РОДНЫМ СКЛОНЕ МНОЖНАГА ЛІКУ

Апошнім часам шмат пытанняў узнікае пры ўжыванні назоўнікаў III скланення ў родным склоне множнага ліку. Пасля аналізу тэкстаў з перыядычных выданняў можна зрабіць вывад аб значным пашырэнні і амаль рэгулярным ужыванні канчаткаў *-аў* (*-яў*) пры такім тыпе форм, што, аднак, яшчэ не з’яўляецца нарматыўным: *Вядомы пісьменнік Анарэ дэ Бальзак неяк сказаў, што талент – гэта развіццё прыродных* ***здольнасцяў*** (Бярозка, 2006, № 11, с. 5); *Так, у Беларускім дзяржаўным тэхналагічным універсітэце абітурыенты “штурмавалі” спецыяльнасці “тэхналогія хімічных* ***вытворчасцяў****” і “лесаапрацоўчая вытворчасць”* (Раніца, 2006, № 31, с. 3); *Россып каляровых* ***дэталяў*** (Бярозка, 2009, № 8, с. 45). Формы з *-ей* (*-эй*) становяцца хутчэй выключэннем, чым правілам: *Мы вырашылі паэксперыментаваць з гукам, колькі хопіць нашых фантазій і* ***магчымасцей*** (Бярозка, 2008, № 12, с. 59).

Сярод прычын пашырэння канчаткаў -аў (*-яў*) у назоўніках III скланення ў родным склоне множнага ліку можна вылучыць наступныя:

1) варыянтнасць кадыфікацыі такіх словаформ;
2) дыялектны ўплыў;
3) тэндэнцыя да ўніфікацыі склонавых форм;
4) пурыстычныя тэндэнцыі;
5) фанетычны і акцэнталагічны ўплыў.

У канцы ХХ – пачатку ХХІ ст. назіраецца тэндэнцыя да ўніфікацыі ўсіх форм множнага ліку

з канчаткамі *-аў* (*-яў*). Адна з прычын – агульнае спрашчэнне граматычнай сістэмы, якое адбываецца ў многіх мовах свету, другая – спецыфічнасць скланення назоўнікаў у множным ліку: калі ў формах адзіночнага ліку выразныя родавыя адрозненні, то ў множным яны страчваюць сваю сілу [1, с. 139]. Яшчэ са старажытнасці адбывалася перараскладанне тыпаў словаформ. Большасць сучасных назоўнікаў III скланення належала да былой групы назоўнікаў з асновай на *-ĭ-* разам з некаторымі словамі мужчынскага роду (*пуць, дзень, гасподзь, голуб, госць, мядзведзь, лебедзь* і інш.). З цягам часу назоўнікі мужчынскага роду на *-ĭ-* прымкнулі да лексем з асновай на *-ŏ-*, захаваўшы некаторыя асаблівасці. Лексемы *мазоль, цень, дроб, жаль, запіс* у беларускай мове перайшлі ў мужчынскі род і маюць, адпаведна, канчаткі *-аў* (*-яў*), у рускай мове яны засталіся ў жаночым родзе і III скланенні, што пры недастатковым веданні гэтых асаблівасцей, а таксама пад моцным уплывам групы лексем мужчынскага роду, магчыма, адаб'ецца на ўжыванні назоўнікаў III скланення. Некаторыя лексемы ў моўнай практыцы маюць варыянтнасць роду: *кішэнь* (ж. р.) → *кішэнь* (м. р.), *кішэня*; словы *рысь* (ж. р.), *лебедзь* (м. р.) могуць называць самку і самца. *Дробязь* мае паралельную форму *драбяза*; *скронь* → *скроня*; *даль, далеч, далячынь* → *далечыня*. Трэба адзначыць, што ў пачатку XX ст. па тыпе назоўнікаў жаночага роду на зычны ў множным ліку скланяліся назоўнікі *сані, гуслі, дзверы, сені*, а таксама *куры, людзі, чэрці*, што гаворыць аб незавершанасці на той час фарміравання трохтыпнай сістэмы назоўнікаў. У сучаснасці незавершанасць пацвярджаецца варыянтнасцю ўжывання флексій былых назоўнікаў на *-ĭ-* мужчынскага роду *гасцей* – *госцяў* (часам ад *госця*, ж. р.), *лапцей* – *лапцяў*.

Канчатак *-ей* у назоўніках жаночага роду на мяккі зычны развіўся з былога канчатка *-ьй* (з *-ьјь*) – *мьстеи, костеи, голенеи*, у ненаціскным становішчы праяўляўся *-ий* – *темностий, речій*. Аднак канчатак *-аў*, які выйшаў са старажытнага скланення на *-й-*, набыў спецыфічную толькі для беларускай мовы значную распаўсюджанасць ва ўсіх тыпах скланення, што з'яўляецца падставай для актыўнага ўжывання яго прыхільнікамі пурыстычных ідэй.

Пурыстычныя тэндэнцыі сталі выразна праяўляцца ў беларускай мове ў канцы 1980-х гг. па прычыне ідэалагічнай "перабудовы", перагляду гісторыі і адмаўлення ад савецкіх ідэалаў і працягваюцца ў 2000-я гг. – як рэакцыя на засілле рускай мовы ў сферы грамадскіх зносін, СМІ. Многія аўтары і выданні ўводзяць у мову публікацый тыя словаўтваральныя і граматычныя формы, якія падкрэслілі б адрозненне беларускай мовы ад рускай і паказалі агульнасць беларускай мовы з іншымі славянскімі. Адным з прынцыпаў для пурыстаў з'яўляецца адмова ад норм, зацверджаных пастановай СНК БССР "Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу…" 1933 г., скіраванай на збліжэнне беларускай і рускай моў. У дачыненні да назоўнікаў III скланення ў родным склоне множнага ліку былі ўніфікаваныя флексіі гэтых словаформ да адзіных *-эй* (*-ей*): *начэй, мышэй, народнасцей, далоней, арцелей*. Але і ў пачатку XX ст. такія формы ўжываліся, напрыклад у газеце "Наша Ніва": *начэй, мышэй, хітрасцей, валасьцей* [2, с. 140]. Трэба адзначыць, што канчатак *-ей* характэрны для назоўнікаў III скланення роднага склону множнага ліку трох усходнеславянскіх моў: *абласцей* – *областей* (рус.) – *областей* (укр.) [3, с. 26]. Памылковыя і сцвярджэнні аб ускосным уплыве польскай мовы [4, с. 224], дзе ў такіх выпадках ужываюцца канчаткі *-і* (*-у*) – *kości, myśli, rzeczy*.

Варыянтнасць у кадыфікацыі канчаткаў назоўнікаў III скланення назіралася на працягу ўсяго XX ст. Б. Тарашкевіч, Я. Лёсік прапаноўвалі наступную парадыгму: *-эй* (*-ей*) – пад націскам, не пад націскам *-аў* (*-яў*) – *касьцéй, часьцéй, мышэ́й* (*мы́шаў*), *гусéй, пéчаў, рэ́чаў* (*рачэ́й*), *нóчаў* (*начэ́й*), *вéдамасьцяў, зáпаведзяў, далóняў*. "Беларуская граматыка" (1936) вызначала нарматыўным *-эй* (*-ей*) – *арцелей, сенажацей, начэй, пячэй, мышэй, касцей*, аднак дапускала *дробязяў, меншасцяў, сенажацяў* у ненаціскным становішчы. У "Граматыках беларускай мовы" Ю. Шакаля, М. Жыркевіча (ч. 1, 1940) і М. Жыркевіча, А. Карзона (ч. 1, 1948) прымалася паралельнае ўжыванне *-эй / -ей* і *-аў / -яў*: *арцелей* (*-яў*), *нацыянальнасцей* (*-яў*), *верфей* (*-яў*); *мышэй* (*-аў*), але *касьцей, рэчаў*. У "Граматыцы беларускай мовы" (1962) прапаноўвалася наступнае: *-ей* для назоўнікаў на мяккі і губны зычны (*цяжкасцей, сенажацей, далей, восей*), для назоўнікаў на шыпячы націскны канчатак *-эй* (*начэй*), не пад націскам – *-аў* (*рэчаў*).

А. Наркевіч нарматыўнымі лічыў толькі флексіі *-эй* (*-ей*) (Назоўнік. Граматычныя катэгорыі і формы; 1976): *касцей, сенажацей, восей, гусей*, але *рэчаў*, а таксама *кішэняў, далячыняў* (назоўнікі з нявызначаным скланеннем). Л. Бурак (Сучасная беларуская мова; 1974) улічваў характар асновы і націск. Большасць назоўнікаў на мяккія зычныя незалежна ад націску ўжывалася з *-ей*: *гусéй, касцéй* і *лáней, пóстацей, рáдасцей, далóней*, пад націскам на цвёрдыя – з *-эй*: *начэ́й, мышэ́й*. Не пад націскам дапускаўся канчатак *-аў* (*-яў*): *печаў, рэчаў, даляў, верфяў* і *арцелей* (*-яў*), *сенажацей* (*-яў*). Я. Адамовіч (Сучасная беларуская мова; 1975) таксама прытрымліваўся гэтага

прынцыпу: *сенажацей* (*-яў*), *асаблівасцей* (*-яў*), *вадкасцей* (*-яў*), але *начэй, касцей, мышэй* (канчатак пад націскам).

Аўтары "Беларускай граматыкі" (1985) прапаноўвалі ўжываць *-ей* не пад націскам пры аснове на збег зычных (*адле́гласцей, во́дарасцей, ве́рфей*), у двухскладовых і шматскладовых назоўніках з асновай на адзін зычны і большасці аднаскладовых назоўнікаў (*абро́цей, ла́ней, мадэ́лей, за́вадзей, магістра́лей*, аднак *бандэро́ляў, гра́няў, плы́няў, арце́ляў*); *-ей* пад націскам – для некалькіх аднаскладовых назоўнікаў з асновай на мяккі зычны (*гусе́й, касце́й, ніце́й, страсце́й*), складаных назоўнікаў з кампанентам *-часць* (*мотачасцей, авіячасцей*), а таксама ў лексемах *абласцей, крывей, свекрывей*. Часам не пад націскам прыводзіліся *абро́цяў, бандэро́ляў, гра́няў, плы́няў, скро́няў, да́ляў*. Лексемы *печ, мыш, ноч* замацоўваліся з канчаткам *-эй*, але *рэчаў, флешаў, шчолачаў*. П. Шуба (Сучасная беларуская мова; 1987) для некаторых лексем формы з *-аў* (*-яў*) лічыў замацаванымі і асноўнымі – *даляў, зданяў, напасцяў, трэляў*, а таксама *рэчаў*. Падручнікі 1990-х гг. таксама прымалі варыянтнасць канчаткаў *-аў* (*-яў*) на падставе ненаціскнога становішча канчатка або распаўсюджанасці той ці іншай формы ў гутарковай мове*: гусей, нацыянальнасцей, начэй, мышэй, часцей, абласцей*, але *рэчаў, шчолачаў, даляў* і *асаблівасцей* (*-яў*), *вадкасцей* (*-яў*), *сенажацей* (*-яў*), *пячэй* (*печаў*). "Кароткая граматыка беларускай мовы" (2007) прытрымліваецца прынцыпаў акадэмічных граматык 1962 і 1985 гг.: *плыней, сенажацей, гусей, касцей, страсцей, абласцей, мотачасцей, крывей, свекрывей*; на цвёрды зычны: *мышэй, пячэй*. Аднак аўтары "Кароткай граматыкі…" канстатуюць, што ў апошні час выкарыстанне канчатка *-аў* (*-яў*) мае тэндэнцыю да нарматыўнага замацавання: *магчымасцяў, якасцяў, восяў, дробязяў, ночаў, печаў* [5, с. 161]. З канчаткамі *-аў* (*-яў*) кадыфікаваны назоўнікі *рэчаў, флешаў, шчолачаў, даляў.*

Адзінага падыходу не назіраецца і ў падачы канчаткаў назоўнікаў III скланення сучаснымі слоўнікамі. Напрыклад: *мель – -яў* (БАС), *-ей / -яў* (ССБМ, ГСН, СЦ-05), *якасць – -ей / -яў* (ССБМ, БП-03), *-ей* (БАС, ГСН), *-ей / -яў*, *печ – -эй / -аў* (ССБМ, БАС), *-аў / -эй* (ГСН), толькі *-аў* (СЦ-05). Найчасцей варыянтнасць *-ей / -яў* маюць лексемы з асновай на адзін мяккі зычны (як шматскладовыя, так і аднаскладовыя): *акварэлей* (*-яў*), *віяланчэлей* (*-яў*), *мішэней* (*-яў*), *павецей* (*-яў*), а таксама *ланей* (*-яў*), *зданей* (*-яў*), *гацей* (*-яў*) і інш. Канчатак *-ей* – назоўнікі з асновай на адзін зычны ці збег зычных, дзе націск не прыпадае на апошні склад асновы або прыпадае на канчатак: *во́сеней, кашто́ўнасцей, ме́ншасцей, па́парацей* і *гусе́й.* Толькі з *-яў* зафіксаваны *пропаведзяў, прописяў, проразяў*. З канчаткам *-ей* традыцыйна ўжываюцца *свекрывей, абласцей, часцей, трацей*, але *чвэрцей* (*-яў*), *рэчаў*.

Як бачым, істотны фактар – націскное або ненаціскное становішча канчатка. Да таго ж у беларускай мове галосныя перадаюцца пераважна згодна з фанетычным прынцыпам (напісанне ідзе за вымаўленнем і адлюстроўвае гукі ў слабых пазіцыях) [6, с. 120], што ілюструюць новыя "Правілы арфаграфіі і пунктуацыі" (2008), паводле якіх ненаціскныя фіналі *-эль, -эр* у запазычаных словах перадаюцца як *-аль, -ар*: *шні́цаль, фо́рталь, грэ́йдар, камп'ю́тар, тэ́ндар, а́льма-ма́тар.* Гэта дае падставы пашырыць перадачу акання ў ненаціскных пазіцыях у іншых марфемах назоўнікаў. У 1969 г. А. Каўрус у артыкуле "*Граняў* ці *граней*"? (Полымя, № 2) спасылаўся на сцвярджэнні Ф. Янкоўскага (Беларускае літаратурнае вымаўленне; 1966) аб тым, што ў паслянаціскных складах галосныя *е, я* вымаўляюцца як *е*, набліжанае ў большай ці меншай меры да *я*, напрыклад: [*бо́л'**е**^я^й, да́л'**е**^я^й, со́л'**е**^я^й, дало́н'**е**^я^й*], а таксама гаварыў аб "неабмежаваным выяўленні гука *э*, блізкага да *а*, у паслянаціскным складзе… у спалучэнні з зычнай *ў*". Гэтым даследчык аргументаваў "ненатуральнасць вымаўлення канчатка *-ей*" і выступаў за наданне статусу адзінага канчатка *-яў* для групы назоўнікаў III скланення з націскам на аснове (апошнім складзе асновы для шматскладовых). Гэта, дарэчы, смела супярэчыла пазіцыям М. Булахава аб "адзіным граматычным законе" і канчатку *-ей* для назоўнікаў III скланення (Аб нармалізацыі беларускай літаратурнай мовы // Полымя, 1953, № 11).

Пачынаючы з 1940-х гг. граматысты прыйшлі да думкі аб ужыванні канчаткаў *-аў* (*-яў*) як аб праяўленні дыялектных форм. Вымаўленне *-а* пасля мяккіх зычных у закрытых складах не пад націскам у назоўніках усіх груп характэрна для паўднёва-заходніх гаворак, у прыватнасці – для гродзенска-баранавіцкай групы (моцнае недысімілятыўнае аканне) [7, с. 214]. Паводле "Лінгвістычнага атласа беларускіх народных гаворак" (т. 5, 1995), у назоўніках III скланення ў родным склоне множнага ліку пераважае флексія *-эй* (*-ей*) – *начэ́й, нучэ́й, нацэ́й, но́чэй* (гл. карту). Яна фіксуецца на тэрыторыі амаль усёй Беларусі, з'яўляецца асноўнай у паўночна-ўсходніх гаворках (Віцебская, Магілёўская вобласці, поўнач Мінскай), Брэсцкім і Гомельскім Палессі. Флексіі *-ай* (*-аў*) – *но́чай, но́чаў* дамінуюць у групе гродзенска-баранавіцкіх і часткова сярэднебеларускіх гаворак па лініі Іўе – Валожын – Мінск – Старыя Дарогі – Ганцавічы – Пружаны. Таксама

дадзены тып флексій сустракаецца на паўднёвым усходзе ў Рагачоўскім, Гомельскім, Рэчыцкім, Жлобінскім раёнах (сярэднебеларускія гаворкі). Эпізадычна ў беларускіх гаворках сустракаюцца формы *но́чів* (Маларыцкі раён), *но́чыв* (Драгічынскі раён), *но́чув* (Камянецкі і Кобрынскі раёны), верагодна, па прычыне ўзаемадзеяння з украінскімі дыялектамі, дзе формы мужчынскага роду *-ів / -їв* (з фанетычнымі варыянтамі *-іў, -ыў, -уў, -ўў*), распаўсюдзіліся і на жаночы род. Сустракаюцца таксама формы *ноч* (Свіслацкі раён), *начо́ў* (Мядзельскі раён). Значыць, нягледзячы на дамінаванне флексіі *-эй* (*-ей*) у гаворках, дыялектныя асаблівасці паўднёва-заходніх гаворак пачынаюць актыўна пранікаць у граматыку літаратурнай мовы і займаць там лідарскія пазіцыі, што з'яўляецца распаўсюджанай з'явай для многіх граматычных форм і лічыцца таксама праяўленнем пурыстычных ідэй.

**Карта.** Распаўсюджанне форм назоўніка *ноч* у родным склоне множнага ліку ў беларускіх гаворках.




□ – эпізадычнае ўжыванне формы *но́чыв*
⌂ – эпізадычнае ўжыванне формы *но́чув*
❖ – эпізадычнае ўжыванне формы *но́чів*
❁ – эпізадычнае ўжыванне формы *начо́ў*
☒ – эпізадычнае ўжыванне формы *ноч*
– зона распаўсюджанасці форм *но́чаў*
– зона распаўсюджанасці форм *начэ́й*

Такім чынам, у апошнія гады мы назіраем развіццё новай тэндэнцыі, што адбываецца ў непасрэднай пісьмовай практыцы. Гэта павінна быць улічана граматыстамі, бо для нармалізацыі мовы неабходная выпрацоўка трывалых прынцыпаў напісання. Сёння гэтага не хапае ў мове СМІ, якія, між іншым, істотна ўплываюць на грамадскую свядомасць і моўную культуру. У прыватнасці, для выкарыстання назоўнікаў III скланення ў родным склоне множнага ліку можна выказаць наступныя прапановы: 1) вяртанне да ўніфікацыі флексій: *-ей* – пры ўсіх мяккіх асновах (*падрабязнасцей, грубасцей, вертыкалей, сталей, прыстаней, спецыяльнасцей*), *-эй* – пры асновах на цвёрды зычны (*начэй, пячэй, мышэй*, за выключэннем *рэчаў*); 2) ужыванне флексій паводле тыпу асновы і націску: мяккая аснова, націск на канчатку або не на апошнім складзе асновы – *-ей* (*гусе́й, абласце́й, часце́й, свекрыве́й* і *кашто́ўнасцей, ме́ншасцей, по́стацей*); мяккая аснова, націск на апошнім складзе асновы і аднаскладовыя назоўнікі – *-яў* (*дэта́ляў, жырандо́ляў, мішэ́няў, паве́цяў, сто́ляў, ла́няў*); цвёрдая аснова, націск на канчатку – *-эй* (*пячэ́й, начэ́й, мышэ́й*); цвёрдая аснова, націск на аснове – *-аў* (*рэ́чаў, шчо́лачаў*).

**Спіс літаратуры**

1. **Ляпёшкін, В. У.** Варыянтнасць форм назоўнікаў роднага склону множнага ліку / В. У. Ляпёшкін // Пытанні культуры мовы / пад рэд. А. І. Падлужнага. – Мінск : Нар. асвета, 1991.
2. **Анісім, А. М.** Склонавая парадыгма назоўнікаў у “Нашай Ніве” (1906 – 1915) / А. М. Анісім // Беларуская лінгвістыка. – 2008. – Вып. 62.
3. **Анічэнка, У. В.** Марфалогія ўсходнеславянскіх моў / У. В. Анічэнка. – Мінск : Выш. школа, 1973.
4. **Шуба, П. П.** Польскі ўплыў на мову беларускіх сродкаў масавай інфармацыі / П. П. Шуба // Узаемадзеянне літаратур і моў. – Гродна : ГрДУ імя Я. Купалы, 1995.
5. **Кароткая граматыка беларускай мовы** : у 2 ч. – Мінск : Беларус. навука, 2007. – Ч. 1.
6. **Сямешка, Л. І.** Беларуская мова. Уводзіны ў навуку аб мове. Фанетыка. Арфаэпія. Графіка. Арфаграфія / Л. І. Сямешка. – Мінск : Сучаснае слова, 1999.
7. **Крывіцкі, А. А.** Фанетыка беларускай мовы / А. А. Крывіцкі, А. І. Падлужны. – Мінск : Выш. школа, 1984.

**Скарачэнні**

**БАС** – Беларускі арфаграфічны слоўнік. – Мінск, 2009; **ССБМ** – Слоўнік сучаснай беларускай мовы. – Мінск, 2009; **ГСН** – Граматычны слоўнік назоўніка. – Мінск, 2008; **СЦ-03** – Слоўнік цяжкасцяў беларускай мовы. – Мінск, 2003; **СЦ-05** – Слоўнік цяжкасцей беларускай мовы. – Мінск, 2005.

**Кацярына ШЧАСНАЯ,**
аспірантка Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі.

*Міжпрадметныя сувязі*

# МОВА І КУЛЬТУРА Ў АСПЕКЦЕ ЛІНГВАКУЛЬТУРАЛОГІІ

Як вядома, у сучаснай навуцы ёсць больш за 200 азначэнняў культуры. Такое шырокае разуменне паняцця, як нам здаецца, можна растлумачыць тым, што шматлікія з азначэнняў былі прапанаваны ў розных галінах ведаў, бо феномен культуры стаў вывучацца не толькі сумежнымі навукамі. Развіццё антрапалагічнага кірунку ў мовазнаўстве непазбежна прывяло да неабходнасці вывучэння сувязі мовы і культуры. Так з'явілася новая дысцыпліна – лінгвакультуралогія.

Тэрмін "лінгвакультуралогія" ўзнік у сувязі з працамі фразеалагічнай школы В. Тэліі і публікацыямі В. Вараб'ёва, В. Маславай і іншых [11, 4, 8]. В. Тэлія вызначае лінгвакультуралогію як частку этналінгвістыкі, прысвечаную вывучэнню і апісанню карэспандэнцыі мовы і культуры ў іх сінхронным узаемадзеянні. "Гэта – навука, якая ўзнікла на стыку лінгвістыкі і культуралогіі і даследуе праявы культуры народа, што адбіліся і замацаваліся ў мове" [11, с. 217].

Лінгвакультуралогія – "комплексная навуковая дысцыпліна, што вывучае ўзаемасувязь і ўзаемадзеянне культуры і мовы ў яе функцыянаванні і адлюстроўвае гэты працэс як цэласную структуру адзінак у адзінстве іх моўнага і пазамоўнага (культурнага) зместу" [9, с. 26; 10, с. 4].

З пункту гледжання семіётыкі культура – гэта некаторы аб'ём ведаў (інфармацыі), які выпрацоўвае чалавецтва для адэкватнай інтэрпрэтацыі таго, што гавораць і робяць людзі.

Ёсць розныя пункты гледжання на аб'ект лінгвакультуралогіі. Так, напрыклад, С. Варкачоў піша, што аб'ект лінгвакультуралогіі (галіна рэчаіснасці) – узаемадзеянне мовы, якая выступае як транслятар культурнай інфармацыі, і культуры – гістарычнай памяці народа.

Асноўным аб'ектам лінгвакультуралогіі В. Вараб'ёў называе "ўзаемасувязь і ўзаемадзеянне культуры і мовы ў працэсе яе функцыянавання і вывучэнне інтэрпрэтацыі гэтага ўзаемадзеяння ў адзінай сістэмнай цэласнасці", а прадметам дадзенай дысцыпліны, па меркаванні вучонага, з'яўляюцца "нацыянальныя формы быцця грамадства, адноўленыя ў сістэме моўнай камунікацыі і заснаваныя на яго культурных каштоўнасцях", – усё, што складае "моўную карціну свету" [4, с. 32].

У літаратуры былі адзначаны як падабенства прыкмет, што характарызуюць культуру і мову, так і іх адрозненне. Падабенства прыкмет дазваляе разглядаць узаемадзеянне мовы і культуры на адзінай метадалагічнай аснове. Разгледзім гэтыя прыкметы.

1. Культура і мова – гэта формы свядомасці, якія адлюстроўваюць светапогляд чалавека і народа. 2. Мова і культура існуюць у дыялогу паміж сабой, паколькі суб'ект маўлення і яго адрасат – гэта заўсёды суб'екты культуры. 3. Абодва феномены маюць індывідуальныя або грамадскія формы існавання, суб'ект культуры і мовы – заўсёды індывід або соцыум, асоба або грамадства. 4. Агульная для мовы і культуры рыса – нарматыўнасць. 5. Гістарызм – адна з сутнасных уласцівасцей мовы і культуры (антынамія "дынаміка" або "статыка"). 6. Культура – своеасаблівая гістарычная памяць народа. Мова захоўвае і ўзбагачае калектыўную памяць дзякуючы кумулятыўнай (назапашвальнай) функцыі [9, с. 124 – 126].

І ў той жа час паміж двума найважнейшымі атрыбутамі чалавека і грамадства існуюць значныя адрозненні. 1. У мове як сродку камунікацыі пераважае ўстаноўка на масавага адрасата, а ў культуры цэніцца элітарнасць. 2. Культура як знакавая сістэма (у адрозненне ад мовы) не здольная да самаарганізацыі. 3. Мова і культура – гэта розныя семіятычныя сістэмы. Такое супастаўленне прыводзіць даследчыкаў да высновы, што культура не ізаморфная, а структурна падобная да мовы [8, с. 39]. Культурная кампетэнцыя не супадае з моўнай: "…пераключэнне моўнай кампетэнцыі ў культурную заснавана на інтэрпрэтацыі моўных знакаў у катэгорыях культурнага кода. Валоданне такога роду інтэрпрэтацыяй і ёсць культурна-моўная кампетэнцыя" [8, с. 127].

Адзначаючы ўзаемасувязь дзвюх мадэлей свету – канцэптуальнай і моўнай, Ю. Сцяпанаў перасцерагае ад іх узаемнай падмены: "Нельга пераносіць моўную мадэль на прадметную галіну культуры і, наадварот, мадэль культуры на прадметную галіну мовы" [10, с. 331].

Задача лінгвакультуралогіі ў тым, каб экспліцыраваць культурную значнасць моўнай адзінкі ("культурныя веды") шляхам суаднясення прататыпнай сітуацыі фразеалагізма або іншай моўнай адзінкі, іх сімвальнага прачытання з вядомымі "кодамі" культуры.

У вывучэнні праблемы "мова і культура" пазначылася некалькі падыходаў. Першы, які

распрацоўваўся савецкімі філосафамі (С. Атаноўскі, Г. Бруцян, Э. Маркаран), зыходзіць з аднабаковага ўздзеяння культуры на мову. Са зменай рэчаіснасці змяняюцца культурна-нацыянальныя стэрэатыпы і сама мова [3, с. 34].

Другі падыход ставіць сваёй задачай рашэнне пытання пра зваротнае ўздзеянне мовы на культуру, якое пакуль застаецца адкрытым і востра дыскусійным. На аснове разумення мовы як духоўнай сілы (В. Гумбальт, А. Патабня) была прапанавана гіпотэза лінгвістычнай адноснасці Сепіра – Уорфа. Яна дапамагае асэнсаваць факты, якія цяжка вытлумачыць іншым спосабам.

Трэці падыход заснаваны на ідэі ўзаемасувязі і ўзаемадзеяння мовы і культуры. Прадстаўнікі гэтага падыходу (В. Тэлія, В. Враб'ёў, В. Маслава, М. Талстой і інш.) прытрымліваюцца меркавання, што мова з'яўляецца складовай часткай культуры. Нельга не пагадзіцца з іх сцвярджэннем, што мова выражае спецыфічныя рысы нацыянальнай ментальнасці, "а культура ўключана ў мову, бо яна змадэлявана ў тэксце" [9, с. 12]. Менавіта ў рамках гэтага падыходу на сучасным этапе адбываецца развіццё лінгвакультуралогіі.

Прадмет даследавання (як частка аб'екта) – адзінкі мовы, якія набылі сімвалічнае, эталоннае, вобразна-метафарычнае значэнне ў культуры і якія абагульняюць вынікі дзейнасці чалавечай свядомасці, замацаваныя ў міфах, легендах, рытуалах, абрадах, фальклорных і рэлігійных дыскурсах і да т. п. [3, с. 11]. З аднаго боку, лінгвакультуралогія арыентавана на чалавечы (культурны) фактар у мове, з іншага – на моўны фактар у чалавеку. В. Маслава вылучае наступныя прадметы лінгвакультуралогіі: 1) безэквівалентную лексіку і лакуны; 2) міфалагізаваныя моўныя адзінкі: архетыпы і міфалагемы, абрады і павер'і, рытуалы і звычаі, замацаваныя ў мове; 3) парэміялагічны фонд мовы; 4) фразеалагічны фонд мовы; 5) эталоны, стэрэатыпы, сімвалы; 6) метафары і вобразы мовы; 7) стылістычны лад; 8) маўленчыя паводзіны; 9) галіну маўленчага этыкету [9, с. 36 – 37]. Усе азначаныя галіны лінгвістыкі накіраваныя на вывучэнне нацыянальных асаблівасцей адной асобна ўзятай лінгвакультуры. Гэтыя дадзеныя неацэнныя для міжкультурных даследаванняў, прызначаных для супастаўляльнага аналізу дзвюх і больш лінгвакультур.

Сталасць і права на самастойнае існаванне любой навуковай дысцыпліны вызначаюцца наяўнасцю і ступенню сфарміраванасці яе катэгарыяльнага апарату – сістэмы базавых тэрмінаў. Як уяўляецца, аснову катэгарыяльнага апарату лінгвакультуралогіі складаюць паняцці канцэпту і моўнай карціны свету, гнасеалагічнае станаўленне якіх яшчэ, мяркуючы па ўсім, цалкам не завершанае.

У лінгвістыцы была зроблена спроба ўвесці адзінку лінгвакультуралагічнага аналізу. В. Вараб'ёў прапануе паняцце лінгвакультурэмы. У адрозненне ад слова, яна мае больш складаную структуру: план зместу дробіцца на моўнае значэнне і культурны сэнс. Яна можа быць выражана як адзінкавым словам, так і тэкстам "значнай працягласці" [4, с. 52].

Асноўнай адзінкай лінгвакультуралогіі У. Карасік называе "культурны канцэпт, а пазней і лінгвакультурны канцэпт", лічачы яго найбольш прымальным для лінгвакультуралагічнай парадыгмы, а ў якасці адзінак вывучэння прапануе рэаліі і "фонавыя значэнні, г. зн. зместавыя характарыстыкі канкрэтных і абстрактных найменняў, якія для адэкватнага разумення патрабуюць дадатковай інфармацыі пра культуру дадзенага народа" [4, с. 127, 129]. Паводле У. Карасіка і Г. Слышкіна, лінгвакультурны канцэпт уяўляе сабой умоўную ментальную адзінку, накіраваную на комплекснае вывучэнне мовы, свядомасці і культуры [6]. Як зазначыў Д. Ліхачоў, канцэпты ўзнікаюць у свядомасці чалавека не толькі як намёкі на магчымыя значэнні, але і як водгукі на папярэдні моўны досвед чалавека ў цэлым – паэтычны, празаічны, навуковы, сацыяльны, гістарычны і да т. п.

Ядро канцэпту складаюць найбольш актуальныя для носьбітаў мовы асацыяцыі, перыферыю – менш значныя. Выразных межаў канцэпт не мае, па меры аддалення ад ядра адбываецца паступовае згасанне асацыяцый, культурная інфармацыя прымацоўваецца да паняційнага ядра [9, с. 48].

На думку С. Варкачова, лінгвакультурны канцэпт з'яўляецца семантычным утварэннем высокай ступені абстрактнасці і ўяўляе сабой прадукт абстрагавання семантычных прыкмет, якія належаць пэўнаму мноству значымых моўных адзінак [3]. М. Алефірэнка з прычыны адсутнасці дастатковых падстаў прапануе прылічаць да культурных канцэптаў толькі аб'екты, якія валодаюць ярка выражанай нацыянальна-культурнай спецыфікай, ужываць шырокі падыход да разумення культурнага канцэпту [1]. Гэта дазволіць не толькі развіваць тэорыю ўзаемасувязі мыслення, свядомасці, культуры і мовы, але і наблізіцца да кагнітыўна-дыскурсіўных таямніц спараджэння нацыянальна-

культурнага кампанента ў семантыцы моўнага знака.

Лінгвакультурныя канцэпты можна класіфікаваць па-рознаму. З пункту гледжання тэматыкі канцэпты ўтвараюць, напрыклад, *эмацыйную*, *адукацыйную*, *тэкставую* і іншыя канцэптасферы.

Развіццё лінгвакультуралагічнага кірунку абумоўліваецца імкненнем да асэнсавання феномена культуры як спецыфічнай формы існавання чалавека і грамадства ў свеце, а таксама спробай вучоных лепш зразумець мову і яе прызначэнне выражаць культуру. Пры гэтым важнай задачай становіцца вызначэнне таго, не якія факты культуры выражаюцца з дапамогай мовы, а якія спосабы выпрацоўвае мова для выражэння культуры [5, с. 60].

Па меркаванні В. Карасіка [5], лінгвакультуралагічная спецыфіка звязана з паняццем карціны свету, у тым ліку моўнай. Паводле В. Маславай, моўная карціна свету – вынік перапрацоўкі інфармацыі пра асяроддзе і чалавека [9, с. 64]. М. Хайдэгер удакладняе, што “карціна свету, сутнасна зразуметая, азначае не карціну, якая паказвае свет, а свет, зразуметы як карціна” [14, с. 103]. С. Тэр-Мінасава адрознівае тры карціны свету: рэальную, культурную (або паняційную) і моўную (моўную карціну свету яшчэ называюць “наіўнай”, падкрэсліваючы яе данавуковы характар). Складанасць пытання ў тым, у якіх суадносінах знаходзяцца гэтыя карціны, у прыватнасці моўная і культурная, паколькі рэчаіснасць па-рознаму праламляецца ў мове і ў культуры [13, с. 46]. С. Варкачоў адзначае, што выраз “моўная карціна свету” досыць умоўны з прычыны таго, што лексічнымі адзінкамі мовы карціна свету перадаецца пафрагментарна. Сама мова адлюстроўвае не гэты свет, а толькі спосаб паказу гэтага свету нацыянальнай моўнай асобай [3].

Паводле канцэпцыі В. Гумбальта, нацыянальны характар культуры выяўляецца ў адмысловым успрыманні носьбітамі пэўнай культуры навакольнага свету, што знаходзіць сваё непасрэднае адлюстраванне ў мове праз значэнне моўных знакаў. У гэтым ён бачыў адзінства мовы і культуры. Карціна свету ствараецца праз прызму адзінства ўсіх элементаў нацыянальнай культуры і замацоўваецца ў мове з улікам асаблівасцей пэўнай моўнай сістэмы. Вядома, што мова не толькі выражае думку, але і фарміруе яе (“мова – не адлюстраванне светасузірання, якое склалася, а складнік яго дзейнасці” [10]), таму цалкам заканамерна сцвярджаць, што мова, мысленне і культура непарыўна звязаныя. У гэтым бачыцца дзейсны ўплыў мовы на культуру, а таксама фарміравальная роля мовы і культуры ў рэальным свеце.

Даследчыца С. Тэр-Мінасава прыходзіць да высновы, што “нацыянальная культурная карціна свету першасная ў дачыненні да моўнай. Аднак менавіта мова рэалізуе, вербалізуе нацыянальную культурную карціну свету, захоўвае яе і перадае з пакалення ў пакаленне” [13, с. 48].

Такім чынам, пад моўнай карцінай свету ў лінгвакультуралогіі бачыцца сістэма каштоўнасных арыентацый, закадзіраваная ў асацыятыўна-вобразных комплексах моўных адзінак, даследчык іх аднаўляе, інтэрпрэтуючы гэтыя асацыятыўна-вобразныя комплексы праз зварот да знакаў і канцэптаў культуры, якія іх абумовілі [9, с. 32]. Дэталёвае вывучэнне моўнай карціны свету розных народаў дазволіць лепш зразумець, як у мовах адбываецца кадзіроўка культурных каштоўнасцей, што, у сваю чаргу, палегчыць чалавечае паразуменне.

У сучаснай лінгвістыцы актыўна ўжываюцца тэрміны *нацыянальны кампанент*, *культурны кампанент*, *нацыянальна-культурны кампанент моўнага значэння*, закліканыя, па меркаванні М. Алефірэнкі, “факусаваць сэнсы, якія нараджаюцца ад узаемадзеяння нацыянальнага і культурнага фактараў фарміравання семантычнай структуры слова (фразеалагізма)”. Спрабуючы зразумець тэрміналагічны змест, лінгвіст спасылаецца на думку У. Гака, які адрознівае нацыянальную і культурную спецыфіку, паколькі нацыянальную спецыфіку прадвызначаюць два фактары: аб’ектыўны (каштоўнасна-сэнсавая значымасць натуральных і культурных рэалій, што вызначаюць своеасаблівасць жыццёвай прасторы таго або іншага народа) і суб’ектыўны (характарызуецца магчымасцю факультатыўнага выбару знакаабазначэнняў адных і тых жа рэалій, што па-рознаму прадстаўлены ментальнасцю розных этнамоўных супольнасцей), нацыянальная спецыфіка праяўляецца рознымі моўнымі рэпрэзентацыямі адных і тых аб’ектаў рэальнай або ўяўнай рэчаіснасці. Выяўляюцца яны шляхам супастаўлення моў [1].

Культурная спецыфіка, пагодзімся з У. Гакам, прадугледжвае адпаведнасць слова пэўнаму элементу менталітэту або якому-небудзь аб’екту прадметна-культурнай прасторы народа, яго гісторыі, вераванням, традыцыям і натуральным умовам жыцця. У гэтай сферы і варта шукаць крыніцы сінергетыкі нацыянальнага і культурнага кампанентаў у семантычнай структуры слова.

Даследчыца В. Тэлія лічыць: усё, што можа быць вытлумачана ў тэрмінах ацэначнасці, належыць да кола нацыянальнай культуры [11, с. 214]. Іншыя вучоныя (напрыклад, Н. Фірсава) мяркуюць, што нацыянальная спецыфіка слова этнічна абумоўленая, г. зн. прадыктаваная фактам прыналежнасці да пэўнага этнасу.

У працах апошніх гадоў аўтары разглядаюць лінгвакультуралогію як "дысцыпліну, што вывучае праяўленне, адлюстраванне і фіксацыю культуры ў мове і дыскурсе, непасрэдна звязаную з вывучэннем нацыянальнай карціны свету, моўнай свядомасці, асаблівасцей ментальна-лінгвальнага комплексу" [8, с. 12].

Выяўляць лінгвакультуралагічную спецыфіку прапануецца праз выкарыстанне лінгва-кагнітыўнага падыходу да камунікацыі, паколькі ён дазваляе прааналізаваць як яе агульналінгвістычны аспект, так і нацыянальна-дэтэрмінаваны кампанент [8, с. 20 – 21]. М. Алефірэнка ўслед за А. Сядых і Д. Дабравольскім прапануе спалучаць два метады даследавання: параўнальны і інтраспектыўны. Параўнальны прадугледжвае параўнанне з іншымі мовамі і культурамі, паколькі менавіта супастаўленне спрыяе выяўленню агульных і спецыфічных рыс. Інтраспектыўны аналіз прадугледжвае працу з інфармантамі і тэкставы аналіз моўнага матэрыялу з мэтай выяўлення нацыянальна-культурнай спецыфікі мовы [1]. Як справядліва заўважае лінгвіст, трэба знайсці разумную раўнавагу ў падыходах да даследавання культурна-моўнай спецыфікі. Варта кіравацца прызнаннем факта суіснавання нацыянальна-культурнай спецыфікі "жывога" слова і значымых універсалій. У літаратуры прадмета, у прыватнасці ў адносінах фразеалагізмаў і парэмій, акцэнтуецца ўвага на выражэнні ў мове нацыянальнага і інтэрнацыянальнага, наднацыянальнага.

Выяўленне нацыянальна-культурнай спецыфікі мовы магчыма толькі пры супастаўленні моў. Гэты факт з'явіўся падставай для развіцця новай галіны мовазнаўства – супастаўляльнай фразеалогіі. Тэорыя перакладу (транслятарыка) мае неабходнасць у тэарэтычным абгрунтаванні перадачы асаблівасцей нацыянальнай спецыфікі і наднацыянальнага зместу фразеалагізмаў, што стала штуршком для першых крокаў кантрастатыўнага мовазнаўства (фразеалогіі). Супастаўляльнае і кантрастатыўнае вывучэнне моў мае шмат агульнага. Мэта – у параўнанні моўных фактаў і сістэм моў знайсці падабенства і адрозненне.

Як відаць з вышэйпададзенага, мэта (вывучэнне спосабаў, якімі мова ўвасабляе ў сваіх адзінках, захоўвае і транслюе культуру), задачы (выявіць, як культура ўдзельнічае ва ўтварэнні моўных канцэптаў або ці існуе ў рэальнасці культурна-моўная кампетэнцыя носьбітаў мовы), а таксама паняційны апарат сфармуляваны вельмі шырока.

Знаходжанне падабенства і адрознення прыкмет мовы і культуры дапаможа вызначыць умовы і заканамернасці іх узаемадзеяння. Гэта асабліва актуальна цяпер, калі ва ўсім свеце фіксуецца заняпад маралі і культуры. І, магчыма, у падвышэнні ўзроўню культуры народа мова заклікана выканаць далёка не апошнюю ролю.

*Пераклад з рускай мовы.*

**Спіс літаратуры**

1. **Алефиренко, Н. Ф.** "Живое" слово : проблемы функциональной лексикологии / Н. Ф. Алефиренко. – М. : Флинта : Наука, 2009.
2. **Вежбицкая, А.** Понимание культур через посредство ключевых слов / А. Вежбицкая. – М., 2001.
3. **Воркачев, С. Г.** Лингвокультурология, языковая личность, концепт : становление антропоцентрической парадигмы в языкознании / С. Г. Воркачев // Филологические науки. – 2001. – № 1. – С. 64 – 72.
4. **Воробьев, В. В.** Лингвокультурология : теория и методы / В. В. Воробьев. – М., 1997.
5. **Карасик, В. И.** Языковой круг : личность, концепты, дискурс / В. И. Карасик. – Волгоград, 2002.
6. **Карасик, В. И.** О категориях лингвокультурологии / В. И. Карасик // Языковая личность : проблемы коммуникативной деятельности : сб. науч. тр. – Волгоград, 2001. – С. 3 – 16.
7. **Клоков, В. Т.** Основные направления лингвокультурологических исследований в рамках семиотического подхода / В. Т. Клоков // Теоретическая и прикладная лингвистика. Вып. 2. Язык и социальная среда. – Воронеж, 2000. – С. 60 – 67.
8. **Красных, В. В.** Этнопсихолингвистика и лингвокультурология / В. В. Красных. – М., 2002.
9. **Маслова, В. А.** Лингвокультурология : учеб. пособие для студ. высш. учеб. заведений / В. А. Маслова. – М., 2001.
10. **Степанов, Ю. С.** Методы и принципы современной лингвистики / Ю. С. Степанов. – М., 1975.
11. **Телия, В. Н.** Русская фразеология. Семантический, прагматический и лингвокультурологический аспекты / В. Н. Телия. – М., 1996.
12. **Потебня, А. А.** Мысль и язык / А. А. Потебня // Фрагменты из сборника "Слово и миф", сер. «Приложение к журналу "Вопросы философии"» [Электронный ресурс]. – Режим доступа : www.adada.nm.ru/txt/potebnya.htm.
13. **Тер-Минасова, С. Г.** Язык и межкультурная коммуникация / С. Г. Тер-Минасова. – М., 2000.
14. **Хайдеггер, М.** Время картины мира / М. Хайдеггер // Новая технократическая волна на Западе. – М., 1986.

**Ада ШАХНЮК,**
магістр педагагічных навук,
старшы выкладчык кафедры філалогіі
Баранавіцкага дзяржаўнага ўніверсітэта.

*У свеце слоўнікаў*

# СТЫЛІСТЫЧНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА РЭЛІГІЙНАЙ ЛЕКСІКІ Ў СЛОЎНІКАХ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Адна з галоўных тыпалагічных прымет, якія характарызуюць літаратурную мову як найвышэйшую форму нацыянальнай мовы, – стылістычная дыферэнцыяцыя. Гэтай прыметай абумоўлены асаблівасці функцыянавання сродкаў літаратурнай мовы ў залежнасці ад розных камунікатыўных сфер моўных зносін. Аднак стылістычная дыферэнцыяцыя слоўнікавага складу сучаснай беларускай мовы настолькі складаная, што не заўсёды паддаецца адназначнай інтэрпрэтацыі.

Параўнальны і супастаўляльны аналіз слоўнікаў розных тыпаў паказвае, што ў іх адсутнічае адзінства колькасці і формы падачы стылістычных памет. Такія разыходжанні назіраюцца не толькі ў слоўніках розных тыпаў, але і ў аднатыпных лексікаграфічных працах. Акрамя таго, не супадае стылістычная характарыстыка адных і тых жа слоў у розных слоўніках.

Прычыны такіх несупадзенняў тлумачацца як аб'ектыўнымі, так і суб'ектыўнымі фактарамі. Да аб'ектыўных Э. Кузняцова адносіць: дыфузнасць, узаемапранікненне асобных кампанентаў канатацыі і стылістычных характарыстык; няўстойлівасць характарыстык лексічных адзінак, іх гістарычную зменлівасць. Суб'ектыўны фактар, які абцяжарвае адназначную кваліфікацыю спецыфічнай лексікі, звязаны з тым, што не распрацаваныя і не ўкаранёныя спецыяльныя методыкі, з дапамогай якіх можна было б з дастатковай аб'ектыўнасцю характарызаваць экспрэсіўна-стылістычны статус слова. Па меркаванні вучоных, найбольш перспектыўныя тут псіхалінгвістычныя методыкі, падмацаваныя прыёмамі матэматычнай статыстыкі [2, с. 189 – 190].

Адна з асаблівасцей змен, якія адбываюцца ў мове на пачатку XXI ст., – актуалізацыя ў межах сучаснага узусу ўстарэлых слоў і выразаў, а таксама рэлігійнай лексікі, што ў многім вызначае спецыфіку сучаснага маўлення.

Адсутнасць у мовазнаўстве дакладнага вызначэння паняцця “пасіўны слоўнік” вельмі часта прыводзіць да атаясамлівання ўстарэлай лексікі з іншымі разрадамі рэдкаўжывальных слоў, якія адносяцца многімі лінгвістамі да пасіўнага запасу мовы.

Так, напрыклад, як устарэлую ў слоўніках пазначаюць частку рэлігійнай лексікі толькі на той падставе, што пасля рэвалюцыі 1917 г. яна перайшла ў пасіўны запас, захаваўшыся, як адзначае С. Ожагаў, “толькі ў вузкім коле вернікаў і ў прафесійным маўленні духавенства” [3, с. 71 – 81]. Таму канфесійны стыль, які некаторыя вучоныя вылучаюць як асобны, выкарыстоўваецца, на іх думку, у царкоўным асяроддзі і прадстаўлены ў вусным і пісьмовым кодзе мовы. Яму ўласцівы моўныя асаблівасці, што характарызуюць рэлігійнае жыццё і адлюстроўваюць тэацэнтрычную мадэль сусвету.

Новым у сённяшніх умовах можна лічыць сам факт вяртання рэлігійнай лексікі ў актыўны ўжытак. Што ж да лінгвістычных асаблівасцей гэтай лексікі, то яна найбольш традыцыйная і не толькі не адчула на сабе змен, але і засталася фактычна “закансерванай”.

Склад рэлігійнай лексічнай падсістэмы адлюстроўвае ўсе ўзроўні, усе сувязі і адносіны, характэрныя для любой лексічнай сістэмы. У першую чаргу, гэта наяўнасць шэрагу прадметна-тэматычных груп.

Рэлігійная лексіка, змешчаная ў беларускіх лексікаграфічных даведніках, складаецца з наступных прадметна-тэматычных груп:

– назвы рэлігій, напрыклад: **ІУДАІ́ЗМ**… Рэлігія, у аснове якой ляжыць культ бога Яхвэ, пашыраная сярод яўрэяў [7, с. 260]; **МУСУЛЬМА́НСТВА**… Рэлігія, паводле падання, заснаваная ў VII ст. Магаметам, іслам [7, с. 352]; **ХРЫСЦІЯ́НСТВА**… Рэлігія, у аснове якой ляжыць вера ў Ісуса Хрыста як богачалавека, мае тры напрамкі: праваслаўе, каталіцызм і пратэстанства [7, с. 726] і інш.;

– назвы свят, напрыклад: **ВЯЛІ́КДЗЕНЬ**, -кадня, *м.* Веснавое хрысціянскае свята, прысвечанае ўваскрэсенню Хрыста [7, с. 137]; **ГРАМНІ́ЦЫ**, -ніц, **1.** *толькі мн.* Свята ў хрысціян, якое прыпадае на 15 лютага па новым стылі ў праваслаўных і на 2 лютага ў католікаў [8, т. 2, с. 77]; **ТРО́ЙЦА**, -ы, *ж.* **2.** Свята хрысціянскай царквы, якое адзначаецца на пяцідзясяты дзень пасля Вялікадня; сёмуха [7, с. 662] і інш.;

– назвы рэлігійных кніг і твораў, напрыклад: **ЕВА́НГЕЛЛЕ**, -я, *н.* Раннехрысціянскі твор, які расказвае пра жыццё Ісуса Хрыста [7, с. 196]; **ЖЫЦІЕ́**… (кніжн.). Жыццеапісанне святых [7, с. 202]; **ПСАЛТЫ́Р**, -а, *м.* Адна з біблейскіх кніг Старога Запавету, якая складаецца з псалмоў [8, т. 4, с. 510] і інш.;

– назвы царкоўных службаў і абрадаў, напрыклад: **АБЕ́ДНЯ**… Набажэнства ў хрысціян, якое адбываецца раніцай або ў першай палове дня [7, с. 14]; **ВЯЧЭ́РНЯ**… Вячэрняя царкоўная

служба [7, с. 138]; **ПРЫЧА́СЦЕ**, -я, *н.* **1.** Абрад прычашчэння [8, т. 4, с. 499]; **ПРЫЧАШЧЭ́ННЕ**… **2.** Адзін з абрадаў хрысціянскай рэлігіі, у якім вернікі ў выглядзе хлеба і віна прымаюць быццам цела і кроў Хрыста [8, т. 4, с. 500]; **ХРЫШЧЭ́ННЕ**, -я, *н.* Адно з хрысціянскіх таінстваў, рэлігійны абрад прыняцця каго-н. у лік вернікаў, далучэнне да царквы і наданне асабовага імя [7, с. 726] і інш.;

– назвы духоўных асоб, чыноў, званняў, напрыклад: **СВЯШЧЭ́ННІК**… Духоўнае званне ў праваслаўнай царкве, прамежкавае паміж епіскапам і дзякам [8, т. 5, с. 104]; **МІТРАПАЛІ́Т**… Вышэйшае ганаровае званне праваслаўных епіскапаў, а таксама епіскап, якому нададзена гэтае званне [7, с. 347] і інш.;

– назвы культавых збудаванняў, напрыклад: **САБО́Р**… **3.** -а. Галоўная або вялікая царква ў горадзе, манастыры [8, т. 5, с. 10]; **ЦАРКВА́**… **2.** Памяшканне, у якім адбываецца набажэнства; храм [7, с. 727]; **МЯЧЭ́ЦЬ**… Малітвенны дом у мусульман [7, с. 355] і інш.;

– назвы міфалагічных істот, напрыклад: **ДЭ́МАН**… **1.** У рэлігійнай міфалогіі: злы дух, д'ябал [7, с. 194]; **Д'Я́БАЛ**… У рэлігійнай міфалогіі: злы дух, чорт, сатана, які пярэчыць Богу [7, с. 195] і інш.;

– назвы прымет прадметаў рэлігійнага культу, напрыклад: **СКАРО́МНЫ**… **1.** *Уст.* Паводле рэлігійных прадпісанняў – забаронены для яды ў час посту (пра мяса, сала, малако і пад.) [8, т. 1, с. 392]; **ХРЫСЦІ́ЛЬНЫ**… Які мае адносіны да абраду хрышчэння [7, с. 725] і інш.;

– назвы дзеянняў, якія суправаджаюць рэлігійныя служэнні, абрады, напрыклад: **ХРЫСТО́САВАЦЦА** [7, с. 725]; **ХРЫСЦІЯНІЗАВА́ЦЬ** [7, с. 726] і інш.

Пададзеная ў слоўніках лексіка ў большасці выпадкаў адлюстроўвае знешнія бакі царкоўнага культу і не закранае духоўна-філасофскіх асноў рэлігіі. Папаўнення, удакладнення значэння і стылістычнай характарыстыкі ў слоўніках беларускай мовы патрабуюць, на наш погляд, наступныя пласты найменняў: 1) назвы рэлігійных рытуалаў: *абедня*, *меса*, *таінства* і інш.; 2) назвы, звязаныя з праваслаўнай літургіяй: *прасфора*, *дыскас*, *аглашэнне*, *катэхумен* і інш.; 3) назвы чыноў святароў: *дыякан*, *прэсвітар*, *протапрэсвітар* і інш.; 4) назвы царкоўнага адзення: *амафор*, *фелонь* і інш.; 5) назвы культавых збудаванняў і іх частак: *амбон*, *салея* і інш.

Як і іншыя лексічныя пласты, рэлігійная лексіка ўяўляе сабою складаны комплекс зыходных і вытворных адзінак, што адпаведным чынам адлюстраваны ў тлумачальных слоўніках (напрыклад: *Бог – богаадступнік*, *богаадступніца*, *богаадступніцкі*, *богаадступніцтва*, *богаслужэнне*, *богаслужэбны*; *царква – царкоўнапрыходскі*, *царкоўнаславянскі*, *царкоўнік*; *пакаянне – пакаянны*, *пакаяцца* і інш.). Для гэтага лексічнага пласта характэрны антанімічныя пары, якія адлюстроўваюць асноўныя канцэптуальныя апазіцыі (напрыклад: *дабро – зло*, *дух – плоць* і інш.), мнагазначнасць: **МАЛІ́ЦЦА**… **1.** Звяртацца з малітвай да Бога, святых… **2.** *перан.*, *на каго-што.* Вельмі моцна любіць, богатварыць каго-, што-н. [7, с. 331]; **ХРЫСЦІ́ЦЦА**… **1.** Абрадам хрышчэння прыняць (прымаць) хрысціянскую веру. **2.** Рабіць малітвенны жэст крыжа [7, с. 725] і інш.

Рэлігійная лексіка, якая з'яўляецца, па меркаванні складальнікаў слоўнікаў, часткай пасіўнага запасу мовы, г. зн. яе перыферыі, у тлумачальных слоўніках беларускай мовы часцей суправаджаецца паметай *уст.*, што часам адлюстроўвае сацыяльныя адносіны да з'явы, а не служыць стылістычнай характарыстыкай слова, напрыклад: **НЕ́ХРЫСЦЬ**… (разм. лаянк. уст.) Бессаромны, бессардэчны чалавек [7, с. 390] і інш.

Памета *царк.-слав.* падаецца ў "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (ТСБМ) у "Спісе скарачэнняў" і інтэрпрэтуецца як "царкоўнаславянскае слова". Аднак шэраг слоў, якія яўна адносяцца да царкоўнаславянізмаў, адпаведнай паметай у слоўніку чамусьці не суправаджаюцца (*іерэй*, *багародзіца*, *братазабойства*, *прававерны*, *грэхападзенне* і інш.).

У "Русско-белорусском словаре" (РБС-1953) і пазнейшых яго пашыраных перавыданнях у двух тамах (РБС-1982) і ў трох тамах (РБС-2005) для характарыстыкі рэлігійнай лексікі выкарыстоўваецца памета *церк.* (церковное слово, выражение). Царква – гэта "аб'яднанне паслядоўнікаў той або іншай рэлігіі, арганізацыя, якая вядае рэлігійным жыццём; рэлігійная абшчына" [7, с. 727]. Таму ў слоўніку – незалежна ад веравызнання: праваслаўныя, каталікі, мусульмане – разгляданы пласт лексікі правамерна суправаджаецца адной паметай – *церк.* (**КАТЕХИ́ЗИС** *церк.* катэхізіс, -са *м.* [5, т. 1, с. 350] – "кароткі выклад хрысціянскага веравучэння ў пытаннях і адказах" [7, с. 285]; **ПРИО́Р** *церк.* прыёр, -ра *м.* [5, т. 2, с. 204] – "настаяцель у каталіцкіх мужчынскіх манастырах" [8, т. 4, с. 430] і інш.). У "Спісе скарачэнняў" прапануецца і памета *рел.* (религия), аднак істотных адрозненняў у выкарыстанні памет *церк.* і *рел.* не знаходзім (параўн.: **КАТО́ЛИК** *рел.* католік, -ка *м*, каталік, -ка *м.* [5, т. 1, с. 350] і **ПА́ТЕР** *церк.* патэр, -ра *м.* [5, т. 2, с.16] – "каталіцкі манах у сане свяшчэнніка або дыякана, а таксама каталіцкі свяшчэннік наогул" [8, т. 4, с. 112]; **МУЛЛА́** *рел.* мула, -лы *м.* [5, т. 1, с. 459] – "служыцель культу ў мусульман" [7, с. 351] і **КИ́РКА** *церк.* кірха, -хі *ж.* [5, т.1, с.355] – "лютэранскі храм" [8, т. 2, с. 689] і інш.). Акрамя таго, рэлігійная лек-

сіка ў слоўніку суправаджаецца і паметай *уст.* (**БОГОУГО́Д//НЫЙ** *уст.* богаўгодны [5, т. 1, с. 66]; **БОГОХУ́ЛЬ//НИК** *уст.* блюзнер [5, т. 1, с. 66] і інш.), паметай *кніжн.* (**ПРИШЕ́СТВИЕ** *ср книжн.* прышэсце [6, т. 3, с. 42] і інш.).

Пададзеныя ў слоўніках спалучэнні памет *уст.* і *рел.*, *рел.* і *ист.* не ўносяць істотных удакладненняў у асаблівасці выкарыстання і функцыянавання слова (**БОГИ́НЯ** *рел., уст.* багіня [5, т. 1, с. 66]; **БОГОИСКА́ТЕЛЬ** *ист.* богашукальнік, -ка *м*; ~**СТВО** *рел. ист.* богашукальніцтва [6, т. 1, с. 112]; **БОГОСТРОЙ́ТЕЛЬ** богастваральнік, -ка *м*; ~**СТВО** *ист. рел.* богастваральніцтва [5, т. 1, с. 66] і інш.). Памета *церк.* падаецца непаслядоўна пры формах аднаго і таго ж слова (напрыклад: **КРЕСТИ́//ЛЬНЫЙ** хрысцільны; ~**ННЫЙ** хрысцінны, хрэсьбінны; ~**НЫ** *церк.* хрысціны, -цін; ~**ТЕЛЬ** *церк.* хрысціцель; ~**ТЬ** *в разн. знач.* хрысціць; ~**ТЬСЯ** *в разн. знач.* хрысціцца [6, т. 1, с. 684] і інш.). Сустракаюцца адзінкавыя выпадкі спалучэння паметы *церк.* з паметамі, якія адлюстроўваюць эмацыянальна-экспрэсіўную афарбоўку слова (напрыклад: **РАССТР//И́ГА** *церк. пренебр.* расстрыга, -гі *м*; ~**ИГА́ТЬ** *несов. церк.* расстрыгаць [5, т. 2, с. 314] і інш.).

Наяўнасць ускладненых памет пры характарыстыцы рэлігійнай лексікі адлюстроўвае дынаміку развіцця лексікі мовы: неадназначнасць тлумачэння значэння, пераасэнсаванне лексікі агульнарэлігійнага характару, выкарыстанне памет, якія адлюстроўваюць станаўленне асобных значэнняў, тэндэнцыі да выхаду моўных адзінак з ужывання.

Памета *уст.* пры словах рэлігійнай лексікі спалучаецца з іншымі стылістычнымі паметамі, якія паказваюць:

– на сферу выкарыстання слова, напрыклад: **ГЕЕ́ННА** *книжн. уст.* геена [6, т. 1, с. 299]; **МАЎЧА́ЛЬНІК 1.** Чалавек, які даў зарок маўчання пад уплывам рэлігійных меркаванняў (разм. уст.) [7, с. 338]; **САБО́Р**, -а *і* -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Сход, з'езд (уст. і спец.). *Земскі с. Царкоўны с. Памесны с.* (з'езд служыцеляў хрысціянскай царквы). **2.** -а. Галоўная або вялікая царква ў горадзе, манастыры. *Кафедральны с.* **||** *прым.* **сабо́рны**, -ая, -ае [7, с. 578] і інш.;

– эмацыянальна-экспрэсіўную характарыстыку слова, напрыклад: **ЧЫНАШАНАВА́ННЕ**, -я, *н.* (уст. іран.). Павага, шанаванне старшых па чыне, па службовым становішчы [7, с. 750] і інш.

Часцей паметамі *уст.*, *царк.*, *рэл.* у слоўніках беларускай мовы характарызуецца адназначнае слова, напрыклад: **БАГАМО́ЛЕЦ** (уст.) [7, с. 78]; **БАГАМО́ЛЛЕ** (уст.) [7, с. 78]; **БАЖНІ́ЦА** (уст.) [7, с. 78] і інш., а таксама асноўнае значэнне слова, напрыклад: **КА́ЯЦЦА 1.** Прызнавацца ў грахах, спавядацца ў царкве (уст.) [7, с. 287]; **МАЎЧА́ЛЬНІК 1.** Чалавек, які даў зарок маўчання пад уплывам рэлігійных меркаванняў (разм. уст.) [7, с. 338], значна радзей – другое, трэцяе і іншыя значэнні слова, устойлівы зварот, напрыклад: **ВЯНЕ́Ц 2.** Карона, якую трымаюць над галовамі маладых у час вянчання (уст.) [7, с. 137]; **СЛО́ВА 9.** *адз.* Літаратурны твор у форме аратарскай прамовы, прапаведзі ці паслання (уст.) [7, с. 608]; **ЧАЛАВЕ́К ◊ Божы чалавек** (уст.) [7, с. 741] і інш.

У "Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы" (ТСБЛМ) інфармацыя пра аднесенасць да рэлігійных паняццяў пераважна падаецца ў дэфініцыі слова (параўн.: **МИ́ТРА** *церк.* мітра, -ры *ж.* [6, т. 2, с. 64] – **МІ́ТРА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Галаўны ўбор прадстаўнікоў вышэйшага духавенства і некаторых заслужаных святароў, які надзяваецца ў часе набажэнства [7, с. 347]; **КА́НТОР** *церк.* кантар, -ра *м*; ~**СКИЙ** кантарскі [6, т. 1, с. 344] – **КА́НТАР**[3], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Пеўчы хору ў каталіцкай царкве. **2.** Галоўны спявак у сінагозе. **3.** Настаўнік і дырыжор хору, а таксама арганіст у пратэстанцкай царкве [7, с. 274] і інш.).

Рэлігійныя лексічныя адзінкі ў сучасных лексікаграфічных выданнях маюць адрозненні ў падачы дэфініцыі. Параўн.: **ПАКАЯ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** Прызнанне вернікам сваіх грахоў перад святаром. **2.** Прызнанне сваіх памылак ◊ **Адпусціць душу на пакаянне** – адпусціць [8, т. 3, с. 612] – **ПАКАЯ́ННЕ**, -я, *н.* (кніжн.). Добраахвотнае прызнанне ў зробленай правіннасці, памылцы ◊ **Адпусціць душу на пакаянне** (разм., жарт.) – пашкадаваць, злітавацца [7, с. 426] і інш. Словы аднаго словаўтваральнага гнязда могуць суправаджацца розвай стылістычнай характарыстыкай (**БОГААДСТУ́ПНІК** *уст.* [8, т. 1, с. 392] – **БОГААДСТУ́ПНІК** [7, с. 91]; **БОГААДСТУ́ПНІЦА** *уст.* [8, т. 1, с. 392] – **БОГААДСТУ́ПНІЦА** [7, с. 91] і інш.).

У БРС-2003, РБС-2005, ТСБМ, ТСБЛМ словы, якія маюць выразную аднесенасць да рэлігійнай сферы, суправаджаюцца часам рознымі стылістычнымі паметамі. Гэта нярэдка ўскладняе працэс вызначэння сферы ўжывання асобных моўных адзінак (гл. табліцу).

Змена стылістычнай характарыстыкі рэлігійных слоў у розных сучасных слоўніках адлюстроўвае працэс актуалізацыі слоў гэтага лексічнага пласта (параўн.: **СКАРО́МІЦЦА** *разм.* **1.** *уст.* Есці ў посныя дні скаромную ежу насуперак настаўленням рэлігіі. **2.** Ужываць непрыстойныя словы [8, т. 1, с. 392] – **СКАРО́МІЦЦА** (разм.). Есці ў пост скаромную ежу [7, с. 601]; **СКАРО́МНЫ**… **1.** *уст.* Паводле рэлігійных прадпісанняў – забаронены для яды ў час посту (пра мяса, сала, малако і пад.) **2.** *перан. разм.* Непрыстойны… [8, т. 1, с. 392] – **СКАРО́МНЫ**… Пра малочную, мясную ежу, якую не ўжываюць рэлігійныя людзі ў час посту [7, с. 601] і інш.).

| Словы | Паметы, якімі суправаджаюцца рэлігійныя словы ў слоўніках | | | |
|---|---|---|---|---|
| | ТСБМ | РБС-2005 | БРС-2003 | ТСБЛМ |
| **АМІ́Н 2**. | *разм.* | *разг.* | *разг.* | *уст.* |
| **АНЁЛ 2**. | – | – | *перен.* | *уст.* *разм.* |
| **АНТЫ́ХРЫСТ** | *разм.* | *церк.* *бран. уст.* | *рел.* | *разм.* *уст.* |
| **АСА́ННА** *Спяваць асанну* | – – | *церк.* – | *церк.* | *уст.* *кніжн.* |
| **АХВЯРАВАЦЬ 1.** | – | – | – | *уст.* |
| **БАГАМО́ЛЕЦ** | – | – | – | *уст.* |
| **ВЯНЕ́Ц 2.** | – | – | *церк.* *перен.* | *уст.* |
| **НЕ́ХРЫСЦЬ** | *разм.* 1. *уст.* 2. *лаянк.* | *разг. уст.* | *разг.* *уст.* | *разм.* *лаянк.* *уст.* |
| **ПАМА́ЗАННЕ** | – | *церк. уст.* | *церк.* | *уст.* |
| **ПАМА́ЗАННІК** | – | *церк. уст.* | *церк.* | *уст.* |
| **ПАМА́ЗАЦЬ**[1] | – | – | *церк.* | *уст.* |
| **ПРА́ВЕДНЫ 1.** **2.** | *уст.* *кніжн.* | – *рел.* *книжн.* | – – | – *уст.* |
| **ПРАРО́К** | – | – | *рел.* | *уст.* |
| **ПРАСІ́ЦЕЛЬ** | – | *уст.* | – | *уст.* |
| **ПРЫШЭ́СЦЕ** | *кніжн.* | *книжн.* | *книжн.* | *уст.* |

Назіраецца тэндэнцыя замены ў тлумачальных слоўніках паметы *царк.* на змест дэфініцыі, аднак выкарыстанае слова без памет “можа ўжывацца ў любых відах вуснай і пісьмовай мовы, не надаючы ёй ніякіх стылістычных адценняў” [7, с. 6], чаго нельга сказаць пра царкоўнаславянізмы, параўн.: **КАТОЛИКО́С** *церк.* каталікос, -са, *м*; ~АТ каталікасат, -та *м*. [5, т. 1, с. 350] – **КАТАЛІКО́С**, -а, *м*. Тытул патрыярха армянагрыгарыянскай, а таксама галавы грузінскай і праваслаўнай царквы [7, с. 284]; **ПРИМА́С** *церк.* прымас, -са *м*. [6, т. 3, с. 620] – **ПРЫМА́С**, -а, *м*. У каталіцкай і англіканскай цэрквах – тытул галоўных епіскапаў [8, т. 4, с. 449]; **ПРИТВО́Р** *м* **1.** *церк.* прытвор, -ра *м*, бабінец, -нца *м* [5, т. 2, с. 212] – **ПРЫТВО́Р**, -а, *м*. Пярэдняя частка царквы непасрэдна за паперцю [8, т. 4, с. 485]; **МО́ЩИ** *церк.*, *перен.*, *разг.* мошчы, -шчаў *ед. нет*; живые (ходячие) *м. разг.* жывыя (хадзячыя) мошчы [6, т. 2, с. 85] – **МО́ШЧЫ**, -аў. Высахлыя астанкі людзей, якія лічацца царквою святымі і цудатворнымі [7, с. 350] і інш.

Рэлігійная лексіка ў слоўніках суправаджаецца не толькі паметамі, але і пэўнымі каментарыямі (*у хрысціянскім кульце*, *паводле рэлігійных уяўленняў* і інш.), аднак пададзеныя да некаторых слоў, яны змяняюць семантыку і аксіялагічны статус слова, напрыклад: **БІ́БЛІЯ**, -і, *ж*. Зборнік “свяшчэнных кніг”, якія змяшчаюць міфы і догматы іўдзейскай і хрысціянскай рэлігій [8, т. 1, с. 373] і інш.

У групе даследаваных адзінак шырэй прадстаўлены назоўнікі і прыметнікі (96,5% ад агульнай колькасці рэлігійных слоў у ТСБЛМ), напрыклад: *пілігрым*, *прышэсце*, *чара*; значна радзей – дзеясловы, устойлівыя спалучэнні слоў (3,5% ад агульнай колькасці рэлігійных слоў у ТСБЛМ), напрыклад: *каяцца*, *памазаць*; *адпусціць душу на пакаянне* і інш.

Праведзены аналіз сведчыць, што галоўнае месца сярод рэлігійнай лексікі, зафіксаванай у слоўніках, займаюць монасемантычныя моўныя адзінкі з адназначнай трактоўкай функцыянальнай сферы іх выкарыстання. Гэта найперш звязана з тым, што сфера набажэнства ўяўляе сабой камунікатыўную сферу, якая грунтуецца на традыцыях, таму больш кансерватыўную ў адносінах да прынятых нормаў паводзін, у тым ліку і маўленчых.

Рэлігійна значымымі паметамі ў пераважнай большасці выпадкаў маркіраваны моўныя адзінкі, рэлевантныя для праваслаўнай і каталіцкай канфесій, напрыклад: *асвяціць*, *прыход*, *сабораванне*, *таінства*, *прычасце* і інш. На гэта ёсць некалькі прычын. Да экстралінгвістычных варта аднесці больш старажытную і глыбокую традыцыю праваслаўя і каталіцтва ў еўрапейскіх краінах. Сярод лінгвістычных фактараў на першае месца выступаюць моўныя традыцыі набажэнства: выкарыстанне лацінскай мовы, якая стала крыніцай шматлікіх запазычанняў у рэлігійнай сферы камунікацыі; запазычанні з грэчаскай і старажытнаяўрэйскай моў.

Праблема ўзнаўлення адзінак рэлігійнай лексікі ў сучаснай мове і іх пераасэнсавання ў маўленчай прасторы патрабуе спецыяльнага, дэталёвага разгляду. Больш канкрэтная лексікаграфічная трактоўка рэлігійных слоў са стылістычных пазіцый, а не ўласна ідэалагічных, у сучасных беларускіх слоўніках павінна весці да адмаўлення памет храналагічнага зместу пры словах разгледжанага пласта.

**Спіс літаратуры**


1. **Беларуска-рускі слоўнік** : у 3 т. – 3-е выд. – Мінск : БелЭн, 2003.
2. **Кузнецова, Э. В.** Лексикология русского языка : учеб. пособие для филол. фак. ун-тов / Э. В. Кузнецова. – М. : Высш. шк, 1989.
3. **Ожегов, С. И.** К вопросу об изменениях словарного состава русского языка в советскую эпоху / С. И. Ожегов // Вопросы языкознания. – 1953. – № 2. – С. 71 – 81.
4. **Резниченко, И. Л.** Стилистический узус русского языка и его отражение в лексикографии : автореф. дис. … канд. филол. наук / И. Л. Резниченко. – М., 1984.
5. **Русско-белорусский словарь** : в 2 т. – Минск : БелСЭ, 1982.
6. **Русско-белорусский словарь** : в 3 т. – 9-е изд. – Минск : БелЭн, 2005.
7. **Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы.** – 2-е выд. – Мінск : БелЭн, 1999.
8. **Тлумачальны слоўнік беларускай мовы** : у 5 т. – Мінск : БелСЭ, 1977 – 1984.


**Вольга ШАВЕЛЬ,**
старшы выкладчык кафедры філалогіі
Баранавіцкага дзяржаўнага ўніверсітэта.



# МЕТАДЫКА І ВОПЫТ

*Новае ў правапісе*

Віктар ІЎЧАНКАЎ

## CTRL + SHIFT + ПРАБЕЛ, ці ПРАВІЛЫ ПЕРАНОСУ

*Заканчэнне. Пачатак у №№ 1 – 6.*

Стварэнне тэксту ў рукапісным ці друкаваным выглядзе вымагае пераносу слоў. Гэта адбываецца тады, калі слова не ўмяшчаецца на адным радку. Узгадваецца стандартная сітуацыя, як вучань, баючыся “залезці за палі” і сціскаючы слова да непазнавальнасці, старанна спрабуе “ўціснуць” яго ў радок. Для папярэджання такіх выпадкаў існуюць правілы пераносу.

Перанос слова не павінен запавольваць чытанне і ўспрыманне тэксту. У камп’ютарным наборы ён выконвае таксама і эстэтычную функцыю, бо пры адсутнасці яго некаторыя радкі былі б незапоўненымі, у іх утвараліся б “белыя плямы”, што асабліва заўважалася б у вузкіх, напрыклад газетных, калонках. Перанос эканоміць месца і дазваляе раўнамерна размеркаваць словы ў радку. У той жа час тэкст з пераносамі цяжэй чытаецца, таму ў кніжках для малых дзяцей пераносы звычайна адсутнічаюць.

У некаторых мовах асаблівым знакам перанос не пазначаецца наогул, слова проста разрываецца паміж радкоў. Без знака пераносу да сярэдзіны XVII ст. абыходзіўся кірылічны друк. Гэтая традыцыя захоўваецца ў старавераў. Адсутнічае знак пераносу ў некаторых сучасных пісьменнасцях, пераважна азіяцкіх (не толькі іерагліфічных, але і алфавітных, накшталт тайскай). У кітайскай, карэйскай і японскай мовах перанос можна рабіць у любым месцы, але там пісьмовыя адзінкі больш буйныя. У эсперанта, напрыклад, перанос таксама дазволены ў любым месцы, можна пераносіць нават адну літару.

Злучком пасля пачатковай часткі разарванага слова пазначаецца перанос у большасці сучасных еўрапейскіх пісьменнасцей. У старадаўніх шрыфтах (як лацінскіх, так і кірылічных) сустракаліся больш разнастайныя формы гэтага знака.

Перанос слова ў беларускай мове мае арфаграфічныя нормы. Паводле Закона Рэспублікі Беларусь “Аб Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі” яны сталі значна прасцейшымі. Напрыклад, “Правіламі…” (1959) забаранялася пакідаць у канцы радка або пераносіць на новы радок дзве аднолькавыя зычныя літары, якія стаяць паміж галоснымі. Лічыўся няправільным перанос *насе-нне, кало-ссе, заці-шша*. Сёння такая забарона знятая. Перанос дазваляецца: *сол-лю*, *со-ллю*; *памяц-цю*, *памя-ццю*; *мыц-ца*, *мы-цца*; *паа-бапал*, *па-абапал*; *насен-не*, *насе-нне*. Да 1 верасня 2010 г. лічылася, што пры пераносе слоў з прыстаўкамі нельга пакідаць у канцы радка пры прыстаўцы пачатковую частку кораня, калі яна не з’яўляецца складам. Правільным было захоўваць прыстаўку і пачатковую літару кораня: *раз-мова*, *рас-крыць*. Нельга было пераносіць: *ра-змова*, *за-става*, *ра-скрыць*, *раск-рыць*; *бя-скрыўдна*, *бяск-рыўдна*. Цяпер такі перанос дазваляецца.

Паводле новай рэдакцыі “Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі” перанос простых, складаных, складанаскарочаных слоў, умоўных графічных скарачэнняў і іншых знакаў падпарадкуецца наступным нормам.

З аднаго радка на другі слова пераносіцца па складах: *во-ля*, *тра-ва*, *за-яц*, *га-ла-ва*, *ка-ва-лак*, *стра-ка-ты*, *пра-ве-рыць*, *пе-ра-кі-нуць*.

Калі ў сярэдзіне слова паміж галоснымі ёсць спалучэнне зычных, то пераносіцца на наступны радок або ўсё гэтае спалучэнне, або **любая яго частка**. Можна пераносіць: *ся-стра*, *сяс-тра*, *сяст-ра*; *во-стры*, *вос-тры*, *вост-ры*; *птушка*, *птуш-ка*; *кро-пля*, *кроп-ля*; *ма-ста-цтва*, *мас-тац-тва*, *мас-тацт-ва*; *ра-змова*, *раз-мова*; *за-става*, *зас-тава*; *ра-скрыць*, *рас-крыць*, *раск-рыць*; *бя-скрыўдна*, *бяс-крыўдна*, *бяск-рыўдна*; *дзяці-нства*, *дзя-цін-ства*, *дзя-цінс-тва*, *дзя-цінст-ва*; *двац-цаць*, *два-ццаць*; *калос-се*, *кало-ссе*; *сол-лю*, *со-ллю*; *памяц-цю*, *памя-ццю*; *мыц-ца*, *мы-цца*; *паа-бапал, па-абапал*; *насен-не*, *насе-нне*.

Аднак правілы пераносу не маглі не ўтрымліваць у сабе некаторых забараняльных пазіцый. Напрыклад, у беларускай мове ёсць спалучэнні двух гукаў [д] і [з], [д] і [ж] і самастойныя гукі, якія пазначаюцца дзвюма літарамі: [дз] і [дж]. Каб адрозніваць іх, старая норма захавана. Такім чынам, **пры пераносе нельга**:

разбіваць пераносам спалучэнні літар *дж* і *дз*, калі яны абазначаюць адзін гук [дж], [дз’]:

*ура-джай*, *са-джаць*, *ра-дзі-ма*, *ха-дзіць*. Спалучэнні *дж* і *дз* можна разбіваць пераносам, калі *д* адносіцца да прыстаўкі, а *з*, *ж* – да кораня: *пад-жары*, *ад-жаць*, *пад-земны*, *ад-значыць*;

пакідаць або пераносіць на наступны радок адну літару, нават калі яна адпавядае складу: *аса-ка*, *лі-нія*, *ра-дыё*, *еха-лі*, *па-коі*;

аддзяляць ад папярэдняй галоснай літары *й* і *ў*: *сой-ка*, *бой-кі*, *май-стар*, *дай-сці*, *зай-мацца*, *праў-да*, *слоў-нік*, *маў-чаць*, *заў-тра*, *праў-нук*;

аддзяляць мяккі знак і апостраф ад папярэдняй зычнай: *буль-ба*, *прось-ба*, *вазь-му*, *бур'-ян*, *сем'-яў*, *мыш'-як*.

У складаных словах кожная іх частка пераносіцца згодна з правіламі пераносу асобных слоў: *се-на-ўбо-рка*, *збож-жа-зда-ча*.

Не дзеляцца пры пераносе абрэвіятуры, якія пішуцца вялікімі літарамі або з'яўляюцца спалучэннем літар і лічбаў, а таксама графічныя скарачэнні слоў і выразаў: *ААН*, *ЮНЕСКА*, *НАТА*, *АБСЕ*, *ДАІ*, *АІ-95*, *г. д.*, *г. зн.*, *стст.*

Не адрываюцца пры пераносе ад лічбаў далучаныя да іх злучком канчаткі або часткі канчаткаў: *а 19-й* (*гадзіне*), *1-га* (*студзеня*).

Не адрываюцца ад прозвішчаў ініцыялы: *Я. Брыль*, *К. М. Міцкевіч*, *Я. Ф. Карскі*, *Гурскі М. І.*

Не пераносяцца на наступны радок знакі прыпынку.

Не пераносіцца на наступны радок злучок (дэфіс), які супадае са знакам пераносу (пры гэтым знак пераносу не ставіцца).

Пры пераносе нельга адрываць ад лічбы скарочаныя назвы адзінак вымярэння: *1990 г.*, *XXI ст.*, *100 кг*, *50 га*, *2 км*, *10 см*, *1000 руб.*

**Увага!** Пералічаныя вышэй патрабаванні не заўсёды можна выканаць пры камп'ютарным наборы. У некаторых выпадках пераход на іншы радок ці разрыў трэба прадухіліць. У такім разе прымяняецца функцыя непарыўнага прабелу, якая рэалізуецца спалучэннем клавіш Ctrl + Shift + Прабел.

## КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТАЎ І ЮБІЛЕЙНЫХ ДЗЁН

ВЕРАСЕНЬ

**1 верасня –** 60 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Саліча, драматурга

**2 верасня –** 70 гадоў з дня нараджэння Аляксея Кузьміна, беларускага і расійскага артыста аперэты, заслужанага артыста Расіі

**3 верасня –** 280 гадоў з дня нараджэння Станіслава Богуша-Сестранцэвіча (1731 – 1826), вучонага, лінгвіста, драматурга, палітычна-царкоўнага дзеяча

90 гадоў з дня нараджэння Міколы Сергіевіча (1921 – 2000), празаіка, нарысіста, драматурга

**4 верасня –** 105 гадоў з дня нараджэння Ігната Дуброўскага (сапр. Чарняўскі, 1906 – 2003), празаіка, нарысіста, вучонага, заслужанага работніка культуры Беларусі

100 гадоў з дня нараджэння Пятра Дудо (1911 – 1958), празаіка

75 гадоў з дня нараджэння Сакрата Яновіча, празаіка, драматурга, публіцыста і грамадскага дзеяча. Жыве ў Беластоку

**5 верасня –** 110 гадоў з дня нараджэння Віталя Вольскага (сапр. Вольскі-Зэйдэль; 1901 – 1988), празаіка, драматурга, літаратуразнаўцы, перакладчыка, заслужанага дзеяча культуры Беларусі

75 гадоў з дня нараджэння Івана Шальманава (1936 – 1993), празаіка

**6 верасня –** 90 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Бутакова (1921 – 2009), педагога і тэатральнага крытыка, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

**7 верасня –** 80 гадоў з дня нараджэння Мікалая Южыка, аператара дакументальнага кіно

75 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Булыгі (1936 – 2009), скульптара

70 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Гайдука, паэта. Жыве ў Польшчы

**8 верасня –** 100 гадоў з дня нараджэння Ганны Качатковай (1911 – 1993), актрысы, заслужанай артысткі Беларусі

70 гадоў з дня нараджэння Віктара Нямцова, мастака дэкаратыўна-ўжытковага і манументальна-дэкаратыўнага мастацтва, жывапісца

**9 верасня –** 75 гадоў з дня нараджэння Арнольда Міхневіча, мовазнаўцы

**10 верасня –** 90 гадоў з дня нараджэння Марка Волахава (1921 – 2001), тэатральнага мастака

**11 верасня –** 210 гадоў з дня нараджэння Марыса Піёна (1801 – 1869), танцоўшчыка, балетмайстра, тэатральнага дзеяча, стваральніка Віцебскага балета Піёна

100 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Білібіна (1911 – 1993), дырыжора, дзеяча самадзейнага музычнага мастацтва, заслужанага артыста Беларусі

**14 верасня –** 105 гадоў з дня выхаду газеты "Наша Доля", першага легальнага перыядычнага выдання на беларускай мове. Выходзіла да 14.12.1906 у Вільні

85 гадоў з дня нараджэння Льва Шакуна (1926 – 1996), мовазнаўцы, заслужанага работніка вышэйшай школы Беларусі

75 гадоў з дня нараджэння Віктара Баранава, жывапісца

**15 верасня –** 100 гадоў з дня нараджэння Юлія Таўбіна (1911 – 1937), паэта, перакладчыка

80 гадоў з дня нараджэння Генрыха Шумскага (1931 – 2005), скульптара

75 гадоў з дня нараджэння Феликса Кучара (1936; паводле іншых звестак 10.02.1935 – 2008), кінааператара, рэжысёра, сцэнарыста

**16 верасня –** 110 гадоў з дня нараджэння Кузьмы Кулакова (сапр. Рутштэйн; 1901 – 1979), акцёра, рэжысёра

65 гадоў з дня нараджэння Сяргея Законнікава, паэта

**17 верасня –** 130 гадоў з дня нараджэння Міхаіла Мацісона (1881 – 1940), музыказнаўцы, хормайстра і кампазітара

*Заканчэнне на с. 76.*

*Тэст на ўроку*

# СІНТАКСІС І ПУНКТУАЦЫЯ ЎСКЛАДНЕНАГА СКАЗА

**Частка А**

**А1.** Адзначце сказы са звароткамі.

1) Маладосць, маладосць бестурботная! Як хутка яна пралятае…

2) Усё растлумачыць нам час, непадкупны і справядлівы суддзя!

3) Маці… Яе рукі самыя пяшчотныя ў свеце.

4) Мой лес! Мой бор! Вяшчун таемны, заўсёды ты ў душы маёй.

5) Дай мне, ранак, свае песні, перазвоны жаўруковы.

**А2.** Адзначце сказы, у якіх зваротак развіты.

1) Восень, жоўтым крылом не махай, не ўзляцець табе ўслед за зязюлямі.

2) Колькі ў табе нявызнаных скарбаў схавана, мова мая, пявучая родная мова.

3) О мой любы дружа, дружа дарагі, мне з табой не ведаць суму і тугі.

4) Адыходзь, трывога, забірай з сабой плач і крыўду хлопца з чулаю душой.

5) О ветрыку свежы, вазьмі нас з сабою ў далёкі загадкавы свет!

**А3.** Знакі прыпынку пастаўлены правільна ў сказах.

1) О родная зямля! Ты кніга вечнага жыцця.

2) Ах лета, як хутка ты мінаеш!

3) Вітай валацугу свайго ты, дарога, дарога, дарога!

4) Што вы хіліцеся вербы над вадой, што там бачыце світаннем на зары?

5) Табе, мой век, я не суддзя, і мне вініць цябе бязбожна.

**А4.** Адзначце сказы, у якіх набраныя курсівам сінтаксічныя канструкцыі з'яўляюцца членамі сказа.

1) Саламея адчула, што *мусіць* падпарадкавацца, *мусіць* сказаць усю праўду, усю як ёсць.

2) Ёсць непаўторная паэзія ў асеннім полі, хоць на першы позірк *здаецца* яно пустое і панурае.

*3) Здаецца*, што ніхто і нішто не можа спыніць жыцця крыніц, народжаных падземнаю сілаю зямлі.

4) У сэрца, *мабыць*, не было яшчэ слоў, якія выказалі б стан маіх новых пачуццяў.

5) У простым сялянскім адзенні, з натружанымі рукамі, суровая і нязломная, маці *здаецца* ўвасабленнем духоўнай сілы народа.

**А5.** Устанавіце адпаведнасць паміж сказамі з пабочнымі словамі і значэннямі гэтых пабочных слоў. Адзначце нумар правільнага адказу.

А. Кругі быццця вядомы, мабыць, зорам.

Б. І хоць сёння, на жаль, мне даўно не сямнаццаць, усё ж хачу табе сэрцам я паспавядацца.

В. Нацыянальныя беларускія напоі – гэта квас і, перш за ўсё, бярозавік.

Г. Кажуць, зоры ўсё знаюць пра лёс і пра будучыню чалавека.

1. Паказваюць на крыніцу паведамлення.

2. Выражаюць парадак думак і іх сувязь.

3. Выражаюць няўпэўненасць асобы ў рэальнасці таго, што паведамляецца.

4. Паказваюць на ступень звычайнасці ці незвычайнасці таго, пра што паведамляецца.

5. Выражаюць эмацыянальную ацэнку таго, пра што паведамляецца.

1) А3Б4В5Г5; 2) А4Б3В2Г1; 3) А3Б5В2Г1; 4) А5Б3В4Г2; 5) А1Б3В2Г5.

**А6.** Адзначце словы, якія ніколі не бываюць пабочнымі:

1) нават;

2) дарэчы;

3) можа;

4) галоўным чынам;

5) на першы погляд.

**А7.** Адзначце сінтаксічныя канструкцыі з пабочнымі сказамі.

1) Назва мястэчка Давыд-Гарадок, як тлумачылі старажылы, паходзіла ад імя заснавальніка горада – князя Давыда.

2) Бяроза, між іншым, сапраўды выглядала ў такія хвіліны яшчэ больш велічна.

3) На Зямлі, калі я не памыляюся, жыве больш за трыста народаў.

4) Пасля такой зімы, ведала старая, будзе добры ўлетку ўраджай.

5) Само возера, відаць, узнікла падчас ледавіковага таяння.

**А8.** Адзначце сказы, у якіх набраныя курсівам сінтаксічныя канструкцыі трэба выдзеліць дужкамі або працяжнікамі.

1) Такія экскурсіі *дарэчы сказаць* былі вельмі карысныя для ўсіх удзельнікаў семінара.

2) Дзіўным веерам *у тры бакі ад сябе* насыпала на яшчэ зеленаватую траву залатовак прыгажуня бяроза.

3) Час *паверце* лечыць усе нягоды.

4) Яшчэ ў халаднаватай свежасці *як вялося адвеку* валокся сярод вуліцы, гукаў пастух з пугаю.

5) Дарога *вялікая яна ці малая* кожны раз хвалявала Лабановіча і настройвала яго мыслі і пачуцці на салодка-журботны лад.

**А9.** Адзначце нумары сказаў з устаўнымі канструкцыямі.

1) Немагчыма пражыць – кожны ведае гэта – без надзеі, любові і веры.

2) Дзядок з усёй стараннасцю падыгрываў Ігнасю, і ў яго вачах – відаць было і ў прыцемку хаткі – блішчалі слёзы.

3) На стрэхах сялянскіх хат, на дрэвах, на сценах старых разбураных палацаў, на слупах сярод маладога зялёнага жыта – гнёзды паўсюль.

4) Сярод першых беларускіх акадэмікаў быў ён – Язэп Юр'евіч Лёсік.

5) У кожнага чалавека, як той казаў, свой лёс.

**А10.** Знайдзіце памылковае сцверджанне.

1) Устаўныя канструкцыі могуць быць пытальнымі.

2) Устаўныя канструкцыі могуць быць апавядальнымі.

3) Устаўныя канструкцыі могуць быць у пачатку сказа.

4) Устаўныя канструкцыі могуць быць у сярэдзіне сказа.

5) Устаўныя канструкцыі могуць быць клічнымі.

**А11.** Прааналізуйце будову сказа. Падумайце, чым ён ускладнены. Адзначце нумары правільных адказаў.

У летні поўдзень – была спёка – выходзіць рой, снуе высока і на вярбе ўгары садзіцца – ніяк туды не даступіцца.

1) аднароднымі членамі сказа;
2) пабочнымі словамі;
3) устаўнымі канструкцыямі;
4) адасобленай акалічнасцю;
5) адасобленым дапаўненнем.

**А12.** Азначэнні аднародныя і раздзяляюцца коскамі ў сказах.

1) Веснавая цёплая ноч толькі што апранула зямлю і раскідала свае таемныя чары.

2) Падлога ў хаце каваля драўляная добра вышараваная але не фарбаваная.

3) Быў ясны летні дзень.

4) Дні паплылі над зямлёй светлыя сонечныя поўныя незлічоных пахаў травы і кветак.

5) Лёгкі вечаровы змрок засцілаў нізіны шарахавата-цьмяным покрывам.

**А13.** Адзначце сказы, у якіх пры абагульняльным слове трэба паставіць двукроп'е.

1) Ручнік, іконка, шчэпцік мяты ў(у)сё, як калісь, на куце.

2) Усё ў сэрцы сцішыцца з гадамі былыя клопаты, сум, боль.

3) Дзень быў перагружан навалам падзей то смех салаўіны, то ўсхліпы, то жаб пераклічка ў траве і ў вадзе, то дожджык з вясёлкай, то прыпар…

4) Вудачкі, вуды, начныя шнуры, венцер, восці, сачок уся гэтая рыбацкая снасць пушчалася ў ход.

5) Нічога не мяняецца ў прыродзе то спёка, то снягі, то туманы.

**А14.** На месцы пропускаў трэба паставіць коску ў сказах.

1) Ніводнага дажджу не было ні ў маі__ ні ў чэрвені.

2) Матылі больш не здаваліся ёй лятучымі кветкамі__ і былі звычайнымі матылямі.

3) Ад сонца здавалася шырокім усё__ і глыбокае неба, і спустошаная на зіму ўраджаем зямля, і нават дробны камень пасярод палявой травы і зрэзанай саломы…

4) Ёсць у кахання паслядоўнасць__ і глыбіня, і вышыня.

5) Нямала ў белавежскіх лясах глушцоў і цецерукоў__ рабчыкаў і курапатак, а на балотах і рэчках – дзікіх качак, жураваў, буслоў, розных кулікоў.

**А15.** Адзначце сказы, у якіх перад злучнікам *ды* трэба паставіць коску.

1) Пакойчык мы займелі малы ды надта ўтульны.

2) Калі апошні коннік знік з яго дубровы, вярнуўся да куста ляснік ды не знайшоў падковы.

3) Жыў на свеце музыка. Многа хадзіў ён па зямлі ды ўсё граў на скрыпцы.

4) Самым старажытным ды апрабаваным сродкам народнай педагогікі выступае праца.

5) Навальніца насоўвалася павольна ды настырна.

**А16.** Устанавіце адпаведнасць паміж сказамі і правіламі пастаноўкі знакаў прыпынку ў гэтых сказах (знакі прыпынку не пастаўлены).

А. Ад ласкі сонечнай стамлёная цяжкая ад зямных шчадрот галінка з вішнямі чырвонымі перахілілася праз плот.

Б. Трава добра падкормленая вырасла на калгасным полі высокая і густая.

В. Маладая і шчаслівая яна не ішла, а ляцела.

Г. Смачна спіць раніца крохкая сінявокая.

1. Незалежна ад месца ў сказе адасабляюцца азначэнні, аддзеленыя ад паяснёнага слова дзеясловамі-выказнікамі ці іншымі членамі сказа.

2. Перад назоўнікамі адасабляюцца азначэнні, якія маюць дадатковае акалічнаснае значэнне.

3. Пасля назоўніка, што азначаецца, адасабляюцца азначэнні, выражаныя прыметным або дзеепрыметным словазлучэннем.

4. Пасля назоўніка, што азначаецца, адасабляюцца два і больш адзіночныя азначэнні.

5. Незалежна ад месца ў сказе адасабляюцца азначэнні, якія адносяцца да асабовых займеннікаў.

1) А2Б3В5Г4; 2) А1Б4В5Г3; 3) А2Б4В5Г1; 4) А1Б3В5Г4; 5) А5Б3В2Г4.

**А17.** Адзначце сказы, у якіх адасабляюцца недапасаваныя азначэнні.

1) *З яркімі ружовымі банцікамі* яна была падобная на лялечку.

2) Усё жыццё я памятаў сваю першую настаўніцу *з вельмі добрымі вачыма.*

3) *У прыгожай сукенцы, з новым партфельчыкам у руках* Кацярынка выглядала самай шчаслівай.

4) Вось і надышла зіма *з маразамі і завеямі, са снягамі і вятрамі.*

5) Сухую афіцыйную частку сустрэчы змяніў канцэрт *з вясёлымі жартамі, песнямі і танцамі.*

**А18.** На месцы пропускаў ставіцца коска (коскі) у сказах.

1) Усе прыродныя багацці__ атрыманыя намі ў спадчыну__ мы абавязаны пакінуць сваім нашчадкам.

2) Прасякнутае цеплынёй і пахамі адталай зямлі__ паветра крыштальна чыстае.

3) За дубамі святлела рака__ шырокае серабрыста-блакітнае люстраное палатно.

4) Высокі__ шыракаплечы__ ён падабаўся ўсім дзяўчынкам класа.

5) Ціхая і спакойная ўлетку__ вясной Случ робіцца не падобнай на сябе.

**А19.** Адзначце сказы з адасобленымі прыдаткамі.

1) У строгім касцюме, яна была падобна на выкладчыцу.

2) А яшчэ ў іх быў хлопчык, Віталік.

3) Тады ніхто, акрамя Мікалая, за Сярожу не заступіўся.

4) Загадчыкам аддзялення быў немалады вопытны доктар, па прозвішчы Мар'еў.

5) Дзесьці там, каля рэчкі, чуліся галасы.

**А20.** Адзначце ўмовы адасаблення адзіночных прыдаткаў.

1) Калі адносіцца да ўласнага назоўніка і стаіць пасля яго.

2) Калі адносіцца да прыметніка.

3) Калі адносіцца да ўласнага назоўніка і стаіць перад ім.

4) Калі адносіцца да асабовага займенніка.

5) Калі дае другую назву прадмету ці з'яве і звязваецца з паяснёным словам злучнікамі *ці, або.*

**А21.** Адзначце сказы з пунктуацыйнымі памылкамі.

1) Валерый Маракоў – беларускі паэт трыццатых гадоў, пражыў вельмі кароткае жыццё.

2) На яшчэ халоднай і няласкавай зямлі сонечным дываном цвіў падбел – першая кветка вясны.

3) Азёры – важнейшая і неад'емная частка прыроды нашай рэспублікі – заўсёды славілі Беларусь.

4) Першацвет высокі – або прымула – зацвітае адным з першых сярод ранніх раслін беларускай флоры.

5) Леаніда паважалі ў школе, як добрага арганізатара.

**А22.** Адзначце сказы, у якіх выдзеленыя словы з'яўляюцца прыдаткамі.

1) Восень, ці *вечар года*, прыносіць шчымлівы неспакой.

2) Гудуць веснавыя *ручаі*-правалы.

3) Я, *сын вясны*, пад яркім светам люблю жыцця прастор і шыр.

4) Разышліся дзве дарогі, разышліся ўдаль, усталі хмары-*крутарогі*, загуло разводдзе хваль.

5) Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт *імя Максіма Танка* заўсёды рыхтуе добрых педагогаў і выкладчыкаў.

**А23.** Адзначце сказы, у якіх правільна адасоблены акалічнасці.

1) Блукае рэха прамінулых дзён, гукаючы кагосьці несупынна.

2) Нягледзячы на позні час, у кватэры Садовіча гарэла лямпа.

3) З вяршаліны дрэва з шумам сарваўся спалоханы глушэц і лопаючы крыламі, праляцеў над статкам.

4) Плакала яна, не саромячыся.

5) Старэючы, і я сачу з трывогаю за часам, што мяне перажывае.

**А24.** Адзначце сказы з адасобленымі акалічнасцямі.

1) Юлька, малая трохгадовая дзяўчынка, з захапленнем назірала за выступленнем дрэсіраваных малпачак.

2) Зусім блізка ад бацькоў, на ўзгорку, стаяў дом старэйшага сына.

3) На тым жа тыдні, у чацвер, Вольга атрымала першы ліст ад Ірыны.

4) Засяроджаная на сваёй працы, жанчына не адразу пачула вокліч.

5) Адчуўшы цяпло, ажываюць шмат якія заснуўшыя было на зіму насякомыя.

**А25.** Адзначце сказы, у якіх знакі прыпынку пастаўлены правільна.

1) Хтосьці ведаў пра гэтую паляну і апрача нас.

2) Акрамя суму ў яе вачах нічога не было.

3) Марына працавала, замест лабаранткі.

4) Усе, за выключэннем Харэцкага, прыехалі на сустрэчу выпускнікоў.

5) У альбоме не было ніякіх новых малюнкаў, апроч двух маленькіх эскізаў.

**А26.** Падбярыце правільнае заканчэнне для фармулёўкі "ў сказе могуць адасабляцца ...":

1) азначэнні;

2) прыдаткі;

3) выказнікі;

4) дапаўненні;

5) акалічнасці.

**А27.** Адзначце сказы з адасобленымі дапаўненнямі.

1) У гэтым маленькім пакойчыку, апроч стала і ложка, нічога больш не было.

2) Чапляючыся крыллем за нізкія хмары, над самым Жыцькавам ляцелі ў вырай жураўы.

3) Увесь дзень, за выключэннем самай раніцы, ліў дождж.

4) Валодзя, акрамя шахмат, яшчэ вельмі захапляўся музыкай.

5) Крыху далей, за вясёлым сасоннікам, на ўзгорку, стаялі ў задуменным спакоі дубы…

**A28.** Адзначце сказы, у якіх перад злучнікам *як* трэба паставіць коску.

1) Увесь адпачынак надвор'е было як на заказ.

2) І звоняць сосны і бярозкі як векапомныя званы.

3) Суседка для мяне зусім як маці.

4) Дзядзькава хата стаіць як і стаяла.

5) Навалілася стома як цяжкая зіма.

**A29.** Адзначце простыя сказы, ускладненыя параўнальнымі зваротамі.

1) Бліснула маланка, нібы нейкая велічэзная агністая птушка разняла свае крылы, і асвяціла ўсю хмару.

2) Увесь дзень рухавы вецер, як малады пастух, гнаў па небе вялізныя гурты хмар.

3) Ноччу ўпершыню пайшоў дождж, як хто моцнымі пальцамі па даху забарабаніў.

4) Адвячоркам вецер, як сляпы, начаваць кульгае пад ракіты.

5) На нейкі момант стала цяжка-цяжка, нібы апала сэрца.

**A30.** Адзначце сказы, у якіх прапушчаны знакі прыпынку.

1) На гэтай пасадзе ён адчуваў сябе як рыба ў вадзе.

2) Ён нібы чытае мае думкі.

3) Ночка глухая цягнецца доўга як год.

4) Напеў душы яе свабодны разносіць як насенне вецер.

5) Сярожа прачытаў верш амаль як артыст.

**A31.** Сказ ускладнены.

Як раслінка, цягнешся, чалавек, ты да сонца і любіш яго цяпло, пяшчоту і свет.

1) аднароднымі членамі сказа;
2) пабочным словам;
3) звароткам;
4) адасобленай акалічнасцю;
5) параўнальным зваротам.

**A32.** Адзначце сказы, у якіх усе знакі прыпынку пастаўлены правільна.

1) Усё відаць як на далоні: і кожнае дрэва на шляху, і калодзежны жураў у дальняй вёсцы, і зубчасты край лесу, і бялявы дымок далёка…

2) Шумі, спявай, прывольны вецер, не жабраваць табе ў палёх.

3) У заднім кутку двара, каля агарода, працуе ў кузні гаспадар сядзібы – каваль.

4) Што званы вы захадзілі, так трывожна зазванілі?

5) Другі пакой належаў Надзінай маці, Вользе Аляксандраўне, яшчэ маладжавай, рухавай жанчыне і Алесіку.

## Частка B

**B1.** Знайдзіце ў сказах зваротак, выпішыце яго.

Прыйдзі пад вечар ты на поле
І палюбуйся ім, саколе!
У якія роўныя шнурочкі
Цяпер пакладзены снапочкі!

**B2.** Колькі косак прапушчана ў сказе? Запішыце адказ словам.

У пабудаваным нядаўна доміку музея размешчаны зробленыя чучалы бабра і выдры зайца і лісы ваверкі і ваўчанят глушца канюка падорліка і іншых звяроў і птушак характэрных для гэтай мясцовасці.

**B3.** Закончыце фармулёўку.

Словы, спалучэнні слоў і сказы, якія граматычна не звязаны з асноўным выказваннем і ўносяць у сказ дадатковае паведамленне, тлумачэнне, заўвагу, удакладненне, называюцца …

**B4.** Колькі косак прапушчана ў сказе? Запішыце адказ словам у творным склоне.

Узмакрэлы і босы бронзавы ад загару стомлены сенакосам ліпень прылёг памарыць.

**B5.** Падумайце, чым ускладнены сказ. Адказ запішыце ў творным склоне.

Беразняк сніць над рэчкаю сны, пахіліўшы купчастае вецце.

**B6.** Выпішыце прыназоўнік, з якім у сказе ўжыта адасобленае дапаўненне.

На свеце ўсё знойдзеш, апрача бацькі і маці.

**B7.** Дапоўніце сказ.

Прыдатак – гэта азначэнне, выражанае …, які паслядоўна дапасуецца да паяснёнага слова ў склоне.

**B8.** Як называецца інтанацыйнае і сэнсавае выдзяленне даданых членаў сказа з мэтай узмацніць іх значэнне. Адказ запішыце ў назоўным склоне.

### АДКАЗЫ

**Частка A:**

**A1.** 4, 5; **A2.** 2, 3, 5; **A3.** 1, 3, 5; **A4.** 1, 2, 5; **A5.** 3; **A6.** 1, 5; **A7.** 1, 3, 4; **A8.** 2, 4, 5; **A9.** 1, 2; **A10.** 3; **A11.** 1, 3; **A12.** 2, 4; **A13.** 2, 3, 5; **A14.** 1, 4, 5; **A15.** 1, 2, 5; **A16.** 1; **A17.** 1, 3, 4, 5; **A18.** 1, 4, 5; **A19.** 2, 4; **A20.** 1, 4, 5; **A21.** 1, 4, 5; **A22.** 1, 3, 4, 5; **A23.** 1, 2, 5; **A24.** 2, 3, 5; **A25.** 1, 4, 5; **A26.** 1, 2, 4, 5; **A27.** 1, 3, 4; **A28.** 2, 5; **A29.** 2, 4; **A30.** 3, 4; **A31.** 1, 3, 5; **A32.** 1, 2, 3.

**Частка B:**

**B1.** – саколе; **B2.** – шэсць; **B3.** – устаўнымі; **B4.** – трыма; **B5.** – адасобленай акалічнасцю; **B6.** – апрача; **B7.** – назоўнікам; **B8.** – адасабленне.

**Таццяна ДАПІРА,**
выкладчык беларускай мовы
факультэта даўніверсітэцкай падрыхтоўкі БДУ.

*Актуальная тэма*

# ЧАРГАВАННЕ ГАЛОСНАГА ГУКА З НУЛЁМ ГУКА Ў АСНОВЕ НАЗОЎНІКА

У артыкуле аналізуецца інфармацыя пра беглыя галосныя, прадстаўленая ў падручніках па беларускай мове для V і VI класаў агульнаадукацыйных устаноў; даецца лінгвістычнае тлумачэнне з'явы чаргавання нуля гука з галосным гукам, што спадарожнічае словазмяненню назоўнікаў у сучаснай беларускай мове; вызначаюцца разнастайныя фактары, пад уплывам якіх адбываецца данае чаргаванне ў асновах назоўнікаў: фанетычны, граматычны, семантыка-словаўтваральны, лексічны, стылістычны, фактар даўжыні слова, акцэнталагічны; фармулююцца некаторыя правілы рэалізацыі ўстаўной і беглай галосных у асновах назоўнікаў; прапануюцца практыкаванні для фарміравання ў школьнікаў уменняў вызначаць назоўнікі з беглымі і ўстаўнымі галоснымі ў аснове і змяняць такія назоўнікі па склонах; падаецца кароткі спіс назоўнікаў, аснова якіх вакалізуецца перад нулявым канчаткам.

У курсе беларускай мовы для V класа ў межах раздзела “Склад слова. Словаўтварэнне і арфаграфія” школьнікам прапануецца для вывучэння тэма “Чаргаванне зычных і галосных у аснове” [1, с. 16]. Адным з пытанняў гэтай тэмы з'яўляецца пытанне пра чаргаванне галоснага гука з нулём гука. У школьным падручніку для V класа пра гэтую з'яву падаецца наступная інфармацыя: “Пры змяненні некаторых слоў галосныя гукі [а], [о], [э] могуць чаргавацца з нулём гука, г. зн. выпадаць: ***со**н – сну*, *пе**нь** – пня*, *кас**е**ц – касца*. Галосныя гукі, якія выпадаюць пры змяненні слоў, называюцца **беглымі**: *ран**а**к – ранку*, *стаж**о**к – стажка*, *пян**ё**к – пянька*, *тыдз**е**нь – тыдня*” [2, с. 118]. Як відаць з гэтага тэксту, вучням, па-першае, не паведамляецца ніякіх правілаў, што дазволілі б адрозніць назоўнікі з беглай галоснай у аснове ад назоўнікаў, у аснове якіх беглыя галосныя адсутнічаюць, параўн.: *ты́дз**е**нь – ты́дня*, але *сту́дзень – сту́дзеня*. Па-другое, правіла чаргавання галоснага гука з нулём гука ілюструецца ў гэтым тэксце толькі словамі-назоўнікамі і толькі назоўнікамі мужчынскага роду, хоць гэтае чаргаванне назіраецца пры скланенні назоўнікаў і жаночага, і ніякага роду, напрыклад, *кнігарня – кнігар**а**нь, акно – ак**о**н*, і пры змяненні слоў іншых часцін мовы, напрыклад: *хітры – хіц**ё**р*; *вос**е**м – васьмю*; *дзвесце – двухс**о**т*; *забраць – забяру*; *біць – б*[*йу*]*ць*; ***жа**ць – жнуць*. І нарэшце, у падручніку для V класа пра з'яву бегласці галоснага гаворыцца ў сувязі са словазмяненнем назоўніка, хоць пытанне вывучаецца, як ужо адзначалася, у межах раздзела словаўтварэння, а многія словаўтваральныя пары ў сучаснай беларускай мове выяўляюць чаргаванне галоснага з нулём, напрыклад, *аг**о**нь → агнішча, акно → падак**о**ннік*. З іншага боку, у падручніку па беларускай мове для VI класа [3] падрабязна апісваецца якраз сістэма словазмянення назоўнікаў, а пра чаргаванне галоснага гука з нулём гука, што адбываецца ў асновах пэўных назоўнікаў пры іх скланенні, нічога не гаворыцца, і толькі ў дыдактычным матэрыяле без якіх-небудзь каментарыяў пра гукавы склад асновы падаюцца такія словаформы, як Р. адз. *замка́* (ад *зам**о**к*) [3, с. 60], *люб**о**ў* (параўн. Р. адз. *любві*), *сасна – сос**е**н* і *соснаў*, *вішня – віш**а**нь* і *вішняў*, Р. мн. *сясц**ё**р*, *пес**е**нь*, *ка́з**а**к*, *кра́с**а**к*, *сцяжын**а**к*, *дарож**а**к* [3, с. 68]. Такім чынам, інфармацыю пра чаргаванне галоснага гука з нулём гука ў сучасных падручніках для V і VI класаў неабходна, на наш погляд, удакладніць, у некаторай ступені пашырыць, а таксама сістэматызаваць.

***Інфармацыя пра чаргаванне галоснага гука з нулём гука ў аснове назоўніка, якую варта ведаць настаўніку.***

1. Гістарычна чаргаванне галоснага гука з нулём гука звязана перш за ўсё з працэсам падзення рэдукаваных галосных у агульнаўсходнеславянскай мове-аснове, у выніку якога рэдукаваныя галосныя, што знаходзіліся ў моцнай фанетычнай пазіцыі, пераўтварыліся ў галосныя поўнага ўтварэння, а рэдукаваныя галосныя, што знаходзіліся ў слабай пазіцыі, увогуле зніклі са складу слова, напрыклад: ***со**н* – *сну* < **сънъ – съну*. У сучаснай беларускай мове гэтае чаргаванне адыгрывае істотную ролю ў сістэме словазмянення назоўніка, але *падпарадкоўваецца ўжо зусім іншым правілам рэалізацыі* [4].

2. Па традыцыі, абапіраючыся на дыяхранічныя факты, беларускія моваведы разглядаюць чаргаванне галоснага гука з нулём гука ў напрамку ***галосны** → **∅***, інакш кажучы, *ад галоснага гука да нуля гука*. І сапраўды, менавіта такі напрамак гэтага чаргавання здаецца відавоч-

ным пры скланенні некаторых назоўнікаў *мужчынскага роду*, напрыклад: Н. (В.) адз. *ба**чо́к*** – Р. адз. *ба**чка́***, Д. адз. *ба**чку́***, Т. адз. *ба**чко́м***, М. адз. (*на*) *ба**чку́***, Н. (В.) мн. *ба**чкі́***, Р. мн. *ба**чко́ў***, Д. мн. *ба**чка́м***, Т. мн. *ба**чка́мі***, М. мн. (*на*) *ба**чка́х***. Як бачым, пры змяненні назоўніка *ба**чо́к*** галосны гук *о* прысутнічае ў аснове пачатковай формы слова і адсутнічае ў асновах формаў ускосных склонаў. Той факт, што галосны гук быццам "знікае", "выпадае" з асновы назоўніка пры яго скланенні, з'явіўся падставай для таго, каб прыпісаць гэтаму гуку назву *беглы*.

Аднак пры апісанні сістэмы словазмянення назоўніка ў сучаснай беларускай мове чаргаванне галоснага з нулём у яго аснове, як і любое чаргаванне, неабходна разгледзець і ў супрацьлеглым кірунку ***Ø → галосны***, інакш кажучы, *ад нуля гука да галоснага гука*. У такім кірунку гэтае чаргаванне аказваецца відавочным пры змяненні некаторых назоўнікаў *не-мужчынскага роду*, напрыклад: жан. Н. адз. *да**чка́***, Р. адз. *да**чкі́***, Д. адз. *да**чцэ́***, В. адз. *да**чку́***, Т. адз. *да**чко́й***, М. адз. (*аб*) *да**чцэ́***; Н. мн. *до́**чкі***, Д. мн. *до́**чкам***, Т. мн. *до́**чкамі***, М. мн. (*аб*) *до́**чках*** – **Р. (В.) мн.** *да**чо́к***; н. Н. (В.) адз. *а**кно́***, Р. адз. *а**кна́***, Д. адз. *а**кну́***, Т. адз. *а**кно́м***, М. адз. (*на*) *а**кне́***; Н. (В.) мн. *во́**кны***, Д. мн. *во́**кнам***, Т. мн. *во́**кнамі***, М. мн. (*на*) *во́**кнах*** – **Р. мн.** *а**ко́н*** (і *во́**кнаў***). Зразумела, што галосны гук *о* ў асновах словаформаў Р. (В.) мн. *да**чо́к*** і Р. мн. *а**ко́н*** ужо нельга назваць беглым, таму што ён не "знік" з асновы слова, а, наадварот, "уставіўся" ў аснову словаформаў роднага (вінавальнага) склону множнага ліку. У нашым артыкуле такі галосны гук мы будзем называць *устаўным*.

Звернем, аднак, увагу на тое, што і беглы галосны ў аснове назоўніка Н. адз. *ба**чо**к*, і ўстаўныя галосныя ў асновах назоўнікаў Р. мн. *да**чо**к* і *а**ко**н* рэалізуюцца пры аднолькавых умовах: асновы ўсіх трох назоўнікаў знаходзяцца *перад нулявым канчаткам*. І гэты факт дае падставу сцвярджаць: у сучаснай беларускай мове *беглыя і ўстаўныя галосныя ў аснове назоўніка – з'ява адной прыроды*: яны могуць рэалізавацца толькі ў пэўнай граматычнай пазіцыі – перад нулявым канчаткам, г. зн. у словаформах назоўнага (вінавальнага) склону адзіночнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду або ў словаформах роднага (вінавальнага) склону множнага ліку назоўнікаў не-мужчынскага роду. Менавіта ў гэтых словаформах асновы некаторых назоўнікаў могуць быць прадстаўлены ў *вакалізаваным* выглядзе, інакш кажучы, з дадатковым галосным гукам, параўн.: жан. Н. адз. *бага́жн-я* – Р. мн. *бага́**жань*** (і *бага́**жн-яў***); муж. Р. адз. *стры́жн-я* – Н. адз. *стры́**жань***. Зразумела, што ў сучаснай беларускай мове вакалізацыя асновы назоўніка, або чаргаванне ***Ø → галосны*** ў ёй, ужо ніяк не звязана з поўнай агаласоўкай рэдукаваных галосных, што магло мець месца ў далёкім мінулым. У сувязі з гэтым узнікае пытанне: чаму ў сучаснай беларускай мове ў асновах некаторых назоўнікаў перад нулявым канчаткам узнікаюць (або трывала захоўваюцца, што тое самае для спрадвечна беларускіх слоў) дадатковыя галосныя гукі? Паспрабуем вызначыць прычыны чаргавання ***Ø → галосны*** ў асновах назоўнікаў у сучаснай беларускай мове.

3. У сучаснай беларускай мове аснова назоўніка вакалізуецца перад нулявым канчаткам пад уплывам розных прычын. [5].

А) Як правіла, галосны гук можа развіцца ў аснове назоўніка тады, калі аснова заканчваецца *на спалучэнне зычных гукаў*, асабліва на такое спалучэнне, якое мае тэндэнцыю да вакалізацыі. У асновах беларускіх назоўнікаў тэндэнцыю да вакалізацыі выяўляюць спалучэнні *зычны*(*ыя*) + *санорны зычны*, *зычны*(*ыя*) + *заднеязычны зычны*, *зычны*(*ыя*) + *ц*, *зычны*(*ыя*) + *ц'*. У канкрэтных спалучэннях зычных гукаў галосны гук развіваецца абавязкова ў тым выпадку, калі тое ці іншае *канкрэтнае спалучэнне зычных не дапускаецца ў пазіцыі канца слова фанетычнымі правіламі* сучаснай беларускай мовы. Так, напрыклад, словы ў беларускай мове не могуць заканчвацца на спалучэнні *зычны* + *й* і *зычны* (за выключэннем *р*) + *н'*, таму калі аснова назоўніка з такім спалучэннем зычных аказваецца перад нулявым канчаткам, у ёй абавязкова развіваецца галосны гук, параўн.: муж. Р. адз. *вера**б**[**й**-а́]* (арфагр. *вераб'я*) – Н. адз. *вера**бе́й***, Р. адз. *пе́**ў**[**н'**-а]* (арфагр. *пеўня*) – Н. адз. *пе́**вень***, жан. Н. адз. *ся**м**[**й**-а́]* (арфагр. *сям'я*) – Р. мн. *ся**ме́й***, Н. адз. *жаро́**ў**[**н'**-а]* (арфагр. *жароўня*) – Р. мн. *жаро́**вень***. Такім чынам, устаўны галосны можа развіцца ў аснове назоўніка паводле *фанетычнага фактару*. Вядома, што дзеянне фанетычных законаў з'яўляецца рэгулярным, інакш кажучы, аўтаматычным, а гэта значыць, што ўстаўныя галосныя, якія ўзнікаюць у аснове назоўніка паводле фанетычнага фактару, могуць быць апісаны з дапамогай пэўных правілаў.

Б) У некаторых выпадках устаўны галосны гук у аснове назоўніка развіваецца ў такіх спалучэннях зычных, якія ў прынцыпе дапускаюцца ў пазіцыі канца слова, але аказваюцца непажаданымі або немагчымымі на канцы словаформаў з пэўнымі граматычнымі значэннямі. Напрыклад, спалучэнні *зычны*(*ыя*) + *санорны* ў сучаснай беларускай мове могуць рэалізавацца ў канцы такіх назоўнікаў мужчынскага роду, як *крэ**мль***, *ба**стр***, *мон**стр***, але немагчымы на канцы такіх словаформаў жаночага роду роднага склону множнага ліку, як **зе**мль***,**се**стр***, – па-

беларуску можна сказаць толькі *зямé**ль***, *ся**сцёр*** (або *сёстраў*).

Уплыў граматычнага значэння роду назоўніка на вакалізацыю яго асновы можна прадэманстраваць і па-іншаму, напрыклад: калі аснова назоўніка *жаночага роду* перад матэрыяльна выражаным канчаткам заканчваецца на спалучэнне *зычны*(*ыя*) + *к*, то перад нулявым канчаткам Р. мн. гэтая аснова абавязкова вакалізуецца: *галý**бк**а* – *галý**бак***, *барó**дк**а* – *барó**дак***, *рэ́**дзьк**а* – *рэ́**дзек***, *бярó**зк**а* – *бярó**зак***, *дý**мк**а* – *дý**мак***, *мінý**тк**а* – *мінý**так***, *шá**фк**а* – *шá**фак***, *бó**чк**а* – *бó**чак***, *шы́**шк**а* – *шы́**шак***, *дзé**ўк**а* – *дзé**вак***, *ві́**лк**а* – *ві́**лак***, *шклá**нк**а* – *шклá**нак***, *чá**рк**а* – *чá**рак***, *двó**йк**а* – *двó*[***йэ***]***к***, *вё**ск**а* – *вё**сак***, *клё**цк**а* – *клё**цак***; калі ж аснова назоўніка *мужчынскага роду* перад матэрыяльна выражаным канчаткам заканчваецца на спалучэнне *зычны*(*ыя*) + *к*, то перад нулявым канчаткам Н. адз. гэтая аснова можа як вакалізавацца, так і застацца без вакалізацыі, параўн.: Р. адз. *ба**ск**á*, Д. – М. адз. *ба**ск**ý*, Т. адз. *ба**ск**óм* – Н. (В.) адз. *ба**сóк***, але Р. (В.) адз. *бá**ск**а*, Д. – М. адз. *бá**ск**у*, Т. адз. *бá**ск**ам* – Н. адз. *ба**ск***; Р. адз. *алó**ўк**а*, Д. – М. адз. *алó**ўк**у*, Т. адз. *алó**ўк**ам* – Н. (В.) адз. *алó**вак***, але Р. (В.) адз. *вó**ўк**а*, Д. – М. адз. *вó**ўк**у*, Т. адз. *вó**ўк**ам* – Н. адз. *во**ўк***.

Такім чынам, вакалізацыя асновы назоўніка ў значнай ступені звязана *з граматычным значэннем роду*, а гэта сведчыць, што ўстаўныя галосныя ў аснове назоўніка выяўляюць залежнасць *ад граматычнага фактару*. Менавіта граматычным фактарам тлумачацца правілы рэалізацыі ўстаўнога галоснага, розныя для назоўнікаў мужчынскага, жаночага, ніякага роду і назоўнікаў, якія ўжываюцца толькі ў форме множнага ліку.

В) Вакалізацыя асновы назоўніка перад нулявым канчаткам у значнай ступені залежыць ад таго, які *суфікс* уваходзіць у яе структуру. У сучаснай беларускай мове ёсць словаўтваральныя суфіксы з пераменным гукавым складам: у адных словаформах яны могуць ужывацца з галосным гукам, а ў іншых словаформах – без галоснага гука. Да ліку такіх суфіксаў адносяцца перш за ўсё суфікс *-#ц-**, з дапамогай якога ўтвараюцца назоўнікі мужчынскага роду, суфікс *-#н'-*, што выкарыстоўваецца для ўтварэння назоўнікаў жаночага роду, і суфікс *-#к-*, які з'яўляецца прадуктыўным пры ўтварэнні назоўнікаў і мужчынскага, і жаночага роду. Словаформы назоўнікаў з гэтымі суфіксамі рэгулярна вакалізуюцца ў пазіцыі перад нулявым канчаткам, напрыклад: муж. Р. адз. *стáр-**ц**-а*, *валён-**к**-а*, *чай-**к**-ý* – Н. адз. *стáр-**ац***, *валён-**ак***, *ча*[*й-**ó***]***к***; жан. Н. адз. *гарбáр-**н**-я*, *мяцёл-**к**-а*, *мы́й-**к**-а*, *карамéль-**к**-а* – *гарбáр-**ань***, *мяцёл-**ак***, *мы́*[*й-э*]***к***, *карамéл-**ек***. Прыведзеныя прыклады паказваюць, што вакалізацыя асновы назоўніка можа адбывацца ў сувязі з вакалізацыяй словаўтваральнага суфікса, г. зн. пад уплывам *словаўтваральнага фактару*.

Г) Даволі часта ў беларускай мове сустракаюцца такія выпадкі, калі ўстаўны галосны ў аснове назоўніка нельга патлумачыць ні фанетычнымі, ні граматычнымі, ні словаўтваральнымі прычынамі. Напрыклад, з'яўленне ўстаўнога галоснага ў спалучэннях *-кр-*, *-ўл'*, *-рн-* асноў назоўнікаў мужчынскага роду *свё**кар*** (параўн. Р. адз. *свё**кр**а*), *жура**вéль*** (параўн. Р. адз. *жура**ў**-**л**я́*), *дзё**ран*** (параўн. Р. адз. *дзё**рн**у*) нельга патлумачыць фанетычнай пазіцыяй канца слова, таму што ў сучаснай беларускай мове ёсць такія назоўнікі, у якіх даныя спалучэнні зычных у пазіцыі канца слова не вакалізуюцца, параўн.: *фія́**кр**а* – *фія́**кр***, *Яраслá**ўл**я* – *Яраслá**ўль***, *цё**рн**у* – ***цёрн***. Вакалізацыю спалучэння *-рн-* у аснове словаформы жан. Р. мн. *цыстэ́**ран*** (ад *цыстэ́**рн**а*) нельга патлумачыць ні фанетычнымі, ні граматычнымі прычынамі, таму што гэтае спалучэнне дапускаецца, як мы ўжо бачылі, у пазіцыі канца слова, у тым ліку ў пазіцыі канца словаформаў роднага склону множнага ліку назоўнікаў жаночага роду, параўн.: муж. Н. адз. *канцэ́**рн***, *мадэ́**рн***, *экстэ́**рн***; жан. Р. мн. *валтó**рн***, *кавé**рн***, *тавé**рн*** [6, с. 313 – 314]. Нарэшце, устаўны галосны ў аснове назоўніка *вá**лец*** – 'прэс у выглядзе двух або некалькіх цыліндраў' (параўн. Р. адз. *вá**льц**а*) – немагчыма патлумачыць ні фанетычнымі, ні словаўтваральнымі прычынамі, таму што, папершае, спалучэнне *-льц-* не забараняецца фанетычнымі правіламі сучаснай беларускай мовы ў пазіцыі канца слова, параўн. *зе**льц***, па-другое, сегмент *-ец* у аснове *вá**лец*** зусім не суфікс *-#ц-*, што вакалізаваўся, як здаецца на першы погляд. Слова *вáлец* увогуле невытворнае – гэта запазычанне з нямецкай мовы і суадносіцца са словам *Walze* 'вал, цыліндр, каток'.

Гэтыя і іншыя далёка не адзінкавыя факты сведчаць пра тое, што не заўсёды прысутнасць устаўных галосных у аснове назоўніка можна падвесці пад дзеянне якіх-небудзь строгіх правілаў, а гэта значыць, што пры вывучэнні беларускай мовы асобныя выпадкі рэалізацыі ўстаўных галосных у асновах назоўнікаў *трэба запамінаць*.

Даволі часта ўстаўныя галосныя гукі развіваюцца (але могуць і не развівацца!) у выніку вакалізацыі канцавых санорных гукаў у асновах запазычаных, але *шырокаўжывальных* і *агульнавядомых назоўнікаў*, напрыклад, *мет*[а]*р*, *мініст*[а]*р*, *спектак*[а]*ль*, *матацык*[а]*л*. Гэтая з'ява, дапушчальная ў размоўным стылі маўлення па-беларуску, як правіла, не перадаецца на пісьме [7, с. 321, 326].

* Сімвалам # абазначаецца месца ў марфеме, дзе можа адбыцца чаргаванне нуля гука з галосным гукам.

4. Да гэтага часу мы разглядалі чаргаванне нуля гука з галосным гукам у напрамку да галоснага гука, інакш кажучы, вялі размову пра ўстаўныя галосныя. Аднак, нагадаем, данае чаргаванне можна разглядаць і ў напрамку ад галоснага гука да нуля гука. Зразумела, што ў гэтым выпадку размова будзе весціся пра беглыя галосныя. Як мы ўжо адзначалі, пра з'яву бегласці галоснага можна гаварыць толькі ў сувязі з назоўнікамі мужчынскага роду.

5. Чаргаванне **галосны гук → *Ø*** адбываецца ў такіх словаформах назоўнікаў мужчынскага роду, якія маюць *матэрыяльна выражаны канчатак*, г. зн. ва ўсіх формах ускосных склонаў (акрамя формы вінавальнага склону адзіночнага ліку для неадушаўлёных назоўнікаў), напрыклад: Н. адз. *дзя**до́к*** – Р. адз. *дзя**дк**-а́*, Д. адз. *дзя**дк**-у́*, В. адз. *дзя**дк**-а́*, Т. адз. *дзя**дк**-о́м*, М. адз. (*аб*) *дзя**дк**-у́*, Н. мн. *дзя**дк**-і́*, Р. мн. *дзя**дк**-о́ў*, Д. мн. *дзя**дк**-а́м*, Т. мн. *дзя**дк**-а́мі*, М. мн. (*аб*) *дзя**дк**-а́х*. Аднак матэрыяльна выражаныя канчаткі не з'яўляюцца пазіцыйнай умовай данага чаргавання, таму што асновы назоўнікаў, тоесныя паводле фанетычнага афармлення канцавой часткі, перад гэтымі канчаткамі могуць як выяўляць бегласць галоснага гука, што мы і бачым пры скланенні назоўніка *дзядо́к*, так і не выяўляць гэтай бегласці, параўн.: Н. адз. ***хадо́к*** – Р. адз. ***хадак**-а́*, Д. адз. ***хадак**-у́*, В. адз. ***хадак**-а́*, Т. адз. ***хадак**-о́м*, М. адз. (*аб*) ***хадак**-у́*, Н. мн. ***хадак**-і́*, Р. мн. ***хадак**-о́ў*, Д. мн. ***хадак**-а́м*, Т. мн. ***хадак**-а́мі*, М. мн. (*аб*) ***хадак**-а́х*. Такім чынам, бегласць галоснага ў асновах назоўнікаў мужчынскага роду – пазіцыйна не абумоўленая з'ява, і значыць, *нерэгулярная*. З гэтай прычыны цяжка сфармуляваць правілы яе рэалізацыі ў сучаснай беларускай мове.

6. Бегласць галоснага ў асновах назоўнікаў мужчынскага роду ў сучаснай беларускай мове ўжо фактычна не залежыць ад фанетычных прычын, г. зн. ад таго, у якім спалучэнні зычных гукаў знаходзіцца беглы галосны гук. Пра гэта сведчаць такія прыклады, як: ***свёкар*** – ***свёкра***, але *ле́**кар*** – *ле́**кара***; ***ікол*** – ***ікла́***, але ***уко́л*** – ***уко́лу***; ***ку́халь*** – ***ку́хля***, але ***ха́халь*** – ***ха́халя***; ***бу́дзень*** – ***бу́дня***, але *сту́**дзень*** – *сту́**дзеня***; ***стры́жань*** – ***стры́жня***, але ***кры́жань*** – ***кры́жаня***. Такая самая варыянтнасць выяўляецца нават у межах адной парадыгмы, напрыклад: *жа**ро́н*** – *жа**рна́*** і *жа**ро́на***, *про́**мень*** – *про́**мні*** і *про́**мені***, *кі́**пень*** – *кі́**пню*** і *кі́**пеню***. Як бачым, гукавое афармленне асновы не дае носьбіту мовы ніякай падказкі пра тое, які галосны гук знаходзіцца ў яе канцавой частцы – беглы ці нябеглы. Выключэннем з'яўляюцца толькі асновы назоўнікаў, што заканчваюцца на спалучэнне *галосны + ц*. Амаль рэгулярна пры скланенні гэтых назоўнікаў адбываецца наступнае: калі ў аснове слова галоснаму гуку папярэднічае спалучэнне зычных гукаў, то галосны гук пры скланенні назоўніка не выпадае, напрыклад, *ча**рве́ц*** – *ча**рвяц**а́*, *ма**тра́ц*** – *ма**тра́ц**а*, *му**дрэ́ц*** – *му**драц**а́*, калі ж у аснове назоўніка перад галосным гукам знаходзіцца адзін зычны гук, то, як правіла, галосны гук чаргуецца з нулём гука ў формах ускосных склонаў, напрыклад, *уда**ве́ц*** – *уда**ўц**а́*, *ста́**рац*** – *ста́**рц**а*, *ба**рэ́ц*** – *ба**рц**а́*.

Такім чынам, у сучаснай беларускай мове амаль не дзейнічае самы важны – фанетычны – фактар чаргавання галоснага гука з нулём гука, якім мог бы быць забяспечаны аўтаматызм гэтага чаргавання. У такой сітуацыі засваенне сістэмы скланення назоўнікаў мужчынскага роду значна абцяжарваецца, таму што *навучэнцу неабходна* запомніць не толькі склонавыя канчаткі назоўнікаў розных лексіка-граматычных разрадаў, але і *асобна засвоіць назоўнікі з беглым галосным у аснове*.

7. Прычыны бегласці галосных гукаў у асновах назоўнікаў мужчынскага роду ў беларускім мовазнаўстве яшчэ дастаткова не вывучаны, аднак пэўныя крокі ў даследаванні гэтай складанай марфаналагічнай з'явы зробленыя. У прыватнасці, выяўлена, што ў сучаснай беларускай мове бегласць галоснага залежыць ад колькасці складоў і месца націску ў словаформе, інакш кажучы, ад *фактару даўжыні слова* і *акцэнталагічнага фактару*. Так, у аднаскладовых асновах бегласць галоснага не развіваецца, але *па традыцыі* гэтая з'ява захоўваецца пры скланенні назоўнікаў *лён*, *сон*, *дзень*, *пень*, *леў*, *лоб*, *лёд*, *мох*, параўн. Р. адз. ***ільну́*** (часцей *лёну*), ***сну***, ***дня***, ***пня***, ***льва*** (***ільва́***), ***лба*** (***ілба́***), ***ільду́*** (часцей *лёду*), ***імху́*** (часцей *мо́ху*).

Уплыў націску на бегласць галоснага праяўляецца, напрыклад, у асновах назоўнікаў, што заканчваюцца на *-ол* і на *-аль*. У асновах на *-ол* беглыя галосныя развіваюцца ў тым выпадку, калі назоўнік мае рухомы націск: ***аро́л*** – ***арла́***, ***асёл*** – ***асла́***, але ***ато́л*** – ***ато́лу***, ***анёл*** – ***анёлу***. І наадварот, у асновах на *-аль* беглыя галосныя развіваюцца ў тым выпадку, калі назоўнік мае пастаянны націск на аснове: ***ды́шаль*** – ***ды́шля***, ***га́ндаль*** – ***га́ндлю***, але ***кава́ль*** – ***каваля́***, ***меда́ль*** – ***медаля́*** [8, с. 102]. Паводле вынікаў нашага даследавання мы можам сцвярджаць, што беглыя галосныя ніколі не развіваюцца ў асновах назоўнікаў на *-а́к*, дзе галосны гук націскны, напрыклад: *бай**ба́к*** – *бай**бак**а́*, *дзіва́к* – *дзівака́*, ***яда́к*** – ***едака́***, ***ляжа́к*** – ***лежака́***, ***гуза́к*** – ***гузака́***, ***кула́к*** – ***кулака́***, ***гама́к*** – ***гамака́***, ***юна́к*** – ***юнака́***, ***шчупа́к*** – ***шчупака́***, ***бура́к*** – ***бурака́***, ***гуса́к*** – ***гусака́***, ***іша́к*** – ***ішака́***, а таксама ***шэла́к*** – ***шэла́ку***, ***апа́к*** – ***апа́ку***, ***бара́к*** – ***бара́ка*** [9, с. 63].

Істотным фактарам бегласці галоснага ў асновах назоўнікаў з'яўляецца таксама *семантыка-*

*словаўтваральны фактар*. Дзеянне гэтага фактару добра выяўляецца пры параўнанні скланення назоўнікаў *дзядок* і *хадок*. Галосны гук *о* ў аснове першага назоўніка з'яўляецца, як мы ўжо бачылі, беглым, а ў аснове другога назоўніка захоўваецца і пераходзіць у *а* не пад націскам, параўн.: Р. адз. *дзя***дк**-*á* і *ха***дак**-*á*. Прычына гэтага заключаецца якраз у тым, што словы *дзядок* і *хадок* маюць розныя суфіксы: -*ок*$_1$- служыць для ўтварэння назоўнікаў з памяншальным значэннем, а суфікс -*ок*$_2$- надае слову значэнне 'выканаўца дзеяння, што называецца ўтваральнай асновай'. Гэтыя суфіксы адрозніваюцца не толькі паводле іх ролі ў словаўтваральным працэсе, але і паводле формы: -*ок*$_1$- утрымлівае беглы галосны, інакш кажучы, гэта варыянт суфікса -*#к*-, а -*ок*$_2$- беглага галоснага не мае [5, с. 32]. У сучаснай беларускай мове ўсе дэмінутыўныя (г. зн. са значэннем памяншальнасці) назоўнікі мужчынскага роду, утвораныя з дапамогай суфікса -*#к*-, маюць беглы галосны ў аснове, напрыклад: *грыб-***ó***к* – *грыб*-**к**-*á*, *вянó***ч**-**ак** – *вянó***ч**-**к**-*а*, *руча*[**й**-**ó**]**к** (арфагр. *ручаёк*) – *руча***й**-**к**-*á*.

Як відаць з праведзенага намі аналізу, чаргаванне галоснага гука з нулём гука, што рэалізуюцца ў асновах назоўнікаў пры іх словазмяненні, – гэта складаная з'ява ў сістэме беларускай мовы. *Яна адбываецца пад уплывам мноства фактараў, дзеянне якіх не мае абсалютна рэгулярнага характару*. Тым не менш, на асобных фрагментах сістэмы словазмянення назоўніка выяўляецца адносная рэгулярнасць вакалізацыі яго асновы, што і стварае аб'ектыўныя падставы для фармулёўкі некаторых правілаў рэалізацыі гэтай з'явы.

*Працяг будзе.*

**Спіс літаратуры**


1. **Вучэбная праграма для агульнаадукацыйных устаноў з беларускай і рускай мовамі навучання.** Беларуская мова. V – XI класы. – Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2009. – 55 с.
2. **Беларуская мова** : вучэб. дапам. для 5-га кл. агульнаадукац. устаноў з беларус. і рус. мовамі навучання : у 2 ч. / В. П. Красней [і інш.]. – Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2008. – 160 с. – Ч. 2.
3. **Красней, В. П.** Беларуская мова : вучэб. дапам. для 6-га кл. агульнаадукац. устаноў з беларус. і рус. мовамі навучання / В. П. Красней, Я. М. Лаўрэль, С. Р. Рачэўскі. – Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2009. – 304 с.
4. **Хвясько, С. Г.** Праблема вакалізацыі асновы назоўніка ў апісаннях марфаналогіі беларускай і рускай моў / С. Г. Хвясько // Наука – 2009 : сб. науч. ст. : в 2 ч. / ГрГУ им. Я. Купалы; редкол. : А. Ф. Проневич (отв. ред.) [и др.]. – Гродно : ГрГУ, 2009. – С. 128 – 130. – Ч. 2.
5. **Гардзей, Н. М.** Вакалізацыя асновы назоўніка як з'ява марфаналагічнай прыроды (на матэрыяле беларускай і рускай моў) / Н. М. Гардзей // Веснік Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Серыя 3. Філалогія, педагогіка, псіхалогія. – 2010. – № 1. – С. 29 – 35.
6. **Хвясько, С.** Вакалізацыя спалучэнняў тыпу *зычная (ыя) + санорная* ў зыходзе субстантыўных асноў / С. Хвясько // Грані роднага слова : зб. мовазн. навук. арт. (да 80-год. праф. П. У. Сцяцко) / ГрДУ імя Я. Купалы; рэдкал. : М. А. Даніловіч (адк. рэд.) [і інш.]. – Гродна : ГрДУ, 2010. – С. 309 – 316.
7. **Фанетыка беларускай літаратурнай мовы** / І. Р. Булыка, Л. Ц. Выгонная, Г. В. Лосік, А. І. Падлужны; рэд. А. І. Падлужны. – Мінск : Навука і тэхніка, 1989. – 335 с.
8. **Марозаў, У. І.** Беглыя галосныя ў іменным словазмяненні і словаўтварэнні / У. І. Марозаў // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. – 1982. – № 2. – С. 100 – 106.
9. **Хвясько, С. Г.** Вакалізацыя асновы назоўніка ў сучаснай беларускай мове: дыс. … магістр. філал. навук; 1-21 80 10 / С. Г. Хвясько. – Гродна, 2009. – 146 с.



**Святлана ХВЯСЬКО,**
аспірантка кафедры
беларускага тэарэтычнага мовазнаўства
Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы.


*Артыкул рэкамендаваны да друку кандыдатам філалагічных навук Н. Гардзей.*

*У метадычную скарбонку*

# МЕТОДЫКА НАВУЧАННЯ АРФАГРАФІІ

Асноўная мэта навучання арфаграфіі – сфарміраваць пісьменнасць вучняў: уменне выкарыстоўваць пры напісанні слоў графічныя сродкі ў адпаведнасці з правіламі. Для дасягнення вызначанай мэты неабходна вырашыць наступныя задачы: пазнаёміць школьнікаў з арфаграфічнымі паняццямі і правіламі; на аснове ведання вучнямі арфаграфічных нормаў сфарміраваць адпаведныя ўменні і навыкі; навучыць правільна пісаць словы, якія з'яўляюцца выключэннямі з правіл; сфарміраваць патрэбу і ўменне карыстацца арфаграфічным слоўнікам.

Змест навучання арфаграфіі складаюць арфаграфічныя паняцці, правілы, уменні і навыкі. Асноўныя арфаграфічныя ўменні: знаходзіць у словах арфаграмы, правільна тлумачыць напісанне, пісаць словы ў адпаведнасці з вывучанымі правіламі, знаходзіць і выпраўляць арфаграфічныя памылкі.

Да спецыяльных метадычных прынцыпаў навучання арфаграфіі адносяцца прынцыпы: 1) узаемасувязі вывучэння арфаграфіі з засваеннем фанетыкі і граматыкі; 2) узаемасувязі вывучэння арфаграфіі з развіццём маўлення вучняў; 3) свядомасці і аўтаматызму.

Найбольш пашыранымі метадамі азнаямлення школьнікаў з арфаграмай і арфаграфічным правілам з'яўляюцца: паведамленне настаўніка, гутарка, назіранне і моўны аналіз і інш. Для фарміравання арфаграфічных уменняў найчасцей выкарыстоўваюцца такія метады навучання (практыкаванні), як арфаграфічны разбор, спісванне (няўскладненае, ускладненае і інш.), дыктанты (папераджальны, тлумачальны, выбарачны, слоўнікавы і інш.).

**Уладзімір САЎКО.**

*У дапамогу настаўніку*

# ВОДГУК НА МАСТАЦКІ ТВОР НА ЎРОКАХ ЛІТАРАТУРЫ

Водгук на літаратурны твор можна разглядаць як жанр творчай працы, які мае ўласныя разнавіднасці. Вучні звяртаюцца да розных відаў водгукаў: сачыненне, ліст да аўтара, верш, эсэ, дзённік, навела, замалёўка, рэпартаж. Традыцыйна водгукі пішуцца ў форме сачынення. Аналіз вучнёўскіх водгукаў дапамагае настаўніку вызначыць асаблівасці ўспрымання школьнікамі літаратурнага твора як на этапе першапачатковага самастойнага чытання, так і пасля аналізу або абмеркавання твора на ўроку, прасачыць рост чытацкай культуры, узровень сфарміраванасці ўменняў самастойна аналізаваць і ацэньваць мастацкія творы.

Да напісання водгукаў рыхтуюцца паэтапна. У пачатковых класах вучні запісваюць назвы прачытаных кніг, імёны аўтараў, коратка пераказваюць змест твора або асобнага эпізоду, адзначаюць, ці спадабалася кніга. Пераказ прачытанага твора ў пачатковых класах – самая простая форма водгуку: школьнік вылучае з усяго сюжэта тое, што, на яго думку, заслугоўвае найбольшай увагі, спыняецца на найбольш значных з асабістага пункту гледжання эпізодах.

Напісанне водгуку ў сярэдніх і старшых класах – адзін з самых перспектыўных і разам з тым складаных відаў пісьмовых работ творчага характару. Узнікае пытанне: "Чаму, напрыклад, канкурсанты паспяхова напісалі дыктоўку, выканалі няпростыя заданні лінгвістычнага характару, урэшце, выявілі даволі высокі ўзровень вуснага маўлення (хоць тут яшчэ ёсць над чым працаваць, і пра гэта варта гаварыць асобна), але аказаліся бездапаможнымі, за выняткам нямногіх, пры напісанні пісьмовага водгуку на мастацкі твор?" [1, с. 65]. Адказ, напэўна, трэба шукаць у высвятленні дзвюх акалічнасцей: 1) складанасці літаратурнага твора як цэласнай мастацкай сістэмы; 2) цяжкасцей, звязаных з успрыманнем вобраза, асабліва чытачамі, у значнай меры не падрыхтаванымі да высокай ступені мастацкай умоўнасці, – школьнікамі. "Мастацтва спасцігаць мастацтва" – дадзеная аксіёма чытацкага ўспрымання павінна вызначаць змест урокаў літаратуры, толькі пры выкананні гэтай умовы вучань зможа праявіць сябе ў жанры творчай працы – водгуку.

Важнай праблемай у напісанні водгукаў з'яўляецца выбар мастацкіх твораў. Метадысты рэкамендуюць звяртацца не да тых тэкстаў, што ўваходзяць у школьную праграму і вывучаюцца на ўроках, а да незнаёмых твораў вядомых аўтараў або твораў, што былі незаслужана забыты. «Выбар мастацкіх твораў павінен быць накіраваны на выяўленне творчых здольнасцей школьнікаў, іх самастойнасці ў інтэрпрэтацыі і ацэнцы літаратурных твораў, умення аргументавана будаваць меркаванне, складаць водгук або рэцэнзію на невядомы ім твор. Пры выбары мастацкіх твораў неабходна перш за ўсё арыентавацца на імёны класікаў, гэта значыць мець на ўвазе тую частку мастацкай славеснасці, якая з'яўляецца цікавай і аўтарытэтнай для шэрагу пакаленняў і складае "залаты" фонд літаратуры» [2]. Пры падборы літаратурных твораў улічваюць актуальнасць іх зместу, высокія маральныя і ідэйна-эстэтычныя вартасці, вобразнасць, зладжанасць мастацкай формы.

Водгук выкарыстоўваецца як адно з асноўных заданняў на прадметных алімпіядах розных узроўняў: ад унутрышкольных да рэспубліканскіх. Падрыхтоўка вучня-ўдзельніка алімпіяды да напісання водгуку патрабуе ад настаўніка асаблівага педагагічнага майстэрства, паколькі школьнік дэманструе не толькі ўласныя веды, уменні, навыкі, але і агульны ўзровень літаратурнага развіцця вучняў класа (школы, раёна, горада, вобласці, краіны). "Алімпіядны конкурс – гэта своеасаблівы зрэз, які паказвае падрыхтаванасць школьнікаў да ўспрымання мастацкага твора і яго аналізу, ступень валодання выпускнікамі пісьмовай формай мовы" [3, с. 65].

Структурна гэты від творчай працы мае наступныя элементы:

– асноўная думка твора, тэзіс (сцвярджэнне), які трэба даказаць;
– доказ думкі (аргументы, прыклады);
– вывад.

Такім чынам, у структурных адносінах водгук набліжаецца да сачынення-разважання, якое мае аналагічную будову. Фармулюючы асноўную думку твора, неабходна арыентаваць вучняў на дакладнасць, яснасць меркавання. Пасля вызначэння асноўнай думкі школьнікі пераходзяць да аргументаў, што абгрунтоўваюць вызначаны тэзіс. Доказнасць думкі вучня-чытача залежыць ад сталасці яго мыслення, падбору фактычнага і цытатнага матэрыялаў, умення лагічна выкласці ўласныя меркаванні адносна агульнай ідэі твора. Вывад надае водгуку завершаны выгляд, ён павінен быць запамінальным, яркім. Варта арыен-

таваць вучняў на сціслась, грунтоўнасць, дакладнасць вывадаў у водгуку, іх адпаведнасці абранаму тэзісу.

Паводле структурных і змястоўных асаблівасцей водгук на літаратурны твор падобны не толькі да сачынення-разважання, але і да рэцэнзіі. Інтэрнэт-сайты, дзе прэзентуюцца водгукі на літаратурныя творы, вельмі часта змяшчаюць на адной старонцы і рэцэнзіі. У школьнай практыцы вучні таксама нярэдка падмяняюць адно паняцце другім. Сапраўды, гэтыя віды работ блізкія і па змесце, і па форме: вучань павінен выказаць уласныя меркаванні, раскрыць мастацкі змест твора, ацаніць учынкі і паводзіны герояў, зыходзячы з мастацкай фактуры твора. Аднак водгук у параўнанні з рэцэнзіяй мае сваю спецыфіку: “У рэцэнзіі аналізуецца змест твора і майстэрства аўтара, яго ўменне карыстацца сродкамі мовы, у тым ліку і вобразна-выяўленчымі, і кампазіцыйнымі прыёмамі. Рэцэнзент імкнецца (павінен імкнуцца) да максімальнай аб’ектыўнасці ў ацэнцы твора, таму свае думкі і меркаванні падмацоўвае спасылкамі на вядомыя аўтарытэты, ужывае цытаты. А ў водгуку выказваюцца свае погляды, інтарэсы, перадаюцца асабістыя ўражанні ад твора. Таму водгук пішацца ад першай асобы, вызначаецца эмацыйнасцю выкладу… Калі ў водгуку аналізуецца не толькі змест (тэма і тая рэальнасць, тыя факты, з’явы, што апрацаваны ў тэксце для раскрыцця тэмы), але і мастацкі бок твора (сюжэт, кампазіцыя, моўныя сродкі і прыёмы), ён набліжаецца да рэцэнзіі” [1, с. 65]. Як бачым, вызначыць дакладную мяжу паміж водгукам і рэцэнзіяй складана. Тым не менш настаўнік павінен арыентаваць вучня на эмацыйнасць, вобразнасць, нязмушанасць уласных ацэнак у водгуку, долю суб’ектыўнасці яго зместу як вызначальныя рысы дадзенага віду работы. Разам з тым варта папярэджваць фарміраванне павярхоўнага стаўлення вучняў да мастацкага твора, катэгарычнасць уласных ацэнак – неапраўданых, надуманых, далёкіх ад мастацкай канцэпцыі аўтара; скіроўваць школьніка на грунтоўны літаратуразнаўчы і лінгвістычны аналіз твора.

На нашу думку, спецыфіка напісання водгуку заключаецца ў тым, каб гарманічна спалучыць два супрацьлеглыя пачаткі: філалагічную зададзенасць у інтэрпрэтацыі літаратурнага твора з лёгкасцю, нязмушанасцю і адначасова сталасцю чытацкай думкі.

Канкрэтныя патрабаванні да водгуку як аднаго з відаў конкурсных работ вызначаюцца аргкамітэтам алімпіяды, зацвярджаюцца палажэннем аб яе правядзенні. Крытэрыі ацэнкі водгуку, аб’ём работы адрозніваюцца ў залежнасці ад статусу алімпіяды. Так, напрыклад, у адпаведнасці з Парадкам правядзення алімпіяды школьнікаў Саюзнай дзяржавы “Россия и Беларусь: историческая и духовная общность” у 2010 г. для вучняў X, XI класаў агульнаадукацыйных устаноў Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі прадугледжваўся адборачны тур. На ім удзельнік алімпіяды самастойна выбіраў тэму сачынення ў выглядзе водгуку на адзін з прапанаваных вершаў. Сачыненне прэзентавалася на электронным і папяровым носьбітах аб’ёмам да 2 – 3 старонак фармату А 4, (шрыфт 14, інтэрвал 1,5). “Журы ацэньвае сачыненні ўдзельнікаў адборачнага этапу алімпіяды па наступных крытэрыях:

– адпаведнасць зместу водгуку выбранаму ўдзельнікам вершу;
– характарыстыка вобразна-выяўленчых сродкаў;
– культура цытавання матэрыялу;
– аргументацыя;
– адлюстраванне ў сачыненні асобы і пазіцыі яго аўтара;
– пісьменнасць” [4].

На практыцы (алімпіяда вучняў школ Брэсцкай вобласці, 2011 г.) выкарыстоўваюць наступныя крытэрыі ацэнкі водгукаў на мастацкі твор.

I. *Уменне выяўляць асноўную тэматыку і праблематыку твора* (*да 2 балаў*):
– правільнае разуменне тэмы і праблемы твора (2 балы);
– няпоўнае разуменне тэмы і праблемы твора (1 бал);
– прыблізнае разуменне тэмы і праблемы твора (0,5 бала).

II. *Уменне бачыць аўтарскую пазіцыю* (*да 2 балаў*):
– дакладна вызначана і абгрунтавана аўтарская пазіцыя (2 балы);
– няпоўна вызначана аўтарская пазіцыя (1 бал);
– вызначаны асобны аспект аўтарскай пазіцыі (0,5 бала).

III. *Уменне абгрунтаваць прачытанае* (*да 7 балаў*):
– дакладнае і вычарпальнае абгрунтаванне ўласнага прачытання твора; наяўнасць чытацкага вопыту (звесткі пра аўтара, паралелі з іншымі творамі, спасылкі на іншых аўтараў, уласныя паэтычныя радкі, цытаты і інш.), творчы характар водгуку (7 балаў);
– наяўнасць цікавых назіранняў над творам, пэўнага чытацкага вопыту, эпізадычнае абгрун-

таванне сваіх вывадаў са спасылкай на тэкст і творы іншых аўтараў (5 – 6 балаў);

– ацэнка асобных (2 – 3) аўтарскіх пераканняў, думак, разважанняў; частковае абгрунтаванне (4 балы);

– наяўнасць цікавых назіранняў над творам без пэўных доказаў (3 балы);

– канстатацыя арыгінальнасці прачытанага, але адсутнасць доказаў, наяўнасць фактычных, лагічных памылак у доказах, абмежаваны чытацкі вопыт (2 балы);

– недакладнасць, спрошчанасць асабістай ацэнкі, пераказ зместу твора, недарэчнае цытаванне твораў вядомых аўтараў (1 бал).

IV. *Уменне вызначаць ролю сюжэта, кампазіцыі, вобразных сродкаў* (*да 8 балаў*):

– дакладнае вызначэнне кампазіцыі твора, сюжэтных ліній, вобразаў, вобразных сродкаў, іх цікавая інтэрпрэтацыя (8 балаў);

– нязначныя недахопы ў інтэрпрэтацыі вобразных сродкаў і структуры тэксту (5 – 7 балаў);

– наяўнасць нешматлікіх (1 – 2) памылак у вызначэнні і інтэрпрэтацыі кампазіцыі твора, сюжэтных ліній, вобразаў, вобразных сродкаў (4 балы);

– інтэрпрэтацыя асобных элементаў тэксту (3 балы);

– павярхоўнае бачанне ролі сюжэта, кампазіцыі, вобразаў, мастацкіх сродкаў у раскрыцці тэмы і ідэі твора; недакладнасці ў вызначэнні ролі сюжэта, кампазіцыі, вобразных сродкаў (2 балы);

– пералічэнне мастацкіх сродкаў без абгрунтавання іх значнасці ў творы (1 бал).

V. *Моўнае і кампазіцыйнае афармленне водгуку* (*да 4 балаў*):

– прадуманасць кампазіцыі работы (адпаведнасць кампазіцыі водгуку асаблівасцям тыпу і жанру маўлення), багацце, разнастайнасць моўных сродкаў, дакладнасць словаўжывання (4 балы);

– нязначныя парушэнні кампазіцыйных частак, неістотныя недахопы моўнага выражэння (3 балы);

– парушэнні кампазіцыйных частак, недахопы моўнага выражэння (беднасць слоўніка, русізмы) (2 балы);

– парушэнне кампазіцыйных частак работы (зацягнуты ўступ, адсутнасць заключэння) (1 бал).

VI. *Пісьменнасць* (*да 5 балаў*):

– адсутнасць памылак (арфаграфічных, граматычных, маўленчых) (5 балаў);

– наяўнасць 1 – 2 памылак (4 балы);

– наяўнасць 3 – 4 памылак (3 балы);

– наяўнасць 5 – 6 памылак (2 балы);

– наяўнасць 7 – 8 памылак (1 бал);

– наяўнасць больш за 8 арфаграфічных, пунктуацыйных, граматычных памылак (0 балаў).

VII. *Творчы характар работы* (*да 2 балаў*):

– арыгінальнасць, дакладнасць маўлення, навуковы кругагляд, наяўнасць цікавай формы і яе поўная рэалізацыя (2 балы);

– наяўнасць асобнага цікавага назірання або назіранняў, параўнальных паралелей з іншымі творамі (2 балы).

Пералічаныя крытэрыі сведчаць, што водгук – сінтэтычны від работы, ён прадугледжвае наяўнасць ведаў, уменняў, навыкаў як па літаратуры, так і па мове, літаратуразнаўчы, лінгвістычны аналіз, асабістае ўспрыманне твора.

Нягледзячы на наяўнасць крытэрыяў ацэнкі водгукаў на алімпіядах, варта мець на ўвазе, што водгук – праца творчая, індывідуальная, таму нейкіх абавязковых схем, гатовых шаблонаў для яго напісання няма. Важна, каб вучань асобасна адрэагаваў на мастацкі твор, раскрыў яго сэнс, даў асабістую інтэрпрэтацыю ідэйнага зместу, суаднёс аўтарскія думкі і пачуцці з уласнымі.

Разгледзім методыку працы на ўроку беларускай літаратуры ў Х класе на тэму «Водгук на абразок “На беразе Бярозы” Ф. Янкоўскага».

**Мэты і задачы ўрока:** адпрацоўваць элементы водгуку як жанру сачынення; удасканальваць навыкі звязнага маўлення, уменне разумець і ацэньваць мастацкі твор; развіваць навыкі лінгвістычнага аналізу твора; выхоўваць любоў да роднай зямлі, павагу да людзей працы.

### ХОД УРОКА

**I. Гутарка па пытаннях.**

1. Што такое водгук? Якая структура водгуку? У чым заключаюцца асаблівасці яго зместу?

2. Чым вядомы Фёдар Янкоўскі?

**II. Знаёмства з абразком “На беразе Бярозы” Ф. Янкоўскага.**

1. Паслухаць абразок “На беразе Бярозы” Ф. Янкоўскага і сказаць, ці зацікавіў вас твор.

2. Чытанне абразка з мэтай высветліць тэму, ідэю, вобразы, сюжэт, мастацкія сродкі.

**III. Гутарка па пытаннях.**

1. Што з’яўляецца прадметам гутаркі ў абразку? (*Адносіны чалавека да зямлі і прыроды.*)

2. Якая асноўная думка твора? (*Чалавек павінен быць клапатлівым гаспадаром на зямлі.*)

3. Дзе і калі адбываюцца падзеі, апісаныя ў абразку?

4. Якія падзеі, эпізоды прыцягнулі вашу ўвагу?

5. Хто з герояў вам спадабаўся? Чаму?

6. Над чым прымусіў задумацца твор?

**IV. Знаёмства са схемай напісання водгуку.**

**V. Праца са схемай водгуку і вусны аналіз абразка.**

1. Сфармулюйце тэзіс (думку), над якім (якой) будзеце разважаць.
2. Прачытаем тэзісы, запісаныя на дошцы. Які тэзіс, на вашу думку, найбольш удалы?
3. Якім чынам будзеце даказваць абраны тэзіс?
4. Які зробіце вывад?
5. Як вы разумееце сутнасць мастацкіх вобразаў? (Юзэфка, людзі з дзесяці хат, аўтар, хлопцы.)
6. Вызначце мастацкія дэталі, ужытыя аўтарам у тэксце.
7. Як пачаць водгук? Што можа быць зыходным пунктам водгуку? (*Праблема, галоўная мастацкая дэталь, вобраз, асоба аўтара, канкрэтны выпадак з жыцця.*)
8. Падумайце, каму вы адрасуеце водгук [членам гуртка "Роднае слова", сябру, настаўніку, масаваму чытачу (артыкул у газету)]. Выберыце адпаведную форму.
9. Напішыце ўступную частку водгуку, потым параўнайце яе з уступамі, запісанымі на дошцы. Калі вы лічыце, што ваш уступ "слабейшы", запішыце адзін з прапанаваных.
10. Якое ўражанне на вас зрабіў аўтар? (Юзэфка, хлопцы, прырода.)
11. Выберыце словы і словазлучэнні, якія вы лічыце мастацкімі дэталямі. Увядзіце адно (на выбар) слова ці словазлучэнне ў водгук у якасці цытаты, пакажыце, як "працуе" слова ці словазлучэнне на ідэйны змест твора. Загаловак. Шматкроп'і. Іх роля.
12. Сфармулюйце заключную думку водгуку.

**VI. Дамашняе заданне.** Дапрацаваць водгук на абразок "На беразе Бярозы" Ф. Янкоўскага.

#### МАТЭРЫЯЛЫ ДА ЎРОКА

***1. Залацінкі мудрасці*** (*для выкарыстання ў якасці эпіграфа*).

1) Балюча і травам, і кветкам…

П. Панчанка.

2) Жыццё даецца, каб жыццё тварыць…

А. Вярцінскі.

3) Зямля – прытулак зла і дабраты.

П. Макаль.

4) Нягоднік не родзіцца, а робіцца.

Прыказка.

5) Трыбух поўны, ды вочы пустыя.

Прыказка.

6) Паганае зелле не зрывай, а з коранем вырывай.

Прыказка.

***2. Магчымыя тэзісы.***

1) Цікавы і павучальны мастацкі твор – крок да маральнага сталення.
2) Чалавек і зямля.
3) Жыццё даецца, каб жыццё тварыць.
4) Хто мы на роднай зямлі? Людзі ці… ?
5) Чалавек і прырода.

***3. Магчымыя загалоўкі водгуку.***

1) Урок маральнага сталення.
2) Урок адносін да зямлі.
3) Пустадомкі і людзі.
4) Мы твае сябры, прырода.

***4. Пытанні і падказкі да роздуму над сэнсам загалоўка абразка "На беразе Бярозы" Ф. Янкоўскага.***

1) Што выражае загаловак, тэму ці асноўную думку?
2) Сказ няпоўны (няма дзейніка і выказніка); дапоўнім: на беразе Бярозы жывуць людзі, а не пустадомкі.
3) Чаму аўтар не расшыфраваў думку? (*Мастацкі прыём, недасказанасць думкі пакідае чытачу прастору для роздуму.*)

***5. Матэрыялы для разважанняў.***

*І. Думка.* Цікавы і павучальны твор – крок да маральнага сталення.

*Доказ.*

1) Твор цікавы, бо мае вялікую сілу ўздзеяння на чытача (мова, праблемы). Цікавыя вобразы і праблемы – ад цікавасці аўтара да слова.
2) Павучальны, бо вучыць:
– быць гаспадаром на зямлі;
– беражліва ставіцца да зямлі, прыроды;
– разбірацца ў людзях;
– бачыць прыгожае.

*Вывад.* Сустрэча з мастацкім творам – свята душы.

*ІІ. Думка.* Чалавек і зямля.

*Доказ.*

1) Людзі, якія цесна зрасліся з зямлёй.
2) Людзі, адарваныя ад зямлі.

*Вывад.* Чалавек і зямля – адзінае цэлае.

*ІІІ. Думка.* Жыццё даецца, каб жыццё тварыць.

*Доказ.*

1) Жыццё тварыць – значыць праявіць сябе ў пэўнай справе.
2) Даюць жыццё ўсяму на зямлі людзі, якія твораць (нехта пасадзіў яблыньку, лес, доіць кароўку, апрацоўвае зямельку, каб яна была бяздонным багаццем).
3) Некаторыя хлопцы, поўныя энергіі, здароўя, не твораць, а толькі спажываюць вынікі працы іншых. Яны як струпы на здаровым целе.

*Вывад.* Нельга марнаваць уласнае жыццё.

*IV. Думка.* Хто мы на роднай зямлі? Людзі ці… ?

*Доказ.*

1) Ёсць людзі (Юзэфка, людзі з дзесяці хат, аўтар), якія зрасліся з зямлёй. З пакалення ў пакаленне перадаецца любоў да зямлі, сумленныя паводзіны, учынкі, дбайнасць у адносінах да працы.

Што ў творы з'яўляецца мерай чалавечнасці?

2) Ёсць пустадомкі (хлопцы), якія жывуць на зямлі адным днём.

*Вывад.* Пустадомкам не месца сярод людзей, на зямлі.

*V. Думка.* Чалавек і прырода.

*Доказ.*

1) Можна знішчыць усё: і красу берага; і няспелыя яблыкі; і кавалкі хлеба.

2) А што атрымаем узамен?

*Вывад.* З прыродай патрэбна абыходзіцца па-людску, дбайна, так, як Юзэфка, як аўтар.

**Прыкладныя ўступы водгукаў на апавяданні Фёдара Янкоўскага**

1. Калі хочаце сустрэцца з жывым родным словам, пачытайце творы (апавяданні, абразкі) Фёдара Міхайлавіча Янкоўскага. У іх розныя пачуцці, праблемы жыцця ўвасоблены ў вобразным, гаваркім беларускім слове. Гавораць звычайныя людзі, гаворыць вёска. Вось, напрыклад, невялічкі абразок…

2. Сустрэчы… Сустрэчы… Іх многа. То з сябрамі. То з прыродай… Сярод іх дарагія сустрэчы з героямі мастацкіх твораў. З імі, як з сябрамі, жывеш, сумуеш, дзелішся патаемнымі думкамі.

Вось і сёння чарговая сустрэча… (*Такі ўступ можна выкарыстоўваць у экспрэсіўна-вобразным тэксце.*)

Але самыя прыемныя сустрэчы з родным словам, гучным і ёмістым, нячутным і загадкавым. А то і проста са словам… Сёння я сустракаюся са словам…

3. Хараство жыцця, чалавека працы, прыроды… Усё, як у люстэрку, знаходзіць адбітак у творах майстроў мастацкага слова. Сёння ў мяне сустрэча з хараством жыцця (працы, душы) чалавека. Чытаю апавяданне Фёдара Міхайлавіча Янкоўскага… і бачу…

4. Дабро і зло… Вечныя непрымірымыя паняцці, вартасць якіх вымяраецца шалямі жыцця, не раз выяўляецца ў мастацкіх творах. (*Уступ ад праблематыкі твора.*)

5. Зямелька любіць, каб ад яе не толькі бралі, але і давалі, любілі. У гэтым сэнс жыцця хлебаробаў, маіх бацькоў, дзядоў, прадзедаў. У гэтым сэнс жыцця майго таты, які з самага ранку шчыруе на калгасных палетках. Але ёсць і іншыя адносіны да зямлі.

6. Калі ў жывой гаворцы народа пачуеш першы раз у жыцці новы для цябе цікавы выраз, міжвольна прыгадваеш словы Максіма Танка: "О, колькі яшчэ не адкрыта / Адценняў у ёй і блакіту, / Патрэбных народу, паэтам, / Каштоўнай руды, самацветаў". (*Уступ ад мастацкага слова.*)

7. Вобраз маці знаходзіць адлюстраванне ў творах многіх пісьменнікаў і паэтаў. Для некаторых з іх гэта не проста вобраз, але асаблівая тэма, з якой не развітаецца аўтар на працягу сваёй творчасці. Так і Фёдар Міхайлавіч Янкоўскі, аўтар шматлікіх лірычных замалёвак пра маці, вылучаных у кнігах асобным раздзелам. Напрыклад, у зборніку… надрукавана восем літаратурных мініяцюр пра маці. І кожны твор – новы штрышок у светлым вобліку маці. Абразок "У гасцях"… (*Уступ ад вобраза твора.*)

8. Пустадомкаў не сеюць. Яны самі сеюцца, вырастаюць і жывуць. Іх сустракаем вельмі часта. З імі змагаемся. Іх выкараняюць, як зелле, і нашы пісьменнікі. Напрыклад, Фёдар Міхайлавіч Янкоўскі вядзе з імі адкрытую барацьбу ў невялічкім абразку "На беразе Бярозы".

9. Не магу раўнадушна дзяжурыць у школьнай сталовай, асабліва калі дзеці абедаюць адны, без дзяжурнага настаўніка. Гам і шум. І пад нагамі лусты Хлеба. З болем у душы падымаю Хлеб і задаю сабе пытанне: "Хто мы на зямлі? Людзі ці пустадомкі? Хіба ж можна так з хлебам?" А сёння, чытаючы апавяданне Фёдара Міхайлавіча Янкоўскага, я пераканалася, што гэтае пытанне хвалюе не адну мяне.

**Спіс літаратуры**

1. **Лаўрэль, Я.** Зразумець мастацкі твор : аналіз напісання водгукаў / Я. Лаўрэль // Роднае слова. – 2001. – № 10. – С. 65 – 68.

2. **Методические рекомендации по разработке заданий школьного и муниципального этапов всероссийской олимпиады школьников по литературе в 2010/2011 учебном году** [Электронный ресурс]. – Режим доступа : www.krao.ru files/fck/file/savirko/literature(1)doc. – Дата доступа : 07.11.2010.

3. **Лаўрэль, Я.** Водгук на паэтычны твор / Я. Лаўрэль // Роднае слова. – 2003. – № 1. – С. 61 – 67.

4. **Порядок проведения олимпиады школьников в 2010 году Союзного государства "Россия и Беларусь : историческая и духовная общность"** [Электронный ресурс]. – Режим доступа : mon.gov.ru/files/materials/7708/poryadok.2010.doc. – Дата доступа : 07.11.2010.

**Таццяна ПУЧЫНСКАЯ,**
кандыдат педагагічных навук,
дацэнт, загадчык кафедры філалогіі
Баранавіцкага дзяржаўнага ўніверсітэта.

# БЫЦЬ НАСТАЎНІКАМ – ГЭТА ПРЫЗВАННЕ

Быць настаўнікам роднай мовы і літаратуры – гэта выкананне маральнага абавязку перад Радзімай. Паўфіналісткі прэстыжнага конкурсу "Сталічны настаўнік – сталічнай адукацыі" Святлана Сівіцкая і Ірына Піскун шчыра выконваюць гэты абавязак. Увазе чытачоў прапануецца невялікае знаёмства з педагогамі. А ў бліжэйшых нумарах часопіса будуць змешчаны іх метадычныя распрацоўкі.

## ІРЫНА СЯРГЕЕЎНА ПІСКУН



Педагагічнае крэда:

*Настаўнік – гэта той, хто здольны спусціцца з вышыні сваіх ведаў да няведання вучня і разам з ім здзейсніць узыходжанне.*

Настаўнік першай кваліфікацыйнай катэгорыі гімназіі № 23 горада Мінска з беларускай мовай навучання, кіраўнік гуманітарнай кафедры. Закончыла Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Францыска Скарыны па спецыяльнасці філолаг, выкладчык беларускай мовы і літаратуры. Кар'еру настаўніка пачала ў родным Бабруйску на пасадзе педагога-арганізатара (2000 г.), а з 2003 г. – выкладчык беларускай мовы і літаратуры.

Распрацавала ўрокі па беларускай літаратуры для V класа (I паўгоддзе), якія ўвайшлі ў метадычны дапаможнік для настаўнікаў агульнаадукацыйных устаноў "Планы-канспекты ўрокаў па беларускай літаратуры" (2010).

Педагагічныя прыярытэты Ірыны Піскун вызначае вучань, дзіця, у асобе якога, на думку настаўніцы, яна павінна знайсці, развіць і захаваць "рассыпаныя" зярняткі таленту.

## СВЯТЛАНА АНДРЭЕЎНА СІВІЦКАЯ



Педагагічнае крэда:

*Хто дбае пра грамадскае дабро, інакш кажучы пра шчасце, асвету і славу краю, хто рады прысвяціць яму самога сябе, аддаць яму ўсе здольнасці, сілы і маёмасць – з'яўляецца сапраўдным грамадзянінам.*

Ян Чачот.

Настаўнік першай кваліфікацыйнай катэгорыі сярэдняй агульнаадукацыйнай школы № 133 г. Мінска, педагагічны стаж 8 гадоў. Кіраўнік метадычнага аб'яднання настаўнікаў гуманітарнага цыкла. Пасля заканчэння Ваўкавыскага педагагічнага вучылішча (1998) вучылася на філалагічным факультэце Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, які закончыла ў 2004 г.

Святлана Сівіцкая з дынастыі настаўнікаў. Яе маці, Галіна Уладзіміраўна, таксама беларускі філолаг. Са школай звязалі свой лёс цётка і нявестка Святланы Андрэеўны. Агульны педагагічны стаж сям'і – больш за 70 гадоў.

Святлана Андрэеўна лічыць, што настаўнік не мае права спыняцца ў руху, увесь час павінен самаўдасканальвацца для таго, каб быць прыкладам для ўсіх.

# КОМПЛЕКСНАЯ РАБОТА ПА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ І ЛІТАРАТУРЫ

## ЧАЦВЁРТЫ ЭТАП XXVII РЭСПУБЛІКАНСКАЙ АЛІМПІЯДЫ ШКОЛЬНІКАЎ

*Працяг. Пачатак у № 6.*

### X КЛАС

**Заданне 1.** Аднавіце неабходныя элементы выказванняў.

Максімальная колькасць балаў – 7.

1. ________ роля мовы заключаецца ў тым, што яна з'яўляецца сродкам зносін паміж людзьмі, сродкам перадачы і захавання інфармацыі аб свеце.

2. Мова беларускай народнасці ў складзе Вялікага Княства Літоўскага называлася ________. Крыніцай яе вывучэння з'яўляецца гістарычны архіў, вядомы пад назвай ________.

3. Перыяд XV – XVI стст. у гісторыі беларускай мовы называюць ________.

4. У ________ годзе быў выдадзены ________ І. І. Насовіча.

5. Фундаментальная трохтомная праца акадэміка ________ носіць назву "Беларусы".

**Заданне 2.** Вызначце лексічнае значэнне беларускіх і рускіх слоў у прыведзеных парах і ўкажыце тую з іх, лексічнае значэнне слоў у якой супадае ў абедзвюх мовах.

Максімальная колькасць балаў – 3.

| | |
|---|---|
| аказацца – оказаться | |
| адмежаваць – отмежевать | |
| лябёдка – лебёдка | |

Лексічнае значэнне слоў супадае ў пары ________.

**Заданне 3.** Падбярыце беларускія адпаведнікі да запазычаных слоў.

Максімальная колькасць балаў – 7.

| | |
|---|---|
| антыкварны | |
| вакантны | |
| індыферэнтны | |
| карэктны | |
| ландшафт | |
| кампазіцыя | |
| паўза | |

**Заданне 4.** Адкажыце на пытанні і аднавіце "схаваныя прыказкі".

Максімальная колькасць балаў – 3.

1) Што 'немагчыма ўтаіць, што само сябе выдае'? – ________.

Прыказка: ________.

2) Якую аперацыю трэба правесці, 'перш чым зрабіць нешта сур'ёзнае'? – ________.

Прыказка: ________.

3) Чым міжволі выдае сябе той, хто 'правінаваціўся ў чым-небудзь'? – ________.

Прыказка: ________.

**Заданне 5.** У падборцы прыведзеных сказаў адзначце "лішні". Адказ абгрунтуйце.

Максімальная колькасць балаў – 3.

1. Не толькі думаць, дыхаць трэба на мове роднай… (Р. Барадулін). 2. "Ты пачакай заўчасна радавацца!.." (М. Ваданосаў). 3. Яна не магла не ўсміхацца, будучы сярод людзей (А. Марціновіч). 4. Ці не ўзяўся б ты сёння фашыны папраўляць? (М. Лынькоў). 5. [*Хадзіў на сплаў ён, на віціны, Разоў са два схадзіў у Прусы*] – Куды не трапяць беларусы? (Я. Колас).

Правільны адказ: ________.

Абгрунтаванне: ________.

**Заданне 6.** Запоўніце табліцу.

Максімальная колькасць балаў – 10.

| № п/п | Роля ў сказе слова *як* | Сказ, які гэтую ролю пацвярджае | Значэнне слова *як* |
|---|---|---|---|
| 1. | прыслоўе | *Як* адказаць на гэтае пытанне? | спосабу дзеяння (якім чынам?) |
| 2. | | | няпэўнасці (як-небудзь) |
| 3. | | Я ўжо ведаў адказ, *як* прачытаў пытанне. | |
| 4. | | Ну *як* не адказаць на такое простае пытанне! | |
| 5. | часціца | | эмацыянальная рэакцыя: здзіўленне, збянтэжанасць |
| 6. | | Адказаў *як* мае быць. | |
| 7. | прыслоўе | | меры і ступені |

**Заданне 7.** Запішыце значэнне прыведзеных сказаў па іх інтанацыйных мадэлях.

Максімальная колькасць балаў – 2.

| Сказ | Значэнне |
|---|---|
| 1. Нас папярэдзяць, калі пачнецца конкурс. (інтанацыйная схема: – ↘ – – – – ↘ – – – – – – –) | |
| 1. Нас папярэдзяць, калі пачнецца конкурс. (інтанацыйная схема: – ↗ – – – – – – ↗ – – ↘ – – – –) | |

**Заданне 8.** Прачытайце верш і каментарый да яго. Хто, на вашу думку, з'яўляецца аўтарам верша? Да каго асабіста звяртаецца лірычны герой? Абгрунтуйце свой адказ. Назавіце літаратурныя псеўданімы і сапраўдныя імёны аўтара і адрасата.

Максімальная колькасць балаў – 7.

Хоць прастая і малая
"Жалейка" твая,
Але надта пекна грае,
Як паслухаў я.
Грае звонка, стаіць ёмка
За свой родны край;
Сярод бедаў і пацёмкаў
Будзіць, так і знай.
Каб ачнуліс, страпянуліс,
Кожын стаў брат, друг, –
Абярнуліс, аглянуліс на сябе вакруг.
Сваё мора бяды, гора,
Крыві, поту, слёз
Каб звёў кожын дружна, скора,
З паніжэння ўскрос.
Так спявае, так іграе
"Жалейка" твая…
Табе "дзякуй" скажа ўсякі,
Дык скажу і я.

Каментарый: Верш апублікаваны ў 1908 г. у газеце "Наша Ніва". Гэта першы друкаваны твор аўтара, які сам у гэты час быў у зняволенні за рэвалюцыйную дзейнасць. З Сібіры, з катаргі, ён дасылаў свае творы ў "Нашу Ніву", а першая кніга, складзеная з вершаў, напісаных у ссылцы, выйшла толькі ў 1918 г.

Правільныя адказы:
Аўтар: ___________________________________.
Адрасат: _________________________________.
Абгрунтаванне: ___________________________.

**Заданне 9.** Адзначце, у якім шэрагу (А, Б, В або Г) пералічаныя гісторыка-літаратурныя характарыстыкі, тэарэтычныя паняцці, тэкстуальныя факты поўнасцю адпавядаюць твору. Закрэсліце памылковыя пазіцыі ў іншых блоках.

Максімальная колькасць балаў – 5.

"Раскіданае гняздо" Янка Купала:

А) аўтабіяграфічны элемент, індывідуальна-псіхалагічная тыпізацыя; традыцыі В. Дуніна-Марцінкевіча, сацыяльна-філасофская драма, гуманістычны пафас, Лявон Зяблік, Старац; гратэск; сімвалічны вобраз Вялікага сходу; праблема творчай свабоды мастака; першая сцэнічная пастаноўка – 1917 г., барока.

Б) драма ў пяці актах; мастацкі кантраст паміж персанажамі і карцінамі прыроды; гуманістычны пафас; сімвалічны змест назвы твора; першая сцэнічная пастаноўка – 1908 г.; Данілка, Зося, Сымон, Марыля; абагульнена-рамантычная тыпізацыя; сентыменталізм; праблема творчай свабоды мастака; князь Вітаўт; "Рэч дзеецца ў 1905 годзе".

В) сацыяльна-філасофская драма ў пяці актах; аўтабіяграфічны элемент; Старац і Незнаёмы як выразнікі палярна супрацьлеглых светапоглядаў; Зося, Данілка, Марыля; сімвалічны змест назвы твора; "Рэч дзеецца ў 1905 годзе"; першая сцэнічная пастаноўка – 1917 г.; пошукі вызвалення Бацькаўшчыны маладым пакаленнем; абагульнена-рамантычная тыпізацыя; праблема творчай свабоды мастака; Незнаёмы.

Г) аўтабіяграфічны элемент, "Рэч дзеецца ў 1905 годзе", абагульнена-рамантычная тыпізацыя; традыцыі В. Дуніна-Марцінкевіча; сімвалічны вобраз Вялікага сходу; Данілка, Зося, пан Патоцкі; гуманістычны пафас; трагедыя; рэалістычны змест, рамантычная сімволіка, лірызм характараў; сатыра; першая сцэнічная пастаноўка – 1917 г.; драма ў пяці актах.

Правільны адказ: ______________________.

**Заданне 10.** Узнавіце ўрывак паэмы "Новая зямля" Якуба Коласа, упісаўшы адпаведныя словы з прапанаванага пераліку, пазначанага літарай. Прыміце пад увагу змест, рытміка-інтанацыйную будову твора, прыроду вобраза, асаблівасці творчай манеры аўтара. Дзе лічыце неабходным, пастаўце прапушчаныя знакі прыпынку.

Максімальная колькасць балаў – 8.

Зялёны луг, як скінуць вокам,
(А)_____ пышным і шырокім
Абапал (Б)_____ рассцілаўся –
За хатай зараз пачынаўся
Ды йшоў (В)_____ раўніною
З (Г)_____ слаўнаю травою
І ззяў на сонцы ў пералівах
(Д) _____ тонаў. Як на нівах
Жыта (Е)_____ лёгка гнуцца
І людзям (Ж)_____ смяюцца
Сваім прыемным, мілым спевам
Пад лёгкім (З)_____ павевам, –
Так гнуцца, гойдаюцца травы…

Варыянты адказаў:

А: сталом, абрусам, дыванам, дываном, кажухам.

Б: Котры, Дняпра, Шчары, Нёмна, Пцічы, Волгі.

В: пасохлай, няроўнай, іглістай, квяцістай, бясслаўнай.

Г: пасохлай, няроўнай, мурожнай, чужою, брыдкою.

Д: далікатных, няўцямных, чырвоных, пяшчотных, трывожных.

Е: травінкі, кустоўі, сасёнкі, збажынкі, каласы, ігліцы.

Ж: злосна так, непрыязна, радасна, з прыемнасцю, з жаласцю.

З: тым жніва, ветрыка, той касы, віхурным, грозным-злым.

**ВОДГУК НА МАСТАЦКІ ТВОР**

* * *

Пяць дзён пад вятрамі ляжала зямля, а пасля гэтыя ж вятры пагналі з захаду мяккія хмары, а ад хмар цямней стала на зямлі, і тады прапалі вятры. І як бы хмары прынеслі цяпло – растала трохі падмёрзлая зямля, і зеляней, і весялей стаў выглядаць мох у задумёных кустах.

А хмары ўсё ішлі ды ішлі, усё паўзлі па нізкім небе і неўзабаве пачалі прападаць за даляглядам. І ўжо відаць стала шэрую яснасць неба; зноў па-

чалі ўпарта звацъ у свае далі дарогі, зноў пачала далечыня зямных абшараў здавацца прывабнай, і зноў нараджаліся жаданні ўсё ісці ды ісці.

Гэта так было на зямлі для людзей.

…Зноў узнімацца пачаў вецер, зноў пагнаў ён хмары. Ды ўжо сагнаў іх усе за далёкія лясы, за зямныя далі.

І глянула на зямлю зусім яснае неба. Як бы гэта летняя шырыня адчулася ў ім. Як бы гэта прасторы свету разгарнулі нейкую вялікую думку.

І раптам ажыло ўсё, што здавалася нежывым, што было нежывым; загаварыла ўсё, што маўчала дагэтуль; заслухалася ўсё, што не слухала дагэтуль. Беглі па зямлі зыкі, чуўся з дарогі звон тэлеграфных дратоў, стукалі недзе калёсы ды гаварылі людзі. Можа, выказвалі сваё нездавальненне, а можа, так гаварылі аб сваім іншым… І ўсё дзьмуў ды дзьмуў вецер, і ўсё ясней і ясней рабілася на зямлі ад яснага неба.

Падала вострая музыка кропляў і, як сплыў снег, заглядзелася мокрая зямля ў тонкае неба, і ў садзе ўсміхнуліся голыя ліпы. Так і было мокра цэлы дзень ды сумна-весела ад ясна-туманнага неба. І тады павеяла з поля вялікай воляй – неабдымнаю і нявызначанаю, як пачуццё…

Кузьма Чорны. З апавядання “Буланы”, 1925.

Даведка:

Кузьма Чорны (сапр. Мікалай Карлавіч Раманоўскі) нарадзіўся ў 1900 г. у в. Боркі на Случчыне, пахаваны ў Мінску ў 1944 г. Празаік, драматург, публіцыст. Першыя артыкулы і вершы апублікаваў у 1920 г. У 1925 г. выйшлі першыя яго кнігі – “Апавяданні” і “Срэбра жыцця”. Раннія апавяданні – замалёўкі, эцюды, імпрэсіі, своеасаблівыя “вершы ў прозе”; яны таксама засведчылі працэс станаўлення беларускай літаратурнай мовы. У цэнтры ўвагі пісьменніка – шчодры душой чалавек з “дна беларускага жыцця-быцця”. У кожным чорнаўскім творы за пачуццём бязмежнага захаплення жыццём адчуваецца прысутнасць вялікай думкі аб чалавеку, які жыве надзеяй на змены. Чорны-мастак не проста выяўляе пачуцці, ён думае і піша вобразамі, малюнкамі, параўнаннямі. У гэтых вобразах, часам самых агульных і расплывістых, выказана аптымістычнае адчуванне маладых беларусаў, перад якімі адкрыліся жыццёвыя прасторы.

(Цыт. паводле: **Тычына, М.** Кузьма Чорны / М. Тычына // Гісторыя беларускай літаратуры ХХ стагоддзя : у 4 т. Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т літаратуры імя Янкі Купалы. – Мінск : Беларус. навука, 1999. – Т. 2.)

## ДАВЕДКІ

**Заданне 1.**

1. *Камунікацыйная* роля мовы заключаецца ў тым, што яна з’яўляецца сродкам зносін паміж людзьмі, сродкам перадачы і захавання інфармацыі аб свеце.

2. Мова беларускай народнасці ў складзе Вялікага Княства Літоўскага называлася *старабеларускай*. Крыніцай яе вывучэння з’яўляецца гістарычны архіў, вядомы пад назвай *Літоўская метрыка* (*Метрыка ВКЛ*).

3. Перыяд XV – XVI стст. у гісторыі беларускай мовы называюць *залаты век*.

4. У *1870* годзе быў выдадзены “*Слоўнік беларускай мовы*” (“*Словарь белорусского наречия*”) І. І. Насовіча.

5. Фундаментальная трохтомная праца акадэміка *Я. Карскага* носіць назву “Беларусы”.

**Заданне 2.**

Правільны адказ: *лябёдка – лебёдка*: лз супадае (1. Самка лебедзя, 2. Машына для падымання і перамяшчэння грузу);

*аказацца – оказаться*: лз не супадае [бел. 1. апынуцца, з’явіцца (добрым спецыялістам), знайсціся (кніга аказалася на стале), 2. падаць голас, вестку, азвацца; рус. – толькі 1-е значэнне];

*адмежаваць – отмежевать*: лз не супадае (бел. 1. мяжуючы, аддзяліць, 2. перан. аддзяліць, адасобіць; рус. – толькі 1-е значэнне).

**Заданне 3.**

Антыкварны – *старажытны* (можна: *каштоўны, рэдкі*);

вакантны – *вольны, незаняты*;

індыферэнтны – *абыякавы*;

карэктны – *ветлівы*;

ландшафт – *краявід*;

кампазіцыя – *будова, размяшчэнне*;

паўза – *перапынак*.

Каментарый: Дапускаюцца сінанімічныя эквіваленты, максімальна набліжаныя па сэнсе да прыведзеных адказаў.

**Заданне 4.**

1) *шыла* (***Шыла** ў мяшку не схаваеш*).

2) *адмераць* (*Сем разоў **адмерай**, адзін раз адрэж*).

3) *шапкай* (*На злодзеі **шапка** гарыць*).

**Заданне 5.**

Правільны адказ: 2.

Каментарый: “Лішнім” у гэтай падборцы з’яўляецца сказ *2* – адмоўны па характары адносін да рэчаіснасці; сказы *1, 3, 4, 5* – адмоўныя толькі па форме, па характары адносін да рэчаіснасці яны сцвярджальныя.

**Заданне 6.**

| № п/п | Роля ў сказе слова *як* | Сказ, які гэтую ролю пацвярджае | Значэнне слова *як* |
|---|---|---|---|
| 1. | прыслоўе | ***Як*** адказаць на гэтае пытанне? | спосабу дзеяння (якім чынам?) |
| 2. | *прыслоўе* | *Трэба ж **як*** (разм.) *знайсці на гэта адказ.* | няпэўнасці (як-небудзь) |
| 3. | *прыслоўе* | Я ўжо ведаў адказ, *як* прачытаў пытанне. | *часу* (*калі? у які час?*) |

| | | | |
|---|---|---|---|
| 4. | *часціца* | Ну *як* не адказаць на такое простае пытанне! | *бясспрэчнасць выказанага меркавання* |
| 5. | часціца | ***Як**!.. Ты не ведаеш адказу!..* | эмацыянальная рэакцыя: здзіўленне, збянтэжанасць |
| 6. | *злучнік* | Адказаў *як* мае быць. | *параўнання* |
| 7. | прыслоўе | ***Як** я рады: ты адказаў выдатна.* | меры і ступені |

**Заданне 7.**

| Сказ | Значэнне |
|---|---|
| 1. Нас папярэдзяць, калі пачнецца конкурс. | *Складаназалежны сказ з даданай дапаўняльнай.* |
| 1. Нас папярэдзяць, калі пачнецца конкурс. | *Складаназалежны сказ з даданай часткай умовы (часу).* |

**Заданне 8.**

Правільныя адказы: *Алесь Гарун* (*Аляксандр Прушынскі*); *Янка Купала* (*Іван Луцэвіч*).

Абгрунтаванне: Верш надрукаваны ў 1908 г. – якраз у той год, калі выйшла першая кніга вершаў Янкі Купалы "Жалейка". Гэтая назва двойчы сустракаецца ў творы. Такім чынам, верш адрасаваны Янку Купалу. Звесткі пра аўтара, прыведзеныя ў каментарыі, даюць падставы меркаваць, што аўтарам з'яўляецца Алесь Гарун, які доўгія гады правёў у Сібіры, у ссылцы. У 1918 г. выйшла кніга "Матчын дар", складзеная з твораў, дасланых у "Нашу Ніву" ў 1908 – 1914 гг. Характэрным для вобразнай і ідэйнай сістэмы паэзіі Алеся Гаруна з'яўляецца радок "Кожын стаў брат, друг"; вучні могуць правесці аналогію з вядомымі ім творамі "Ты, мой брат, каго зваць беларусам…", "Ідуць гады".

Каментарый: Прапануецца наступная шкала ацэнкі:

за правільнае вызначэнне адрасата (Янка Купала / Іван Луцэвіч) – 1 бал;

за правільнае вызначэнне аўтара (Алесь Гарун / Аляксандр Прушынскі) – 2 балы;

за лагічнае і доказнае абгрунтаванне – да двух балаў;

за ўказанне іншых псеўданімаў Алеся Гаруна (А. Сумны, Сальвэсь) і Янкі Купалы (Янук Купала, Вайдэльота, Адзін з "парнаснікаў", Здарэнец, Марка Бяздольны, Стары Мінчук, Янук з-пад Мінска і інш.) – дадаткова да двух балаў.

**Заданне 9.**

Правільны адказ: *В.*

Няправільныя пазіцыі:

А) індывідуальна-псіхалагічная тыпізацыя; традыцыі В. Дуніна-Марцінкевіча; гратэск; барока;

Б) мастацкі кантраст паміж персанажамі і карцінамі прыроды; першая сцэнічная пастаноўка – 1908 г.; сентыменталізм; князь Вітаўт;

Г) традыцыі В. Дуніна-Марцінкевіча; пан Патоцкі; трагедыя; сатыра;

Каментарый: Максімальна 5 балаў: 2 балы за правільна названы блок; у выпадку правільнага адказу дадаткова да 3-х балаў за дакладна вызначаныя памылкі ў іншых блоках (4 памылковыя пазіцыі на 1 бал; няправільна вызначаныя памылковыя пазіцыі зніжаюць агульную ацэнку).

**Заданне 10.**

Правільныя адказы: А. – *абрусам*; Б. – *Нёмна*; В. – *кваццістай*; Г. – *мурожнай*; Д. – *пяшчотных*; Е. – *збажынкі*; Ж. – *радасна*; З. – *ветрыка*.

*Працяг будзе.*

Падрыхтавалі
**Вячаслаў РАГОЙША,**
**Аляксандр РАДЗЕВІЧ,**
**Ірына САВІЦКАЯ.**

## КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТАЎ І ЮБІЛЕЙНЫХ ДЗЁН

ВЕРАСЕНЬ

*Заканчэнне. Пачатак на с. 57.*

**19 верасня –** 75 гадоў з дня нараджэння Генадзя Рымскага (1936 – 2000), вучонага ў галіне тэхнічнай кібернетыкі і інфарматыкі, паэта і перакладчыка

**21 верасня –** 90 гадоў з дня нараджэння Міхаіла Бельскага (1921 – 1988), графіка

**22 верасня –** 100 гадоў з дня нараджэння Адэлі Анісовіч (1911 – 1991), мастака дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва

**24 верасня –** 370 гадоў з дня нараджэння Станіслава Незабітоўскага (1641 – 1717), мемуарыста

75 гадоў з дня нараджэння Вадзіма Купрыянава, апаратара, рэжысёра дакументальнага кіно

**26 верасня –** 90 гадоў з дня нараджэння Мікалая Шарэнкі (1921 – 1977), скульптара

75 гадоў з дня нараджэння Элы Сабаленкі, этнографа

**29 верасня –** 120 гадоў з дня нараджэння Аркадзя Смоліча (1891 – 1938), вучонага, дзеяча беларускага нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння

**30 верасня –** 115 гадоў з дня нараджэння Аркадзя Астаповіча (1896 – 1941), графіка

80 гадоў з дня нараджэння Ніла Гілевіча, паэта, літаратуразнаўцы, фалькларыста, перакладчыка, грамадскага дзеяча, народнага паэта Беларусі, заслужанага дзеяча навукі Беларусі

* * *

115 гадоў таму нарадзіўся Павел Акулевіч (1896 – 1979), казачнік

*Паводле картатэкі БДАМЛМ.*



# КАЛІ ЗАКОНЧЫЎСЯ ЎРОК

*З вопыту работы*

## ПОВЯЗЬ ЧАСОЎ – БЕЛАРУСКІ РУЧНІК

Што мы сёння ведаем пра беларускі ручнік? Для большасці сучасных беларусаў гэта проста элемент аздобы, і не больш за тое. І мала хто памятае, што за кожным узорам на ручніку – ромбікамі, птушачкамі і кветачкамі – тоіцца глыбокі сэнс. Аўтэнтычны арнамент служыў нашым продкам своеасаблівай мовай, але пра гэта ведаюць у лепшым выпадку нашы бабулі ці прабабулі. Хтосьці скажа: навошта нам у век інтэрнэту і нанатэхналогій тканыя і вышываныя ручнікі? Але ж, пэўна, мае рацыю этнакультуролаг, музыка і мастак Тодар Кашкурэвіч, які сцвярджае, што *"можа, з-за таго, што людзі страцілі вось гэтую спецыфічную мову кантакту са сваёй зямлёю, са сваімі багамі і продкамі, і маем такі вынік, што ані зямля, ані продкі не могуць дапамагчы нам?"*

*"Народная творчасць складае наша вялікае багацце, якім беларусы могуць ганарыцца. Яго павінны падтрымліваць і захоўваць"*, – словы вядомага беларускага фалькларыста М. Доўнара-Запольскага сталі дэвізам народнага свята "Повязь часоў – беларускі ручнік", якое адбылося на педагагічным факультэце Баранавіцкага дзяржаўнага ўніверсітэта ў красавіку 2011 г.

Ідэя мерапрыемства ўзнікла невыпадкова. На жаль, сёння носьбітаў унікальных традыцый народнага ткацтва і вышыўкі становіцца ўсё менш, яны страчваюць сваю папулярнасць сярод маладога пакалення, таму ўзнікла вострая неабходнасць у актуалізацыі звычаяў і абрадаў, звязаных з беларускім ручніком.

Знаёмства з багатай спадчынай беларусаў у галіне самабытнага ўзорыстага ткацтва і вышыўкі павінна спрыяць развіццю ў моладзі нацыянальнай самасвядомасці, пачуцця гонару за сваю Бацькаўшчыну і яе таленавіты народ, імкненню зберагчы скарбы народнага мастацтва як яркую старонку нацыянальнай культуры. Глыбокае разуменне некаторых традыцыйных прыёмаў мастацкага тэкстылю дасць падставы для абуджэння творчых здольнасцей студэнтаў, развіцця іх фантазіі і мастацкага густу. Магчыма, для некаторых удзельнікаў мерапрыемства народнае ткацтва і вышыўка стануць сапраўдным захапленнем на ўсё жыццё і дапамогуць у раскрыцці духоўных і прафесійных якасцей.

Фальклорнае свята пачалося традыцыйнай сустрэчай гасцей хлебам-соллю на ручніку. Вядучыя пазнаёмілі прысутных са шматлікімі функцыямі ручніковай тканіны ў сялянскім побыце і прасачылі гісторыю яе развіцця. Увогуле, варта адзначыць, што толькі ў нашай краіне існуе такая багатая традыцыя выкарыстання ручнікоў – ад простых уціральнікаў да вясельных, пахавальных і ручнікоў на абразах, а таксама аброчных ці запаветных. Усе яны неслі адну і тую ж глыбінную сімволіку аховы, спрыяння, добразычлівага ўплыву, нарэшце, благаславення найвышэйшых сіл. Гэтыя пачэсныя абавязкі ручнікі выконвалі ў залежнасці ад патрэб усяго роду, сям'і ці кожнага сямейніка паасобку. Высокі ўзровень засцерагальнай функцыі ручніка можна растлумачыць тым, што калісьці ён, відаць, быў сімвалам роду, а значыць, яго заступнікам, абаронцам, прадстаўніком у найважнейшых жыццёвых абставінах.

Традыцыйны побыт беларуса нельга ўявіць без ручніка – белага падоўжанага кавалка палатна з узорыстымі краямі, у складаных і разнастайных функцыях якога адчуваецца подых аддаленых эпох, звычаі колішніх пакаленняў. У арнаменце ручніка праглядваецца пэўнае асэнсаванне рэчаіснасці, мадэль свету, якой доўгі час карысталіся нашы папярэднікі. У кожнай сялянскай хаце спрадвеку захоўвалася вялікая колькасць ручнікоў. Так, для выцірання рук і твару служыў *ручнік-уціральнік* ці *ўцірач, уцірка*. У *ручніках-трапкачах* насілі абед у поле. Абрадавыя ручнікі выкарыстоўваліся для пэўных свят і абрадаў. Яны былі ўпрыгожаныя вышываным арнаментам. Ручнікі для падарункаў называліся *платкамі*, прызначаныя для выканання пэўнага абраду – *абыдзеннікамі.* Відазмененай формай абрадавага ручніка з'яўляўся *надзежнік* – палатняная накрыўка для дзяжы. Яго таксама выкарыстоўвалі для ўрачыстага паднашэння каравая гасцям. Яшчэ адным відам ручнікоў лічылася *намітка* – своеасаблівы галаўны ўбор беларускіх жанчын. Канцы гэтага ручніка на-

мотвалі, завівалі, мудрагеліста абкручвалі вакол галавы, пакідаючы не закрытым толькі твар.

Ручніковая тканіна, прызначаная для ўпрыгожвання абразоў і бажніц, мела назву *набожніка*. Яе сувязь з абразамі, чырвоным кутом хаты адлюстравана ў лакальных назвах: *набразнік, абразны ручнік, накутнік, багавік, завеска, плат, платок, набожны платок.* Іх адметныя рысы – выразная дэкаратыўнасць і пэўная даўжыня, якая вар'іравалася ад 2 да 5 метраў у залежнасці ад памераў бажніцы і колькасці абразоў. Пакрывалі бажніцу звычайна адным суцэльным вырабам, іншы раз вылучаючы галоўны абраз асобным, найлепш аздобленым набожнікам.

*Аброчныя* (*запаветныя*) ручнікі, ці *ручнікі-абярэгі*, прыносілі па абяцанні ці запавеце на абракальныя, прыдарожныя крыжы, прошчы, святыя крыніцы і дрэвы як ахвяру, дар, сродак усталявання кантакту з найвышэйшым светам, індывідуальную просьбу да Бога.

Зразумела, ручнік – не толькі кавалак тканіны для побытавых і гаспадарчых патрэб. Падчас свята "Повязь часоў – беларускі ручнік" у жывой тэатралізаванай форме студэнты паказалі ролю ручніка ў сямейных абрадах беларусаў – на вяселлі, уваходзінах, хрэсьбінах, акрэслілі функцыю ручніковага палатна ў пахавальна-памінальнай абраднасці.

Шырокае ўжыванне ўзорыстых тканін – ручнікоў – звяртае на сябе асаблівую ўвагу ў вясельнай абраднасці. Вясельныя ручнікі ўваходзілі ў пасаг маладой, сведчылі пра яе працавітасць, умельства, густ. Усяго ў пасагу дзяўчына павінна была мець не менш за сорак ручнікоў. Рыхтавала яна іх сама, часам з дапамогай бабулі і маці.

З ручніком ішлі ў сваты, у знак згоды на шлюб (пры заручынах) рукабітнымі ручнікамі нявеста перавязвала маладога (самым вялікім і ўпрыгожаным), свата, бутэльку з жытам. Ручнікамі здаўна аздаблялі і вясельны цягнік: прывязвалі замест лейцаў, укладвалі ўздоўж конскіх спін, увівалі імі дугі.

Ручнік быў адным з асноўных спосабаў маркіроўкі галоўных дзейных асоб вяселля – маладой (ёй завязвалі ручнік на правай руцэ, і яна насіла яго на працягу ўсяго свята), маладога (перапаясвалі ручніком), свата і ўдзельнікаў дружыны маладога (перавязвалі ручніком праз правае плячо ці перакрыжоўвалі двума ручнікамі).

Перад шлюбам бацькі бласлаўлялі маладых абразамі, упрыгожанымі *блаславёнымі* ручнікамі. Апошнія звычайна гафтаваліся чырвонымі ніткамі, багата аздабляліся. Сімвал яднання, духоўнай сувязі, кахання і ўзаемнай прыхільнасці суджаных – *ручнік-падножнік*, або *саюзны ручнік*, на які станавіліся маладыя ў храме падчас вянчання і які надзяляўся самым высокім абрадавым статусам. На ім вышываўся раслінны арнамент, імёны маладога і маладой, парады да сямейнага жыцця.

З ручнікоў рабілі "вароты шчасця", пад якімі праходзіла маладая пара, вяртаючыся з царквы. Маладая імкнулася пацягнуць за сабой ручнік-падножнік у храме, каб сяброўкі хутка выходзілі замуж. Па старажытнай традыцыі пасля шлюбу бацькі сустракалі маладых караваем на вясельным *хлебасольным ручніку*. Каб выказаць гасціннасць і павагу, на маляўнічым нацыянальным ручніку і сёння ў нашай краіне падносяць хлеб-соль шаноўным гасцям. Так з ручніка, яго прамяністых узораў пачынаецца знаёмства з беларускім краем, яго народам.

Пакрыванне ручніком – спосаб улучэння суджаных у новую прастору, напаўненне яе, дзе ручнік і ёсць сама прастора. Так, пасля царквы маці маладой кідала на зямлю ручніковае палатно, і той, хто першы з маладых станавіўся на яго, трымаў верх у сям'і. Падчас вяселля маладых вялі ў хату, пакрыўшы іх галовы ручніком. У адпаведнасці з народнымі ўяўленнямі гэта сімвалізавала пажаданні багацця, дабрабыту, а таксама далучэнне да новага дому.

Ручнік з'яўляўся сімвалам пераходу да новага сацыяльнага і сямейнага статусу (маладая ўваходзіла ў хату маладога па палатне ці ручніку; брат вёў маладую на "пасад"). Ручнік быў знакам прысутнасці маладой у доме мужа і сімвалам засваення ёю новай жыццёвай прасторы. Маладая жонка вешала на абразы ручнікі-набожнікі, упрыгожвала імі рамкі з фотаздымкамі, люстэркі. Ручнікамі-падарункамі яна адорвала радню мужа, што ў дадзеным выпадку яднала роды, сем'і маладой і маладога, наладжвала добразычлівыя сувязі.

Асноўным атрыбутам абраду ўваходзін з'яўляўся таксама ручнік. У шматлікіх мясцовасцях Беларусі здаўна існаваў звычай – пры засяленні ў новую хату ўпрыгожваць чырвоны кут багата аздобленымі набожнікамі. У час віншавання гаспадароў з наваселлем сярод падарункаў гасцей пачэснае месца традыцыйна займаў абраз з ручніком.

У радзінных абрадах і звычаях ручнік быў адным з асноўных спосабаў маркіроўкі пераходнага стану нованароджанага. Неабходны рытуальны прадмет хрышчэння – ручнік, на які клалі дзіця пасля абраду. Падчас рытуальнай трапезы галаву бабкі-павітухі пакрывалі ручніком, тое ж рабілі і з гаршком "бабінай кашы". Багата аздобленымі тканінамі адорвалі бабку-павітуху і кумоў на застоллі.

Медыятыўная функцыя ручніка як спосабу злучэння сфер жыцця і смерці паказальная ў сімволіцы ручніка як дарогі. Існавала ўяўленне, што ручнік дае людзям дарогу ў жыццё, гэта шлях, па якім чалавек праходзіць "свой век". Адпаведна парушэнне цэласнасці ручніка асацыіравалася са спыненнем руху чалавека па жыццёвым шляху (адсюль забарона рваць ручнікі).

У пахавальнай абраднасці ручнік заканамерна выступаў у ролі медыятара паміж светам жывых і светам продкаў, куды накіроўваецца нябожчык, якому таксама трэба ахова і клопат родзічаў. Ручнік вывешвалі праз акно як знак жалобы па нябожчыку; ён вісеў у доме на працягу сарака дзён і гэтым сімвалізаваў месца часовага прытулку душы памерлага і яе пераходу на той свет. Пры пахаванні ў труну клалі ручнік, канцы якога нярэдка заставаліся звонку. У гэтым выпадку ён увасабляў сабою шлях, які злучае "гэты" і "той" свет, дарогу на "той" свет, рэч, якая можа спатрэбіцца нябожчыку на "тым" свеце, каб уціраццa. Абавязковым лічылася аббіваць дамавіну ручніком, але нельга было пакідаць доўгіх канцоў, каб нябожчык не забраў з сабой усіх сваякоў. На ручніках выносілі з хаты, неслі да могілак і апускалі ў магілу труну. Выключным статусам сярод народных знахароў карысталіся такія ручнікі. Ёсць многа пацвярджэнняў таму, як з іх дапамогай лячылі найцяжэйшыя псіхічныя захворванні дзяцей і дарослых (асабліва эпілепсію). У памінальныя дні ручнік слалі ад акна да стала як шлях вяртання дадому продкаў-дзядоў. На Радаўніцу ручнікамі ўпрыгожвалі надмагільныя крыжы і помнікі – род ахвяры памерлым продкам, знак памяці і ўшанавання. Так ручнік рабіўся дарогай на той свет.

Нельга пакінуць без увагі выставу кніг "Беларускае ткацтва і вышыўка", падрыхтаваную да свята супрацоўнікамі бібліятэкі педагагічнага факультэта. Яркія, каларытныя малюнкі розных відаў народнай дэкаратыўна-прыкладной творчасці – паясоў, ручнікоў, сурвэтак, абрусаў, накрывак, коўдраў, адзення, аздобленага вышыўкай, дываноў, лялек у нацыянальным строі – уяўляюць шырокую панараму творчых пошукаў. У літаратуры выразна праглядаецца разнастайнасць падыходаў да ўвасаблення народных традыцый і актуальных тэндэнцый у стварэнні спецыфічных мастацкіх аб'ектаў. Даволі поўна прадстаўлены рэгіянальныя асаблівасці ткацтва і вышыўкі, іх тэхналагічныя і вобразна-тэматычныя аспекты. Прэзентацыя выставы была падрыхтавана па матэрыялах кніг і альбомаў вядомых даследчыкаў культуры беларускага народа В. Лабачэўскай, М. Кацара, А. Катовіч, Я. Крука, А. Курыловіча, Т. Кухаронак, Б. Лазукі, В. Ліцьвінкі, М. Раманюка, Я. Сахуты, В. Фадзеевай, В. Цітова і інш. Гэтыя працы навукоўцаў – не толькі позірк у сівую мінуўшчыну беларускага народа, а найперш клопат пра захаванне і перадачу духоўнай спадчыны нам, зацікаўленым спадкаемцам.

Эстэтычнаму ўспрыманню свята садзейнічала выстава твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва "Таленты народнай душы", дзе гледачы маглі пазнаёміцца з калекцыяй тканых і вышываных твораў – рэчаў, створаных нашымі матулямі і бабулямі для паўсядзённага побыту, без якіх не абыходзілася ніводная сялянская хата (ручнікі, накрыўкі, посцілкі, коўдры, абрусы). Цэнтральны раздзел выставы адкрываўся трапнай цытатай: "Умельства рук, душы натхненне ў працу ўкладвае народ" (А. Бялевіч). Некаторыя вырабы захаваліся яшчэ з пачатку XX ст.

Арганізатары і ўдзельнікі свята, госці і прысутныя прыйшлі да агульнай высновы: "*Народная творчасць жыве і сёння! І няхай характар яе істотна змяніўся, але галоўнае тое, што тканыя і вышываныя вырабы сучасных народных майстроў уносяць у сённяшні інтэр'ер, асабліва гарадскі, цеплыню, непаўторнасць, характэрны мясцовы каларыт. Гэтыя ж якасці вызначылі і яшчэ адну функцыю прадметаў сучаснага народнага мастацтва – сувенірную: турысты і госці Беларусі з вялікай ахвотай набываюць такія вырабы як напамін аб таленавітасці і працавітасці нашага народа, асаблівасцях яго жыцця і культуры*".

Рукатворныя вырабы беларусаў, адзначаныя чароўнай непасрэднасцю, самабытным харастром і эстэтычным густам, заўсёды былі ўзорнымі першакрыніцамі духоўнасці. Сёння тканыя, вышываныя ручнікі, якія можна назваць летапісамі душ, памкнёных да прыгажосці, сталі сімваламі беларускай нацыі.

Каб любіць Радзіму, быць яе патрыётам, неабходна мець уласную годнасць, шанаваць блізкіх, свой народ, родную зямлю. І тут варта прыгадаць трапныя словы шчырага сына нашай Радзімы У. Караткевіча: "*Любіце гэтую сваю святую зямлю аддана і да канца. Іншай вам не дадзена, дый непатрэбна…*" Спадзяёмся, што ў выхаванні патрыятычных пачуццяў моладзі не апошнюю ролю адыграюць мерапрыемствы, якія перыядычна ладзяць супрацоўнікі Баранавіцкага дзяржаўнага ўніверсітэта.

**Таццяна ПАМАЗЕНКА,**
**Галіна ВАЎЧОК,**
выкладчыкі кафедры філалогіі
педагагічнага факультэта БарДУ.

Валянціна ШАЎЧЭНКА
Міхаіл ШАЎЧЭНКА

# *“ЖЫВІ, МАЯ РОДНАЯ МОВА!”*

## ЛІТАРАТУРНА-МУЗЫЧНАЯ КАМПАЗІЦЫЯ

*Выконваецца песня “Зямля мая”* (*муз. С. Паплаўскага, сл. К. Гарушкі*).

**1-ы вядучы.** Духоўнай каштоўнасцю кожнага народа з’яўляецца яго родная мова. Беларуская мова – гэта скарбніца беларускай культуры, усе элементы якой знаходзяць сваё выражэнне ў слове. Наша мова – адна з найбольш дасканалых моў свету. Трапная і мілагучная, яна заўсёды была прадметам гонару беларускага народа.

*На фоне мелодыі песні “Жураўлі на Палессе ляцяць”* (*муз. І. Лучанка, сл. А. Ставера*), *якая выконваецца на цымбалах, чытаецца верш “Родная мова” Пімена Панчанкі.*

*Выконваецца песня “Куточак зямлі”* (*муз. і сл. Я. Жабко*).

*Вядучыя выразна чытаюць верш “Родная мова” Максіма Танка.*

*Пры чытанні апошніх двух радкоў ціха гучаць цымбалы.*

*Выконваецца папуры з мелодый народных танцаў: “Лявоніха”, “Какетка”, “Матлёт”, “Падыспан”, “Кракавяк”. Выступленне харэаграфічных груп.*

*Вядучыя выразна чытаюць верш “Калі ласка!” Петруся Броўкі.*

*Гучыць песня “Ластаўка”* (*муз. У. Кандрусевіч, сл. В. Болдыравай*).

**1-ы вядучы.**
Роднае слова –
Маланак аснова
І сіняга лёну
Някідкі ўток.

**2-і вядучы.**
Яно як крыніца,
Што вечна бруіцца,
Бярэ з нашых сэрцаў
Свой чысты выток.

А. Малюк.

*Вядучыя выразна чытаюць верш “У нас сваіх хапае слоў...” Юрася Свіркі.*

*Выконваецца беларуская народная песня “Хлопец пашаньку пахае”.*

*Выконваецца танец “Беларуская полька”* (*муз. І. Лучанка, сл. Л. Дранько-Майсюка*).

*Вядучыя выразна чытаюць верш “Развітанне” Пімена Панчанкі (апошнія чатыры страфы).*

*Гучыць песня “Рэха жураўлінае”* (*муз. Д. Даўгалёва, сл. У. Пецюкевіча*).

*Вядучы выразна чытае верш “Я –беларус” Ніла Гілевіча (тры страфы).*

*Вядучы выразна чытае верш “Родная мова, цудоўная мова!” Уладзіміра Дубоўкі.*

**2-і вядучы.**
Жывое ў вяках беларускае слова –
Народа душа і народа хвала.
Цябе абзывалі “мужыцкаю мовай”,
А нам жа ты – матчынай мовай была.

А. Бачыла.

**1-ы вядучы.**
Заспявала на вяселлі песню маці.
Нейкі хлюст мне крыкнуў: “Может, хватит!”
Пацягнула за рукаў суседка: “Хопіць…”
Песню маёй вёскі хто падхопіць?

Н. Гарагляд.

*Акапэльна выконваецца беларуская народная песня “Туман ярам”.*

*Вядучыя выразна чытаюць верш “Дала мне маці гэту мову…” Аляксея Пысіна.*

**2-і вядучы.**
Хачу, каб песню маёй матулі
І ўнукі ўнукаў маіх пачулі
Не толькі са сцэны,
А ў хаце – блізкую –
Над ціхай калыскаю,
Над поўнай міскаю.

Р. Барадулін.

*Выконваецца песня “Чаўначок”* (*муз. А. Кацікава, сл. Л. Генюш*).

*Вядучы выразна чытае верш “Беларуская мова” Пімена Панчанкі.*

**1-ы вядучы.**
Мова продкаў нашых і нашчадкаў –
Шэпт дубровы і пчаліны звон, –
Нам цябе ласкава і ашчадна
Спазнаваць ажно да скону дзён,
Па чужых краях не пабірацца,
Не аддаць цябе на забыццё,
Наша невычэрпнае багацце,
Наша несмяротнае жыццё.

Г. Бураўкін.

**2-і вядучы.**
Сто разоў шукай другой красы,
А тым больш, што свет даўно не вузкі,
Ды калі ты не бязродны сын,
Гавары са мной па-беларуску.

Я. Янішчыц.

**1-ы вядучы.**
О матчына мова! Маленства вясна!
Ніколі ніхто мне цябе не заменіць,
Бо ты, як і маці, на свеце адна.

А. Бачыла.

*Выконваецца песня “Няма другой такой”* (*муз. і сл. В. Мусвіды*).





*Вяртанне да вытокаў*

Анатоль СТАТКЕВІЧ-ЧАБАГАНАЎ

# ГЕТАЛТЫ І ТЫШКЕВІЧЫ З РОДУ КАЛЕНІКАВІЧАЎ ГЕРБА "ЛЯЛІВА"



**Герб "Ляліва" родаў Геталтаў і Тышкевічаў.**

Мая пра…прабабуля Саламаніда Томкаўна Геталт у першай палове XVI ст. выйшла замуж за полацкага зямяніна Багдана Грыгор'евіча Рэута. Паходзіла Саламаніда са старажытнага і магутнага роду Каленікавічаў-Мішкавічаў, які, пачынаючы з канца XIV ст., пакінуў прыкметны след на кіеўскай і валынскай землях Вялікага Княства Літоўскага.

Прапрадзед Саламаніды Томкаўны Каленік Мішкавіч і іншыя прадстаўнікі роду займалі высокае становішча ў радзе Свідрыгайлы, малодшага сына вялікага князя Альгерда. У 1434 г. Свідрыгайла перадаў Каленіку ў намесніцтва два свае гарады – Звянігарад на Падоле Брацлаўскім і Пуціўль на Севершчыне.

17 кастрычніка 1437 г. па прывілеі, выдадзеным у Кіеве, Свідрыгайла ўзнагародзіў Каленіка Мішкавіча за верную службу, "а нигды не опущеную" шматлікімі маёнткамі ў кіеўскай зямлі і на тэрыторыі памежнай з імі Валыні.

Найбольшае значэнне мелі падараваныя землі, названыя Слабодзішчам пад Житомірам, дзе ў першай палове XVI ст. было пабудавана ўмацаванае селішча, а потым заснаваны горад Бярдзічаў з палацам, якія сталі з часам Бярдзічаўскім графствам.

Гісторыкі звязваюць узнікненне горада Бярдзічава з імем Каленіка.

Дзед Саламаніды, Геталт (Андрэй) Каленікавіч, меў братоў Дзебру, Акушку, Тышку і сястру Яўфімію (?), якая была замужам за Раманам Івашкавічам з роду Волкавічаў, вядомым як Раман з Кіева. Унук Яўфіміі, Іван Гарнастай, падскарбі земскі літоўскі, маршалак дворны і ваявода навагрудскі, падтрымліваў сваіх родзічаў, у тым ліку і род Тышкевічаў, пры каралеўскім двары, шмат зрабіўшы для іх узвышэння.

Як лічаць даследчыкі Наталля Якавенка і Генрых Люлевіч, браты Геталта Каленікавіча Дзебра і Акушка загінулі ў бітвах з татарамі.

Вядома, што ў 1497 г. Дзебра Каленікавіч разам са шваграмі – Міхаілам Гагіным, Федзькам Геленчыцам і Кунцам Сянковічам – вёў спрэчку за спадчыну пасля князя Рамана Ягалдаевіча, які быў дзядзькам яго жонкі.

На думку Г. Люлевіча, некаторыя гісторыкі на падставе гэтых звестак памылкова лічаць, што жонка Дзебры Каленікавіча (Анастасія) была княгіняй Ягалдаеўнай. Хутчэй за ўсё, яе маці паходзіла з роду князёў Ягалдаевічаў і ў шлюбе магла мець прозвішча Ельцаўна. Пра Ельцаўну вядома, што яна трапіла ў няволю ў Пуціўлі, які быў заняты маскоўскімі войскамі ў 1500 г.

З іншых дакументаў вынікае, што Дзебра Каленікавіч быў уладальнікам вотчыны Слабодзішча, якая пасля смерці гаспадара засталася дзецям і ўнукам яго братоў Акушкі, Геталта (Андрэя) і Тышкі.

Даследчыкі роду лічылі, што Дзебра Каленікавіч не меў нашчадкаў, але, як мне ўдалося высветліць, пасля яго засталася дачка Федзя, якая разам з маці, будучай ігуменняй полацкай Анастасіяй, пераехала ў Полацк і ўзяла шлюб з баярынам Цішкам Іванавічам Быкоўскім. Пра гэта

*Часопісны варыянт выбраных раздзелаў з кнігі "Я – сын Ваш" **Анатоля Статкевіча-Чабаганава** друкуецца з № 4 за 2010 г.*

сведчыць прывілей караля Жыгімонта ад 14 верасня 1523 г., выдадзены Цішку Быкоўскаму на маёнтак Парэча ігуменняй Анастасіяй. Дарэчы, падпісаны прывілей пісарам Гарнастаем, пляменнікам Дзебры:

*"Жыкгимонтъ, Божю м(и)л(о)стью.*

*Бил намъ чоломъ дворанинъ н(а)шъ Тишъка Быковъскии и поведилъ перед нами, ижъ игуменья полоцкая Настася записала ему, зятю своему, по жывоте своемъ именьечко свое у Полоцкомъ повете на имя Порече, которое ж деи именьечко мы еи дали напротивъку того именья, што есмо по жывоте мужа ее небощыка п(а)на Дебря Калениковича з рук в нее взяли на имя Островъ, и душею своею за то полецылас ему печаловати. И бил намъ чоломъ, абыхмо ему на то дали н(а)шъ листъ.*

*Ино кгды ж тая игуменья, маючы тое именъечко з дани н(а)шое, ему по смерти своее отписала и душею своею полецылас ему опекати ся, мы, з ласки н(а)шое, на его чоломъбите, то вчинили: на то дали ему сес н(а)шъ листъ. Нехаи онъ тое именьечко у Полоцкомъ повете Порече со въсимъ держыть водлугъ запису ее, а намъ с него служъбу земъскую служыть.*

*Писанъ у Кракове, под лет Бож(его) нарож(енья) 1000 пятьсотъ 23, м(е)с(е)ца сен(тября) 14, инъдыкъ[т] 12.*

*В томъ листе рука королевъская.*

*Горностаи, писаръ."*

З полацкай рэвізіі за 1552 г. відаць, што *"Тишыная Быковская Федя мает имене, выслугу мужа своего на господора его милости славное памяти Жыкгимонта, двор Поречье с пашнею".*

Гэты дакумент яшчэ раз пацвярджае, што ў Дзебры была дачка, а яе муж, полацкі баярын Цішка Быкоўскі, згадваецца ў шматлікіх дакументах полацкага гродскага суда.

Пра другога брата Геталта, Акушку, вядома, што ён па даручэнні караля ад 20 чэрвеня 1488 г. выконваў абавязкі намесніка ў Звягелі на Кіеўшчыне. Потым служыў пры каралеўскім двары. Як склаўся яго лёс пасля 1500 г., невядома, магчыма, Акушка загінуў у бітве з татарамі.

Мне ўдалося высветліць, што, акрамя дачкі Марыі, якая была замужам за Германам, у Акушкі былі яшчэ сыны Фёдар і Яўфімій.

Фёдар у 1516 г. меў судовую справу з баярынам Грыгорыем Служкам з-за пазыкі свайго памерлага на той час брата Яўфімія, архіепіскапа полацкага. У Фёдара было некалькі сыноў і дачок, адна з якіх была ў шлюбе з полацкім баярынам Фёдарам Епімахавічам.

Другі сын Акушкі, Яўфімій, стаў архіепіскапам полацкім і віцебскім у пачатку XVI ст.

З "Полацкіх грамат" нам вядома, што Яўфімій Акушкавіч вёў актыўную дзейнасць па ўмацаванні праваслаўнай веры ў Рызе. Некалькі разоў накіроўваў туды святароў з рознымі даручэннямі, клапаціўся пра выдаткаванне сродкаў на рамонт рыжскай царквы Святога Мікалая.

Уяўляецца цікавай і судная грамата (вырак) ад 5 ліпеня 1511 г. вялікага князя літоўскага і караля польскага Жыгімонта I па справе архіепіскапа полацкага і віцебскага Яўфімія з мітрапалітам кіеўскім Іосіфам пра замацаванне за першым тытула: *"Вырок владыце полоцкому и витебскому Евъхимею з митрополитом киевсим Иосифом о том, же он, писываючи до него не докладал тытулу его архиепископъя, которыи тытул его на вечность присужоно".*

Яшчэ адзін брат Геталта Каленікавіча, Тышка, быў пачынальнікам магутнага магнацкага роду Тышкевічаў. У канцы 1486 г. ён як баярын кіеўскі атрымаў ва ўзнагароду 5 коп грошаў з кіеўскай мытні за службу пры двары літоўскага караля Казіміра. Цікава, што 22 мая 1487 г. кароль у лісце да кіеўскага ваяводы Юрыя Пацэвіча пацвердзіў рашэнне пра ўмоўнае прызначэнне Тышку пустой зямлі, якая засталася пасля збеглага ў Валахію Карпа Лупандзіча. У канцылярыі гэты ліст у кнігі Літоўскай метрыкі ўпісалі пад назвай: *"Тишку якомусь на землю в киевском повете".* У архіўных паперах яго імя згадваецца найбольш часта праз патронім Тышкевічы. Верагодна, ён быў жанаты двойчы, бо назіраецца вялікая разбежка паміж датамі смерці яго сыноў.

Род Тышкаў быў упісаны ў памянніку кіеўскіх манастыроў, адкуль вынікае, што яго пачынальнік памёр у пачатку XVI ст. У Тышкі былі сыны Барыс, Леў, Гаўрыла (Габрыель), Міхайла і Васіль.

Сын Тышкі Леў раней за ўсіх з гэтага пакалення, а магчыма, нават з усёй сям'і пачаў дзяржаўную кар'еру са службы на гаспадарскім двары. У 1504 г. Аляксандр Ягелончык накіраваў яго як свайго дваранiна з Кракава ў Крым з пасольствам да хана Менглі-Гірэя. Леў таксама быў першы сярод Тышкевічаў, хто пераехаў з памежных кіеўскіх зямель у глыб Літвы. Такая неабходнасць была выклікана стратаю часткі вотчыны на тэрыторыях, занятых Масквой, а таксама значным спусташэннем татарамі і падчас мяцяжу Міхаіла Глінскага астатніх уладанняў, якія знаходзіліся ў Кіеўскім павеце.

Яшчэ адзін з сыноў Тышкі, Міхайла, асеў у Літве. Вядома, што ў 1538 г. Жыгімонт Стары пасылаў яго з пасольствам у Крым да хана Сахіб-Гірэя з прапановай саюзу і вечнага міру ўзамен на традыцыйныя дары.

Васіль Тышкевіч, адзін з малодшых сыноў Тышкі, пражыў доўгае і цікавае жыццё. Займаў прэстыжныя дзяржаўныя пасады: шмат разоў

быў старостам Краснасельскага, Чаркаскага і Канеўскага, Мінскага, Ваўкавыскага, Пінскага ваяводстваў і даслужыўся да гаспадарскага маршалка. У канцы жыцця стаў падляшскім ваяводам, а потым у 1569 г. – смаленскім. Ён стаў таксама першым у родзе сенатарам. Прадстаўнікі заснаванай ім лініі Тышкевічаў у Лагойску і Бярдзічаве дасягнулі высокіх чыноў і часта займалі сенатарскія пасады.

Разам з уплывовым родзічам падскарбіем земскім Іванам Гарнастаем Васіль Тышкевіч перш за ўсё вярнуў прывілеі продкаў, а таксама закладзеныя ў 1541 г. часткі вотчыны на кіеўскай зямлі, дамагаўся звароту родавых дакументаў, якія ў перыяд хваляванняў на Украіне апынуліся ў архіве Канстанціна Астрожскага. Аднак працэс вяртання вотчыны праходзіў доўга і дорага абыходзіўся. Выдаткі былі такімі вялікімі, што браты Гаўрыла і Міхайла, стрыечная сястра Марыя Акушкаўна, а таксама пляменнікі Скумін Львовіч і Аляксандр Андрэевіч Геталт не маглі вярнуць нават іх частку, а таму добраахвотна адмаўляліся на карысць Васіля ад кавалка таго Слабодзішча, што застаўся ім пасля дзядзькі Дзебры Каленікавіча.

Памёр Васіль Тышкевіч восенню 1570 г. Пахаваны ў царкве Супрасльскага манастыра.

Аднак вернемся да Геталта Каленікавіча. Па прывілеі караля ў 1488 г., Акушка Каленікавіч разам з братам Геталтам атрымаў узнагароду: *"Окушъку Калениковичу 20 бочокъ ржи с ключа Луцького, а челединъ ему в него жъ; ему жъ 15 копъ з мыта киевъского.*

*Брату его Кгетовъту 8 копъ з мыта того жъ".*

У маі 1496 г. Геталт купіў маёнтак Пятроўскае на Вязыні Сухадолы. Праз пэўны час ён пачынае набываць землі на Полаччыне. Гэта бачна з дакумента ад 13 студзеня 1517 г. пра абмен маёнткамі з Іванам Сапегам: "…*именьем своим менял з воеводою подляшским паном Иваном Сапегою на ег(о) именья в Полоцкомъ повете на имя на Чураки, а на Березую, а на Василевичы, а на Рукшаничи, а на Лысково, а на двор в замку Полоцком, на которие ж люди и земли панъ Иванъ Сопега листы привилея нашы и предковъ нашихъ перед нами в тот же час клал, и били на*[*м*] *чоломъ зобу сторонъ, как панъ Иванъ Сопега такъ панъ Кгетовт Колениковичъ, абыхмо дозволии имъ вышеиписаными именьи ихъ меняти и потвердили быхмо имъ тую и мену ихъ нашим листом".*

Вядома, што некаторыя з найбліжэйшых родзічаў Геталта [Тышкевічы, ігумення полацкая Анастасія (Дзебраўна), архіепіскап полацкі Яўфімій (Акушкавіч)] да гэтага часу ўжо асталяваліся на новых абшарах у глыбіні Літвы. Таму, мабыць, невыпадкова Геталт набываў землі на Полаччыне – каб быць бліжэй да радні.




**Вокладка часопіса "Władza i Prestiż", у якім у 2003 г. быў надрукаваны артыкул Генрыха Люлевіча пра вытокі роду Тышкевічаў.**

З цягам часу прадстаўнікі роду станавіліся вельмі ўплывовымі асобамі, у тым ліку і на полацкай зямлі. Як бачна з многіх дакументаў полацкага гродскага суда, у разглядзе судовых спраў (1533 – 1539) удзельнічалі баяры-сваякі Томка Геталтавіч, Цішка Быкоўскі, гараднічы Іван Глебавіч Корсак і Фёдар Епімахавіч.

Добра склаўся лёс і ў дачок Геталта Каленікавіча, якіх ён удала выдаў замуж. Мар'я Геталт стала жонкай полацкага гараднічага Івана Глебавіча Корсака. Яе сын, знакаміты Баркулаб Іванавіч Корсак, – заснавальнік мястэчка Баркулабава. Менавіта па яго даручэнні святаром Філіпам быў складзены Баркулабаўскі летапіс – помнік старажытнага беларускага пісьменства.

Другая дачка Геталта, Дамінітра, у першым шлюбе была жонкай Міхаіла Гарабурды, пісара ВКЛ і вядомага дыпламата, які ў 1559 г. ездзіў як пасол да крымскага хана, а ў 1561 – 1584 гг. неаднаразова накіроўваўся паслом у Маскву.

Трэба адзначыць, што маці Міхаіла Гарабурды, Міласлава, паходзіла з роду Сачкевічаў на Ліпах, з якіх пайшла таксама і галіна майго роду Сацкевічаў-Статкевічаў. Міласлава была замужам за Фёдарам Грыгор'евічам Гарабурдам, пісарам каралевы Боны, а пляменніца Міхаіла

Гарабурды, дачка яго брата Лукаша, узяла шлюб з Іосіфам Корсакам, кашталянам полацкім.

Дачка Дамінітры, Ганна Гарабурда, была замужам за Львом Сапегам, суддзёй земскім гродзенскім, які даводзіўся траюрадным братам канцлеру Льву Сапегу.

Што сёння вядома пра сыноў Геталта? Аляксандр Андрэевіч Геталт як пляменнік Тышкі згадваецца ў справе пра вотчыннае Слабодзішча, якое адсудзіў у князя Канстанціна Астрожскага Васіль Тышкевіч.

Імя Аляксандра Геталта таксама сустракаецца ў Полацкай рэвізіі за 1552 г.: *"Они жъ поведили, иж земенин Полоцкий Александро Кгетолтъ держыт люди путные село Чураки дымов петнадцат, неведомо зачым, которые даивали к Черсвяту з дыму овса по пети четверток и иншые повинности полнили, яко и Ладошняне".*

У той жа рэвізіі згадваецца і яго брат Мацвей Геталт: *"Они жъ поведили, иж брат того Александров, Матфей Кгетолтъ держит также неведомо зачым, две села людей путных, на имя Василковляне десет дымов а другое Глубочино пят дымов, которы вси давали к Черсвяту з дыму по пят четверток овса и вси повиннсти полнили, яко и Ладошняне".*

Аднак найчасцей у многіх дакументах Полацкага гродскага суда сустракаецца адзін з сыноў Геталта, мой прамы продак, – Томка Геталтавіч, баярын полацкі.

Паводле адной з судовых спраў, Томка Геталтавіч, баярын гаспадарскі полацкі, скардзіўся на падданага гаспадарскага кормніка Еську Клімяціча, нанятага са стругам, каб "спустити пят[ь]десятъ четверътей жита". Аднак такую колькасць зерня ў адным струзе было сплаўляць цяжка і Томка ўсыпаў у струг толькі "сорокъ четверътей жита". Еська Клімяціч, не параіўшыся з гаспадаром, тое жыта адсыпаў у другі струг, а сам наняўся везці ў Рыгу іншы тавар. Так атрымалася, што жыта, якое належыла Томку, патанула. На судзе Еська стараўся патлумачыць, што ўсё адбылося са згоды Томкі, аднак суд прызнаў кормніка вінаватым і прызначыў яму выплаціць за страчанае жыта "за кожъдый лаштъ… по два рубли узъкихъ", – столькі па тым часе яно каштавала ў Рызе.

З роду Мішкавічаў і Каленікавічаў-Мішкавічаў у другой палове XV ст. і ў пачатку XVI ст. выйшлі некалькі першаіерархаў праваслаўнай царквы: Грыгорый [Паўлавіч] – мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі, Іван [Каленікавіч] – архімандрыт Кіева-Пячэрскага манастыра (яго жонкай была княгіня Агаф'я Глінская), а таксама згаданыя Яўфімій [Акушкавіч] – архіепіскап полацкі і Анастасія – ігумення полацкая. Гэта яшчэ раз сведчыць пра магутнасць роду і значны ўклад яго прадстаўнікоў у духоўнае жыццё Айчыны.

*Пераклад з рускай мовы.*

*Працяг будзе.*

Пры падрыхтоўцы матэрыялу выкарыстаны даследаванні Генрыха Люлевіча і Наталлі Якавенкі.

*Аўтар ахвяруе ганарар на развіццё часопіса.*

*Спадчына*

# ГЕРБ "ЛЯЛІВА"

"Лялiва" – прыватнаўласніцкі герб, якім на Беларусі, Украіне, у Польшчы і Літве карысталася каля 350 родаў, у тым ліку Абрамовічы, Аляхновічы, Глябовічы, Дарагастайскія, Забярэзінскія, Манівідавічы, Сяняўскія, Тарноўскія, Тышкевічы, Чапскія. У блакітным полі залаты маладзік рогамі ўгору, над ім залатая шасціпрамянёвая зорка. Кляйнод – над прылбіцай з каронай на паўлінавых пёрах такія ж маладзік і зорка.

Існуюць варыянты герба: з чырвоным полем; са стралой, якая выходзіць угору з зоркі, кляйнод – 3 страусавыя пёры; з маладзікам рогамі ўніз, пад ім зорка. Вядомы з пачатку XIV ст., у ВКЛ – пасля Гарадзельскай уніі 1423 г.

Герб "Ляліва" Тэадора Тышкевіча прастаўляў мінцмайстар (майстар манетнага двара) Ёнас Глебавічус на Віленскім манетным двары. Гэты знак прысутнічае на шэлегах у 1580 – 1583 гг., траяках у 1581 – 1583 гг., на шостаках у 1581 г.



**Аверс манеты – каранаваная "S", рэверс – карона, "Ляліва".**

Паводле: **Энцыклапедыя гісторыі Беларусі**: у 6 т. / рэдкал.: Г. П. Пашкоў (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск: БелЭН, 1997 г. – Т. 4. – С. 424.

*Светлыя імёны Беларусі*

# БЕЗ ЛЮБОВІ ДА ВУЧНЯ НЯМА НАСТАЎНІКА

## СЛОВА ПРА МІКОЛУ ПАШКЕВІЧА

Вярнуцца да імя беларускага настаўніка, гэтага апантанага родным словам руплі́ўца з Мядзельшчыны, Міколы Пашкевіча мяне змусілі новыя архіўныя матэрыялы, здымкі, і памяць, ды цёплыя, шчырыя лісты знакамітых літаратараў краіны.

…На могілках вёскі Гарадзішча сярод звычайных сціплых помнікаў ёсць адзін, непадобны да іншых. Ён нагадвае сонечны прамень, у верхняй частцы якога змешчаны бронзавы барэльеф з профілем маладога настаўніка, натхнёна зроблены вядомым скульптарам Іванам Міско, крыху ніжэй, на мармуровай пліце надпіс:

*Мікола Арсенавіч*
*Пашкевіч*
*1936 – 1972*
*“Светлы след будзе вечна жывы”.*

Дык які́м жа быў гэты чалавек?

Яго вучаніца, сёння настаўніца роднай мовы і літаратуры школы-інтэрната № 1 горада Маладзечна, выдатнік народнай адукацыі Нона Васілевіч узгадвае: *“Працаваў па ўласнай тэхналогіі, дзе да навучання далучаўся кожны вучань, разам з іншымі будаваў асабістыя веды, праяўляў свае творчыя здольнасці, думаў, ствараў, самарэалізоўваўся. Мы, па яго прыкладу, многа чыталі, умелі карыстацца даведачнай літаратурай, слоўнікамі, у нас было развіта вуснае маўленне… Нездарма, калі ўжо вучылася на філфаку БДУ, выкладчыкі часта пыталіся, хто вучыў роднай мове. І калі называла імя М. А. Пашкевіча, ухвалялі і мяне, і настаўніка”.*

Бясконцыя клопаты пра людзей, непасрэднасць, няўрымслівасць, барацьба з абыякавасцю былі вызначальнымі ў асобе настаўніка М. Пашкевіча. У адным вершы ён пісаў:

*Сваю я людзям цеплыню*
*Аддам і сэрцам, і душой –*
*Я ненавіджу цішыню,*
*У бурах мой спакой!*

Такі ўжо меў характар. Быццам ведаў ці прадчуваў свой кароткі век і спяшаўся зрабіць тое, што іншыя не маглі зрабіць і за ўсё жыццё. Усе веды, здольнасці, энергію М. Пашкевіч скіраваў на тое, каб несці людзям святло, радасць, дабро. Вучням настаўнік імкнуўся прывіць чалавечнасць, любоў да Радзімы, роднай культуры. У гуртку літаратуры, пад яго кіраўніцтвам, удзельнічалі без прымусу ўсе без выключэння старшакласнікі. Свае творы гуртко́ўцы змяшчалі на старонках школьнай насценнай літаратурнай газеты “Маладая рунь”. Многія з іх друкаваліся ў раённай газеце “Нарачанская зара”, у “Чырвонай змене” і “ЛіМе”. Асабісты прыклад настаўніка моцна ўплываў на дзяцей…

Асоба і лёс М. Пашкевіча настолькі мяне зацікавілі, што я пачаў шукаць любыя сведчанні пра дзейнасць настаўніка з Мядзельшчыны.

Напрыклад, патрыярх беларускага слова Мікола Аўрамчык у адказ на мой запыт даслаў невялікую нататку пад назвай “Тры сустрэчы”:

*«Пра Міколу Пашкевіча, маладога выкладчыка беларускай мовы і літаратуры Сваткаўскай школы ўпершыню я пачуў ад Васіля Быкава і Генадзя Бураўкіна. Добра помню, як яны абодва з захапленнем расказвалі мне пра гэтага апантанага прапагандыста беларускай літаратуры, нястомнага падзвіжніка ў нарачанскім краі.*

*Першы раз я ўбачыў Міколу на літаратурнай сустрэчы са старшакласнікамі Мядзельскай школы.*

*Пасля той сустрэчы мы наведалі Міхася Лынькова на ягоным лецішчы на беразе Нарачы. Там мне кінулася ў вочы тое, з якой цікавасцю і трапным замілаваннем назіраў Мікола за патрыярхам беларускага прыгожага пісьменства.*

*Аднойчы пазней Мікола Пашкевіч нясмела прынёс мне ў “Маладосць” два ці тры свае вершы. Адзін з іх мне спадабаўся, і я прапанаваў яго ў друк. Але галоўны рэдактар часопіса Пімен Панчанка не падтрымаў маю прапанову і адхіліў той верш. Я, вядома, не запомніў, пра што быў той верш Міколы Пашкевіча, але калі б цяпер мне паказалі яго вершы, я адразу пазнаў бы тую рэч.*

*Мая трэцяя сустрэча з Міколам Пашкевічам адбылася ў канцы верасня 1968 года. Я суправаджаў тады аўтарскі актыў “Маладосці”: Рыгора Барадуліна, Уладзіміра Караткевіча і Алега Лойку ў нарачанскі край на сустрэчу з чытачамі часопіса. Я цяпер не сумняваюся, што наконт яе дамовіўся з начальствам “Маладосці” менавіта Мікола Пашкевіч.*

*Мы сустрэліся тады з вучнямі Сваткаўскай школы, увечары выступілі перад жыхарамі мястэчка Буцлава. А назаўтра разам з выкладчыкамі Сваткаўскай школы ўрачыста адзначылі дзень настаўніка.*

*Асабліва запала ў маю памяць, як дома ў Міколы ягоная маці частавала нас простымі сялянскімі прысмакамі. Да гэтага часу помню, як мы ўсе ажывіліся, калі яна падала на стол га-*



Трэба менш маўчаць, менш змагацца з хваробамі і набірацца сіл. [illegible] [illegible], [illegible], а добрых людзей менш чым благіх і мусіць, таму добрым даводзіцца болей [illegible]. Кожны з іх у меру сваіх сіл і разумення робіць тое, што лічыць неабходным, і ты ў ліку гэтых людзей — адзін з першых. Я гутарыў з многімі ў Мінску, многія цябе ведаюць і вельмі-вельмі цэняць. Пішучы свой "Абеліск" я меў на ўвазе такіх настаўнікаў, як ты, шаноўны Мікола Пашкевіч. Няхай гэтае прызнанне зменшыць твае пакуты ад хваробы і, можа, дасць трохі сілы перамагчы іх.

Мацуйся, дарагі друже!

Абдымаю цябе з упэўненасцю ў сустрэчы.

Твой Васіль Быкаў

**Фрагмент з ліста ад 16 снежня 1971 г. Васіля Быкава, у якім пісьменнік прызнаўся: «Пішучы свой "Абеліск", я меў на ўвазе такіх настаўнікаў, як ты, шаноўны Мікола Пашкевіч».**

І сустрэча з пісьменнікам сапраўды адбылася ў чэрвені 1964 г.

Многія выхаванцы М. Пашкевіча, для якіх ён быў сапраўдным ідэалам, пайшлі па жыцці яго дарогай. Вось радкі з пісьма вучаніцы Мікалая Арсенавіча, выкладчыцы беларускай мовы і літаратуры Вілейскай гімназіі Валянціны Хацяновіч: *"Хутка мы палюбілі яго за ўлюбёнасць у сваю справу, эрудыцыю, прынцыповасць, непасрэднасць, толькі аднаму яму ўласцівую, і разам з тым за патрабавальнасць. Проста мы бачылі, што ён адносіцца да нас, як да зусім самастойных, дарослых людзей, паважае нас. І мы адказвалі яму тым жа".*

*рачыя шчы з квашанай капусты з халоднай варанай бульбаю. Напэўна, кожнаму з нас гэтая страва нагадала маленства і абед у роднай бацькоўскай хаце».*

З якой нецярплівасцю чакаў М. Пашкевіч выхаду новых кніг і твораў беларускіх пісьменнікаў! І адразу разам з вучнямі ўключаўся ў працэс абмеркавання тых твораў, пісаў ліст аўтару з пытаннямі, аналізам учынкаў герояў, станоўчых і адмоўных рыс. І абавязкова запрашаў вядомых беларускіх майстроў слова на літаратурныя сустрэчы. Як ён перажываў, нерваваўся, калі хто адмаўляў ці не мог прыехаць. Напрыклад, Іван Навуменка доўга збіраўся. Вось яго пісьмо ад 19 мая 1964 г.:

*"Добры дзень, Мікола! Вельмі хацеў прыехаць да Вас 23, нават хлопцаў падбіваў, але не выпадае. Яшчэ раней запланавалі другую паездку – у Расію, на мясціны Тургенева-Талстога, якая прыпала якраз на гэты час.*

*У вашу школу абавязкова прыеду, можа нават не адзін, а разам з паэтамі. Зробім не абмеркаванне, а літаратурны вечар. Адным словам, відаць будзе, што трэба рабіць.*

*Прыедзем, відаць, у чэрвені. Пагаворым, пазнаёмімся з вашымі мясцінамі.*

*Дарэчы, на 23 мая прызначана студэнцкае вяселле, запрошан і на вяселле я і таксама не прыдзецца пабыць.*

*Вітанне Вашым сябрам і таварышам па рабоце.*

*З павагай І. Навуменка".*

Сваімі ўспамінамі дзеліцца і настаўніца беларускай мовы і літаратуры Святлана Маўчан, дачка тагачаснага дырэктара Сваткаўскай школы Барыса Сцяпанавіча і настаўніцы Вольгі Іванаўны Пястуноў: *«Побач са мною прайшоў пэўны час цудоўны, багаты душой чалавек, які адыграў значную ролю ў маім выбары будучай прафесіі, у маім поглядзе на літаратуру, да якой менавіта Мікалай Арсенавіч прывіў мне зацікаўленасць. Ужо ў студэнцкія гады (вучылася я ў педінстытуце імя М. Горкага на літаратурна-музычным факультэце)… я зразумела, што разважаю падчас абмеркавання твораў беларускіх класікаў зусім не так, як пісалася ў тагачасных падручніках. А задумвацца і ацэньваць учынкі літаратурных герояў, звязваючы іх з гісторыяй, палітыкай таго часу, у які мы жылі, навучыў Мікалай Арсенавіч. Я добра памятаю, як горача мы абмяркоўвалі лёс Ганны і Васіля з рамана "Людзі на балоце", як Мікалай Арсенавіч зачытваў нам пісьмо І. Мележа з адказам сваткаўскім вучням на пытанне, чаму ён разлучыў Васіля і Ганну. І ўсе тлумачэнні самога І. Мележа здаліся нам пераканаўчымі.*

*Мікалай Арсенавіч не шкадаваў часу на тое, каб зацікавіць нас сапраўднай літаратурай. Добра памятаю сваё здзіўленне, як можа настаўнік пасля ўрокаў чытаць нам услых новы твор, напрыклад Васіля Быкава, на працягу добрай гадзіны? Як яму не забалеў язык, не "падселі" галасавыя звязкі? Потым гэтак жа рабіла і я для*

*сваіх вучняў, бо ўжо зразумела, што калі нечым вельмі захапляешся сам, то гэта абавязкова перадаецца і тваім вучням. <…>*

*Я памятаю і сёння такі эпізод са школьнага жыцця. Вяртаюся пасля заняткаў зімою дадому. Мароз, сонца, дрэвы ў шэрані. Міжволі стала і любуюся белаю вішняй, не чую, як даганяе мяне Мікалай Арсенавіч з веласіпедам у руках (дадому ў Гарадзішча на веласіпедзе кіламетры чатыры і зімою дабіраўся) і кажа: “Любуйся, любуйся – гэта твой хлеб”. Як у ваду глядзеў, як кажуць, тады ўжо наскрозь бачыў, што другога хлеба я ў жыцці не адшукаю.*

*Памятаю, як мне было сорамна, калі ў сачыненні ён выпраўляў памылку. Некалькі такіх слоў з памылкай я помню і сёння…»*

Сувязь з пісьменнікамі вясковы педагог з Мядзельшчыны падтрымліваў, як ужо гаварылася, праз ліставанне. Ён не ўяўляў працы настаўніка без сувязі з жывымі класікамі, тымі, на чыіх творах вучылася маладое пакаленне. Вось цікавыя вытрымкі з пісьма паэта-перакладчыка Язэпа Семяжона ад 22 снежня 1964 г.:

*«Дарагі мой Мікола! Вялікі, сардэчны табе дзякуй і за памяць сэрца, і за добрыя, баюся, што і не заслужаныя словы твайго шчырага прысвячэння… Прызнаюся, шмат было з нагоды такой даволі сумнай даты, як 50-годдзе, і пісьмаў і віншаванняў, тваё ж было адным з тых нямногіх, якія кранулі душу ў самай глыбіні – гэтак можа адчуць толькі пасівелы ўжо педагог, атрымаўшы знак удзячнасці ад колішняга свайго выхаванца. Яшчэ раз дзякую.*

*Колькі разоў і ўлетку і ранняй восенню сёлета і летась бываў я так блізка ад Сваткаўскай школы, усякі раз памятаў і ведаў, што тут дзесьці і наш Мікола. Бывала, сядзіш пад бярозкамі на абочыне шашы каля канторы калгаса, чакаеш-недачакаешся рэйсавага аўтобуса з Крывіч, а сэрца так і цягне – заглянь ты, Язэп, у школу, а можа, там і Пашкевіч. І, прызнаюся, грэшнік, хоць і думаў так, а ўсё ж ні разу не зрабіў. Гэта як у Славацкага, памятаеш: “Пашле толькі позірк…” Каюся заднім чыслом, але прызнаюся: позірк гэты пасылаўся не раз, – прызнанне маё – адкрытая кніга майго сумлення. <…>*

*Ну, як жа табе працуецца? Вельмі шкадаваў, што ў канцы верасня, калі вы, настаўнікі, з’ехаліся былі ў раён на канферэнцыю, у нас, у Мядзеле, сарвалася сустрэча настаўнікаў раёна з групай членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі. У тую групу ўваходзіў, акрамя Артура Вольскага, Алеся Асіпенкі і Міхася Скрыпкі, таксама і я. <…> Шкада, што ў Мядзелі не адбылася гаворка “у адкрытую”, як гэта было ў Паставах, у прысутнасці 400 з лішнім педагогаў, аб мове, аб незайздросным становішчы з сеткамі гадзін роднай літаратуры, наогул аб усім, што ў кожнага з нас, хто яшчэ не паддаўся і не выракся, набалела і накіпела на сэрцы. Я не хачу сказаць, што пасля такой адкрытай размовы ў суседнім раёне адбыўся пераварот у вярхах, але ж, як прызнаваліся ў сваіх рэпліках з месц, гаварылі ў выступленнях з трыбуны і ў прыватных гутарках…, “на душы стала лягчэй”. Многія раз’язджаліся па сваіх вёсках і паселішчах прасветленыя і акрыленыя. <…>*

*Вось такое, браце, становішча з той сыноўняй нашай перад сваім народам справай, служыць якой мы абралі і сваю прафесію і прысвячаем усе лепшыя парывы сваіх сэрцаў. <…>*

*А можа ты напішаш як небудзь? Сядзь вечарком пры лямпе – і напішы, парадуй нас тут і добрым словам з амаль што родных ужо і мне мясцін. Няхай дыхне ў нашым затхлым абыдзённым быцці-жыцці свежым ветрыкам першага зазімка, пошумам сваткаўскіх старых бяроз з бальшака на Брусы, рыпам палоззя на няўезджаным зімніку. Сумуем мы тут без Узлянкі, без паху верасу і спелага жыта, без сапраўднага падарожжа “у маю беларускую мову”. <…>*

*Ну пакуль што – дабранач. Нізкі паклон і прывітанне.*

*Віншую і з Новым годам! Жадаю, каб збыліся твае жаданні.*

*Да сустрэчы! Язэп Семяжон».*

Такія лісты для сельскага настаўніка былі не толькі падтрымкай, але і сапраўднай праграмай дзеяння, пацвярджэннем правільнасці абранага шляху ў жыцці. Ён чакаў новых лістоў, адказаў на свае пытанні і радаваўся, што тыя прыходзілі: праўда, адныя з падзякай, іншыя з выбачэннем за немагчымасць прыехаць на сустрэчу, але ніхто не маўчаў.

*«Дарагія мае! Я чуў пра Вашу школу ад сваіх сяброў-пісьменнікаў, якія бывалі тут. Быў таксама прыемна ўражаны невялічкай рэцэнзіяй Вашай дзесяцікласніцы аб маім зборніку “Сустрэча былых канагонаў” у часе абмеркавання ў друку твораў, вылучаных на атрыманне прэмій.*

*Такога цёплага, гасціннага прыёму і такой незвычайнай зацікаўленасці літаратурай я нідзе яшчэ не бачыў у вясковых школах.*

*Толькі добры настаўнік, выкладчык “изящной словестности”, выхаваць можа ўсё ў вучняў.*

*Менавіта, такім настаўнікам з’яўляецца Мікола Пашкевіч, чалавек да самазабыцця ўлюбёны ў літаратуру, сапраўдны падзвіжнік сваёй справы.*

*У Вашу школу ніколі не зарастуць сцежкі для нашых беларускіх пісьменнікаў.*

*Вялікае дзякуй за Вашу гасціннасць, за Вашы адносіны да роднага слова!*

*Пасля наведвання Вашай школы сапраўды хочацца пісаць, бо яшчэ больш адчуваеш, што ёсць дзеля каго пісаць.*

*5.X/68 г. Мікола Аўрамчык».*

Госці заўсёды адгукаліся на просьбу М. Пашкевіча даслаць водгук-успамін пра наведванне Сваткаўскаў школы. Вось што, напрыклад, напісаў літаратуразнаўца Вячаслаў Рагойша: *"…у сэрцы засталося багата згадак пра ўсё: пра саму мясцовасць, настаўніцтва, самі выступленні, сустрэчы і бяседы за гасціннымі Вашымі сталамі. Усё ў сэрцы сагрэта ўсхваляванасцю сустрэч, іх цяплом, непаўторнасцю.*

*І якая можа быць метода такіх сустрэч! Проста настаўніку трэба быць, як ты, улюбёным у сваю справу, у дзяцей, у родную літаратуру, аддавацца ёй да канца, да знемажэння. І не баяцца цяжкасцей, ні вялікіх, ні малых, ні звязаных з рызыкай запрашэнняў, з хваляваннем у чаканні гасцей, з тым, што не адна зарплата твая, асабістая… лясне! …мала ўсё ж ахвотнікаў дабравольна ўскладваць на сябе такі клопат, які ўскладваў ты, столькі разоў запрашаючы да сваіх вучняў пісьменнікаў. Яно ж можа і без гэтага, і на жаль, большасць з настаўнікаў сядзяць ціха.*

*Такіх, як ты, адзінкі. За тое не адзін пісьменнік успамінае цябе! За гэта люблю цябе і я – шчырага, самаадданага, улюбёнага ў светлае слова і поўнага клопатаў пра шчаслівы лёс тваіх вучняў…"*

Мікола Пашкевіч вельмі чакаў новага прыезду ў школу Уладзіміра Караткевіча (першы адбыўся зімой 1968 г., другі – летам 1969 г. разам з М. Аўрамчыкам, Р. Барадуліным, А. Лойкам, трэці – летам 1971 г.). Настаўнік разумеў, як гэта неабходна яго вучням, якіх намагаўся выхоўваць сапраўднымі беларусамі. І вядомы ўжо тады пісьменнік адказваў:

*"Дарагі Мікола! Быў далёка на поўдні. Зноў хадзіў з рыбакамі ў мора. Толькі што вярнуўся і адказваю табе таму толькі цяпер, калі, напэўна, і позна ўжо. Нічога. Не цяпер, то спатрэбіцца ў чацвер. Прабач. У якасці доказу, што гэта так – прыкладаю аўтобусны білет з Гагры ў Адлер. Самалётны, на жаль, некуды выкінуў. Але, думаю, паверыш і так. Шкада, што спазніўся і не здолеў памагчы табе, ды й зараз не магу пісаць шмат, бо спраў вышэй галавы, а я днямі на месяц еду ў Польшчу. Моцна цябе абдымаю, дарагі, жадаю поспехаў. Заўжды твой Уладзімір Караткевіч. 17 лістапада 71 г."*

На другім баку паштоўкі У. Караткевіч піша пра напой кальвадос, пра які М. Пашкевіч пытаўся ў пісьменніка раней:

*«P. S. Кальвадос – гэта гарэлка, выгнаная з яблыкаў. Назва паходзіць, здаецца, ад гарадка ці мясцовасці ўва Францыі (Брэтань? Нармандыя – не памятаю, дакладна, дзе, але, па-мойму, на поўначы), якая выдумала гэты напой і зараз спецыялізуецца ў яго вырабе. Належыць да танных французскіх гарэлак. Таму, скажам, у Рэмарка ў "Трыумфальнай арцы" героі яго і п'юць…»*

Атрымаўшы гэтае пісьмо, М. Пашкевіч узрадаваўся і, як узгадвалі яго вучні, адначасова засмуціўся, бо не атрымаў дакладнага адказу наконт прыезду пісьменніка. Зноў, хоць сам быў ужо хворы, піша да У. Караткевіча ліст за лістом. І вось напрыканцы студзеня 1972 г. атрымлівае на паштоўцы з рэпрадукцыямі фламандскага жывапісца Рубенса такі адказ:

*«Дарагі Мікола! Прабач, што так доўга не адказваў на тваю святочную паштоўку, дарагі мой, мілы дружа. Быў у Польшчы і, ледзь паспеў прыехаць адтуль (там швэндаўся цэлы месяц) – забралі мяне пад белыя рукі і павалаклі на Палессе, у Клетную, пад Пінск, здымаць фільм пра Каляды. Цяпер вось толькі вярнуўся ды адказваю на ўсю карэспандэнцыю, бо праз пару дзён зноў Палессе. Трэба канчаць здымкі фільма. Знялі шмат цікавага: нашэнне "звязды", хаджэнне "дзеда з казою", "цыганку", што частуе ўсіх гарэлкай, "каня" і "мядзведзя". Песень запісалі і засьнялі – сотні. І ўпрыгожванне каравая і палаючыя карчы. …Я невыразна чуў ад кагосьці з акадэмічнага інтэрната, што ты, нібыта, нядужыш. Вось гэта, браце, ужо нікуды не варта. Ачуньвай хутчэй, набірайся сілы. Улетку паедзеш са мной у экспедыцыю, абследваць Ушацкі, Браслаўскі і Глыбоцкі раёны. Праўда, папраўляйся».*

І, відаць, каб падтрымаць настаўніка, У. Караткевіч пытаецца пра надзённае:

*"Ці зрабілі дзеці выстаўку і ці добра яна атрымалася. Перадавай мае прывітанні ім і настаўнікам. Моцна абдымаю цябе, харошы мой дружа, і жадаю здароўя і шсчасця. Твой Ул. Караткевіч".*

Праз штотыднёвік "Літаратура і мастацтва" М. Пашкевіч даведаўся пра разьбяра з незвычайнай біяграфіяй і своеасаблівай творчасцю Апалінарыя Пупко, які працаваў у Івянцы. Разумеючы, што гэта будзе цікава і карысна дзецям, настаўнік замовіў у мясцовым калгасе грузавік, абцягнуты брызентам, і рушыў са сваім класам у дарогу, нягледзячы на мароз і мяцеліцу, – цікаўнасць да прыгожага пераадольвала халадэчу і нязручнасць. І як радаваліся дзеці па прыездзе казачным фігурам майстра! У размове з настаўнікам ён паскардзіўся, што не хапае матэрыялу, дрэва, для работы. М. Пашкевіч пасля вяртання дабіўся ў мясцовым лясніцтве ліпавых (самае прыдатнае для разьбы дрэва) круглякоў. Разам з вучнямі нарыхтаваў цэлую машыну і адвёз у Івянец. Такая шчырасць, клопат, дабрыня Мікалая Арсенавіча вельмі ўзрушылі народнага ўмельца.

Хвалявала настаўніка і побытавая неўладкаванасць гарадзішчанцаў: на ўсю вёску – адна студня. Ён просіць у раённага кіраўніцтва збудавання водаправода, але атрымлівае адмоўны адказ. І тады М. Пашкевіч распачынае абяцаную вяскоўцам справу на ўласныя сродкі. Спачат-

ку расстараўся буравой машынай, каб зрабіць свідравіну, потым набыў трубы, помпу, фільтры. Можна толькі здагадвацца, якіх фізічных і маральных высілкаў гэта каштавала, не кажучы ўжо пра грошы! Але дамогся свайго, і п'юць тую вадзіцу аднавяскоўцы дасюль, і ўспамінаюць яго, настаўніка Міколу Пашкевіча!

Былая выпускніца філфака Валянціна Місюк, якая па накіраванні трапіла ў Сваткаўскую школу, пісала свайму выкладчыку Алегу Лойку: "*...вядзецца пошук станоўчага героя ў літаратуры, у жыцці. А ён, здаецца, знайшоўся. Гэта – Мікалай Арсенавіч Пашкевіч*". Алег Антонавіч адказваў: «*...пасля вашага ліста і новага майго перачытвання рукапісаў Міколы я, які, здаецца, вельмі добра ведаў яго, любіў, чым мог спрыяў яму... тут раптам пачаў разумець, што не ў вершах яму трэба было спрыяць, не з аспірантурай, не з напісаннем яшчэ адной дысертацыі пра Янку Купалу (тэмай яго былі Купалавы паэмы "Адвечная песня" і "Сон на кургане"). Не, не, не! Мне трэба было тады зразумець, хто і што ён, дзе яго месца, што – яго лёс, яго веліч. <...> Дарагі Мікола, даруй, я прагледзеў у табе сваткаўскага Сухамлінскага! Рэальнага нашага беларускага Сухамлінскага, прыклад працы якога ў школе быў несумненна новым у педагогіцы і выключна патрэбны нашаму грамадству і сёння – пад час школьнай рэформы, пад час пошуку форм і сродкаў выхавання нашага маладога чалавека...*»

Далей А. Лойка зазначае, што пасля сябе настаўнік не пакінуў нашчадкам ні збору твораў, ні артыкулаў, ні прамоў з высокіх трыбун, але "*ёсць у нас па Міколу Пашкевічу большае, чым вы думаеце, і што мы павінны ўпісаць у нашую педагогіку проста залатымі літарамі*".

Мікола Пашкевіч, як многія думалі, жыў эмоцыямі, але гэта не зусім так. У настаўніка была ідэя жыцця, было самаадданае, самаахвярнае служэнне гэтай ідэі. Сарамлівы, ціхі, усмешлівы, прыгожы, з сінімі-сінімі вачыма, ён быў увесь у парыванні, запале, адкрытасці. "*Я захліпаюся ад пачуцця, таму я ўвесь перад вамі!*" – пісаў М. Пашкевіч Я. Семяжону. У іншых лістах да сяброў ён гаварыў пра раку свайго пачуцця, экзальтаванай узнёсласці. Вучням у дзень свята дакляраваў: "*Я расчыняю сябе насцеж перад Вамі*". І бачыў сябе між калег-педагогаў "*на вячыстым улонні юначай няўрымслівасці*".

І тое было ўжо ўстаноўкай – свядомай, зададзенай формулай жыцця, працы, паводзін. Быць наросхрыст душой, быць няўрымслівым – як педагагічны прынцып, першаснае, асноўнае ў працы з вучнямі. Любоў, захопленасць любімай справай, тымі, каму аддавалася душа, усе думкі, акрылялі, узносілі. І гэтым сцвярджаўся яшчэ адзін, далёка не новы, педагагічны прынцып – без любові да вучня няма настаўніка. Але як часта пра гэта забываюцца!

Мікола Пашкевіч усімі сваімі словамі і ўчынкамі выпраменьваў найвялікшую любоў да вучня: "*Звычайна-незвычайныя адзінаццацікласнікі! Знаёмыя незнаёмцы Дзесяцікласнікі! Мілыя мае выхаванцы! Мілыя чарцяняты школы! Яркія светлячкі сямікласнікі!*" Настаўнік лічыў сябе падзіцячаму ўлюбёным у школу, дзяцей і заклікаў іх: "*Падпальвайце сябе творчай любоўю!*" – заваяраючы – "*...нікому не паверу, што сапраўдная, душэўная Любоў... можа бясследна загінуць. Не, не і не!*" Увогуле, слова "любоў" ён пісаў толькі з вялікай літары, як гэта бачна з надпісаў на кнігах, падораных вучням у дні іх нараджэння.

Не ўсе педагагічныя напрацоўкі М. Пашкевіча ўвайшлі ў берагі закончаных, адточаных формул, але яго ідэі па-ранейшаму актуальныя: "*Найвялікшае шчасце – ствараць радасць і бачыць шчаслівымі тых, каго паважаеш і любіш*"; "*Роздумнай самастойнасці!*"; "*Настаўнік патрабуе ад вас столькі, колькі сам дае, а аддаваць ён абавязан вам усяго самаго сябе*"; "*Будзьце такімі, якія ёсць, толькі крыху лепшымі*".

Сярод яго наказаў нямала народна-прыказкавага: "*Прыдонная вада цячэ павольней верхняй*"; "*Не пасмакаваўшы горкага, не ацэніш і салодкага*", – не дарэмна і сваім выпускнікам зычыў: "*Шчасця ад працы і народнай мудрасці!*"

Сам ён умеў звычайную працу ператварыць у натхнёную талаку, неўпрыкмет перадаючы народную традыцыю вучням, як у выпадку, калі пяцьдзясят яго выхаванцаў пілавалі ліпу для народнага майстра. Настаўнік імкнуўся далучаць дзяцей да беларускай гісторыі і мастацтва праз непасрэднае знаёмства з іх дзеячамі, праз тое, што было блізкім да школы і малой радзімы. У Сватках, напрыклад, вучыўся Максім Танк, а ў яго родную Пількаўшчыну М. Пашкевіч вадзіў на экскурсію (напрасткі праз Дубавое не больш за чатыры кіламетры) не толькі сваіх школьнікаў, але і гасцей-літаратараў. Так, дзякуючы яму, было зроблена нямала фатаграфій, дзе пісьменнікі знятыя на фоне хаты народнага паэта Беларусі поруч з яго бацькамі.

У сваім дзённіку М. Пашкевіч пісаў: "*...трэба беззапаветна любіць, любіць, і любіць абраную па ахвоце сэрца прафесію, гарэць агнём на кожным кроку... усяго сябе аддаваць вучням*". І ён аддаваў сябе без астатку...

Мікола Арсенавіч Пашкевіч – гонар і слава Беларусі. І калі б больш было ў нас такіх педагогаў, Настаўнікаў з вялікай літары, тады і Слова наша пяшчотнае і крынічнае, такое роднае і роснае гучала б паўсюдна!

**Аркадзь ЖУРАЎЛЁЎ.**

*Актуальная тэма*

# НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ КУЛЬТУРЫ ВА ЎМОВАХ ГЛАБАЛІЗАЦЫІ

Адной з найбольш актуальных праблем у сучасных сацыяльна-гуманітарных ведах з'яўляецца праблема ўплыву на грамадства і чалавека глабалізацыі. Пры гэтым разглядаюцца як станоўчыя, так і адмоўныя аспекты гэтага працэсу.

Чалавецтва перыядычна перажывае часы мадэрнізацыі, у ходзе якіх змяняюцца прывычны ўклад жыцця, традыцыйныя шаблоны паводзін, норавы, культурныя нормы. Гэтыя працэсы непазбежныя. Абвінавачваць у іх сучасную глабалізацыю ў той жа ступені бессэнсоўна, як і спрабаваць супрацьстаяць ім. "Свет рухаецца імкліва і набліжаецца да канца", – прамовіў архіепіскап Вульфстан у час пропаведзі ў Ёрку ў 1014 г. [1, с. 17]. Падобныя выказванні можна было пачуць і ў іншыя часы.

Сёння краіны і народы ўсяго свету існуюць ва ўмовах узаемаўплыву. У сувязі з развіццём эканамічных сувязей, сусветнага рынку, сучасных транспартных сродкаў, фарміраваннем транснацыянальных карпарацый паскараецца працэс інтэграцыі нацый у сусветную эканамічную сістэму. Адначасова пад уздзеяннем сродкаў масавай інфармацыі адбываецца глабалізацыя культуры.

Пашырэнне культурных кантактаў, адкрытасць межаў для культурных уплываў, умацаванне культурнага дыялогу ў сучасным свеце спрыяюць збліжэнню народаў, абмену станоўчым вопытам і ўзбагачэнню ўласнай культуры. Пра плённасць дыялогу культур пісаў, у прыватнасці, М. Бахцін, ён лічыў знешні погляд магутным сродкам разумення сябе і іншага. "Чужая культура толькі ў вачах іншай культуры раскрывае сябе паўней і глыбей… Адзін сэнс раскрывае свае глыбіні сустрэўшыся і сутыкнуўшыся з іншым, чужым сэнсам: паміж імі пачынаецца нібыта дыялог, які пераадольвае замкнёнасць і аднабаковасць гэтых сэнсаў, гэтых культур. Мы ставім чужой культуры новыя пытанні і чужая культура адказвае нам" [2, с. 354].

Здольнасць да ўспрымання іншай нацыянальнай культуры прадугледжвае, у сваю чаргу, наяўнасць у апошняй агульначалавечага зместу, каб была магчымасць убачыць яго з пазіцыі свайго нацыянальна-культурнага разумення. Іншымі словамі, канцэнтрацыя агульначалавечага ў той ці іншай культуры павінна быць настолькі значнай, каб яна магла забяспечыць магчымасць пераадолення спецыфічных нацыянальных формаў выяўлення агульначалавечага.

Беларуская культура на працягу многіх стагоддзяў развіцця на мяжы магутных культурных узаемадзеянняў традыцыйна характарызавалася сваёй адкрытасцю, а ў нацыянальным характары беларусаў у гэтых абставінах сфарміраваліся такія рысы, як неканфліктнасць, арыентацыя на дыялог, імкненне да паразумення. Наш народ сфарміраваў магутны пласт каштоўнасцей агульначалавечага зместу ў навуцы (М. Сарбеўскі, К. Семяновіч, І. Капіевіч, Б. Кіт), у галіне асветы (Ф. Скарына, С. Полацкі, І. Храптовіч), у мастацкай культуры (дойлід Іаан, Я. і Л. Маджарскія, М. Агінскі, А. Міцкевіч, І. Хруцкі, М. Забэйда-Суміцкі, М. Савіцкі і многія іншыя). Вядомы японскі пісьменнік Ясунары Кавабата лічыў, што "абавязак кожнай нацыі – выявіць перад светам сваю нацыянальную сутнасць. Калі ж нацыя нічога не дала свету, то гэта павінна разглядацца як нацыянальнае злачынства… Нацыя павінна зрабіць усеагульным здабыткам найлепшае, што ёсць у яе"*.

У грамадскай свядомасці многіх краін глабалізацыя атаясамліваецца з экспансіяй заходняй цывілізацыі і звязанай з ёй культуры. З жалем прыходзіцца канстатаваць, што глабалізацыя замест таго, каб быць сродкам узбагачэння кожнай культуры ўсімі іншымі ў ходзе іх раўнапраўнага дыялогу, ператварылася ў форму абезаблічвання практычна ўсіх культур, не ўлічвае светапоглядны змест нацыянальных культур, у кантэксце якога яны выяўляюць свае высокія каштоўнасці. Пры пазбаўленні светапогляднай асновы ўсё прадметнае багацце гэтых культур страчвае сваю глыбіню. Для таго каб захаваць уласнае культурна-цывілізацыйнае аблічча, многія краіны спрабуюць выбраць, на першы погляд, шлях назад, вяртаюцца да традыцый. Вопыт сучаснага свету пераканальна сведчыць, што сёння ў глабальным свеце такі ход не з'яўляецца пасіўным. Наадварот, менавіта традыцыі павінны стаць у працэсе глабалізацыі сілай, здольнай ствараць у дыялогу культур новыя жывыя творчыя формы. Аўтары цалкам згодны з А. Катовіч і І. Крукам, што асноўным грамадскім звяном захавання, актуалізацыі і перадачы наступным пакаленням традыцый нацыяльнай культуры была і застанецца сям'я [3, с. 574]. Пры гэтым неабходна памятаць, што абсалютызацыя традыцыі, злоўжыванне ёю як формай культурнага жыцця можа прывесці культуру да застою і ізаляцыі ад свету.

Узмацненне традыцый і адраджэнне этнічных вытокаў у межах нацыянальных культур непазбежна супрацьстаіць любому навязванню мадэлі культурнага развіцця. Іншае пытанне, што ва ўмовах размытасці дзяржаўных межаў знікаюць важныя структуры стратыфікацыі, а гэта аб'ектыўна прыводзіць да змянення ладу жыцця. Традыцыі пачынаюць замяшчацца стылямі. Культурнае грамадства становіцца нестабільным. У першую чаргу гэта адбіваецца на мове. З пазіцый

---

* Цытуецца паводле: **Федоренко, Н.** Кавабата: взгляд в прекрасное / Н. Федоренко // Иностранная литература. – 1974. – № 7. – С. 205.

каштоўнасцей мова з'яўляецца не толькі сродкам камунікацыі, але і светапоглядам народа – носьбіта гэтай мовы. У ёй зафіксавана біяграфія нацыі, яна яе неад'емная прыкмета. Нацыянальнай свядомасцю мова ўспрымаецца як важны жывы арганізм, які патрабуе да сябе беражлівых адносін. Як правіла, за згубай мовы надыходзіць разбурэнне гістарычнай памяці, бо яна – вось нацыянальнай культуры. Іншымі словамі, "культура існуе ў мове, а мова з'яўляецца спосабам існавання культуры" [4, с. 150].

Значная роля ў працэсе культурнай глабалізацыі належыць масавай культуры, культуры людзей, якія жывуць у сучасным рытме, культуры большасці. Галоўнай асаблівасцю масавай культуры з'яўляецца яе ўплыў на ўсе кантыненты, яна "ўцягвае" ў сябе каштоўнасці розных культур, нівелюючы іх да вырашэння прыватных задач. Ёсць падстава сцвярджаць, што менавіта масавая культура вызначае вектар і тэмпы развіцця постіндустрыяльнага грамадства, атрымлівае шырокае распаўсюджванне ў эпоху глабалізацыі і выступае ў якасці магутнага сродку паглыблення глабалізацыйных працэсаў. Дамінантны ўплыў масавай культуры вядзе да зніжэння культурнага патэнцыялу грамадства і знаходзіцца ў антаганістычных адносінах з нацыянальнай культурай. У сувязі з гэтым абвастрылася праблема нацыянальна-культурнай ідэнтычнасці. Нават эканамічныя праблемы адыходзяць на другі план у параўнанні з немагчымасцю для прадстаўнікоў асноўных сацыяльных груп знайсці прымальны для сябе адказ на пытанне: "Хто мы такія?" Абвастрылі праблему нацыянальна-культурнай ідэнтычнасці і празмерна актыўныя культурныя запазычанні.

Неабходна адзначыць, што крызіс ідэнтычнасці сёння перажываюць практычна ўсе краіны свету. Сутнасць яго ў тым, што індывід не ідэнтыфікуе сябе ні з культурай той нацыі, ні з тым пунктам геаграфічнай прасторы, да якіх належыць, ні з перыядам часу, які вызначаецца як пэўная гістарычная эпоха. Чалавек апынаецца па-за сістэмай сувязей і адносін, што сфарміраваліся ў дадзеным соцыуме. Часцей за ўсё гэтую крызісную з'яву мы можам назіраць у асяроддзі моладзі. Прадстаўнікі маладога пакалення пераймаюць адзін у аднаго моду, звычаі і ў выніку робяцца падобнымі, а часта проста безаблічнымі.

З'яўленне значнай колькасці асоб, якія страцілі разуменне пра сваю нацыянальную прыналежнасць, рэзка павышае ўзровень сацыяльнай напружанасці. Паўстае пытанне здольнасці той ці іншай краіны захоўваць суверэнітэт, супрацьстаяць уціску знешняму і ўнутранаму, знаходзіць неабходныя рэсурсы і эфектыўна іх выкарыстоўваць у канфліктных сітуацыях. Нацыі, што прызнала сваё духоўнае паражэнне, цяжка захаваць творчы патэнцыял і аказваць уплыў на працэсы, якія працякаюць у розных сферах грамадскага жыцця.

Культура з'яўляецца калектыўнай формай памяці, якая перадаецца праз пакаленні, і пры яе дапамозе культурнае жыццё нацыі захоўвае бесперапыннасць і еднасць. Сацыяльны вопыт перадаецца нашчадкам пры дапамозе культуры. Зносіны з іншай культурай толькі ўзмацняюць сімпатыі да сваёй нацыі. Відавочна, што "немадэрнізаваныя" грамадствы мацней супраціўляюцца працэсам глабалізацыі, для іх культура – родная мадэль афармлення жыцця. Адмова ад яе азначае разрыў памяці і, такім чынам, ануляванне асабістай самабытнасці. Нобелеўскі лаўрэат К. Лорэнц пісаў: "Менавіта разнастайнасць культур мела вырашальнае значэнне для найвышэйшага развіцця чалавецтва. Межы паміж культурамі размываюцца і знікаюць, этнічныя групы ва ўсім свеце імкнуцца зліцца ў адзіную агульначалавечую культуру. Гэты працэс на першы погляд можа здацца пажаданым, паколькі ён спрыяе змяншэнню ўзаемнай нянавісці нацый. Але разам з гэтым ураўноўванне ўсіх народаў мае і іншае, вынішчальнае дзеянне: калі ўсе людзі ўсіх культур ваююць адной і той жа зброяй, канкуруюць адзін з адным пры дапамозе аднолькавай тэхнікі і імкнуцца перахітрыць адзін аднаго на адзінай сусветнай біржы, то міжкультурны адбор губляе сваё творчае дзеянне" [5, с. 416].

Безумоўна, усе сучасныя культуры гістарычна змяняліся, убіраючы ў сябе элементы іншых культур. Таму імкнуцца процідзейнічаць падобным уплывам – занятак бессэнсоўны, што прыводзіць да непазбежнай дэградацыі. І тым не менш неабходна клапаціцца пра тое, каб культурнае ўзаемадзеянне не прыводзіла да ўсярэдненасці культур, да разбурэння спецыфічнай этнічнай карціны свету. Магчыма, для наступных пакаленняў распад старой карціны свету, яе прыстасаванне да новых рэалій могуць стаць не толькі дабром, але і ўмовамі выжывання. Аднак калі сітуацыю разглядаць з пункту гледжання сучаснікаў, якія жывуць у эпіцэнтрах сацыяльных і этнічных праблем, то для іх падобная радыкальная змена карціны свету можа стаць катастрафічнай. Сёння нацыянальныя культуры ў першую чаргу адчуваюць адмоўны ўплыў глабалізацыі.

**Спіс літаратуры**

1. **Гидденс, Э.** Ускользающий мир : как глобализация меняет нашу жизнь / Э. Гидденс. – М. : Изд-во "Весь мир", 2004. – С. 17.
2. **Бахтин, М. М.** Этика словесного творчества / М. М. Бахтин. – М., 1986. – С. 354.
3. **Котович, О.** Золотые правила народной культуры / О. Котович, Я. Крук. – Минск : Адукацыя і выхаванне, 2010. – С. 574.
4. **Кулиджанишвили, Э. А.** Человек : соотношение национального и общечеловеческого / Э. А. Кулиджанишвили // сб. материалов междунар. симпозиума, Зугзиди (Грузия), 19 – 20 мая 2004 г. / под ред. В. В. Порцвания. – СПб. : Санкт-Петербургское философское общество, 2004. – С. 150.
5. **Лоренц, К.** Оборотная сторона зеркала / К. Лоренц; пер. с нем. А. И. Федорова, Г. Ф. Швейника. – М. : Республика, 1998. – С. 416.

**Зоя КАЗЛОВА,**
кандыдат гістарычных навук,
**Вольга БАБЫЛЁВА.**

Наталля ШАРАНГОВІЧ

# КОЛЕРУ РАКАЎСКАЙ КЕРАМІКІ

Сучасны беларускі мастацкі асяродак немагчыма ўявіць без постаці Феликса Янушкевіча, гэтага творцы, грамадскага дзеяча і выдатнага арганізатара.

У сярэдзіне мінулага стагоддзя ў Ракаве нарадзіліся пяць братоў Янушкевічаў. Іх маці паходзіла са старажытнага шляхецкага роду Грыбоўскіх, скончыла сем класаў польскай школы, ведала латынь, любіла цытаваць Міцкевіча ў арыгінале. У Ракаве захаваўся бацькоўскі дом, адметны тым, што некалі належаў яўрэю па мянушцы Фарба. Ніхто не ведаў яго прозвішча, а сам ён усё жыццё займаўся фарбамі. Самы яркі ўспамін Фелікса з дзяцінства: гарышча, засыпанае самага рознага колеру пігментамі, з якіх гаспадар вырабляў фарбы. У тыя часы набыць фарбы ў краме было неверагоднай праблемай, а дзеці Янушкевічаў у сябе на гарышчы разводзілі вадой знойдзеныя пігменты і малявалі. У гэтым доме, дзе сёння жыве адзін з братоў, Казімір, фізік па адукацыі, дасюль захавалася тая непаўторная аўра дзіцячай мастацкай творчасці.

Калі Фелікс вучыўся ў шостым класе, сям'я набыла новае жыллё. Гэта адзін з нямногіх дамоў у цэнтры Ракава, які захаваўся ў час апошняй вайны. Тую невялікую хату пачалі адбудоўваць яшчэ бацькі: павялічылі плошчу, пасадзілі дрэвы. Пазней Фелікс абклаў будынак цэглай, схаваўшы старыя сцены ўнутры. Атрымаўся закрыты двор, які не праглядаецца з вуліцы. У гэтым дворыку стаяць бронзавыя скульптуры брата Валяр'яна. Увогуле, скульптура – вельмі важны элемент у стварэнні любога архітэктурнага асяроддзя, менавіта яна надае мастацкую завершанасць забудове. Там жа ў двары пад навесам размясціліся этнаграфічныя рэчы ракаўскага рэгіёну: вагі, ступы, бочкі, драўляныя лыжкі, шафы. Адчуваецца, што гарадская культура Ракава не была прымітыўнай. Усе збаночкі, талеркі і кубкі расфарбоўвалі па законах высокага мастацтва.

У будынку экспазіцыю працягваюць больш за паўтары тысячы экзэмпляраў старажытнай керамікі. Той самай, ручной, якую ў Еўропе ў XVIII ст. перасталі выраблять, замяніўшы на мануфактурную. І сабраў яе Ф. Янушкевіч тут жа, у родным Ракаве, на ўласным агародзе, дзе культурны слой аказаўся трохметровай глыбіні. Па сутнасці, "назбіраў" тут сваю дысертацыю "Ракаўска-івянецкая кераміка XVI – XX стст."...

*«У мяне часта пытаюцца, як я знайшоў такую колькасць экспанатаў для галерэі,* – распавядае Фелікс Язэпавіч. – *Прыносяць мне іх мясцовыя жыхары. Напісаў на плоце магічныя словы "Арт-галерэя Янушкевічаў" вялікімі бронзавымі літарамі, іх добра відаць нават з дарогі. Бывае, людзі зварочваюць з трасы, каб заехаць у маю галерэю. А што казаць пра мясцовых насельнікаў! І тое, што доўга ляжала ў схованках, людзі самі прыносяць, каб "захавалася хоць тут". Расказвалі мне смешны не прыдуманы выпадак: сядзяць на вакзале два дзяды, і адзін аднаму кажа: "Ты бачыў, там Янушкевіч адкрыў артылерыйскую галерэю. Трэба схадзіць, паглядзець".*

*Часта прыносяць рэчы ўнікальныя. Напрыклад, стрэльбы з прыкладамі XVIII ст. з арсеналу Міхала Клеафаса Агінскага. Я мушу іх разбіраць, каб не сказалі, што гэта дзейная зброя. Як яны захаваліся, у якой пуні ці свірне, у такім добрым стане, для мяне загадка. Быў у маёй практыцы яшчэ адзін унікальны выпадак. Вядома, як ставіліся да асобы Мікалая II пры савецкай уладзе. Знішчалі ўсе партрэты яго сям'і нават у Эрмітажы. А ў Ракаве ў адной хаце людзі праспалі пад шлюбным партрэтам цара і царыцы ўсе савецкія часы, польскую і нямецкую акупацыі. Гравюра на медзі вісела над ложкам. А трапіў да мяне гэты твор такім чынам. Звоніць суседка, просіць схадзіць да знаёмай, бо ў той ёсць царскія партрэты, затое няма халадзільніка. Думаю, якія могуць быць царскія партрэты? Падалося спачатку, што паблыталі з абразом. Адчыніла мне цётка дзверы ў камору, я ажно прысеў – сапраўды шлюбны партрэт імператара 1894 г. Чорны, задымлены, ён нейкім містычным чынам завіс у Ракаве. Але пэўная логіка тут ёсць: нашы тэрыторыі – былая летапісная Літва. А род Раманавых гістарычна паходзіць з Літвы. Такое проста так не прыдумаеш, гэта амаль сюррэалістычная з'ява. Гэта Ракаў.*

*Калі мне аднойчы паказалі дакумент з аўтэнтычнай пячаткай кіраўніка Рэчы Паспалітай, я проста схапіўся за галаву – патэнт афіцэра захаваўся ў ідэальным стане.*

*Прыносяць людзі і каменныя ядры, якімі штурмавалі горад у Сярэднявеччы, і штыкі, шаблі напалеонаўскіх часоў, і зброю Вялікай Айчыннай вайны.*

*Ёсць і тое, што выкапаў у сваім агародзе. Падчас вайны ў хаце жыў пекар і па мястэчковай звы-*

*Звесткі пра аўтара змешчаны ў № 1.*

*чцы закапаў у зямлю ўсю сваю каштоўную маёмасць: рэчы, посуд. Адбудоўваючы хату, я выпадкова знайшоў тут старажытную медную ступку з песцікам, талеркі ручнога вырабу, аўстрыйскія пякарскія машынкі, італьянскія паяльныя лямпы. Вось і сведчанне, што гарадская культура ў Ракаве была высокай, па сутнасці еўрапейскай».*

У ракаўскай галерэі знаходзяцца працы не толькі Янушкевічаў. Тут можна ўбачыць жывапіс Гаўрыіла Вашчанкі, Леаніда Шчамялёва, графіку Уладзіміра Вішнеўскага, кніжныя ілюстрацыі Паўла Татарнікава ды іншыя творы беларускіх мастакоў.

Фелікс Янушкевіч аб'яднаў вакол сябе аднадумцаў, якія падзяляюць яго ідэі захавання і адраджэння нацыянальнай спадчыны. Усіх тых, хто некалі першымі ўздымалі тэмы беларускай гісторыі і культуры, а цяпер складаюць гонар беларускага мастацтва, вызначаюць яго тэндэнцыі і вобразную накіраванасць вось ужо добрыя два дзясяткі гадоў. Гэта тое пакаленне творчай інтэлігенцыі, якое гартавалася з ростам нацыянальнай самасвядомасці і сваімі творамі, ды і проста ўласным жыццём, фарміравала яе.

Янушкевіч заўсёды вызначаўся тым, што меў пазіцыю ў творчасці. І заўсёды вельмі пераканаўча яе агучваў і акрэсліваў. Яму пашанцавала: ён рана зведаў смак і асалоду ад творчасці. Яшчэ ў студэнцкія гады захапіўся гісторыяй і ў якасці дыпломнай працы выканаў трыпціх "Мужыцкая праўда", прысвечаны гераічнай постаці Кастуся Каліноўскага. Пазней мастак стварыў вобразы Міколы Гусоўскага, Браніслава Тарашкевіча, Максіма Багдановіча, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Уладзіміра Караткевіча і многіх іншых прадстаўнікоў культурнай эліты Беларусі. "Урокі Грунвальда", "Дзе мой край (Партрэт У. Караткевіча)", "Шкаляр з Полацка – Францішак Скарына", "Ранак у Вільні", "Заслаўская цішыня", "Загубленая цывілізацыя" – нават назвы карцін сведчаць, што тэму сучаснасці мастак прапускае праз мінулае, праз уласнае разуменне годнасці чалавека, харастве яго душы. Усё проста і зразумела, але кажуць, мудрасць жыцця ў прастаце. Не кожны можа пра складанае распавесці так, каб зразумелі ўсе, хто хоча зразумець. Для гэтага трэба ведаць жыццё і быць сапраўдным прафесіяналам.

Творы Ф. Янушкевіча – дасціпны доślед навукоўцы, які са стараннасцю вышуквае ў гісторыі і паўсядзённасці моманты сапраўднай шчырай прыгажосці, што кранае душу любога чалавека. Для мастака заўсёды было галоўным – перадаць ідэю, зрабіць гэта такім масіўным, яскравым, знакавым колеравым пластом, які адразу выклікаў бы недвухсэнсоўныя асацыяцыі. Калі ў 2003 г. Ф. Янушкевіч намаляваў карціну пад назвай "Беларускі святар У. Чарняўскі", ён, відавочна, не ставіў на мэце зрабіць дакладны партрэт. Наадварот, маленькая, безабаронная постаць старога ксяндза губляецца на бліскучым белым снезе. А з другога боку карціны плямамі адкрываецца карычнева-вохрыстая цёплая, такая натуральная зямля. У творах Ф. Янушкевіча няма сюррэалістычнага нагрувашчання, ёсць да болю знаёмы вобраз чалавека, які ідзе па свеце, за светам, па-за светам…

У 2001 г. мастак напісаў карціну "Галінка палыну" з нізкі "Згубленая цывілізацыя" і прысвяціў яе памяці Фердынанда Рушчыца. Бязлюдная дарога, абсаджаная дрэвамі – шлях у маёнтак знакамітага мастака, дзе захаваўся толькі падмурак. Вобраз Рушчыца, нібыта выразаны з часу і прымусова ўстаўлены ў канву карціны, шчымлівы ў сваёй безвыходнасці. Здаецца, Ф. Янушкевіч здолеў па-брэйгелеўску запаволіць час. Імгненне, выхапленае ім з мінулага, само становіцца вечнасцю. Гэта крок туды, у залюстроўе, якое хавае душы і думкі, наталяе прагу самых смелых творчых запатрабаванняў.

За трыццаць гадоў дзейнасці мастак застаўся нязменным у сваёй прыхільнасці да традыцыйнай вобразнай структуры. І ў той жа час ён змяніўся: у імкненні выяўляць не так тое, што мы бачым, як тое, што адчуваем. Змянілася пластыка работ, стала больш мяккай і гарманічнай, дакладна акрэсліўся ўлюбёны каларыт – бліжэй да колераў ракаўскай керамікі. Творца ахоплівае больш шырокае кола сюжэтаў, але прыярытэт застаецца за вобразамі старажытнага Ракава, за вызначальнымі тэмамі гісторыі і культуры Беларусі. Творы Ф. Янушкевіча адкрываюцца свету праз архетыпы мінулага і сучаснага, у гарманічным яднанні розных часавых пластоў і стыляў. У гэтым на яго ўплывае постмадэрнісцкая мова сучаснага выяўленчага мастацтва.

Фелікс Янушкевіч мае чэпкае вока. Лёгка сходзіцца з людзьмі. Сябруе з пісьменнікамі, навукоўцамі, мастакамі з усяго свету. Але душой заўжды застаецца ў вёсцы, дзе нарадзіўся і пасталеў – у Ракаве. Многія карціны мастака звязаны з ракаўскімі мясцінамі, дзе ён адчувае сябе лёгка і вольна. Ведае кожны дом, здаецца, знаёмы з кожным жыхаром. Бясконца можа расказваць пра гісторыю мястэчка.

Паняцце малой радзімы гучыць для Ф. Янушкевіча вобразна і эмацыянальна напоўнена. Ракаву ён прысвяціў не адно палатно. У кожным з гэтых краявідаў адчуваецца водгалас зямлі, куды, па паданні, апусцілася Маці Божая. Палі і пагоркі, людзі, апранутыя проста і па-вясковаму, хаты ў вечаровым паўзмроку. Уражвае, што пры ўсёй еднасці ракаўскіх пейзажаў кожны твор гучыць адметна: лірычна, іранічна, сумна, настальгічна. Бачыш, як лунаюць над нашай зямлёй знакі і сімвалы вечнасці.

Рубрыку вядзе
Зоя ПАДЛІПСКАЯ

# *“ВЯРГІНЯЎ ШЧОДРЫ ЦВЕТ…”*



Алена Іванаўна Белая – кандыдат педагагічных навук, дацэнт кафедры філалогіі Баранавіцкага дзяржаўнага ўніверсітэта, навуковы кансультант часопіса “Роднае слова”.

Аўтар манаграфій “Чалавек у плыні часу: мастацкая канцэпцыя асобы і тыпалогія характараў у беларускай прозе першай трэці ХХ ст.” (2009), “Людзі адной зямлі: тыпалогія і паэтыка характараў у беларускай прозе першай трэці ХХ ст.” (2010), зборніка паэзіі “Кніга жонкі паэта” (2007).

Чытаючы вершы Алены Белай і яе студэнтаў, зноў (у каторы раз!) пераконваешся: калі ў навучальных установах ёсць такія выкладчыкі, як Алена Іванаўна, якая сваім талентам і педагагічным майстэрствам дапамагае студэнтам раскрываць іх здольнасці, мацаваць крылы ў высокім небе паэзіі, тады ствараюцца ўмовы, як сцвярджае паэтычнымі радкамі Яўген Карлюк, “не адракацца ад высяў”, пачуць, “як рука дажджу / Зямлю у студзені палошча”, і многае іншае, што дорыць Яе Вялікасць Паэзія на шляху духоўнага станаўлення асобы.

Маладыя паэты адчуваюць і шануюць роднае слова і, як Зоя Галубовіч, імкнуцца ў сваім жыцці “светлае старанна намываць, / Бы залаты пясок, з глыбінь узняты”…

Алена БЕЛАЯ

* * *

Маё святое аўтарскае права
Ты скасаваў і, склаўшы падрадкоўнік,
Каторы год ужо перакладаеш
Майго кахання сімвалы і знакі
На мову прозы: звычак, абавязкаў
Бясхібнага сямейнага жыцця,
Якое ўзнёсласць ветразяў пунсовых
Мяняе на трываласць парусіны
(Ці таннай і нямаркай мешкавіны),
Якому не ўласцівы летуценні,
Якое выдае пад лік абдымкі
(А ўсе, што не ў рэестры, пацалункі
Асудзіць хутка да вышэйшай меры),
Сцірае тэмбр пяшчотнага зладзейства,
Адпрэчвае ўсе згадкі і загадкі,
Малюе ці прымройвае аблічча
І цені. (Не заўсёды – у былым.)
І як такі панылы падрадкоўнік
Табе ўдалося скласці, я дзіўлюся!
(Ды так дзіўлюся, што аж часам плачу,
Ўхапіўшы той панылaсці глыток…)
Ажыццявіць жа пераклад зваротны
Я, шчыра кажучы, і не спрабую:
Пра вартасці двайнога перакладу
Свет ведае, бадай, з часоў стварэння.
Як страшна жыць усё ж у прошлым часе!
Яшчэ страшней – адной там заставацца,
Нібы у сне, што сню з табою побач,
Пакутую, крычу і уцякаю,
А ты не чуеш: гэты сон не твой…

**РАНІШНЯЕ**

Адбрыкнуцца лянотна
Ад світальнага “кукарэку”,
Рэшткі мрояў атрэсці,
Што змярэжыла ноч-начаніца,
І з-за кратаў пяшчотных
Такой пажаданай вязніцы
Бачыць зноў перакулены ветах
Залатой шкарлупінкай арэха…

* * *

Праз рэактыўны ступіўшы парог,
Паспець бы да першаснага прыпасці шчэ:
Ля жнівеньскіх палескіх дарог,
Пры чорна-белых статках кароў, –
Такія ж буслы-падпасвічы…

* * *

Паветра салёнага прагна глынуць –
І з летам не страшная ростань.
А сонца губляецца ў хвалях… бы нуль
Ад лічбы сур’ёзнай узросту.

**КАХАННЕ**

Трымценне жаўрука.
Далоні у далоні.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Гарачая рука
На трапяткім улонні.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Калючая шчака
Ля схаладнелай скроні…

Яўген КАРЛЮК,
студэнт V курса педагагічнага факультэта БарДУ

**ЧОРНЫ ВЕРШ**

Я хацеў напісаць светлы верш,
Як галінкі яскравачак-зорачак,
Пра салодкае шчасце найперш,
Ад якога на сэрцы так горача.

Я хацеў напісаць светлы верш,
Як у студзеня косы бялюткія,
Пра вясковае свята найперш
(Ад якога стагнаў потым суткі я).

Я хацеў выпіць слёзку расы,
Напісаць пра шляхі яе зорныя.
Што ж ізноў пра твае валасы
І пра вочы пішу твае чорныя?..

* * *

Мячык яшчэ не зямля,
Словы яшчэ не прызнанне,
Вузел ніяк не пятля,
Вочы ніяк не каханне.

Не супакоіцца здань,
Што адраклася ад высяў, –
Беленькім хлопчыкам стань,
Яблычак з'еш і вярніся,

Лёгкай дзяўчынкай звіні,
Будзь мне дачкою-званочкам,
Толькі, малю, не віні
Вусны пад сінім замочкам.

Донца яшчэ не канец,
Шкло – не нагода разбіцца:
Можа, камарык-званец
Ключыкам белым прысніцца.

Можа, чарговы патрон
Скроню маю не гукае –
Студзеньскай ночкаю ён
Лямпачку проста чакае.

Словы катуюць мой слых,
Вузел трапляецца воку…
Дзесьці ў сусветах малых
Круцяцца мячыкі ў змроку.

**НОЧ**

Зноў праспала ты мяне,
Ноч.
Калі сон не абміне,
Збоч.
Калі скон дае спакой,
Стой,
Каб праспала цябе зноў
Ноч.

Ноч прыпала да акна
Ўдзень.
Яе чаркай малака
Стрэнь.
Уцякае праз рыззё
Дым.
Ноч прыпомніла мне ўсё –
Спім.

**ВАЧЭЯ**

Вачэя – возера вачэй.
Глядзіш на светлую пакуту.
Ад позірку твайго лягчэй,
Ён да акна майго прыкуты.

Ты прытулілася да шкла,
Шчакой сагрэла znічку-кветку.
Яшчэ адзін глыток цяпла,
Каб ажывіць пакой-планетку.

Тваё імя – маё імя,
Твой востры боль – мая трывога.
Пад аблачынкамі трыма
Я і Вачэя, больш нікога…

А хочаш, ночку пакажу?
Давай заплюшчым толькі вочы…
А чуеш, як рука дажджу
Зямлю у студзені палошча?

Вачэя – возера нябёс…
Я адчуваю свой прытулак,
І гэты дзень, і гэты лёс,
І чараду няўдалых думак…

Што, сэрца, дзеецца з табой:
Куды падзелася ўсё ліха?
Чаму нячуцен голас твой,
Чаму так радасна і ціха?

Зоя ГАЛУБОВІЧ,
студэнтка IV курса
факультэта замежных моў БарДУ

* * *

Слёзы радасці, слёзы смутку,
Слёзы веры і слёзы журбы…
Адны смачныя, быццам мёд цячэ,
А другія – палын нібы…
А бывае сляза й такая,
Што завецца проста – начная.
Яна цёплая, гаваркая.
…У параўнанні з сэрцам,
Якое маўчыць ды маўчыць.

* * *

Так цяжка трапнае што-небудзь падабраць,
Ды не напішаш словам у прасторы.
Яго адчуеш, як музычны такт,
Ці намалюеш фарбамі узоры.

* * *

Не трэба сарамлівасць вымятаць
З душы, як смецце са збуцвелай хаты,
А варта светлае старанна намываць,
Бы залаты пясок, з глыбінь узняты.

# КРЫЖАВАНКА



**Па гарызанталі: 5.** Старадаўняе земляробчае свята беларусаў, што спраўляецца пасля заканчэння жніва. **6.** Травяністая расліна з моцным пахам, якую гаспадар дома вешаў над дзвярыма ад нячыстай сілы. **9.** Абавязковы элемент абрадаў, набажэнстваў, царкоўных святаў. **10.** Вуснае апавяданне, што жыве ў народзе, перадаецца з пакалення ў пакаленне. **14.** Прасторавая кампазіцыя з саломы, папяровых кветак, зерня лубіну, фасолі – традыцыйнае ўпрыгожанне інтэр'еру даўнейшага жылля беларусаў. **15.** Аўтар першага нацыянальнага балета "Салавей", канву яго складаюць народныя танцы. **16.** У вясельным абрадзе – дзяжа, на якую садзілі маладую. **19.** Масавая народная гульня, наладжвалася на вясновае свята Саракі. **20.** Адна са старажытных раслін, насенне якой выкарыстоўвалі ў варожбах, прадказваннях. **21.** Па старадаўнім звычаі ім пакрывалі на хрысцінах галаву маладзіцы, у якой доўга не нараджаліся дзеці. **24.** Пасля ад'езду сватоў маці жаніха спяшалася закінуць яго на печку. **25.** Тэхніка размалёўкі тканін, на Беларусі ёю карысталіся з XVIII ст. на мануфактурах Радзівілаў. **31.** Вясельны абрадавы пірог, яго звычайна выпякаюць у зборную суботу. **32.** Самае пачэснае месца за сталом на покуці, куды садзяць шаноўнага госця. **33.** Сістэма колеравых спалучэнняў у выяўленчым мастацтве. **36.** Дэталь вопраткі, куды, ад'язджаючы да маладой, сват хаваў грамнічную свечку. **37.** У старажытных павер'ях беларусаў істота, што "караціла" ноч. **38.** Палажэнне, што прымаецца за бясспрэчную, нязменную для ўсіх часоў ісціну. **41.** Абутак, на якім дзяўчаты варажылі пра замужжа. **42.** Крыжападобная палонка на вадаёме, у ёй пасля малебну купаліся на Вадохрышча. **43.** Адзін з галоўных сімвалаў каляднага маскараднага рытуалу. **44.** Найпершая аснова, зерне фальклору.

**Па вертыкалі: 1.** Чараўніцтва, звышнатуральныя сілы. **2.** Святая, дзень ушанавання якой (17 снежня) лічыўся сярэдзінай піліпаўскага посту. **3.** Даўнейшы танец – неад'емны атрыбут вясельных і сямейных святаў. **4.** Мясціна за вёскай, дзе на Палессі ладзілі абрад ваджэння куста. **7.** Прысмакі. **8.** Прадмет даўнейшага ўбору жанчын. **11.** Ад яго, па народным павер'і, засцерагае прынесеная з царквы грамнічная свечка. **12.** Шлюбная карагодная гульня. **13.** Сімвал роднага дому, сям'і. **17.** Пара сутак, калі звычайна стараліся перасяліцца ў новую хату. **18.** Нядобны сын. **22.** Старажытнае народнае паданне пра паходжанне свету і з'яў прыроды з фантастычнымі вобразамі. **23.** У даўнейшы час – уладальнік маёнтка, памешчык. **26.** Адзежына, у якую апранаюць галоўнага персанажа каляднага маскараду – Казу. **27.** Старадаўні народны вандроўны тэатр. **28.** Вялікая скрынка з векам, у якую клалі пасаг для нявесты. **29.** Заручыны. **30.** Вядомы фалькларыст з Берасцейшчыны. **34.** Даўні галаўны ўбор замужняй жанчыны. **35.** Язычніцкі абрад, які на Беларусі прымяркоўваецца да часу летняга сонцастаяння. **39.** Беларускі і польскі паэт XVIII – XIX стст., аўтар шматлікіх твораў, заснаваных на беларускім фальклоры. **40.** Жанчына, якой па даўнім звычаі не дазвалялася пераапранаць маладую да вяселля.

**Адказы**

**Па гарызанталі: 5.** Багач. **6.** Палын. **9.** Малітва. **10.** Паданне. **14.** Павук. **15.** Крошнер. **16.** Пасад. **19.** Карагод. **20.** Мак. **21.** Чарапок. **24.** Венік. **25.** Батык. **31.** Каравай. **32.** Кут. **33.** Каларыт. **36.** Рукаў. **37.** Карачун. **38.** Догма. **41.** Чаравік. **42.** Іардань. **43.** Зорка. **44.** Слова.

**Па вертыкалі: 1.** Магія. **2.** Варвара. **3.** Карапет. **4.** Выган. **7.** Ласунак. **8.** Андарак. **11.** Пажар. **12.** Яшчар. **13.** Парог. **17.** Поцемак. **18.** Пасынак. **22.** Міф. **23.** Пан. **26.** Кажух. **27.** Балаган. **28.** Куфар. **29.** Запоіны. **30.** Шырма. **34.** Намітка. **35.** Купалле. **39.** Чачот. **40.** Удава.

Склаў **Іосіф КАРПЫЗА.**

Установа «Рэдакцыя часопіса "Роднае слова"». Заснавальнік – Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйны нумар часопіса 561.
220035, г. Мінск, пр. Пераможцаў, 47, кор. 1, пад'езд 2 (уваход з вул. Гвардзейскай, код на ўваходзе: 43 + званок).
Р/р № 3015702170012 у аддзяленні № 527 ААТ "Белінвестбанк" г. Мінска, код 739, УНН 190241571, АКПО 37551965.

*Тэлефоны:* галоўнага рэдактара **(017) 203-35-17**, намесніка галоўнага рэдактара **(017) 203-24-69**,
рэдактараў і галоўнага бухгалтара **(017) 203-34-79**, адказнага сакратара і загадчыка прыёмнай **(017) 203-07-40**,
факс **(017) 203-07-40**.
E-mail: **rodnaje_slova@tut.by**
**www.rs.unibel.by**

Падп. да друку 06.07.2011. Фармат 60x84 1/8. Папера газетная. Гарнітура "Minion Pro". Афсетны друк. Ум.-друк. арк. 9,1.
Ум.-фарб. адбіт. 11,07. Ул.-выд. арк. 11,5. Тыраж 3578 экз. Зак. 1682.
Надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Выдавецтва "Беларускі Дом друку"».
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 79. ЛП 02330/0494179 ад 03.04.2009.